*Dy jak nie skladać pra was zdrawicy-pieśni,*
*bary sancakosyja, chwojnyja huszczy,*
*Moj kraju lubimy... Maloje Paleśsie,*
*maja niepaŭtornaja Krupszczyna.*



# малое палесьсе

*PatriaSuperOmnia*

КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ ДРУЦКА-БЯРЭЗІНСКАГА КРАЮ / 2003-2004




Арыгінальныя вокладкі альманаху 2003-2004 гг.

Гісторыка-краязнаўчы альманах **МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ** Друцка-Бярэзінскага Краю

**Прадмова да прадмовы,**
**альбо што гэта за выданьне.**

ВЫ ТРЫМАЕЦЕ Ў РУКОХ ПЕРАВЫДАНЬНЕ АЛЬМАНАХУ ЗА 2003-2004 гады. Тут ён зьведзены пад аднэй вокладкай. Неабходнасьць перавыданьня тлумачыцца проста, - нашы сябры й знаёмыя, а іх аказалася нашмат болей, чым мы сабе ўяўлялі, данялі нас прозьбамі-угаворамі перавыдаць першых два штагадовіка. У свой час, шмат каму зь іх яго проста не хапіла.

Таму, максімальна захаваўшы арыгінальнасьць нашых двух першых выданьняў, мы прапаноўваем Вашай увазе падвойны гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі альманах Друцка-Бярэзінскага Краю Вялікай Літвы за 2003-2004 гады.

Рэдакцыя




**Крупкі 2012**

МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2003-2004 PatriaSuperOmniaPatri

**Гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі альманах Друцка-Бярэзінскага Краю**

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР / Андрэй Аляхновіч

РЭДКАЛЕГІЯ / Валер Арцюховіч, Міхал Баравуля, Яніна Дэмух, Васіль Лапацін.

МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ, МАКЕТ / Марцін Койдан

**Адрас рэдакцыі: skaut63@gmail.com**

**http://kamunikat.org/maloje_palessie.html**



# ЗЬМЕСТ

# Вітаем цябе дарагі чытач!




**ПРАДМОВА-2003**

*На старонках нашага першага альманаха ты зможаш пабачыць цікавую інфармацыю па гісторыі роднага краю, даведацца аб падзеях мінулых часоў, ці, калі зьявіцца жаданьне, надрукаваць свае краязнаўчыя нататкі. Калі ты яшчэ не адкінуў прэч наш альманах й хочаш даведацца хто мы – дык слухай!*

МЫ – ХАРУГВА СКАЎТАЎ Й СЯБРОЎ МАЛОГА ПАЛЕСЬСЯ. Так называецца наша арганізацыя, якая налічвае больш за сотню сябраў, вучняў некалькіх школаў Крупскага раёну. Мы зьяўляемся тэрытарыяльнай адзінкай РГА "Аб'яднаньне Беларускіх Скаўтаў". Нас цікавіць гісторыя нашага рэгіёну – Малога Палесься. Калі ты яшчэ працягваеш нас чытаць, то ведай, што навукоўцы-географы называюць Малым Палесьсем лясную частку сучасных Крупскага, Барысаўскага, Лепельскага, Чашніцкага, Талачынскага, Круглянскага, Бярэзінскага й Бялыніцкага раёнаў таму, што сваімі прыроднымі асаблівасьцямі яна нагадвае наша Вялікае Палесьсе. Таму нашай асноўнай задачай зьяўляецца комплекснае вывучэньне гісторыі нашай малой радзімы. У нашым альманаху мы будзем друкаваць матэрыялы, якія сабралі ў шматлікіх архіўных, краязнаўчых, этнаграфічных, фальклёрных і археалягічных экспэдыцыях за апошнія гады. Таксама на бачынах нашага выданьня можна будзе прачытаць творы нашых сяброў – навукоўцаў, бардаў, мастакоў, пісьменьнікаў, музэйных работнікаў і, зразумела, нашых землякоў.

Асобна хочацца сказаць некалькі слоў пра мову нашага выданьня. Мы шануем родную мову ва ўсіх яе формах – таму, дарагі чытач, ты знойдзеш тут артыкулы, напісаныя як "тарашкевіцай", гэтак і "наркомаўкай".

*ГАЛОЎНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКАЎЦКІ СЫМБАЛЬ - белая лілея з трыма пялёсткамі на чырвоным тле. Эмблема РГА «Аб'яднаньне Беларускіх Скаўтаў». На сярэднім пялёстку мае шасьціканцовы крыж, узяты з нацыянальнага герба «Пагоня». Бела-чырвона-белая стужка зьвязвае тры пялёсткі. Ужываньне нацыянальных сымбаляў азначае любоў да Бацькаўшчыны. Унізе, на стужцы, зьмешчаны скаўцкі дэвіз-вітаньне «Напагатове!».*

# Гісторыі пра Малое Палессе *і* *малапалешукоў*



**КРАЯЗНАЎЧАЯ ФАНТАСТЫКА**/ Андрэй МЕЛЕНІК

## З ЧАГО ПАЧНЕМ?

*Так склалася, што апошнія стагоддзі самыя раннія звесткі па гісторыі роднага Беларускага Малога Палесся (а ёсць яшчэ Украінскае Малое Палессе) мы чэрпаем з кірылічных летапісаў, складзеных тутэйшымі праваслаўнымі хрысціянамі. Пачынаюць тыя летапісы адлік гістарычнага часу з 859-862 гадоў, калі вараг Рурык пасадзіў сваіх намеснікаў (сыноў) княжыць у Кіеву, Полацку, Смаленску ды Ноўгарадзе. Раней, без удакладнення часу, ўзгадваюцца апостал Андрэй, што паставіў крыж на месцы будучага Кіева, Кій, Шчэк, Харыў і сястра іх Лыбедзь, што Кіеў заснавалі, ды ваяўнічыя обры, што пасля "погібоша". Ды апроч гэтых кірылічных тэкстаў, былі іншыя, якія захавалі звесткі пра наш край, нашы гарады і дзяржавы.*

Усходнія географы VII-X стагоддзяў – арабы аль-Балхі, аль-Істархі, ібн-Хаўкаль, Худуд аль-Алем, Джэйхані, Махамед аль-Ідрысі, а таксама перс, аўтар "Кнігі межаў свету ад усходу да захаду" (Персідскі Ананім) узгадваюць тры буйныя племянныя цэнтры на нашых землях: Куябію (Куяву) са сталіцай Куяба (Куява), Слабію (Славію) са сталіцай Слава (Слаба, Селяба) і Артанію (Арсанію) са сталіцай Арта (Артаб, Арція, Артан, Арсан, Уртаб).

Куяба, па сведчанням гэтых географаў – бліжэй за іншых "да Булгару і краін ісламу. Месца большае за Булгар. Прыемнае месца і рэзідэнцыя цара. З яго вывозяць разнастайныя футры і каштоўныя мячы."

"Славія – далей. Селяба – прыемнае месца, з якога ў мірны час жыхары ездзяць гандляваць у зямлю булгараў."

Яшчэ больш сівыя часы. Канец II-пачатак III стагоддзя. Пахаладанне ў Еўропе. Па Даўгаве і Нёмане падымаюцца на ладдзях да Славіі готы, каб пераажыць тут цяжкія гады. Затым яны ж рушаць на Днепр і жывуць там, сярод славян, у міры і згодзе тры гады. Потым прыходзіць голад і ў Славію. Князі, што сядзяць у Селябе

ды Джарвабу (у іншай транскрыпцыі – Хардабу, Хадраце) патрабуюць, каб готы сыходзілі, і тыя пачынаюць свой "націск на поўдзень" разам са славянскімі воямі, якія да таго далучаюцца.

На той час, готы ўжо валодаюць рунічнай пісьмовасцю. І руны сапраўды знаходзяць сучасныя археолагі пры раскопах на паўвыспе возера Сялява. З VIII стагоддзя да н.э на працягу дваццаці трох стагоддзяў з нядоўгімі перапынкамі тут існавала буйное месца. Сялява, колішняя сталіца Славіі, равеснік Рыму. Напачатку XVI стагоддзя жыхары пакінулі яго, а на мапах з'явілася мястэчка Бобр.

* * *

Месца Сялява, па сутнасці, дало імя тым, каго ведаюць два тысячагоддзі, як славянаў. Разыйшліся па свеце найменні рымлянаў, візантыйцаў, маскавітаў, сталі вядомымі і славяне – грамадзяне Славіі-Сялявы – дзяржавы, што ў часы росквіту займала вярхоўі Дзвіны і Нёману ды ўвесь басейн Дняпра да чарнаморскіх стэпаў. А час яе росквіту прыйшоўся на пачатак-сярэдзіну II стагоддзя. Як і Рыму. . .

Дакументацыя Сялявы-Славіі была клінапіснай. Запісы вяліся, у асноўным, на берасце, а нямногія дайшоўшыя дагэтуль каменныя ды гліняныя дакументы з ёй знаходзяцца ў прыватных калекцыях і чакаюць сваіх даследчыкаў.

Як і ў Рымскай Імперыі, на паўночным усходзе Славіі ў сярэдзіне II стагоддзя паўстаў апазіцыйны цэнтр. Ён сфармаваўся вакол буйнога паганьскага капішча і стаў вядомы, як Горад (у арабскіх крыніцах – Хадрат). Капішчы з даўніх часін агарожваліся частаколам ад непажаданых назіральнікаў – таму і зваліся гарадамі. Крывісы (жрацы капішчаў) пасадзілі ў Горадзе абранага імі князя і абвясцілі непадпарадкаванне Сяляве. Так адбыўся першы падзел Славіі. І узнікла Крывія.

У сярэдзіне IV стагоддзя на Еўропу абрынуліся гунская навала. Каб стварыць непераадольныя перашкоды для гэтага ваяўнічага народа, што па сведчаннях рымскага ваяра і пісьменніка Аміана Марцаліна "прырос да коней", на поўдні Славіі (сучасная Валыншчына, Ровеншчына і Жытоміршчына) узводзяцца вялічэзныя валы. Яны цягнуцца на многія дзясяткі кіламетраў, а самі слаўскія паселішчы пераносяцца на рукатворныя насыпы – гарадзішчы. Раней даступныя толькі абраным, паганьскія капішчы цяпер знаходзяцца ў цэнтрах слаўскіх месцаў, старадаўнія веды ўваходзяць у масы, грамадства імкліва дэмакратызуецца.

Распад гунскай імперыі ў канцы V стагоддзя адбіваецца на Славіі яе далейшым дзяленнем. Адзін з буйнейшых слаўскіх князёў Кій (у наваколлях Сялявы захавалася яго родавае паселішча Кіявец) пасля перамогі над сцепнякамі не вяртаецца да Сялявы, а засноўвае на Дняпры горад і абвяшчае сябе адзінаўладным уладаром яго наваколляў. Кіеў хутка расце і багацее, а Славія страчвае яшчэ частку магуты.

* * *

Кітайскія крыніцы V стагоддзя пад імём "Ю-ян" упершыню ўзгадваюць авараў – качавых жыхароў Унутранай Азіі. Адтуль яны прагна рушаць на усход, даходзяць

да Паўночнага Прычарнамор'я і ў 445-454 гадах існуюць як баявы рэзэрв гуннскай імперыі Атылы. Пасля смерці Атылы авары ўваходзяць у савірскі племянны саюз, разам з савірамі рушаць на Каўказ, дзе ўладкоўваюцца на тэрыторыі сучасных Дагестану ды Ічкерыі і адтуль вядуць паспяховыя войны з Візантыяй і Персіяй, уражваючы супраціўнікаў сваімі лёгкімі крытымі таранамі, ды граматнымі абарончымі збудаваннямі. Менавіта аварам перадаюць майстры зброі з Семяндэру сакрэт вырабу дамаскай сталі.

У сярэдзіне VI стагоддзя на змену савірам на вядучыя ролі ў племянным саюзе выходзяць хазары. Авары гэтымі зменамі зусім не задаволены. Яны выходзяць з племяннога саюза і, амаль у поўным складзе, (за выключэннем некалькіх родаў, што сыходзяць у горы), рушаць на поўнач. У Паўночным Прычарнамор'і авары распадаюца на дзве плыні.

Жыхары Славіі, Крывіі і Кіева завуць аўараў обрамі. Незадаволеныя занадтым, на іх думку, уплывам крывісаў, крывіцкія князі запрашаюць обраў да сябе, каб тыя дапамаглі ў іх барацьбе за ўладу. На гэта пагаджаецца заможная обрская вярхушка (у тым ліку, майстры дамаскай сталі), а маладыя амбіцыйныя роды жадаюць паўтарыць шлях Атылы і рушаць на захад – у Панонію, дзе ствараюць ваяўнічы аварскі каганат, які праіснуе амаль два з паловай стагоддзя.

Уварванне обраў у Крывію прывяло да поўнага знішчэння яе сталіцы – Горада. Рэшткі колісь усемагутных крывісаў з нямногімі саюзнымі ім князямі уцяклі на поўнач і паўночны ўсход, дзе заснавалі новае галоўнае капішча – Ноўгарад, крэпасці Полацак і Плескаў. Насельніцтва Крывіі, як і суседняй Славіі вымушана аказалася насыпаць гарадзішчы, каб хоць неяк ратавацца ад коннай навалы. У Верхнім Падняпроўі паўстала дзяржава Арда (ці, у славянскім маўленні – Артанія) з рухомай стаўкай князёў і магутнай конніцай.

Сляды Арды дагэтуль існуюць у шматлікіх тапонімах на орд-, одр-, ард-, адр- а ў міжрэччы Дняпра і Сожа ў выглядзе ўнікальнай для лясных рэгіёнаў традыцыі каняводства.

Арабскія крыніцы кажуць пра Артанію так: "Яе насельнікі выпраўляюцца гандляваць у Куябу па вадзе, але нічога не распавядаюць пра свае справы, тавары і не дапускаюць нікога праводзіць іх і не даюць трапіць у іхнюю краіну. Ва Урце забіваюць іншаземцаў. А яшчэ там вырабляюць каштоўныя клінкі для мячоў і мячы, якія магчыма перагнуць напалову, але калі адпусціць іх, яны вяртаюцца ў ранейшы стан."

Славіі прыйшлося ратавацца ад ваяўнічай Артаніі пабудовай доўгага абарончага валу на ўсход ад сталіцы. Рэшткі валу захаваліся да нашых часоў на паўднёвым усходзе Віцебскай вобласці, недалёк ад Талочына.

Неўзабаве кіраўнікі Сялявы запрасілі для сваёй абароны некалькі тысяч обрскіх вояў з Каганату і далі ім у валоданне мясцовасць, паабапал прыгожай ракі, якой раней валодаў род Кія. З тых часоў рака стала звацца Обар (ці, з асаблівасцяў тутэйшага маўлення – Бобар). Галоўнае сваё паселішча обры назвалі Кабказ – у гонар добрай

памяці зямлі продкаў.

Калі ў IX стагоддзі пад супольнымі ўдарамі франкаў, баварцаў і антаў скончыў існаваць Аварскі каганат, нямногія з выжыўшых авараў знайшлі сябе прытулак менавіта ў суродзічаў на Бабры.

Так што зусім не выпадкова насельніцтва берагоў Бабра характарызуецца як мужнае, адкрытае і зменлівае. Генная памяць…

Калі напачатку XVI стагоддзя распачаліся крывавыя маскоўска-літоўскія войны, апошняе насельніцтва Сялявы пакінула яго. Славуты горад, які праіснаваў дваццаць тры стагоддзі памёр. Апошнія сяляўцы пайшлі да нашчадкаў абраў, і з'явілася мястэчка Бобр.

Да вялікай Славіі больш за тысячу гадоў існавала на Малым Палессі кельцкая дзяржава Брытанія. Малая Брытанія, продак Брытаніі Вялікай, пакінуўшая свой адбітак.

* * *

Кельты ішлі першымі з навалы індаеўрапейцаў. Прагнучы займаць найвышэйшыя кропкі мясцовасці і водападзелы. Мяшаючыся з мясцовым насельніцтвам і пераймаючы яго антрапалагічныя рысы. Кельты неслі на каланізаваныя тэрыторыі майстэрства апрацоўкі зямлі і вырабу металаў: сакральнае спалучэнне чырвонай медзі з белым волавам у бронзу. Кельты шанавалі катоў і ўвогуле жывёл сямейства кашачых – свабодных, незалежных, мягкіх на вобмацак і бязлітасных на паляванні.

Першыя кельты мелі вялізны рост, светлыя вочы і валасы (мо яны і былі тымі легендарнымі волатамі, што пакінулі пра сабе гераічныя паданні ды курганы-валатоўкі) але, як і праз тысячагоддзе рымляне няўхільна змяшаліся з каланізаванымі абарыгенамі і перанялі іх каржакавты смугласкуры смуглавалосы выгляд.

Узгадкі пра Брытанію ці Брытунію Усходняй Еўропы можна сустрэць у кельцкіх паданнях, за імі – у творах заходніх гістарычных белетрыстаў і фантастаў. Брытунія – адна з дзяржаваў, што адыграла значную ролю ў еўрапейскай гісторыі пасля гібелі Атлантыды, прынесла ў яе бронзавы век і, можна казаць, паклала пачатак таму, што ўласна завецца еўрапейскай цывілізацыяй, затым распалася пад уціскам сваёй старасці і нованапіраючых арыеў – будучых англаў, саксаў, балтаў ды славян.

Таксама арыі, кельты засталіся тым мостам паміж уласна арыйскай і даарыйскай культурай, які дазваляе нам пабачыць нашае мінулае і ў іншых расах: напаўжоўтых еўразійцах угра-фінах, у этрусках, старажытных егіпцянах і барбарах (берберах) – нашчадках чырвонаскурай Атлантыды, у кучаравых семітах – былых насельніках Антарктыды і Афрыкі, у чорных эфіопах і жыхарах экватарыяльнай зоны – з якімі судакраналіся рымляне і барбары. Арыі-першапраходцы кельты судакраналіся і мяшаліся з усімі імі, каланізавалі, пераймалі і саступалі, утваралі новыя этнасы. Немала этнасаў было ўтворана з іх дапамогай і на Малым Палессі.

## МАЛОЕ ПАЛЕССЕ – КАЛЫСКА НАРОДАЎ

Нямала доказаў у тых навукоўцаў, якія шукаюць прарадзіму славян на Палессі. Адсюль напрыканцы І стагоддзя н. э. пачаўся рух славянства на поўдзень, адсюль пайшло развіццё беларускай, рускай, украінскай і польскай цывілізацый.

Але, на поўнач ад Палесся ўсім вядомага знаходзіцца багаты помнікамі старажытнасці рэгіён, які з даўніх часоў завецца Палессем Малым, а паданні сучасных ірландцаў, шатландцаў, ды валійцаў узгадваюць яго, як Малую Брытанію, ці Брытунію – зямлю брытаў. Чаму? Памятаеце пра Малую Польшчу і Маларасію? Малы, апроч іншага, яшчэ і ранейшы, першапачатковы.

Геаграфічна Малое Палессе размясцілася на Балтыйска-Чарнаморскім вадападзеле ў раёне возера Сялява, ды ў басейне ракі Бобр. Паўночнай мяжой рэгіёна стала мяжа наступу апошняга ледавіка. Ратуючыся ад ледавіка і адышло дзесяць тысяч год таму насельніцтва Малога Палесся ў цёплыя краі, каб праз тысячагоддзі вярнуцца з Паўднёвага Ўсходу магутнай ведыйскай хваляй, а на Паўднёвым Захадзе стварыць чыста еўрапейскую цывілізацыю этрускаў.

А засялілі Малое Палессе пад час наступу ледавіка невялічкія групкі адыйшоўшых з поўначы круглагаловых палярных паляўнічых ды рыбаловаў, тых, каго праз тысячагоддзі назавуць фіна-уграмі..

Вядыйцы (індаеўрапейцы, арыі) пачалі вяртацца ў гэтыя мясціны ля чатырох з паловай тысяч год таму. Гэта былі вельмі размаістыя плямёны, якія сеялі зерне, карысталіся керамічным посудам, шанавалі ды даглядалі кароў і катоў, а таксама ладзілі капішчы. Кіравалі плямёнамі валадары бронзавых сякер-кельтаў, але толькі ў малым. Усе сурьёзныя пытанні вырашаліся асобнай кастай – друідамі.

Друіды жылі асобна ад кельцкіх паселішчаў, на магічных капішчах, разам са служкамі, якія штогод прыносіліся ў ахвяру. Друіды выконвалі таямнічыя рытуалы, выраблялі чароўныя рэчывы з грыбоў, зёлак, чалавечай і звярынай крыві, вызначалі тэрміны сяўбы і жніва, размаўлялі з духамі, дрэвамі, камянямі і крыніцамі, лячылі ўладароў бронзавых сякер, давалі тым карысныя парады па кіраўніцтву племенем, а тыя забяспечвалі недасягальнасць капішчаў для чужых.

Самыя ўплывовыя з друідаў – брыты – чатыры разы на год збіраліся на Галоўным Капішчы-абсерваторыі ў глыбіні Малога Палесся на Вялікі Рытуал. Тут палілася магічнае вогнішча, прыносіліся шматлікія чалавечыя ахвяры і шлі самыя сурьёзныя размовы.

Стасункі кельтаў з круглагаловымі паляўнічымі склаліся адносна мірныя – тыя проста не здолелі супрацьстаяць арганізаванай арыйскай навале і былі вымушаныя трываць кельцкія паселішчы і капішчы недалёк ад уласных стойбішчаў. Улада друідаў не ўспрымала круглагаловых як ворагаў, і тыя жылі сваімі традыцыямі, трапляючы на ахвярныя алтары кельтаў, калі перашкаджалі тым чым-небудзь.

Увогуле, людзей на Малым Палессі было тады не так многа, каб занадта пе-

рашкаджаць адно аднаму. Круглагаловых дзяўчын валадары бронзавых сякер нярэдка бралі ў жонкі, тым больш, што жонак у кожнага з іх было па некалькі. Друіды жонак не мелі, бо гэта перашкаджала магічнай дзейнасці, але дзяцей, каб выхаваць сабе змену бралі – па ўласным выбары. І ніхто друідам не пярэчыў.

Паступова на Галоўным Капішчы брытаў запалала негасімае вогнішча – вечны Зніч. Капішча ператварылася ў пастаянную брытскую рэзідэнцыю і стала сталіцай першай кельцкай дзяржавы – Брытуніі.

Брытунія на Малым Палессі праіснавала больш за тысячу гадоў, пакуль у VIII ст. да н.э. яе не разбурыла нашэсце барбараў – ваяўнічага племені, што аткалолася ад скіфскага племяннога саюза, калі скіфы распачалі выцясненне кімерыйцаў з Паўночнага Прычарнаморья

Але гісторыя барбараў – гэта асобная гісторыя.

## БАРБАРЫ: ДОЎГІ ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСІ

Нашэсце барбараў у VIII ст. да н.э. разбурыла больш за тысячагадовую кельцкую дзяржаву на Балта-Чарнаморскім вадападзеле і прылягаючых да яго тэрыторыях. Кельцкая сталіца ў глыбіні Малога Палесся скончыла існаванне, але яе Вечны Зніч не згас. Друіды Вечнага Зніча, пазбаўленыя вярхоўнаы ўлады, працягвалі карыстацца ўплывам за кошт вялізарных ведаў, хаця, у адрозненне ад валадароў бронзавых сякер-кельтаў, барбары не падпарадкоўваліся жрацам, а толькі прыслухоўваліся да іх парад.

У VIII ст. да н.э. барбары адкалоліся ад скіфскага племяннога саюза, але іх гісторыя сягае ў непараўнальна глыбеышыя часы, чым гісторыя скіфаў. Славуты вершнікамі і ваярамі народ прышоў да скіфаў, якія тады жылі ў нізоўях Дону і Волгі з поўдня – Паўночнага Каўказу ў 828г.да н.э. ўсяго на некалькі дзесяцігоддзяў, каб у далеышым ізноў разысціся – кожны ў сваім напрамку.

Адкуль у нас дакладная дата прыходу барбараў да скіфаў?

У 860-м годзе да н.э ў Ассірыіі прышоў да ўлады цар Салмансар III. І адразу ж распачаў вайсковыя аперасыі супрась лежачай ў Закаўказзі дзяржавы Ўрарту. На той час барбары складалі аснову ўрартскіх узброеных сіл, а галоўныя іх гарнізоны з сем'ямі знаходзіліся ў сталіцы дзаржавы Арзашку і ў горадзе-крэпасці Сугуніі. Менавіта на Сугунію прышоўся першы ўдар Салмансара: "Да Сугуніі, крэпасці Арама Ўрарта, я наблізіўся, горад аблажыў, захапіў я, забіў мноства іх вояў, увёз здабычу, кучу з галоў зрабіў я насупраць іх горада, 14 паселішч яго наваколляў спаліў я ўагнём. Ад Сугуніі я сышоў, спусціўся да мора Наіры (возера Ван), маю зброю амыў я ў моры, ахвяру прынёс я маім багам."

У 858 г да н.э. асірыццы дайшлі і да Арзашку. Вось як апісвае гета Салмансар: "Да Арзашку, царскага горада Арама Ўрарта, я наблізіўся. Урарт Арам спужаўся горычы маёй моцнай зброі і моцнай бітвы і кінуў свой горад. У горы Аддуры ён падняўся; за ім падняўся і я, моцную бітву зладзіў я ў гарах, 3400 вояў паверг я

сваёй зброяй, як Адад хмару над імі праліў я дажджом, іх крывёю афарбаваў я гару нібы воўну, яго лагер я захапіў, яго калясніцы, вершнікаў, коней, мулаў, цялят, маёмасць і багатую здабычу прывёў я з гор. Арам, сваё жыццё ратуючы, збег на недаступную гару. У маёй магутнай моцы, як тур раздавіў я яго краіну, паселішчы ператварыў у руіны ды спаліў вагнём. Горад Арзашку і паселішчы яго наваколляў захапіў, разбурыў ды спаліў вагнём."

Пасля здачы Арзашку і жахлівай паразы ў гарах ацалелыя рэшткі барбараў не пажадалі больш служыць пужліваму няўдачніку Араму. Яны сышлі на поўнач – да Каўказскага хрыбта, а затым – праз трыццацігадовае вандраванне – апынуліся з еўрапейскага яго боку – на землях скіфаў.

Але і Ўрарту не было радзімай барбараў. Яны прышлі ў наваколлі возера Ван з усходу ў канцы X ст. да н.э., калі дзяржавы Ўрарту яшчэ не існавала, а існаваў саюз плямён, што большай часткай варагавалі між сабой і плацілі даніну Асірыі. Барбары падтрымалі ва ўсобіцы лідара аднаго з плямён – Сардуры Ўрарта. Той, дзякуючы генай падтрымцы ўзвысіўся незвычайна і падпарадкаваў усе саюзныя плямёны ў магутную ў будучым дзаржаву Ўрарту, дзе стаў першым царом – Сардуры Вялікім.

Дзяржава Сардуры не пажадала плаціць даніны Ассірыі і захоўвала годную незалежнасць да самой смерці стваральніка. Пасля быў цар-небарака Арам, які большасць праўлення правёў у гарах, ратуючыся ад крывавых ассірыйцаў Салмансара, але, пад канец жыцця здолеў у значнай ступені рэабілітавацца перад нашчадкамі, заснаваўшы на беразе возера Ван новую сталіцу ўрартаў Тушпу.

Пры нашчадках Арама – Менуа, Аргішці I і II, Сардуры II дзяржава Ўрарту са сталіцай ў Тушпе дасягнула небывалай магуты і выдатных перамог над Ассірыяй. Імя заснавальніка Тушпы – Арама Вялікага і дагэтуль шануецца армянамі, якія лічаць яго сваім славутым продкам. Толькі гэта ўжо іншая гісторыя. Мы ж распавядаем пра адных з нашых продкаў – пра барбараў.

Малазійскі перыяд гісторыі барбараў быў больш працяглым за Ўрартскі ды Скіфскі і скончыўся з падзеннем Троі, пра якое красамоўна распавяла "Іліяда". Менавіта на барбараў – эліту траянскай абароны – быў разлічаны геніяльны хітрык з вялізным драўляным канём. Для барбараў ужо многія тысячагоддзі конь зьяўляўся сымбалем іх улады і моцы – іх татэмнай жывёлай. Магчыма, яны расцанілі Траянскага Каня як хабар, магчыма – гета проста была іх памылка – хто ведае зараз? Але без гетай памылкі (?) Іліён не пацярпеў бы паразу, а пасля паразы імя барбараў стала для ўсяго малазійскага ўзбярэжжа яе сінонімам, было праклята і аддадзена забвенню. Барбарам прыйшлося пакінуць Трою і сысці. Шлях сушай існаваў толькі адзіны – на ўсход. На стасункі з морам у барбараў было табу – мора ў іх паданнях паўставала заўжды як носбіт няшчасця, носбіт смерці. І барбары сышлі сушай. І ўзгадваць пра іх пераcталі…

Але застаўся звычай, які ў Малую Азію прынеслі менавіта яны – звычай насіць

бароды формы, што пасля назавуць гречаскай – ад грекаў-пераможцаў Іліёна, пераняўшых мноства рэчаў ад пераможаных. І засталося імя барбараў у слове "барб" ці "барба", якім сталі пазначаць у Еўропе спачатку бароды гречаскай формы, а затым усе бароды ўвогуле.

Прышлі ж барбары да Трoі ў XVIII стагоддзі да н.э. з тэрыторыі, што ў сучаснасці завецца Палестынай. Ў тыя часы тут існавала некалькі дзяржаваў, вядомейшымі з якіх былі Элам і Фінікія. Амаль усе дзяржавы Палестыны былі заснаваныя пры ўдзеле берберaў – народа, які па паданнях складаўся з нашчадкаў ацалелых атлантаў – жыхароў загінуўшаы больш за 10000 год таму Атлантыды. Качавыя берберы-атланты, усё далей аддаляючыся ад акіяна, калісь паглаціўшага іх прарадзіму неслі з сабой тайныя веды, і гэтыя веды рушылі да развіцця новыя маладыя цывілізацыі.

Частка берберaў засталася ў Афрыцы. Яны захавалі назву народа дагэтуль. Астатнім берберам на шляху тысячагоддзяў давялося пераажыць працэсы асіміляцыі і змены саманазвы.

Асіміляцыя з егіпецкімі плямёнамі прывяла ў далейшым да стварэння магутнай Егіпецкай цывілізацыі, асіміляцыя з фінікійцамі ўтварыла слаўнейшую (да грекаў) пірацкую цывілізацыю Міжземнаморья (да яе стварэння спрычынілася, відавочна, надзвычай адважная частка берберaў, бо ёй давялося пераступіць праз табу продкаў, што тычылася мора-зла, мора-смерці). Асобныя берберскія атрады дашлі да Міжрэчча, зліліся з арыямі – і паўсталі Шумер ды Аккад.

Яшчэ адна хваля берберaў-перасяленцаў стварыла ўласную дзаржаву з двума сталіцамі – гарадамі Садомам і Гаморай. Дзяржава гэтая праіснавала адносна бязбедна некалькі соцень год. Але аднойчы да яе лідэра-правадыра сышоў сон звыш, з якога вынікала, што на берберах з часоў Атлантыды ляжыць праклён, што любой іх дзяржаве – лёс жахліва загінуць. І ёсць адзіная зямля недзе на Поўначы, якая пазбавіць берберaў ад гетага праклёну.

І лідэр-правадыр берберaў абвясціў пра свой сон сваяму народу і павёў свой народ на поўнач – да невядомых земляў. Але паверылі і падпарадкаваліся яму не ўсе. "Скептыкі" засталіся ў Садоме і Гаморы пад кіраўніцтвам некага жраца Беры. Праз месяц Садом і Гамора падпалі пад уладу суседняга Элама. Незалежная дзаржава берберaў перастала існаваць.

Прашло чатырнаццаць гадоў. Беры падняў у Садоме паўстанне. Садамляне панішчылі эламскіх чыноўнікаў і абвясцілі новую незалежнасць Садома. Тое ж адбылося і ў Гаморы. Праз сорак дзён Садом і Гамора былі панішчаны жахлівым нябесным агнём. Ніхто не ўратаваўся.

Даведаўшыся пра трагедыю садомскіх і гаморскіх берберaў, берберы, сышоўшыя на поўнач змянілі назву. Так зьявіліся барбары.

# Гарадзішча на выспе воз. Сялява Крупскага раёна



**АРХЕАЛЁГІЯ** / ШАДЫРА В.І., МАЦВЕЕВА Л.Я., МАХНАЧ А.І.



*На гарадзішчы каля в. Клішана, вядомым пад мясцовай назвай «Выспянская гара», з 1999 г. праводзяцца археалагічныя даследаванні. Актыўны ўдзел у раскопках прымаюць школьнікі-скаўты з г. Крупкі. Гарадзішча размешчана на выспе воз. Сялява ў 1,7 км на поўдзень ад в. Янаўшчына, з якой і злучылася цяпер в. Клішана. Помнік прывязаны да в. Клішана (Штыхов, 1971, с. 178), хаця бліжэй знаходзіцца в. Баркі. Дакладная топапрывязка гарадзішча наступная: у 0,8 км на ўсход ад в. Баркі і ў 0,3 км ад сучаснага могільніка.*

*ШАДЫРА ВАДЗІМ ЯЗЭПАВІЧ, нар. 01.03.1947 у г.Пячора, Рэспубліка Комі, Расія. Беларускі археолаг. Кандыдат гістарычных навук (1981), дацэнт (1987). З 1991 загадчык аддзелу, а з 2006 сэктару эпохі бронзы і жалеза ДНУ "Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі".*
*Вывучае жалезны век і ранняе сярэдневякоўе басейнаў зах. Дзвіны і Дняпра. Адкрыў і даследаваў шэраг помнікаў на поўначы Беларусі. Аўтар больш як 50 навуковых работ. Прытрымліваецца гіпотэзы аб балцкай прыналежнасці насельніцтва культур жалезнага веку цэнтральнай і паўночнай Беларусі. Ганаровы сябра Харугвы Скаўтаў Малога Палесься.*

Выспа на возеры Сялява ўтварылася ў выніку пад'ёму вады пры будаўніцтве ГЭС у 50-я гады XX ст. Раней гэта быў мыс ці перашыек між двух азёр – Радца і Сялява. Гэтая мясцовасць вартая ўвагі тым, што знаходзіцца ў рэгіёне агульнаеўрапейскага водападзела Балтыйскага і Чорнага мораў. Само возера звязвае басейны Зах. Дзвіны і Дняпра адпаведна дзвюма рэчкамі (Югна і Ракітаўка). Гэтым фактам і быў абумоўлены лукомльскі адрэзак шляху «з варагаў у грэкі», аб якім казаў яшчэ Е.Р. Раманаў на пачатку XX ст.: «З Балтыйскага мора ў Дзвіну, потым Улу, адсюль па Лукомцы (і Югне - В.Ш.) у возера Сялява, далей волакам да Бабра, а потым па Бярэзіне і Дняпры ў Чорнае мора» (Романов, 1903, с. 73).

У археалагічных адносінах гэты рэгіён цікавы сваім памежным размяшчэннем сярод разнастайных археалагічных культур ад эпохі каменнага веку да сярэднявечча. У эпоху жалезнага веку гэтая тэрыторыя знаходзілася ў зоне кантакту днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур (мал. 1).

Што да назвы возера Сялява, то яна, хутчэй за ўсё, адлюстроўвае форму балцкага этноніма selis з далучэннем тыпова балцкага фарманта «ава». Такім чынам, балцкі этнонім пераўтварыўся ў гідронім Сялява.




**ГАРАДЗІШЧА НА ВЫСПЕ ВОЗ. СЯЛЯВА**

**Мал. 1. План і месцаразмяшчэнне гарадзішча Клішына**

Побач з формай selis існаваў і суфіксальны дэрыват selonas (параўн. лац. Selones Selonia (Кузавініс, 1970, с. 159 – 160)). Звязваць назву возера з селамі вельмі гіпатэтычна. Аднак калі дапусціць, што селы разам з латгаламі ўваходзілі ў склад старажытных племянных утварэнняў балтаў, якія пражывалі на больш значных прасторах басейна Зах. Дзвіны (Даўгавы), цалкам верагодна, што іх продкі маглі трапляць у межы сярэдняга ці беларускага яе цячэння. В.В. Сядоў, спасылаючыся на «Пеўцінгераву карту», дзе пазначана «Fluoius Sellianus», што азначае «рака селаў», мяркуе, што селы, якія далі назву рацэ Даўгаве, у першай палове I тысячагоддзя н.э. былі буйной этнічнай адзінкай і жылі на абодвух берагах Даўгавы (Седов, 1987, с. 365).

Цікавым з'яўляецца і гідронім Югна, які можна аднесці да фіна-вугорскіх




**Мал. 2. Вырабы з крэменю (1 – 14), косткі (15 – 17)**

гідронімаў з наменклатурнай лексікай у значэнні «пратока», «выток з возера або балота, ручай, рака» (Шадыро, Овчинникова, 1992, с. 6).

Пачатак вывучэння помніка адносіцца да 1955 г., калі яго адкрыў і абследаваў Л.Д. Побаль. У 1964 г. ім жа была зроблена шурфоўка. Па выяўленым матэрыяле даследчык залічыў гарадзішча да днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культураў і датаваў эпохай ранняга жалеза (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, 1987, с. 234).

Сістэматычнае даследаванне помніка вядзецца аўтарамі з 1999 г. Усяго ўскрыта каля 200 кв. м. Да канчатковых высноў яшчэ далёка, але папярэднія выглядаюць наступным чынам. Сляды чалавечай прысутнасці на гэтым месцы фіксуюцца яшчэ з эпохі неаліту (разнастайныя крамянёвыя скрабкі, адшчэпы, вастрыі, укладышы, рэтушоры і да т.п. (мал. 2: 1–12).У эпоху бронзы тут, мабыць, было культавае месца, дзе адбываліся і пахаванні (косткі чалавечыя, амулеты з рэбраў, іклаў і разцоў, крамянёвая паліраваная клінападобная ся-




Мал. 3. Амулеты з рэбраў (1 – 12), іклаў і разцоў (13 – 20) жывёлаў

керка, фрагмент керамікі з ружанцовым арнаментам). У якасці ўмацаванага паселішча яго спачатку выкарыстоўвалі днепра-дзвінцы, але інтэнсіўнае жыццё на ім звязана з плямёнамі культуры штрыхаванай керамікі. Элементы гэтай культуры дамінуюць з мяжы н.э., куды арганічна ўлілася пазней і кераміка з расчосамі. Гарадзішча актыўна выкарыстоўвалася ў 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. носьбітамі культуры тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. Затым жыццё на гэтым месцы замірае і адраджаецца толькі ў перыяд позняга сярэднявечча, калі тут была сядзіба феадала (кафля тэракотавая XVI – XVII стст., трайны грош Жыгімонта III, ганчарны посуд і інш.). Хаця трэба адзначыць, што былі зафіксаваныя таксама і асобныя знаходкі IX – XIII стст. (арабскі дырхем (канец IX ст.), некалькі фрагментаў посуду X – XIII стст.).

Асноўную масу знаходак складаюць вырабы з гліны (прасліцы, грузікі, у тым ліку і дзякава тыпу). Апрача гліняных знойдзены грузік дзякава тыпу з косткі (мал. 5: 8). Прасліцы з гліны прадстаўлены самай разнастайнай формы, яны ха-

рактэрныя як для гарадзішчаў штрыхаванай керамікі (мал. 4), так і для помнікаў 3-й чвэрці I тыс. н.э. (мал. 4: 9,10).

Значная частка прасліцаў арнаментаваная (мал. 5), што адлюстроўвае светапогляд насельніцтва гарадзішча. Тут фіксуюцца выявы левых трохчасткавых свастык, якія звычайна трактуюцца як жаночыя (мал. 5: 7). Акрамя гэтага яны сімвалізуюць траістасць свету і грамадства, што характэрна для індаеўрапейцаў (Голан, 1994). Вядома, што лічба 3 з'яўляецца сакральнай для шматлікіх старажытных і сучасных народаў. Часта сустракаецца арнамент у вы-

**Мал. 4. Гліняныя праселкі і грузікі**



глядзе трохкутнікаў з вяршынямі ў супрацьлеглыя бакі (верх, ніз) (мал. 5: 3, 4, 5). Вядомы яшчэ ў неаліце, ён сімвалізаваў нябесную ваду. Трохкутнік з вяршыняй унізе азначаў жанчыну. На думку Б.А. Рыбакова такое спалучэнне звязана з язычніцкім культам Вялікай Багіні-Маці, якая адказвала за дождж (Рыбаков, 1994, с. 388). Трохкутнікі на праслiцах могуць быць адзнакамі багіні, якая, да таго ж, апекавалася жанчынамі і іх заняткамі, у прыватнасці прадзеннем. Яшчэ адзін цікавы знак сустрэты на праселках з Клішына (мал. 5: 9). У беларусаў ён дагэтуль выкарыстоўваецца ў вышыўцы і завецца «баба», альбо «жаба». На вялікім археалагічным і этнаграфічным матэрыяле А.К. Амброз паказаў, што гэты знак мае сувязь з плоднасцю (Амброз, 1965). А Б.А. Рыбакоў лічыць, што знак «баба» выяўляе жанчыну, якая нараджае дзіця (Рыбаков, 1994). На двух праслiцах і адным з фрагментаў пасудзіны назіраецца выява шасціканцовай зоркі (мал. 5: 1, 9). Як адзначае А. Голан, гэты знак сімвалізуе шэсць канцоў свету і сувязь з не-



**Мал. 5. Арнаментыка на кераміцы, праселках і грузіках: 1 – 7, 9 – гліна; 8 – костка**

бам і з’яўляецца эмблемай Вялікай Багіні-Маці (Голан, 1994, с. 150). Цікавасць выклікае арнаментацыя касцянога грузіка дзякава тыпу (мал. 5: 8), што складаецца з паралельных ліній з разбежнымі промнямі. Тут у наяўнасці сімволіка дажджу ці вады, гаспадыняй якіх з’яўлялася ўсё тая ж Вялікая Багіня. Такім чынам, арнаментыка прасліц і грузікаў гарадзішча звязана перш за ўсё з плоднасцю і ўшанаваннем Вялікай Багіні-Маці.

З рэлігійнымі вераваннямі звязаныя знаходкі касцяных пласцінак з адтулінамі з рэбраў капытных жывёлаў (мал. 3: 1–12), касцяныя падвескі-амулеты з нарэзкамі з іклаў і разцоў ваўка, бабра, дзіка, аленя, лася, каня, барсука (мал. 3: 13 – 20). Гэтыя артэфакты канцэнтраваліся каля і ўнутры меркаванага ахвярніка,

**Мал. 6. Вырабы з жалеза**






**Мал. 7. Бронзавыя ўпрыгожанні**

выяўленага пад час раскопак (мал.10). Ён уяўляў з сябе яму канічнай формы з верхнім дыяметрам 4–4,5 м і глыбінёй да 2 м. Тут былі выяўлены фрагменты ляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду, зубы жывёлаў з нарэзкамі і касцяныя пласцінкі з адтулінамі. Побач з ямай у мацерыковым слоі на глыбіні 1 м зафіксаваны няпоўны шкілет чалавека (фрагмент ніжняй правабаковай сківіцы, пазванкі, фалангі пальцаў) і каня, а таксама шматлікія касцяныя пласцінкі з адтулінамі і амулеты з разцоў і іклаў жывёлаў з нарэзкамі. Няпоўны шкілет чалавека выяўлены таксама ў 20 м ад ахвярніка на мацерыковай паверхні (сцегнавыя і галёначныя косткі, фалангі пальцаў, пазванкі). Тут жа побач знойдзена клінападобная крамянёвая сякерка, добра адшліфаваная і завостраная (мал. 2: 13). Усе гэтыя фактары сведчаць пра культавыя дзеянні на гэтым паселішчы на працягу вялікага адрэзку часу ад эпохі бронзы, а магчыма і раней, аж да сярэднявечча.

Комплекс асноўных знаходак гарадзішча ўкладаецца ў дыяпазон I–VIII стст. Памеры артыкула не дазваляюць даць ім падрабязную характарыстыку. Выяўленыя прадметы маюць шырокія аналогіі ў лясной зоне Усходняй Еўропы і асабліва характэрныя для балцкага месцапражывання. Дыферэнцыраваць старажытнасці насельніцтва днепра-дзвінскай і культуры штрыхаванай керамікі вельмі цяжка, бо набор металічных вырабаў тоесны ў абедзвюх куль¬турах. Можна толькі канстатаваць, што сякеры паўднёвапрыбалтыйскага тыпу (мал. 6: 2) больш часта сустракаюцца на поўначы Беларусі, чым у цэнтральнай яе частцы (Паддубнікі, Аўгустава, Урагава, Барсукі, Буракова). Тыпалагічна яны адносяцца да другой групы па класіфікацыі Х.А. Маора, і іх можна датаваць канцом I тыс. да н.э. – першымі стагоддзямі н.э. (Шадыро, 1985, с. 52 – 53, мал. 31: 4, 6 – 9).

Што да посахападобных булавак (мал. 6: 9– 1, 16), то яны знойдзены на помніках многіх культур Цэнтральнай і Усходняй Еўропы – ад эпохі бронзы да ранняга сярэднявечча, асабліва ў балцкім арэале. В.В. Сядоў адносіць гэтую катэгорыю старажытнасцей да ўпрыгожанняў усходніх балтаў (Седов, 1967, с. 131). Самая вялікая колькасць знаходак посахападобных булавак зафіксавана ў арэале днепра-дзвінскай культуры, у яе ўсходнім, дняпроўскім варыянце (Шмідт, 1992, табл. 11–14). Па тыпалогіі А.М. Мядзведзева нашы экземпляры адносяцца да тыпу II, з верхняй часткай кроплепадобнай формы (Медведев, 1996, с. 180). В.В. Сядоў вызначае шляхі пранікнення посахападобных булавак – з Сярэдняга Падняпроўя ў Верхняе Падняпроўе і Прыбалтыку (Седов, 1967, с. 137). Шырокае іх

**Мал. 8. Узоры керамічнага матэрыялу: ганчарная (1 – 5), ляпная гладкасценная і штрыхаваная (6 – 23), з расчосамі (24 – 27)**



распаўсюджванне звязана з мясцовай выпрацоўкай жалеза. Нашыя экземпляры па стратыграфічным паказчыку можна аднесці да першых стагоддзяў н.э. Узор тардзіраванай у верхняй частцы булаўкі (мал. 6: 16) з'яўляецца даволі рэдкай знаходкай, і дакладных аналогій ёй пакуль не выяўлена.

Фрагмент познелатэнскай фібулы (мал.6: 13) мае кароткую спружыну, ніжнюю цеціву і круглую ў сячэнні іглу. Бліжэйшыя аналогіі такім фібулам ёсць у зарубінецкай культуры (Кухаренко, 1961, с. 54, табл. 14, 9) і датуюцца яны мяжой н.э. (Амброз, 1959, с. 150). Падобную цэлую фібулу з Малышак А.Г. Мітрафанаў датаваў I ст. да н.э. – I ст. н.э. (Митрофанов, 1978, с. 36, мал. 22: 16).

Асаблівую цікавасць уяўляе наканечнік дзіды з развітым, ці прафіляваным,




**Мал. 9. План і профілі пячэй-дамніц. Умоўныя абазначэнні: 1 – інтэнсіўна-чорны культурны пласт; 2 – гліна; 3 – слаба-абпаленая гліна; 4 – абпалены пясок; 5 – моцна абпаленая гліна**

пяром (мал. 6: 1). Такі тып з гарадзішча-сховішча Дзямідаўка Я.А. Шміт адносіць да тыпу з полымяпадобнай формай з серыі варыянтаў з закругленай часткай пяра (Шмидт, 1995, с. 105 – 117, мал. 1: 2). В. Казакявічус паказвае шматлікія аналогіі іх ва Усходняй Прыбалтыцы, Фінляндыі, Швецыі і Нарвегіі і адзначае, што самыя раннія наканечнікі з прафіляванай формай пяра сустракаюцца ў Латвіі і Даніі, дзе датуюцца III ст. н.э. З тэрыторыі Латвіі гэтыя наканечнікі распаўсюджваюцца ў суседнія землі балтыйскіх плямёнаў Усходняй Прыбалтыкі (і Беларусі – В.Ш.); а з Даніі – і на іншыя паўночна-еўрапейскія тэрыторыі (Казакявичюс, 1988, с. 36 – 40). В.В. Сядоў уключае такія вырабы ў комплекс правінцыйна-рымскіх па паходжанні рэчаў і лічыць, што ў эпоху вялікага перасялення народаў арэал такіх наканечнікаў (Дзямідаўка – В.Ш.) перамяшчаецца з Сярэдняй Еўропы ў Паўднёва-Усходнюю Прыбалтыку і Тушамлінскі рэгіён (Седов, 1998, с. 63, мал. 3: 8). Наш экзэмпляр трапіў на гарадзішча, хутчэй за ўсё, па Заходняй Дзвіне ад латгалаў і селаў, дзе яны былі шырока распаўсюджаны ў V–VI стст. (Latvijas PSR archeologija, 1974, 157 lpp; 39: 12, 21 tab.).

Вырабы з бронзы (мал. 7) не маюць вузкага датавання і добра вядомы ва Усходняй Еўропе, у тым ліку і ў арэале балцкіх старажытнасцей на тэрыторыі Беларусі і сумежных рэгіёнаў. Што да бранзалетападобных (мал. 7: 1 – 4) скроневых кольцаў з круглага ў сячэнні дроту, то апошнім часам В.В. Сядоў схільны звязваць іх з эпохай вялікага перасялення народаў і ідэнтыфікаваць са славянскімі старажытнасцямі (Седов, 1994). Нашыя экземпляры маюць некалькі іншую форму (з моцна заходзячымі канцамі і завіткамі ў некалькі абаротаў) і часта сустракаюцца на помніках позняга этапа культуры штрыхаванай керамікі (Археалогія Беларусі, 1999. с. 171, мал. 49: 19 – 22).

На гарадзішчы былі выяўлены 2 печы-дамніцы (мал. 9) круглай формы і амаль аднолькавых памераў. Дыяметр горнаў 0,4 – 0,6 м. Захаваўшаяся вышыня складала каля 0,5 м. На тэрыторыі вакол горнаў сабрана некалькі тысяч кавалкаў жужалю, прыкладна 40 кг. Жалеза ўтрымлівалі толькі некалькі дзясяткаў кавалкаў.

**Мал. 10. Профіль культавай ямы (ахвярніка)**



Крыц не выяўлена. У 15 м ад дамніц зафіксавана канструкцыя (мажліва свяцілішча) ў выглядзе канічнай ямы глыбінёй звыш 2 м (мал. 10). Запаўненне яе складала інтэнсіўна чорная зямля, якая ўтрымлівала шматлікія косткі жывёл, дробныя камяні, гладкасценную і штрыхаваную кераміку, некалькі дзясяткаў касцяных пласцінак з рэбраў жывёл з адтулінамі (мал. 3). Тут былі таксама знойдзены амулеты з разцоў і іклаў жывёлаў з нарэзкамі для падвешвання. Побач са згаданай ямай на глыбіні 0,5 м у мацерыку было зафіксавана скапленне чалавечых і жывёльных костак, а таксама пласцін з адтулінамі, некалькі амулетаў з іклаў і разцоў з нарэзкамі. Пляцоўка аснавання дна ямы круглая па форме (дыяметр 1 – 1,2 м) утрымлівала інтэнсіўна чорны гумус з перапаленымі косткамі, вуглямі, камянямі. Размяшчэнне камянёў сведчыць аб наяўнасці агменю круглай формы. Пад камянямі выяўлены буйныя кавалкі жужалю. Паўсюдна канстатаваны дробныя кавалкі жужалю, перапаленыя косткі жывёлаў (конь, кабан). Што датычыць чалавечых костак, то па вызначэнню А. Разлуцкай яны належалі мужчыне ва ўзросце каля 20 год.

Аснову керамічнага матэрыялу (мал. 8) з раскопак складае ляпны гладкасценны посуд (52 – 57 %), прычым да днепра-дзвінскага можна аднесці 10 – 15 %, астатні мае банцараўска-тушамлінскія рысы. На другім месцы – штрыхаваная кераміка – ад 25 да 30 %, кераміка з расчосамі складае 1 – 4 % і, нарэшце, ганчарная – 10 – 15%.

Размеркаванне керамічнага матэрыяла па пластах выглядае наступным чынам:

| Пласты | Гладкастенная | | Штрыхаваная (%) | З расчосамі (%) | Ганчарная (%) |
|---|---|---|---|---|---|
| | ДДК (%) | БТК (%) | | | |
| I | 4,2 | 53,5 | 25,8 | 1,5 | 15 |
| II | 8,8 | 46,9 | 26,9 | 1,4 | 15,1 |
| III | 14,6 | 39,3 | 36,0 | 3,4 | 6,7 |
| IV | 15,9 | 40,7 | 32,6 | 3,53 | 8,0 |
| Усяго: | 10,9 | 45,1 | 30,3 | 2,71 | 11,2 |

У керамічнай калекцыі з гарадзішча толькі 1 фрагмент з ружанцовым арнаментам тшцінецкага выгляду можа паказваць на перыяд сярэдняй бронзы. Да якога часу адносяцца вышэй памянёныя касцяныя пласціны і амулеты з іклаў і разцоў з нарэзкамі застаецца загадкай. Аналогіі касцяным пласцінам з адтулінай нам невядомыя. Неабходны радыявугляродны аналіз для высвятлення датавання.

Аналіз матэрыялаў сведчыць пра тое, што з мяжы н.э. элементы культуры штрыхаванай керамікі на паселішчы пачынаюць дамінаваць. У матэрыялах гарадзішча можна знайсці асаблівасці, якія Я.А. Шміт назірае ў развіцці днепрадзвінскай культуры на апошнім этапе (Шмидт, 1992, с. 131 – 143), яны звязаны з уплывам зарубінецкай культуры ў Верхнім Падняпроўі. Працэс фарміравання

старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі можна выявіць па некаторых дадзеных (прафіліроўка посу¬ду, з'яўленне новых рэчаў, будаўніцтва абарончых умацаванняў і да т.п.). Наяўнасць керамікі з расчосамі і некаторых асаблівасцей у матэрыяльнай культуры, якія групуюць у апошні час у помнікі тыпу Заазер'я (Лопатин, 1991), можна, на наш погляд, разглядаць як прамежкавы этап у фарміраванні старажытнасцей 3-й чвэрці або як лакальны варыянт тушамлінскай культуры познарымскага часу.

Матэрыялам гарадзішча адпавядае пункт гледжання В.В. Сядова аб прытоку значных мас насельніцтва з арэалу правінцыйна-рымскіх культур і фарміравання новай тушамлінскай культуры як сімбіёзу мясцовых і прышлых элементаў (Седов, 1998, с. 64). У больш паўночных тэрыторыях, у тым ліку і Пскоўшчыне, гэты працэс быў спалучаны з узаемадзеяннем мясцовых традыцый днепра-дзвінскай культуры на апошняй стадыі з прынесенымі новымі элементамі прышлага насельніцтва, што і выклікала фарміраванне культуры ранніх доўгіх курганоў поўначы Беларусі і Пскоўшчыны.

Матэрыялы гарадзішча Клішына паказваюць складаную карціну этнакультурных узаемаадносінаў рэгіёна, які знаходзіцца ў зоне памежжа розных археалагічных культур. Геаграфічнае становішча помніка на шляхах, што звязваюць паўночныя, заходнія і паўднёвыя тэрыторыі басейнаў Зах. Дзвіны і Дняпра, адбілася ў асаблівасцях матэрыяльнай культуры разгляданага паселішча.

СПІС СКАРАЧЭННЯЎ:

ГАЗ - Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск
ИАК - Императорская археологическая комиссия
МИА - Материалы и исследования по археологии СССР
РА - Российская археология
САИ - Свод археологических источников
СА - Советская археология
ABS - Acta-Baltico-Slavica. Bialystok
ДДК - днепра-дзвінская культура
ВТК - банцараўска-тушамлінская культура

СПІС ЛІТАРАТУРЫ:

1. Амброз А.К., 1959. Фибулы зарубинецкой культуры // МИА. № 70. М.
2. Амброз А.К., 1965. Раннеземледельческий культовый символ («ромб с крючками») // СА. № 3.
3. Археалогія Беларусі, 1999. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Т. 2. Раздзел 3. Культура штрыхаванай керамікі (А.А. Егарэйчанка). Мінск.

4. Голан А., 1994. Миф и символ. М.
5. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, 1987. Мінская вобласць. Кн. 1. Мінск.
6. Казакявичюс В., 1988. Оружие балтских племен II – VIII веков на территории Литвы. Вильнюс.
7. Кузавініс К., 1970. Пра балтыйскія макратапонімы і этнонімы // Пытанні беларускай тапанімікі. Мінск.
8. Кухаренко Ю.В., 1961. Зарубинецкая культура // САИ. Вып. Д1- 19. М.
9. Лопатин Н.В., 1991. Южные традиции в керамике смоленского Поднепровья и северной Белоруссии в первой половине I тысячелетия н.э. // Археология и история Юго-Востока Руси. Курск.
10. Митрофанов А.Г., 1978. Железный век Средней Белоруссии. Минск.
11. Медведев А.М., 1996. Посоховидные булавки // ГАЗ. № 7. Минск.
12. Романов Е.Р., 1903. Еще два клада близ древнего Лукомля // Известия ИАК. Прибавление к вып. 6. (Хроника и библиография. Вып. 4). СПб.
13. Рыбаков Б.А., 1994. Язычество древних славян. М.
14. Седов В.В., 1967. Булавки восточных балтов в эпоху раннего железа // ABS. T 5. Białystok.
15. Седов В.В., 1987. Финно-угры и балты в эпоху средневековья // Археология СССР. М.
16. Седов В.В., 1994. Из этнической истории населения средней полосы Восточной Европы во второй половине I тысячелетия н.э. // РА. № 2. М.
17. Седов В.В., 1998. Белорусское Подвинье и Смоленское Поднепровье в период Великого переселения народов // РА. № 2. М.
18. Шадыро В.И., 1985. Ранний железный век Северной Белоруссии. Минск.
19. Шадыро В.И., Овчинникова Р.И., 1992. О финно-угорском субстрате на севере Белоруссии (гидронимия и археология) // Археология и история Пскова и Псковской земли. Материалы семинара. Псков.
20. Шмидт Е.А., 1992. Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства. М.
21. Шмидт Е.А., 1995. Вооружение и снаряжение воинов-всадников тушемлинских племен Поднепровья // ГАЗ. Минск.
22. Штыхов Г.В., 1971. Археологическая карта Белоруссии. Памятники железного века и эпохи феодализма. Вып. 2. Минск.
23. Latvijas PSR arheologija, 1974. Riga.



# Гістарычны нарыс мястэчка Бобр



**КРАЯЗНАЎСТВА**/ Яніна ДЭМУХ



*ПУШКІНА (ДЭМУХ) ЯНІНА АЛЯКСАНДРАЎНА, (псэўд. Яніна Дэмух) нар. 02.04.1970 у в.Аталезь Стаўбцоўскага раёну Мінскай вобл. Краязнавец, педагог, настаўнік гісторыі сярэдняй школы ў м.Бабёр Крупскага раёну. Кіраўнік зьвязу Харугвы Скаўтаў Малога Палесься. Сябра рэдкалегіі альманаху.*

*Мястэчка Бобр узьнікла дзякуючы вялікай гандлёвай магістралі, што пралягала з захаду на ўсход, з волі вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста праз намаганьні вядомага дзяржаўнага дзеяча Ераніма Аляксандра Хадкевіча. Адбылося гэта ў 1559 г.: «Чиним знаменито сим нашим листом., з ласки нашое господарское на просьбу пана... Ходкевича... на реце Бобре, в селе Забобровью, во властном кгрунте его милости место садити и в нем корчмы и торг мети ему даем», бо, маўляў, «тое де место и торг там не будеть на жадной шкоде и переказе местом и корчмам нашим, бо одаль от всих мест наших». Так і пачалася поўная слаўных і драматычных падзеяў гісторыя Бабра.*

Але ў дадзеным прывілеі ясна й выразна згадваецца сяло Забаброўе, ці проста сяло Бобр, якое існавала тут задоўга напярэдадні. Сяло тое ўпершыню згадваецца ў дакумэнтах ажно пад 1516 г., калі Іван Васілевіч Красны з князёў Друцкіх завяшчае яго разам зь сёламі Сакалавічы й Нехудава сваёй жонцы. А ўжо яна, напэўна, прадала іх ці завяшчала некаму іншаму. Такім чынам, 1516 г. лічыцца часам першай згадкі Бабра ў гістарычных дакумэнтах.

### НАЗВА

Назва мястэчка Бобр паходзіць ад аднайменнай ракі. Назва ж ракі паходзіць, паводле навуковай літаратуры, ад г.зв. «бабровых гоняў». Але падаецца сумнеўным, што сярод скрозь балцкіх гідронімаў (Мясрэда, Можа, Доўтар, Эса, Югна) адзіны Бобр выпадае й мае ў сваёй аснове славянскія карані. Але, відаць, яшчэ здаўна нашыя продкі-беларусы атаясамлялі балцкае «Бобр» зь беларускім «Бабёр». Сталага веку местачкоўцы й цяпер называюць мяс¬тэчка «Бабёр», а ў крыніцах XVI ст. таксама не ўжываецца форма «Бобрскі», але «Баброўскі». Такім чынам, пытаньне этымалёгіі назвы Бобр яшчэ не закрытае.

Вернемся да пачатку гісторыі Бабра й асабліва пільна засяродзім на гэтым сваю

ўвагу, бо менавіта ў пачатку й можна знайсьці тлумачэньні перапэтыяў далейшага лёсу нашага мястэчка.

## НАСЕЛЬНІКІ

Насялялі мястэчка, паводле згаданага ўжо прывілею, вольныя людзі, «а не отчие наши господарские, ани тож князские и панские». Вось іхныя імёны: Шчасны Лях, Іван Лукамлянін, Сьцяпан Гудзень, Ходар Гічула, Кот Яскавіч, Бадак Касьцініч ды іншыя. Сярод сьпісу ў сотню прозьвішчаў няма аніводнага, якое б сустракалася на сёньняшні дзень. Хіба толькі, можна меркаваць, Шчасны Лях даў пачатак роду Ляшковых, прозьвішча якіх вельмі распаўсюджанае сярод сучасных местачкоўцаў. Робім выснову, што насельніцтва было прышлым, плынным, якім застаецца й на сёньняшні дзень. Гэтая асаблівасьць паўплывала на фармаваньне мэнтальнасьці жыхароў, у прыватнасьці такіх рысаў, як прадпрыймальніцтва, непакорлівасьць, вальналюбства, задзірлівасьць, ганарлівасьць. Гэтаму спрыяў таксама й той фактар, што ў Бабры ня склалася родавай дынастыі ўладальнікаў, пераемнасьці гаспадароў, што выхоўвала ў местачкоўцаў недысцыплінаванасьць, беспакаранасьць.

## ЯН ЕРАНІМ ХАДКЕВІЧ

Пасьля сьмерці Ераніма Хадкевіча ў 1561 г. Баброўскі маёнтак перайшоў у спадчыну да ягонага адзінага сына Яна Ераніма - выдатнага ваеначальніка часоў Лівонскай вайны. Ён пастаўляў са сваіх маёнтакаў 360 конных ваяроў - нямала нязнаных герояў стала на абарону Айчыны.
У 1573 г. Ян Еранім Хадкевіч аддаў у заклад адной з шасьці сваіх сясьцёр, - Крысьціне, і ейнаму мужу Станіславу Пацу - маёнтак Бобр. Зь інвэнтара тае перадачы можна даведацца, што мястэчка Бобр мела 71 дом, млын, гасьцінны дом.

## ЗАКЛАДНОЕ ПРАВА

Не пашчасьціла Бабру з пастаянным гаспадарлівым уладальнікам. Аляксандар, сын Яна Ераніма Хадкевіча, пась¬ля сьмерці Паца перадае закладное права Ляву Сапегу, той - свайму слузе Станіславу Галінскаму, той жа - шляхцічу Крыштафу Камару. І ўрэшце, абцяжараны даўгамі маёнтак Аляксандар у 1614 г. канчаткова прадае Камару. Ізноў складзены новы інвэнтар: за 41 год насельніцтва Бабра значна вырасла, у ім знаходзілася 180 аселых мяшчанскіх двароў (пляцаў) на абодвух берагох ракі. Мост і млын з двума коламі здаваліся ў арэнду. Пад 1614 г. упершыню згадваецца Баброўская царква й сьвятар Фёдар, якому належалі пляц і валока, воль¬ная ад усіх падаткаў. Сярод сьпісу мяшчанаў згадваюцца й былыя прозьвішчы, але шмат і новых: Арцём і Амяльян Друцкія, Ахрэм і Сьцяпан Ліцьвіны, Якаў і Амяльян Маскалі.

## ЗЬБІЦЬЦЁ ГАБРЭЯ

У1624 г. Бобр зноўку трапляе ў гістарычныя аналы. Цікава адзначыць, што нагода вельмі нагадвае сучасную - баброўскія мяшчане зьбілі й абрабавалі праеджага габрэя-гандляра з Магілева Арона Якубовіча. У 1636 г. у Бабры дык і ўвогуле быў забіты падданы суседняга сяла Шырневічы. Падаецца, што крымінальная сытуацыя не на многа з тае пары зьмянілася.

## НЕВЯДОМАЯ ВАЙНА

У 1636 г. Крыштаф Камар памёр. Сьлед Бабра губляецца на некалькі дзесяцігодзьдзя. Напэўна, гэта зьвязана зь Невядомай вайной (1654 - 1667), якую разьвязала Масковія супраць Рэчы Паспалітай. Гэтая вайна з 213 дамоў, што былі ў Бабры, пакінула 95, звыш паловы насельніцтва загінула ці разьбеглася.

## УЛАДАНЬНЕ САПЕГАЎ І АГІНСКІХ

Пасьля Невядомай вайны мястэчка Бобр перайшло ва ўладаньне Сапегаў, родавае гняздо якіх знаходзілася ў Чарэі. У гэты час ў Бабры дзейнічала вуніяцкая царква, знаходзіўся двор Сапегаў. Бэнэдыкт Сапега заклаў у 1700 г. Бобр Яну Лендарфу. Удава апошняга Крысьціна Абрамовіч у 1743 г. паўторна пабралася шлюбам з князем Марцыянам Міхалам Агінскім, і праз гэты шлюб Бобр перайшоў да князёў Агінскіх. У 1750 г. Ён належыць старэйшаму сыну Ігнацыю. Ягонай жонкай была траюрадная сястра Алена, дачка Казіміра Даменіка Агінскага, - асоба вельмі адукаваная.

Пры Алене ды Ігнацыі Бобр пераражыў пэўны ўздым. Мястэчка тады мела каля 100 двароў і было буйнейшым з усіх паселішчаў Крупскага раёну. Агінскія заснавалі касьцёл Найсьвяцейшай Панны Марыі, які пачаў дзейнічаць у 1760 г. Бобр стаўся цэнтрам князёў Агінскіх. 01.01.1762 г. намаганьнямі Ігнацыя Бобр атрымаў магдэбурскае права й герб з выяваю Барыса й Глеба. Бобр быў адзіным мястэчкам у Крупскім раёне, які меў магдэбурскае права.

У 1763 г. удава Алена перапрадала маёнтак пляменьніку Міхалу Казіміру Агінскаму, будучаму гетману Вялікага Княства Літоўскага, кампазытару й заснавальніку славутага тэатру ў Слоніме. Потым Бобр перайшоў да Ксаверыя Агінскага. Нейкі час маёнтак, абцяжараны даўгамі гетмана Міхала Казіміра Агінскага, знаходзіўся ў арэндзе Францішка Друцкага-Любецкага; на той час меў 228 дамоў.

## ІНКАРПАРАЦЫЯ

У склад Расейскай імпэрыі Бобр трапіў у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. Новая ўлада прынесла новый парадкі. Была скасаваная царкоўная вунія, праведзеная прысяга на вернасьць расейскай імпэратрыцы й г.д. Непакорлівая шляхта, што памятала дзяржаўную незалежнасьць, вымушаная была ці цалаваць ручку Кацярыне II, ці эміграваць, ці падымацца на паўстаньні супраць акупа-

цыйнага рэжыму. Міхал Клеафас Агінскі, аўтар славутага палянэзу «Разьвітаньне з Радзімай», стаўся уладальнікам Бабра ў 1803 г. У 1811 г. ён стварыў праект утварэньня Вялікага княства Літоўскага ў складзе Расейскай імпэрыі. Праект быў адмоўлены царом. У1823 г. Агінскі зь сям'ёй выехаў у Італію.

## 1812 ГОД

У руска-францускую вайну 1812 г. у Бабры стаяў францускі гарнізон. Пры адступленьні ноч з 12 на 13 лістапада Напалеон правёў у Бабры. Бобр быў «сожжен... со всеми улицами. Церковью Грекоуниатскою, с мельницами, плотинами и многими в господарском дворе строениями» - пісаў у 1813 г. копыскі павятовы прадвадзіцель дваранства (маршалак).

## ЦЭРКВЫ Й ЛАЎКІ

Далей мястэчка Бобр на нейкі час зноў губляецца. У1842 г. Бобр - ва ўладаньні графа Іосіфа Міхала Тышкевіча. У гэтым жа годзе была пабудаваная новая Мікалаеўская царква замест старой вуніяцкай, абрабаванай і спаленай у час вайны 1812 г. У 1862 г. быў пабудаваны каменны касьцёл замест драўлянага, але пасьля паўстаньня 1863 г. быў зачынены ўладамі. У 1869 г. была ўтвораная народная вучэльня.

У 1877 г. мястэчка набыў сапраўдны статны саветнік (райца) Аляксандар Фёдаравіч Барталамей, памяць аб гаспадарлівасьці якога жыве й па-сёньня. У 1885 г. заснаванае паштовае адзьдзяленьне, затым - плятформа «Бобр», у 1881 г. - валаснное праўленьне, а таксама камора судовага сьледчага.

У канцы XIX ст. - пачатку XX ст. у Бабры былі 2 вадзяныя млыны, скураны завод, крупадзёрка, бровар (належалі Барталамею), млын, лячэбніца, аптэка купца Лейбы, царкоўна-прыхадзкая школка, 3 малітоўныя габрэйскія дамы, пастаялы двор, карчма, 35 гандлёвых лавак, хпебазапасны магазін, 2 вінныя лаўкі, прадпрыемства па вытворчасьці піва й садавінавых напояў Брэйгера, цагляны завод братоў Лазінскіх (1904 г. - 62 работнікі), цагляны завод братоў Пружыніных (53 работнікі). На зімовага й летняга Міколу (6 сьнежня й 19 траўня) праводзіліся кірмашы. У1863 г. было 1113 насельнікаў, у 1880 -2239, у 1910 - 2340.

## У ЧАСЫ БАЛЬШАВІЗМУ

Пасьля рэвалюцыйных падзеяў у Расейскай імпэрыі пачаўся новы пэрыяд. Афіцыйную вэрсію гісторыі Бабра савецкага часу можна прачытаць у афіцыйных крыніцах. Але многае змоўчана, ня вывучана - антысавецкі рух, рэпрэсіі, калябарацыянізм. Гісторыя Бабра савецкага пэрыяду яшчэ чакае свайго дасьледчыка.

Спынімся ў агульных рысах на гэтым пэрыядзе. Не найлепшыя часы надыйшлі для Бабра пасьля бальшавіцкага перавароту ў кастрычніку 1917 г. Барталамей,


Закінутая недабудаваная паліклініка ў Бабры.

**Закінутая недабудаваная паліклініка ў Бабры. Стан на 2001 г.**

напярэдадні прадаўшы лес, пасьпеў зьехаць з брычкаю золата (па расповедах местачкоўцаў) ў Парыж. На месцы ягонага маёнтку ў 20-ыя г.г. пасьля адыходу нямецкай акупацыі была ўтвораная камуна. Камунары-камбедаўцы забралі ўвесь рыштунак, гаспадарчыя пабудовы, бровар, маслабойку. Жылыя памяшканьні адыйшлі да школы. У 1928 г. быў створаны калгас «Красная ніва».

Касьцёл быў пераўтвораны ў клюб, у якім у 30-ыя г.г. пускалі кіно. Бабpoўскую царкву ў 1938 г. рашэньнем старшыні тагачаснага сельсавету таварыша Крывашэева й старшыні калгасу таварыша Цодзіка было загадана разабраць і прадаць на дровы ва Ўкраіну. Касьцёл жа пры наступленьні немцаў у 1941 г. згарэў. Немцы разабралі ягоныя муры й выбрукавалі дарогу ад маста да шашы. На былым месцы, дзе раней стаяў касьцёл, пасьля вайны збудавалі памяшканьне НКВД (цяпер дзіцячая бібліятэка), а на месцы пахаваньняў сьвятароў - прыбіральню (якая, дарэчы, існуе й зараз).

У 20-ыя г.г. у нашай мясцовасьці існаваў супраціў савецкай уладзе. Гэта былі ўзброеныя групы Моніча й Шпількі, аб якіх нашым сучасьнікам амаль нічога невядома. Зразумела, езьдзіў па мястэчку ў 30 г.г. і г.зв. «чорны воран». Сярод местачкоўцаў былі як ахвяры, так і «стукачы». Дзейнічаў негалосны сталінскі закон «на 10 жыхароў - адзін данасіцель». Зь ліку мноства рэпрэсаваных ахвяраў рэабілітавана толькі каля дваццаці чалавек.

## ВАЙНА

Апошняя вайна не ўкладваецца ў клясычныя рамкі Айчыннай вайны, яна, пасутнасьці, зьяўлялася й грамадзянскай вайной, у якой існавалі дзьве палітычныя сілы: камуністычная й нацыянальная. Местачкоўцы апынуліся ў гэтай вайне па розных баках, сярод іх былі й калябаранты. Пасьля выгнаньня фашыстаў нямецкая акупацыя зьмяніпася савецка-расейскай. Цалкам за гады вайны загінула каля паловы насельнікаў Бабра — больш за тысячу, ёсьць і па-




мяць пра Галакост - магіла габрэяў каля мястэчка Бобр.

**Закінуты недабудаваны дзіцячы садок ў Бабры. Стан на 2001 г.**

### ШТО МАЕМ?

За савецкія гады некалі прыватнаўласьніцкая гаспадарка была пераўтвораная ў сацыялістычную. У 30-ыя гг. у Бабры дзейнічала сьлесарская майстэрня «Ударнік», кавальская арцель «Мэталіст». У 1944 г. працаваў лесазавод. На сёньня ў Бабры існуюць лясьніцтва, калгас «Бобр», жывёла-гадоўчая фэрма, майстэрні, лесазавод, 4 крамы (з іх 2 прыватныя), бар, дрэваапрацоўчы камбінат (зачынены ў 1990 г.), спіртазавод (зачынены таксама).

Ў пасьлеваенныя гады ў Бабры існаў дзіцячы дом, які згарэў у 80-ыя г.г. працуе сярэдняя школа, дзіцячы сад, летнік упраўленьня беларускай чыгункі, дзьве бібліятэкі, дом культуры, адзьдзяленьне сувязі, КБА, мэдпункт, аптэка. У 1994 г. была адбудаваная новая мураваная Мікалаеўская царква, у 2000 г. адчынілася пратэстанцкая царква.

Гэта ўсё - скупая статыстыка. А што за ёй? Хочацца паразважаць. Местачкоўцы за гады савецкай улады самаахвярна згаралі на працы. Але так і не змаглі ані пабудаваць сабе катэджу, ані купіць аўтамабіля, ані зьезьдзіць у Парыж. Не ўдалося ім утрымаць у мястэчку й сваіх дзяцей, якія разьляцеліся па сьвеце, шукаючы лепшай долі й не жадаючы дабраахвотна браць на сябе ярмо сваіх бацькоў (3 трох тысячаў жыхароў у 1969 г. сёньня ў Бабры налічваецца толькі крыху больш за тысячу). А СССР у гэты час пускаў спадарожнікі, будаваў армады танкаў, дапамагаў Эфіопіі, Кубе, Аўганістану, Манголіі й безьлічы іншым марыянэткавым рэжымам. Савецкая прапаганда «трубіла» пра гэтыя дасягненьні, і звычайныя людзі, якія ня мелі каляровага тэлевізара, гарачай вады, каналізацыі, прыроднага газу (якога ў Бабры няма й дагэтуль) і хадзілі па цёмных неасфальтаваных вуліцах, шчыра ганарыліся тымі ўяўнымі «дасягненьнямі». Старыя людзі Бабра настальгуюць па брэжнеўскім «застоі», разьвітым сацыялізьме, вераць у калгасы, вераць белару-

скай тэлевізіі. Аднак аніводнага прыгожага прыватнага 2-павярховага катэджу ў Бабры за 73 гады савецкай улады так і не зьявілася. Спытаеце, чаму? Мо, усе гультаі ды пьяніцы? Не, хутчэй, падманутыя ды ашуканыя. Старыя прадпрыемствы зачыненыя, стаяць - непрыватызаваныя. Ого, каб жа людзі не пабагацелі! А моладзь плаціць падманутаму пакаленьню бацькоў непавагай, нігілізмам, пьянствам, дэградацыяй ды жабрацтвам душы.

## НОВАЯ ГЕНЭРАЦЫЯ

Ды ўсё ж дэмакратызацыя ды беларусізацыя ў 1991 - 1994 г.г. дала свой плён. Зьявілася новая генэрацыя моладзі. Вось жа нехта малады, каму няма і дваццаці, павесіў 1 кастрычніка 2000 г. на коміне баброўскага бровару бел-чырвона-белы сьцяг! Заўтрашні дзень належыць нам, маладым. Тым, хто любіць сваё мястэчка, ганарыцца ягонай гісторыяй ды зьбіраецца тут жыць і працаваць. Нас мала, але мы ёсьць.

# Беларускія асілкі з Малога Палесся



**КРАЯЗНАЎСТВА** / М.А.БАРАВУЛЯ

*Да гэтага часу на поўдні Крупскага, Барысаўскага, а таксама ў паўднёвай частцы Бярэзінскага раёнаў сярод мясцовых старажылаў бытуе мноства быляў і небылічак пра мясцовых жыхароў, якія валодалі калісьці незвычайнай сілай. У памяці народнай захаваліся і імёны некатарых з іх: Ціт Баравуля з Крупскага і Барыс Агеевіч Цішкавец з Вяляціч Барысаўскага раёнаў. Згодна сцвярджэнню асноўнай часткі нашых інфарматараў, незвычайная сіла гэтым волатам была дадзена ад прыроды, і толькі некаторыя з апавядальнікаў паведамляюць, што атрымалі «мацакі» («мацак» – ад слова «моц», «моцны»), фізічную моц у час фізічнай работы. Мой дзед, Ермачонак Міхаіл Фёдаравіч (в. Лаўніца Барысаўскага раёна, 1899г.н. ), запэўніваў, што акрамя прыродных дадзеных мясцовыя жыхары мелі звычку займацца і штодзённымі спецыяльнымі трэніроўкамі.*



*БАРАВУЛЯ* ***Міхал Адамавіч,*** *(псэўд. Міхал Бяроза) нар. 08.01.1951 у в.Гумны Крупскага раёну. Паэт. Выбітны краязнавец, педагог, дырэктар школы в.Старая Слабада Крупскага раёну ў 1979-2007гг. Старэйшы куратар Харугвы Скаўтаў Малога Палесься. У 2003-м выйшаў першы зборнік вершаў "Малітва за Беларусь". У цяперашні час – пенсіянер. Сябра рэдкалегіі альманаху.*

«Старыя нават смяяліся з Барыса Агеевіча Цішкаўца, які ў маладыя гады бегаў з бервяном на плячах па лугах і балотах, прысядаў з ім, круціў яго на руках. За гэта ўсё людзі спачатку лічылі яго крыху прыдуркаватым».

Успамінаў ён і яшчэ пра нейкага паслядоўніка асілка Б.А.Цішкаўца, які жыў у вёсцы Лаўніца. Прозвішча гэтага чалавека, на жаль, запамятаваў, але добра помню, што сваю фізічную сілу ён выкарыстоўваў вельмі арыгінальна.

«Леснікі, сцвярджаў мой дзед, не дазвалялі вазіць дровы або будаўнічы лес, не купіўшы яго, на кані. Гэта лічылася крадзяжом. А вось калі ты на плячах прынясеш дрэва з лесу, то ніхто за гэта не штрафаваў, і крадзяжом гэта не лічылася. Дык наш лаўніцкі (называлася яго імя) пойдзе у лес, высеча там дрэва, раскрыжуе яго і кіламетры два ( да лесу было далекавата) бяжыць з ім па полі. Так ён да сенакосу і нацягаў на плячах будаўнічага лесу на лазню і стопку, а да восені змог і зрубіць яе. Смяяўся ўсё з леснікоў: пакуль у іх новы закон выйдзе, я сабе і новую хату пастаўлю».

Адносна такіх людзей у нашай мясцовасці ніколі не ўжывалі тэрмін «волат», «багатыр» ці «асілак». Багатырамі ў нас да гэтага часу называюць багатых, але толькі не

фізічна моцных людзей («Багатыр знайшоўся – пяць мільёнаў паклаў на вяселлі пляменніка», «У нас багатыроў няма – усе на палучку жывуць»).
На нашу думку, да людзей, якія валодаюць рэальнай незвычайнай сілай, больш правамерным будзе ўжыванне тэрміна «сілач». У нашай мясцовасці іх нярздка яшчэ называюць «мацакамі» .

## СІЛАЧ ЦІТ БАРАВУЛЯ З ВЁСКІ ГУМНЫ (1840–1918)

Паданні (былі і небылічкі) пра сілу Ціта Баравулі з вёскі Гумны Крупскага раёна захаваліся да нашага часу толькі сярод яго старажылаў. Яны лічаць, што набыў Ціт сваю сілу ў працы цяжкай фізічнай у асноўным пры раскарчоўцы ляд (участкаў зямлі сярод лесу), калі прыходзілася тапаром валіць стогадовыя дрэвы, раскрыжоўваць іх, звозіць іх на кані, рыдлёўкай і тапаром карчаваць пні, зносіць і паліць сучча. Займаўся Ціт і нарыхтоўкай вугалю для металургічнага завода ў вёсіцы Чэрнеўка (Барысаўскі раён, 18 км ад Гумнаў), які ў мінулым стагоддзі належаў вялікім князям Раманавым і быў заснаваны імі ж. Даўно няма на нашай зямлі ні Ціта, ні вялікіх князёў Раманавых, ні металургічнага завода, але ў ваколіцах Гумнаў да гэтага часу засталіся абкапаныя конаўкай круглыя плоскія бугры дыяметрам да 10 – 12 метраў. Гэта рэшткі збудаванняў вуглякопаў мінулага стагоддзя.
А выпальвалі вугаль, як сцвярджаюць старажылы, наступным чынам: бярвенні лісцевых парод (часцей бярозы), пабітыя на плашкі і добра падсушаныя, ставіліся стажком плашка да плашкі вышынёю да трох метраў, а пасля з усіх бакоў абкладваліся дзёрнам і абсыпаліся зямлёю, але так, каб толькі ўверсе і з чатырох бакоў заставаліся адтуліны. Знізу складня плашак падпальвалася, а дым выходзіў праз верхнюю невялічкую адтуліну. Дрэва павінна было не гарэць, а павольна тлець. Таму вуглякоп на працягу трох дзён і начэй дзяжурыў каля сваёй «домніцы» і назіраў, каб не дай Бог дзе-небудзь збоку паміж дзёрнам складні не завіўся дымок ці складня дроў не загарэлася вялікім полымем. Для гэтага на праваліны дзёрну зноў і зноў насыпалася зямля. Калі вугаль быў гатовы, дзёран і зямля акуратна здымаліся, вугаль выкапваўся з зямлі, прамываўся вадою і ў спецыяльных фурах адвозіўся ў Чэрнеўку на металургічны завод. Пры такой рабоце Ціту не было роўных: ён адной рукой клаў у складню трохметровыя плашкі (траякі), ды так хутка, што яго таварышы па працы ўдваіх не паспявалі іх падаваць. А калі пачыналі абкладваць драўніну дзернам, то не па адным дзёрне цягнуў ён да складні, а па цэлым стосе.
Займаўся Ціт і пчалярствам (бортніцтвам). Расказваюць, што мог пад пахамі адразу несці дзве калоды пчол, адзін падымаў борці на таўшчэзныя сосны і елкі. Сала і мяса ён ніколі не еў падсмажаным або адвараным, а толькі сырым (салёным і добра падсушаным).

Расказваюць пра Ціта Баравулю і тры легенды, якія крыху дапаўняюць партрэт гэтага вясковага сілача.

**Пабіліся аб заклад.**

На бару ва ўрочышчы Яраш, з левага боку дарогі, да гэтага часу ляжыць горка гліны, добрых паўвоза будзе. Мой дзед Барыс гаварыў, што з'явілася гэта гліна тут вось як. Атрымалі ў Чэрнеўцы гуменскія мужчыны грошы за работу, добра выпілі і слова за слова спрачацца пачалі: хто з іх колькі цаглін-сырцу з Чэрнеўкі да Гумнаў данясе без адпачынку. Падышоў і Ціт. "Данясу штук дваццаць, – сказаў ён. – На гарнец гарэлкі б'юся на заклад».

Наклалі мужчыны Ціту на спецыяльнае прыстасаванне дваццаць штук сырых цаглін, узяў ён іх на плечы і подбегам пашыбаваў на Гумны. Ды так хутка, што яго таварышы ледзь паспявалі за ім. Беглі, кажуць, языкі высалапіўшы. Сталіліся страшэнна (гэта ж не смешкі 18 км у адзін бок), а Ціту хоць бы што: шыбуе наперадзе іх і не аглядваецца нават.

– Стой, Ціт, давай адпачнём і перакусім!

А Ціт у адказ з ухмылкай: – А вы ж сказалі, каб без адпачынку. Перахітрыць хочаце?

Засталося да Гумнаў недзе кіламетры паўтары, не больш. Забеглі мужыкі з апошніх сіл наперад, разаслалі каля дарогі світку, паклалі на рушніку закуску, паставілі гарэлку.

– Кідай ты, Ціт, гэтую гліну. Выйграў, сядай з намі. Дома жонкі выпіць не дадуць спакойна.

Толькі тады паверыў ім Ціт. Паставіў ён цэглу на зямлю пад сасонку і прысеў побач. А тут і дождж пайшоў. Цэгла ўся і размякла. Так і ляжыць яна цяпер грудам гліны сярод дарогі.

Калі папярэдняя быль апавядае аб сіле і тэхніцы пераносу цяжару Цітам (подбегам пашыбаваў да роднай вёскі), то наступная сведчыць аб тым, што ён вельмі добра валодаў тэхнікай рукапашнага бою. (З аповеду Баравулі Адама Пракопавіча, 1928 г. н., запісана ў 1970 годзе).

**Чаму луг на Беразіне застаўся за гумнянамі.**

"Гумняне раней жылі ў Рэпішчы, што недалёка ад урочышча Лысы Бераг на р.Бярозе. Калі ж пачалі замест рэпы садзіць бульбу, то рашылі пераехаць на свае асноўныя землі, дзе стаялі іх гумны з ёўнямі, а сена з луга вазіць на конях дамоў, ужо ў новую вёску. Большасць жыхароў і пераехала ў цяперашнія Гумны (так пасля і назвалі вёску), а некаторыя ў Аздзяцічы, Мётчу, Ліванава і Вяляцічы. Доўгі час на сенакосы гумнян ніхто вока не клаў, але аднойчы аздзяціцкія неяк сабраліся, гэтак чалавек дваццаць, і рашылі скасіць гуменскія сенакосы ўціхую. А была тады такая завядзёнка: калі адзін раз скасіў, то наступны год можна касіць смела – не

спі ў шапку.

Ну, косяць, значыць, яны каля Лысага Берага, аж косы свішчуць на ўсю ваколіцу.

А Ціт гуменскі неяк быў у Чэрнеўцы. Яму і падказалі яўрэі чэрнеўскія, што на гуменскіх сенакосах робіцца. Паслаў Ціт у Гумны чалавека за мужчынамі, а сам схапіў касу і на Лысы Бераг. Аздзяціцкія ўбачылі, што нехта адзін нясецца на іх з касой, але спакойна так сабе ідуць у пакосе, бо што адзін чалавек можа зрабіць, думаюць, супраць такой ватагі. Калі той падбег бліжэй, то яны і пачалі акружаць яго з косамі наперавес. Тут Ціт і разышоўся: як шморгнуў касой у адзін бок, косы ў пярэдніх за колькі метраў з рук паляцелі. Ён ім кассём-кассем у плечы і да наступных – і ў тых толькі косы на сонцы заблішчэлі. Кажуць, разагнаў ён усіх аздзяціцкіх, косы іх пазбіраў, сам сеў каля будана і пачаў луг сцерагчы і сцярог, пакуль гумняне на конях не прыехалі.

А пабітыя аздзяціцкія прыбеглі да сваёй пані і пачалі скардзіцца на Ціта. Тая выслухала сваіх і кажа – Чыя сіла, хай той лугам і валодае! Так гуменскі луг і застаўся за гумнянамі.

Ціт Баравуля адрозніваўся ад навакольных сялян не толькі сваёй сілай, але яшчэ і тым, што не баяўся ніякіх забабонаў, мог уступіць у спрэчку нават з чараўнікамі і ведзьмарамі, заўсёды заступаўся за пакрыўджаных, бо быў вельмі справядлівы чалавек. (Запісаў Баравуля М. А. ад Ермачонка Міхаіла Фёдаравіча, 1899 г. н. в. Лаўніца Барысаўскага раёна)

**Ціт і навасельскі чараўнік.**

У Старай Маталызе раней стаяла смалакурня, а каля яе была карчма, якую трымаў яўрэй. У нядзелю ў тыя часы ніхто не працаваў, людзі часцей за усё ездзілі ў госці, хадзілі ў царкву ці адпачывалі. Мужчыны збіраліся і ў карчме: выпіць, закусіць, пагаварыць, аб падзеях у свеце даведацца.

Аднойчы да стараматалыжскага карчмара ўнадзіўся есці і піць на дармаўшчынку адзін навасельскі чараўнік (з вёскі Наваселле Бярэзінскага раёна). Прыйдзе ў карчму і з пагрозамі: – Абрамка, стаў на стол закуску і выпіўку, а то счарую і цябе, і тваіх дзяцей, і жонку, і скаціну.

Абрам (а яўрэй гэты чараўніцтва ой як баяўся!) і поіць, і корміць гэтага чараўніка і месяц, і другі . .. А той настолькі стаў нахабным, што сяброў пачаў з сабою калі-некалі прыводзіць. Паглядзеў Абрам, што і разарыцца так нядоўга.

Аднойчы ў нядзелю, ідучы ці то з Чэрнеўкі, ці то з Вяляціч, зайшоў у карчму Ціт. Абрам пасадзіў яго і расказаў пра сваю бяду. - Дзе той чараўнік? – спытаў падвыпіўшы Ціт. – Пакажы мне яго, Абрамка.

А чараўнік ужо на парозе і апрануты ва ўсё святочнае, белае і вышыванае. Садзіцца за асобны стол і кліча Абрама: – Абрамка, накрывай жа хутчэй стол, а не то счарую.

- Паспрабуй счараваць лепш мяне, – гаркнуў з-за суседняга стала Ціт.

Згроб ён чараўніка ў ахапку, ускінуў сабе, як барана, на плечы і панёс да бочкі з



**Вёска Вяляцічы, магчыма хата Цішкаўца Б.А.**

дзёгцем. Акунуў адной рукой чараўніка ў дзёгаць разам з галавою, падняў над бочкай і пытае: – Будзеш чараваць? Навасельскі чараўнік маўчыць. Ціт яго яшчэ раз у бочку з галавою: – Ці будзеш чараваць?" І так да таго часу, пакуль чараўнік не папрасіў літасці. З таго часу і чараваць забыўся, і ў карчму да Абрама – ні нагою (Запісаў Баравуля М.А ад бацькі ў 1971 г. )

## СІЛАЧ БАРЫС АГЕЕВІЧ ЦІШКАВЕЦ З В. ВЕЛЯЦІЧЫ (1890-1960)

У дзяцінстве нічым асаблівым, як кажуць старыя, будучы сілач не выдзяляўся. Ведаў аб яго сіле толькі бацька, але нікому сынам не хваліўся, бо баяўся, каб людзі не сурочылі. А даведаўся ён пра тое, што сын вельмі моцны, аднойчы ранняй вясной, калі яны паехалі па дровы ўтраіх на санках. Стаяла адліга, і снег ужо добра размок. Нагрузілі яны ў лесе добры воз бярэзніку і пайшлі побач з санкамі. У лагчынцы, дзе снегу за зіму намяло значна больш і ужо паказалася талая вада, конь і завяз. Як не натужваецца конік, а не можа выцягнуць воз. Стары Агей хацеў ужо з другім сынам скінуць крыху бярэзніку, але Барыс спыніў іх. Распрог ён каня, узяўся сам за аглоблі і выцягнуў санкі з дрывамі на ўзгорачак.
Праз нейкі час даведаліся пра сілу Барыса і вяскоўцы. А было гэта так. Летам усе хлопцы ганялі коней на начлег. І была ў Вяляцічах і навакольных вёсках такая гульня: хто хутчэй з начлегу сваіх коней дадому прыгоніць. Гэта каб пахваліцца сваімі коньмі, іх хуткасцю і ўкормленасцю. З самага лугу імчалі начлежнікі навыперадкі, хто хутчэй каго абгоніць, збіваючы ў адстаючых ездакоў шапкі. А Барыс быў па прыродзе вельмі спакойны і ціхмяны. Вось адзін з галавы яму шапку скінуў. Барыс яе

падняў і далей едзе на кані. А тут і другі скінуў, і трэці... Барыс раззлаваўся. Падняў ён яшчэ раз шапку, нацягнуў яе на самыя вушы і пачаў даганяць свавольнікаў. У аднаго шапку з галавы схапіў, у другога, у трэцяга... І вырваўся на сваім коніку наперад, калі сабраў шапкі ва ўсіх начлежнікаў. Першым даскакаў на кані да вескі, дзе на самым яе краі стаяла клець, саскочыў з каня каля яе, адной рукой падняў за вугал, паклаў усе шапкі на камень і апусціў клець на месца. Прыскакалі на конях начлежнікі, паспрабавалі падняць пабудову, каб забраць з-пад вугла свае шапкі, і колькі не тужыліся ўсім гуртам, не змаглі гэта зрабіць. Прыйшлося ім Борыка цэлы дзень улагоджваць, каб аддаў ім шапкі. Той на вачах амаль усяго свайго пасёлка (а іх ў Вяляцічах дванаццаць) і прарабіў гэта, адной рукой падняўшы будынак за вугал. Пасля з ім пачалі баяцца так жартаваць і ўсе пачалі, ад старога да малога, называць не Борыкам, а Барысам Агеевічам.

Памятаю, як расказваў мне дзед і другія мясцовыя жыхары яшчэ пра тое, што выступаў пасля Барыс Агеевіч Цішкавец як барэц і ў Беларусі, і ў Расіі, і нават у Парыжы, дзе яго і скінулі, так і не здолеўшы перамагчы, замежныя сілачы з другога паверха і пры гэтым моцна паламалі яму рэбры. У 20-ыя гады, у час грамадзянскай вайны і пасля яе, хадзіў ён па вёсках і выступаў у клубах, якія тады толькі пачыналі арганізоўвацца. (З аповяду Ермачонка Міхаіла Фёдаравіча, 1899 г. н в Лаўніца).

Расказваў мне бацька і другія нацкія старажылы, што Барыс Агеевіч Цішкавец, выступаючы ў Начах, усіх здзіўляў сваей незвычайнай сілай: завязваў у вузел металічныя цвікі, разгінаў падковы, пальцамі згінаў медныя манеты, адным ударам рукі забіваў у дрэвы цвікі, папярэдне закруціўшы іх шляпкі ў кольцы, каб не параніць пры ўдары руку. Рабіў і шмат чаго іншага. Але некалькі яго каронных нумароў, а дакладней расказаў пра іх, мне запомніліся на ўсё жыццё. Людзі на яго выступленні ішлі са сваімі лаўкамі і табурэткамі, бо мэблі ў клубе не было, ды і выступленні праходзілі на вуліцы. Вось Барыс Агеевіч неяк выйшаў на сярэдзіну пляцоўкі каля клуба, абвёў усіх прысутных вачыма і спытаў. – Хто ў вас тут самая тоўстая баба?

Паказалі яму адну такую жанчыну. Ён за грошы ўгаварыў яе сесці на табурэтку. Тая села. Пасля гэтага сілач адной рукой падняў табурэтку з жанчынай над сабой і пранёс яе па крузе. І гэта не ўсё. Не апускаючы табурэтку з жанчынай на зямлю, паставіў ён адну ножку табурэткі сабе ў зубы і яшчэ пранёс гэты больш чым стокілаграмовы груз па крузе, а пасля дзвюма рукамі прыпадняў над сабой і акуратна паставіў на зямлю.

Ці яшчэ расказвалі. Ляжаў каля клуба вялізны валун. Барыс Агеевіч зняў з шулы вароты, паклаў іх сабе на грудзі, лежачы дагары на зямлі, і загадаў мужчынам ускаціць той камень на вароты. Тыя, чалавек дзесяць ці болей іх было, з горам папалам гэта зрабілі. Барыс Агеевіч некалькі разоў выжаў вароты з валуном над сабой і адным рыўком скінуў валун на зямлю.

Або прасіў ён прынесці доўгі-доўгі металічны лом. Клаў яго сабе на плечы і прасіў як мага больш мужчын, самых моцных і важкіх, павіснуць з двух бакоў на канцах лома. Мужчыны павісалі, колькі гэта магло зрабіць. І Барыс Агеевіч дзвюма рукамі падымаў лом з павісшымі на ім людзьмі. Пры гэтым лом заўсёды згінаўся дугой ад цяжару (З успамінаў Мікалая Філіпавіча Шастакова , былога жыхара в Нача Крупскага раена).

Да вайны, у час вайны і пасля яе Барыс Агеевіч працаваў загадчыкам мельніцы ў Чэрнеўцы. Я сам бачыў, як ён на другі паверх яе па сходцах насіў пад пахамі адразу чатыры мяхі зерня, па два пад кожнай. За некалькі хвілін адной рукой ён мог нагрузіць поўную машыну мукі. Лепшага грузчыка шукаць не трэба было. Мяхі, здавалася, самі ўспрыгвалі на кузава.

Даведаліся пра сілу Барыса Агеевіча і немцы і пасля сталі вельмі паважаць яго. А было гэта так. Ехаў неяк ён на кані. А недалёка ад маста праз раку Бобр у гэты час забуксавала нямецкая грузавая машына. Немцы спынілі Барыса Агеевіча і загадалі яму распрагаць каня, каб канём выцягнуць машыну з гразі, бо самі, колькі не ўпіраліся, не змаглі гэта зрабіць. Сілач і паказвае немцам: каня распрагаць не трэба, я сам выцягну машыну. А тыя ў рогат, пальцамі каля скроні круцяць: прыдурак, значыць. Іх чалавек дванаццаць – і то не змаглі машыну выштурхнуць, а гэты адзін бярэцца. А Барыс Агеевіч падышоў да машыны ззаду, стаў да яе спіной, прыпадняў крыху кузава над зямлёй і адзін выштурхнуў яе з гразі.

А пасля вайны ён наказаў неяк аднаго хвалько – прымака, які прыстаў у прымы ў Манчы да адной жанчыны. Вядома, чалавек быў са свету, аднекуль з Сібіры, і не ведаў пра сілу Барыса Агеевіча. Дык неяк на Троіцу сабраліся мужчыны каля мельніцы і разгаварыліся. Сібірак (а быў ён высокі і шыракаплечы) і вырашыў выпіць на задарма, і таму пачаў падбухторваць усіх памерацца сілаю. А у гэты час з мельніцы выйшаў Барыс Агеевіч. Адзін з нашых лаўніцкіх, таксама не зломак, і скажы сібіраку: – А ты лепш вунь з тым мужчынам пазмагайся.

А Барыс Агеевіч быў невысокага росту, хоць і каржакаваты, крэпкі, як смаляк. Уся сіла яго была ў руках і мускулах .

Сібірак і заве яго да сабе: « Давай падужаемся. Хто на лапаткі ляжа, той і гарэлку ставіць!"

Падышоў Барыс Агеевіч, нахіліўся над сібіраком і павольна так правёў яму адным толькі пальцам па рэбрах. Мы думалі, што побач нямецкі кулямёт запрацаваў – так громка затрамцелі рэбры. Сібірак счырванеў увесь, як рак, ды ў кусты кінуўся, а мы ў рогат!

У апошнія гады жыцця Барыс Агеевіч жыў у вёсцы Мётча Барысаўскага равна, працаваў на мельніцы. У Мётчы ён памёр. Быў у яго сын, таксама моцны, але ўжо не такі, як бацька. (З успамінаў Ермачонка Сяргея Міхайлавіча, в. Лаўніца).

# Барысаўскія Курапаты



**КРАЯЗНАЎСТВА**/ Нікіпар БАРКОЎСКІ

*Амаль ўсім жыхарам горада Барысава вядомы знакамітыя "чычагаўскія" батарэі, ці проста "батарэі", што разьмешчаны на правым беразе ракі Беразіна побач з гарадцкім краязнаўчым музэем. Названы яны так у памяць падзей 1812 года й зьвязаны з імем рускага адмірала Чычагава, што перасьледаваў французкую армію Напалеона пад час адступленьня. Фактычна "батарэі" – гэта умацаваньне гарадцкога прадмесьця (плошча 1700 кв.м.) зь вялікімі абарончымі валамі й глыбокімі акопамі, парослымі цяпер рэдкім хваёвым лесам. Але ж мала хто з барысаўцаў ведае, што за савецкім часам бальшавікі пераўтварылі іх у месца масавых растрэлаў жыхароў Барысаўшчыны й Крупшчыны. Па сьведчаньні нашага вядомага гісторыка Юркі Віцьбіча тут растраляна каля 1200 чалавек!?*

Пачалося ўсё у далёкім 1919 годзе, калі ў сувязі з актывізацыяй дзеяньняў на польскім фронце Менск прыслаў у барысаўскі ваенкамат (якім кіраваў латыш Бенгер) загад аб прызыве ў чырвоную армію мужчын узросту ад 20 да 30 год. Гэты, колькасна вялікі, прызыў барысаўскія ўлады застаў абсалютна не падрыхтаванымі, - мясцовыя начальнікі не мелі нават мабілізацыйнага пляну. Для харчаваньня на перасыльным пункце мелася толькі дзесяць пудоў аўса. Памяшканьні, г.з. баракі, былі халодныя й зусім непадрыхтаваныя нават для часовага пражываньня. Акрамя холаду, яшчэ мучыў й голад. Тыя крохі, што мабілізаваныя ўзялі з дому, абдзяліўшы галодныя семьі, скончыліся празь дзень-два. Адпаведна ж загаду ваенкама на кожны дзень выклікаліся па дзьве воласьці з павету. Людзі прыбывалі сотнямі…

Каб выправіць крытычнае становішча, харчкамісар г.Барысава, таварыш Баршай арганізаваў дзьве экспэдыцыі. Адна зь іх рэквізавала па горадзе пасьцелі, коўдры, падушкі, сталы, крэслы для навабранцаў. Другая ў вёсках павету, адкуль толькі што прыбылі прызыўнікі, адабрала ў іхных бацькоў, братоў, жанок й дзяцей апошнія мізэрныя рэшткі хлеба й пакінула іх на галодную сьмерць. Калі чуткі пра

гэтыя акцыі ўладаў дайшлі да перасыльнага пункту, абурэньню мабілізаваных не было канца. Яны адразу ж пакінулі баракі й накіраваліся да будынку харчкаму.

У нядзелю, 16 сакавіка, Барысаў быў уражаны паходам тысячаў мабілізаваных у цэнтр гораду, дзе знаходзіліся дзяржаўныя ўстановы. Але ўсе адказныя камуністы раёну разьбегліся, толькі ваенны камісар Бенгер накіраваў каравульны батальён супраць паўстанцаў, аднак той адразу перайшоў на іхны бок. Пасьля гэтага й Бенгер на пэўны час зьнік, а мабілізаваныя й чырвонаармейцы батальёну, разагнаўшы такім чынам усе савецкія ўстановы, разышліся па сваіх вёсках і дамох, адмовіўшыся абараняць савецкую ўладу.

На заўтра было арыштавана некалькі сотняў жыхароў горада, якіх западозрылі ва ўдзеле ў паўстаньні, або ў спачуваньні яму. Больш за 100 чалавек, па загаду камісара Бенгера, было растраляна ў хваёвым лясочку "батарэі". На сяньня мы ведаем прозьвішчы толькі трох удзельнікаўкіраўнікоў гэтага паўстаньня, атрымаўшага ў тагачаснай савецкай прэсе назву "Барысаўскі пагром чорнай сотні". 23 сакавіка ў 12 гадзін ночы, па прыгавору ваенна-палявога суда на "батарэях" былі растраляны: Апанас Вусікаў, Казімір Палітыка і Пінчук (імя не названа)...

1923 год – скончыліся войны, на Беларусі савецкая ўлада. Але лічыць мірным той час не выпадае. Фактычна працягвалася грамадзянская вайна, але партызанскімі мэтадамі. У пачатку кастрычніка 1923г., пэршыя старонкі вядучых заходняэўрапэйскіх газэт падавалі сэнсацыйную навіну з СССР: на чыгунцы пад Крупкамі быў прыпынены й абрабаваны хуткі цягнік №1, у якім ехалі прадстаўнікі замежных дыпляматычных місій і вядомыя савецкія дыпляматы. Акцыю зьдзейсьніў партызанскі атрад, якім кіраваў шырока вядомы Юрка Моніч.

Што нам вядома аб ім? Нарадзіўся знакаміты беларускі атаман у вёсцы Вялікія Жаберычы Барысаўскага павету (зараз Крупскі р-н) у 80-х гадох XIX стагодзя. Скончыў настаўніцкую сэмінарыю, працаваў вясковым настаўнікам. З пачаткам І-й Сусветнай вайны Моніч прызваны ў войска, атрымаў афіцэрскі чын. У Грамадзянскую служыў у барона Урангеля, далей... У газэце "Беларусь" ад 3 сьнежня 1919г. чытаем: "...Начальнік штаба беларускага партызанскага аддзела падпаручнік Г.Моніч зьвярнуўся да БВК (Беларуская Вайсковая Камісія) з паведамленьнем, што ён хоча перайсьці пад загад Беларускага ваеннага камандаваньня для змаганьня з бальшавікамі і вызваленьня з-пад іхняга гнёту рэшты Беларусі..." Таксама вядома, што атрад Моніча зьяўляўся падразьдзяленьнем тайнай палітычнай арганізацыі "Беларуская сялянская партыя "Зялёны дуб", якая дзейнічала на Беларусі з 1920 па 1932г.

Зразумела, што НКУС абрынуў на Крупшчыну ўсю сваю моц. Карныя атрады шукалі Моніча, але безвынікова, паймалі толькі памочніка атамана Мавідовіча. Напрыканцы зімы 1923 года барысаўская гарадцкая міліцыя загадала жыхарам шэрагу вуліц, што вялі ад ускраіны гораду да турмы, не выходзіць са сваіх дамоў і зачыніць усе вокны й брамы. Праз некаторы час па гэтых вуліцах пад канвоем прайшоў тысячны сялянскі натоўп. Тут былі амаль усе жыхары роднае вёскі Моніча Вялікія Жаберычы, вёскі Кругліца і разам са сваёй вёскай Пярэсіка йшоў схоплены, акрываўлены Мавідовіч. Таксама тут йшлі сяляне з васьмі найбліжэйшых да Крупак вёсак. У Барысаве адбыўся хуткі пралетарскі суд: надзвычайная тройка ЧК судзіла партызан і сялян, як саўдзельнікаў партызанаў. 22 чалавекі атрымалі растрэл, гэта – Д.Асінскі, Ф.Філіпёнак, П.Корнышэў, Г.Загалавец, С.Сабалеўскі й Сьпір. Сабалеўскі, Г.Сабалеўскі, С.Ліпчэнка, Г.Каструкоў,




**Гэтай вуліцай йшлі галодныя ад запалкавай фабрыкі да будынка НКУС.**

І.Іваноў, А.Аляхновіч, А.Казак, І.Бібін, Г.Буйвідовіч, Ф.Наўроцкая, С.Ткачэнка, А.Хаецкі й Р.Хаецкі, І.Прыгажонак, Е.Палякова й Т.Палякова, Е. Іванова; васьмярых прыгаварылі да 10 год, 23 – да трох год, 1 – да 6 год, 2 – да 5 год і 1 – да 8 год турмы. Акрамя гэтага, па сьведчаньні Юркі Віцьбіча: "...штоночы на "батарэі", ужо палітай крывёю паўстанцаў, прыводзілі на растрэл групы сялян. Усяго было растраляна каля 300 чалавек".

...Пра Барысаўскі галодны бунт пачатку 30-х гадоў ужо распавядалі сучасныя рэспубліканскія газэты, але праўды ніколі не бывае зашмат. З пачаткам калектывізацыі зьнік хлеб і ў гарадах Беларусі (як і ў СССР), была ўведзена карткавая сістэма. Усё насельніцтва з 1928 па 1933г. пры атрыманьні харчовых нормаў было падзелена на наступныя катэгорыі:

1-я катэгорыя. Камуністы, што ачольвалі партыйныя, савецкія й прафсаюзныя ўстановы (гэтак званыя адказныя работнікі). Работнікі цяжкай фізычнай працы, як кавалі, качагары, пільшчыкі, грабары й г.д. Яны атрымлівалі 1кг. хлеба на дзень.

2-я катэгорыя. Работнікі меньш цяжкай працы – 500г. хлеба.

3-я катэгорыя. Работнікі на лёгкай рабоце – 300г. хлеба.

4-я катэгорыя. Службоўцы й дарослыя ўтрыманцы асобаў уіх катэгорыяў – 150г. хлеба.

5-я катэгорыя. Дзеці – 100г. хлеба.

Барысаў – горад лёгкай індустрыі. З гэтае прычыны бальшыня ягоных жыхароў атрымлівала ад 300 да 500г. хлеба на дзень.

У канцы красавіка 1933г. у Барысаве была атрымана непасрэдна з Масквы, мінаючы сталічны Менск, дырэктыва аб зьніжэньні харчовых нормаў. Паводле яе:

1-я катэгорыя мелася атрымаць па 500г. хлеба.

2-я катэгорыя – па 300г. хлеба на дзень;

3-я катэгорыя – па 150г. хлеба на дзень;

4-я катэгорыя – па 100г. хлеба на дзень.

Дарослым утрыманцам і дзецям у хлебе было зусім адмоўлена.

На камуністаў гэтае афіцыйнае зьніжэньне нормаў па сутнасьці, не пашыралася. Кожнага зь іх цалкам забясьпечваў распаўсюджаны ў савецкай рэчаіснасьці "блат" г.зн. абесьпячэньне з чорнага ходу падуладных ім складаў і крамаў. У бухгалтарскіх справаздачах "блат" менаваўся як "усушка", "выцек", "раструшчваньне", "недапёк" і г.д. затое ўсё астатняе насельніцтва было асуджана на галодную сьмерць.

І вось 3 траўня 1933г. галодныя жанчыны, дзеці выйшлі раніцай на вуліцы Барысава й накіраваліся да дзяржаўных установаў з патрабаваньнем хлеба. Па дарозе яны ўбачылі падводы з хлебам, што перавозілі яго з тутэйшых складаў да чыгуначнай станцыі для вывазу. Абураны галодны натоўп затрымаў гэтыя падводы й разабраў той хлеб. Аднак яго было мала, каб накарміць усіх галодных. Тады а 2-3 гадзіне апоўдні натоўпы, што па-ранейшаму складаліся пераважна з жанчынаў й дзяцей, пачалі разбураць харчовыя крамы. Тутэйшы конны атрад НКУС і міліцыі пачаў разганяць людзей, топчучы жанчын і дзяцей коньмі, аднак безпасьпяхова. Адзін з міліцыянтаў, што стрымлівалі націск галодных на харчовую краму, нечакана закрычаў: - Жанчыны! Маткі! Жонкі! Сёстры! Навошта вы гэтак мардуецеся і без усялякай карысьці калечыце сябе й дзяцей! Ідзіце да сваіх дамоў. Ідзіце да фабрыкаў й цягніце сваіх мужоў, сыноў ды братоў. Няхай яны бароняць вас. Тады хутчэй будзе толк. Заклік міліцыянта пачулі.

Работнікі самай вялікай у Барысаве запалкавай фабрыкі "Беразіна" нечакана спынілі працу й патрабавалі ад адміністрацыі павялічэньня хлебных нормаў. Пачалося ні што іншае, як




**На фота: Будынак НКУС у1930-я гг.**

забароненая й неўласьцівая для савецкіх умоў забастоўка. Парторг фабрыкі, адказваючы на патрабаваньні рабочых, з трыбуны крычаў:

- Таварышчы! З кім змагаецеся? Самі з сабою? Са сваёй работніцка-сялянскай уладай! Вярніцеся назад! Вярніцеся да сваіх асірацелых машынаў, на якіх вы куяце сусветную пралетарскую рэвалюцыю. Калі раней мы недаядалі на радасьць буржуям, дык цяпер мы галадуем на страх ім. Кожнае зярнятка хлеба ёсьць удар па капіталістычных акулах.

Са словамі "цецярук", "болбат", "талалай" абураныя работнікі схапілі парторга й пацягнулі на раку Беразіну тапіць, але пашкадавалі й толькі кінулі ў ваду. Між тым жанчыны, да якіх цяпер далучыліся й мужчыны, павярнулі ад крамаў да тутэйшых партыйных установаў й будынку НКУС. Сакратар Барысаўскага райкому КП(б)Б зьвярнуўся да галодных людзей з ушчувальнай прамовай, якая нагадвала прамову парторга з фабрыкі "Беразіна". Аднак калі парторга толькі напалохалі, дык сакратара зьбілі на горкі яблык. Убачыўшы гэта, усе астатнія партыйныя й савецкія службоўцы пахаваліся хто куды. Толькі энкавэдысты зь вінтоўкамі густым частаколам акружылі будынак НКУС.

Натоўп абураных, галодных людзей напіраў, ужо пачуліся стрэлы ў паветра... Хісткае становішча выратаваў начальнік НКУС. Ён выйшаў на балкон зь нейкай паперкай у руцэ й сказаў, што кагадзе атрымаў тэлеграму з Масквы, якая дазваляе захаваць старыя харчовыя нормы. Задаволены натоўп пачаў паступова меньшаць, шмат хто радаваўся перамозе...

Уначы барысаўскія энкавэдысты разам зь менскімі, прыбыўшымі на дапамогу, арыштавалі 1400 (!?) барысаўцаў. Фабрыка "Беразіна" ў сувязі з арыштам работнікаў часова спынілася. Празь некалькі дзён прыехала надзвычайная сэсія рэўтрыбуналу БССР й пачала судзіць арыштаваных. 1200 чалавек былі сасланы на тэрмін ад 8 да 10 год у сібірскія лягеры, бяз права ліставаньня (!), 200 барысаўцаў былі растраляныя на сумнавядомых "батарэях"...

Паміж імі быў барысаўскі дарэвалюцыйны галава Паўлоўскі, ксёнз-дэкан тутэйшага касьцёлу Марызевіч, два міліцыянты, работнікі "Беразіны" й іншых барысаўскіх фабрыкаў. Аднак пераважную бальшыню складалі жанчыны, дзяўчаты й амаль дзеці. Яны прасілі свайго роднага беларускага хлеба...

ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА: ........................................................................................................

1. Юрка Віцьбіч. Антыбальшавіцкія паўстаньні й партызанская барацьба на Беларусі.
2. Нью-Ёрк. 1996.
3. Анна Касинская, Сергей Крапивин. Ограбление поезда №2, "Народная газета" 27-29 верасьня 1997г. ст.12-13.
4. Газэта "Звезда", №№ 402,407; сакавік 1919г.
5. Газэта "Звезда", №53, сакавік 1924г.

# Забываць нельга.

*У раённую кнігу "Памяць"*






**КРАЯЗНАЎСТВА**/ Андрэй АЛЯХНОВІЧ

*Гэты артыкул ужо больш года ляжыць у рэдакцыі раённай газэты: "Крупскі веснік". І, відаць па ўсяму ня будзе надрукаваны. Часы зьмяніліся... Але ж гісторыя – гэта перш за ўсё праўда! Таму мы зьмяшчаем гэты матэрыял так, як ён быў падрыхтаваны для публікацыі у газэту.*



*АЛЯХНОВІЧ АНДРЭЙ ПЯТРОВІЧ, (псэўданімы: Нікіпар Баркоўскі, Марыя Бруніч, Алесь Ліцьвін, Малады Літвін, Стары Ліцьвін, крыпт. А.А.) нар. 08.04.1963 у м.Халапенічы Крупскага раёну. Марак, краязнавец, педагог, куратар Харугвы Скаўтаў Малога Палесься. Галоўны рэдактар альманаху.*

Напрыканцы студзеня 2002г. ў Літаратурным музеі імя Янкі Купалы ў Менску адбылася прэзентацыя першай кнігі серыі "Беларускі індэкс рэпрэсаваных". Аўтарам з'яўляецца гісторык Ігар Кузняцоў, вядомы нам па кнізе "Канвеер смерці. Дакументы. Сведчанні. Успаміны." ( чытай раёнку ад 14 сакавіка 1998 г. стар.2.). Новая праца навукоўца называецца "Індэкс уражэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920 – 1950 гады ў Заходняй Сібіры" (фота 1). У ёй утрымліваюцца пайменны спіс і кароткія звесткі пра 1 261 ураджэнца Беларусі , знішчанага сталінскім рэжымам на тэрыторыі цяперашніх Новасібірскай і Томскай абласцей Расійскай Федэрацыі, а таксама вытрымкі з дакументаў тых гадоў.

Прачытаўшы кнігу, яшчэ раз пераконваешся, што перыяд ленінска-сталінскіх рэпрэсій ў СССР патрабуе не толькі глыбокага вывучэння, але і шырокай грамадцкай дыскусіі аб камуністычным генацыдзе ў Беларусі. Не зрабіўшы гэтага мы асуджаны зноў і зноў наступаць на адныя ж і тыя граблі, - гісторыя паўтараецца. …

Вядома ж, нас зацікавіў раздзел кнігі, дзе прыведзены спіс рэпрэсаваных. Там мы адшукалі прозвішчы нашых землякоў. Нарадзіліся яны, задоўга да 1917 года, калі яшчэ не было Крупскага раёну, а нашы землі дзялілі між сабой Барысаўскі павет Мінскай губерніі і Сенненскі павет Магілёўскай губерніі. Нашы ж Крупкі ў той час лічыліся мястэчкам Бобрскай воласці Сенненскага павету.

Мы падаем тут не толькі прозвішчы нашых землякоў, але і жыхароў суседніх рэгіёнаў, якія маюць прозвішчы, што вельмі часта сустракаюцца на Крупшчыне.

*Старонка 38.* **Амельянчык Марк Міхайлавіч,** 1884г., нарадзіўся ў в.Баркі Мінскай губ., пражываў у г.Томску, загадчык кніжнай крамы. Арыштаваны ў 1937г. Растраляны.

*Стар.46.* **Белікаў Аўрам Ігнацьевіч,** 1897г., нарадзіўся ў в.Гапонаўка (Гапонічы ці Гапоны Сенненскага павету) Магілёўскай губ., пражываў у пасёлку Слабадзінка Зыранскага раёну ЗСК, член калгасу "Пуць Сталіна". Арыштаваны ў 1937г. Асуджаны на 10 год пазбаўлення волі і 5 год паражэння ў правох.

*Стар.47.* **Белякоў Павал Ігнацьевіч,** 1894г., нарадзіўся ў в.Гапонаўка (Гапонічы ці Гапоны Сенненскага павету) Магілёўскай губ., пражываў у в.Паўлаўка Зыранскага раёна ЗСК, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937г. Растраляны.

*Стар.61.* **Галуза Сямён Андрэевіч,** 1877г., нарадзіўся ў в.Арэшкавічы Барысаўскага павету ( Мінскай губ.), пражываў у в.Нікольская Крывашэінскага раёну, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938г. Растраляны.

*Стар.72.* **Дэнгер Генрых Аўгуставіч,** 1889г., нарадзіўся ў в.Чарняўка Магілёўскай губ, пражываў у г.Томску, начальнік сэктара збыту трэста "Томлес". Арыштаваны ў 1937г. Асуджаны на 10 год пазбаўлення волі і 5 год паражэння ў правох.

*Стар.93.* **Караньkоў Павал Іванавіч,** 1907г., нарадзіўся ў в.Высокае Магілёўскай губ., пражываў у пасёлку Барзуноўка Кажэўнікаўскага раёну, не працаваў. Арыштаваны ў 1937г. Растраляны.

*Стар.93.* **Караньkоў Фёдар Іванавіч,** 1899г., нарадзіўся ў в.Высокае Магілёўскай губ., пражываў у в.Рамашоўка Кажэўнікаўскага раёну, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938г. Растраляны.

*Стар.100.* **Кулля Вольга Фёдараўна,** 1902г., нарадзілася ў в.Шчаўры Магілёўскай губ., пражывала ў в.Лебацер Чаінскага раёну, не працавала. Асуджаная на 10 год пазбаўлення волі і 5 год паражэння ў правох.

*Стар.117.* **Міхневіч Кірыл Ігнацьевіч,** 1883г., нарадзіўся ў в.Слабада Барысаўскага павету Мінскай губ., пражываў у пасёлку Новы Труд Цегульдзецкага раёну, член калгаса "18-й Кастрычнік". Арыштаваны ў 1938г. Растраляны.

*Стар.148.* **Старадубцаў Іван Васільевіч,** 1882г., нарадзіўся ў в.Казубец Барысаўскага павету Мінскай губ., пражываў у в.Ваўкадаеўка Кажэўнікаўскага раёну, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938г. Растраляны.

*Стар.152.* **Тайнікаў Дарафей Гаўрылавіч,** 1869г., нарадзіўся ў в.Калодніца Магілёўскай губ., пражываў у пас. Камень Каўпашэўскага р-ну, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938г. Асуджаны на 5 год пазбаўлення волі і 3 года паражэння ў правох.

*Стар.166.* **Юнко Трафім Мацьвеевіч,** 1879г., нар. у в.Стары Сакол Барысаўскага пав., пражываў у пас. Каменны Каргасокскага р-ну, член нестатутнай сельгасарцелі "Гігант". Арыштаваны ў 1937г. Растраляны.

# Гульні
## *майго дзяцінства*












**КРАЯЗНАЎСТВА** / Пятро АЛЯХНОВІЧ



*АЛЯХНОВІЧ ПЯТРО НІКІПАРАВІЧ, (10.8.1930 м.Халапенічы Крупскага р-ну – 11.11.2011 м.Крупкі). Краязнавец, педагог, выдатны трэнер, дырэктар Крупскай дзіцяча-юнацкай спартовай школы ў 1966-1984гг. апантаны садавод, пчаляр, кінаапературатар, музыка.*

### I. "ХОВАНКІ"

Па жэрабю выбіралі "вядучага" і "капітана" (колькасць ўдзельнікаў гульні была неабмежаваная). Вядучага ставілі ў кут і завязвалі вочы. Гульня праводзілася на вуліцы, у хмызняку, зімою магла праводзіцца і ў памяшканні.

Усе хто гуляў, разбягаліся ў розныя бакі хавацца. "Капітан" хаваўся апошнім і голасна крычаў "Ужо", г. зн. "вядучаму" можна было ісці шукаць. Той, каго знаходзілі першым, станавіўся "вядучым". Так павінны былі быць знойдзены ўсе ўдзельнікі гульні. Па ўмовах гульні ніхто не мог выкрыкваць і падказваць месца сховішча астатніх. Хто парушаў гэта правіла, станавіўся "вядучым". Бывала і так, што гульня доўжылася шмат часу. Калі былі знойдзены ўсе, то "капітан" збіраў іх у гурт, новаму "вядучаму" завязвалі вочы і гульня працягвалася ў некалькі этапаў. Перамагаў вядучы, які хутчэй за іншых знаходзіў усіх, хто ўдзельнічаў у гульні.

### II. "ЯМАЧКІ"

На роўнай пляцоўцы з мяккім грунтам (глебай), у адзін радок (лінію) рабілася столькі ямачак, колькі было ўдзельнікаў гульні – мінус адна ямачка. Кожны, хто гуляў, выкалупваў невялікай вострай палачкай сабе ямачку, потым пяткай босай нагі кружыў у ямачцы пакуль яна не станавілася гладкай. Па жэрабю выбіраўся "вядучы". Калі ўсё было зроблена, кожны ўдзельнік гульні станавіўся тварам да сваёй ямачкі на адлегласці аднаго кроку ад усіх ямачак. Па ўмовах гульні палова ўдзельнікаў павінна была размяшчацца з аднаго боку, палова – з другога боку ад лініі ямачак. Па камандзе "Пачынай" вядучы павінен быў пакаціць невялічкі гумавы, лаптавы мячык уздоўж усіх ямачак па самым краі. Мяч павінен быў уваліцца ў чыю-небудзь ямачку. Як толькі гэта здаралася той, у чыю ямачку трапіў мяч, павінен быў хутка схапіць яго з ямачкі і кінуць у любога ўдзельніка гульні, каб яго "асаліць" - папасці. Усе ж у гэты момант павінны былі разбягацца ў розныя бакі, у тым ліку і "вядучы".

***Схема размяшчэння ямачак, колькасць якіх залежала ад колькасці ўдзельнікаў***



*Гульня "ЯМАЧКІ"*

Той, каго "асалілі", станавіўся "вядучым". Калі ж удзельнік з мячом прамахнуўся, то ён зноў станавіўся "вядучым".

**Другі варыянт.** Па ўмовах гульні выбіралася два "вядучых", якія станавіліся тварам насупраць адзін аднаго. Гэта рабілася дзеля таго, каб каціць мяч паўз краю ямачак хутчэй, і некалькі разоў, каб збіць з панталыку гуляючых і прытупіць іх руплівасць. Гэты варыянт прыдаваў гульні больш азарту.

Удзельнік гульні, якога "асалілі", станавіўся "вядучым", а "вядучы" займаў яго ямачку.

**Гульня без пераможцы.** Прыярытэтам валодаў той, хто зусім не быў "асаленым" і "вядучым". Звычайна гэта вяртлявы хлопчык альбо дзяўчынка, якія ў канцы гульні маглі сказаць: "А ў мяне ні разу не папалі!"

## III "ЦУРКА"

На роўнай пляцоўцы альбо на вясковай вуліцы маляваўся квадрат, прыкладна 80х80см. "Цурка" – гэта чатырохгранная палачка, выстругана з цвердага дрэва, даўжынёй 12-18см і шырынёй кожнай грані 2-3см з завостранымі краямі, і на кожнай грані нажом вырэзваліся рымскія лічбы I, II, III, IV. Невялічкая дошчачка даўжынёй каля 60-70см называлася "лоптачка", з аднаго канца якой рабілася ручка, што абстругвалася нажом, каб спрытней яе трымаць. "Лоптачкай" наносіліся ўдары па "цурцы".

**Умовы гульні.** Гулялі ўдваіх. Па жэрабю адзін з удзельнікаў пачынаў гульню. Браў у руку "лоптачку", клаў "цурку" ў сярэдзіну квадрата па дыяганалі, біў "лоптачкай" па застругамым канцы "цуркі" так, каб яна падскочыла ўгару, і ў паветры спяшаўся выканаць па ёй яшчэ адзін удар. "Цурка" адлятала ў "поле" на адпаведную далечыню ад квадрата і падала на зямлю. Удзельнік гульні падыходзіў, глядзеў на лічбу на паверхні "цуркі" і наносіў яшчэ столькі ўдараў, колькі было напісана на яе баку (напрыклад: III), адбіваючы як мага далей ад квадрата. Пасля гэтага другі павінен быў узяць "цурку" ў адну руку і кінуць з усяго размаху ў бок квадрата, стараючыся папасці ў яго. Калі гэта здаралася, то "лоптачка" пераходзіла да яго і ўдзельнікі гульні мяняліся ролямі. Калі "цурка" ў квадрат не трапляла, то патрэбна было наносіць удары па "цурцы", зноў адбіваючы як мага далей ад квадрата столькі разоў, колькі лічба паказвала на паверхні "цуркі" пасля яе кідання ў квадрат.

Так гульня працягвалася да таго часу, пакуль не вызначаўся спрытнейшы, які валодаў "цуркай" больш часу.

**Другі варыянт.** У некаторых выпадках, пры дамоўленасці абодвух удзельнікаў, вакол

квадрата на адлегласці 3-4 крокі праводзілася лінія і рабіўся круг дыяметрам 3-4 метры. У такі квадрат лягчэй было закінуць “цурку”.

### IV. ЛАПТА (РУСКАЯ).

Гульня праводзілася на роўнай пляцоўцы памерамі 10-15м х 30-50м, каб паблізу не было высокіх дрэў, плотаў, канаў і вялікіх камянёў, наогул ніякіх перашкод.

**Умовы гульні.** Гуляюць дзве каманды, кожная можа мець ад 3 да 10 і больш удзельнікаў. Кожная каманда выбірае капітана. Па жэрабю адна каманда атрымлівала права “нападаць” і пачынала гульню, другая “абараняцца”, – ішла ў “поле”. Капітан каманды “абаронцаў” падкідваў угару мяч, а тыя, хто “нападаў” па чарзе выконвалі ўдары па мячы, адбіваючы яго ў “поле”. Апошнія шыхталіся на лініі нападзення і размяшчаліся ў адну калону тварам да таго, хто падаваў мяч.

Капітан станавіўся ў канцы калоны. Гэта звычайна самы лепшы ў камандзе ігрок. Першы з ігракоў бярэ ў руку “лоптачку”, становіцца тварам да падаючага мяч. Падаючы падкідвае ўгару вышэй галавы мяч. Нападаючы павінен зрабіць у гэты момант замах і выканаць удар па мячы. Калі ўдар па мячы адбыўся і мяч паляцеў у “поле”, нападаючы павінен кінуць на зямлю “лоптачку” і як мага хутчэй пабегчы да лініі “выратавання” ў поле, дакрануцца або наступіць на лінію і прыбегчы назад на лінію кону. Удзельнікі гульні, якія абараняюцца, ловяць у полі мяч і стараюцца ім “асаліць” нападаючага, а калі гэта ім удасца, то нападаючая каманда прайграла і павінна ісці ў “поле”, а “абаронцы” павінны нападаць. Калі ж гэты нападаючы “выратаваўся”, г.зн. прыбег на лінію кону і яго не “асалілі”, то ён зноў мае права выконваць удар па мячы пасля таго, як гэта зробяць усе ўдзельнікі з яго каманды.



Ігракі нападаючай каманды працягваюць выконваць па чарзе ўдары па мячы і “выратоўваюцца”.

Калі ж выконваючы ўдар прамахнуўся, то ён павінен перадаць “лоптачку” наступнаму ўдзельніку гульні, а сам стаць за апошнім у калоне і чакаць, пакуль яго хто-небудзь не “выручыць”. Калі ж ўсе ўдзельнікі нападаючай каманды прамахнуцца і не “выручацца”, то ігрок, які прамахнуўся апошнім, і той, хто падае мяч ідуць на лінію “выратавання” “на гранаткі”. Яны становяцца тварам адзін да аднаго на адлегласці тры крокі, ігрок з мячом пачынае падкідваць угару вышэй галавы мяч і лавіць яго. Нападаючы павінен як мага хутчэй ірвануць і пабегчы да кону, як толькі палічыць




*Гульня ЛАПТА (РУСКАЯ).*

гэта мэтазгодным. Ігрок з мячом павінен дагнаць яго і "асаліць" мячом, а сам хутчэй дабегчы да лініі кону. Калі гэта ўдасца, то нападаючая каманда прайграла і павінна ісці ў "поле", а каманда, якая абаранялася, павінна ісці нападаць. Калі ж ігрок з мячом не "асаліў" нападаючага, то гульня працягваецца і ўсе ўдзельнікі нападаючай каманды маюць права выконваць удары па мячы ў ранейшым парадку. Нападаючая каманда можа прайграць "падачу" і ў тым выпадку, калі ігрок-абаронца ў "полі" зловіць мяч ("свечку") у паветры, калі гэты мяч не дакрануўся да паверхні зямлі. Выйграе тая каманда, якая больш нападала.

## V. ЛАПТА "ФРАНЦУЗСКАЯ", ЦІ, ЯК МЫ ЯЕ НАЗЫВАЛІ, "ХАЛАПЕНІЦКАЯ".

**Умовы гульні.** Колькасць удзельнікаў не абмяжоўвалася, але не менш трох. Інвентар: гумавы малы мяч і "лоптачка". Пляцоўка памерамі як і ў "рускай" лапце. На пляцоўцы на адлегласці 8-10м ад лініі кону праводзіцца паралельна ей лінія лоўлі мяча.

Па жэрабю вызначаюцца ігрок, які першым будзе выконваць удар па мячы, і ігрок, які будзе падкідваць яму мяч, астатнія знаходзяцца ў "полі" і размяшчаюцца строга па парадку , пачынаючы ад лініі лоўлі мяча.

Ігрок, які выконвае ўдар па мячы, павінен як мага далей адбіць у "поле" мяч. Пасля таго, як мяч упадзе на зямлю, ігрок у "полі" павінен узяць яго ў руку і з таго месца, дзе ён падняў мяч, кінуць убок кону, а ігрок, які падкідваў мяч, павінен яго злавіць, не выбягаючы за лінію лоўлі ўбок "поля". Калі гэта адбудзецца, то ігрок, які злавіў мяч, будзе наступным выконваць удар па мячы, ігрок, які кідаў яму мяч, будзе падкідваць мяч, а той, хто выконваў удар, ідзе ў "поле" на месца таго, хто кідаў з "поля" мяч. Ігрок, які выконваў удар па мячы, прайграе і ў тым выпадку, калі ён, выконваючы ўдар, зрабіў "свечку", г. зн. мяч паляцеў далёка ўгору, а любы ігрок у "полі" злавіў мяч у паветры. Тады гэты ігрок ідзе да кону выконваць удар па мячы, а яму падкідвае мяч той самы ігрок. Удзельнік гульні, які выконваў удар, ідзе ў "поле" на месца таго, хто злавіў мяч.

Ігрок, які выконвае ўдар па мячы, працягвае гэта рабіць да таго часу, пакуль ігрок, які падкідвае мяч, не зловіць яго ад кідка з "поля" або не заробіць пры ўдары "свячу", і яе не зловяць у "полі". Калі ігрок, які выконвае ўдар па мячы, прамахнецца, то ўдар паўтараецца. Пераможцам становіцца той, у каго больш udараў па мячы.

## VI. "КРОПКІ".

У гэту гульню гулялі ў асноўным дзяўчаты. На роўнай пляцоўцы абазначаўся квадрат 10х 10м. Па вуглах ставіліся кропкі. Дзяліліся на дзве каманды, якія павінны былі складацца з 2-4 чалавек. Па жэрабю адна каманда станавілася на "кропкі", другая, – адвольна размяшчалася ўнутры квадрата.

Ігракі з каманды, што стаялі на "кропках", перакідвалі паміж сабой малы лаптовы мяч, ігракі ўнутры квадрата перабягалі з месца на месца далей ад іграка, які валодаў мячом. Скарыстаўшы момант, ігракі на "кропках" імкнуліся знянацку "асаліць" мячом супернікаў у квадраце. Калі гэта ўдавалася, то ігрок, якога "асалілі", выходзіў з гульні і павінен быў пакінуць квадрат. Калі былі "выбіты" ўсе ігракі з квадрата, то каманды мяняліся ролямі.

Выйгравала каманда, якая хутчэй выбівала з квадрата сваіх супернікаў.

## VII. БЕГ "НАВЫПЕРАДКІ".

На роўнай пляцоўцы або на вуліцы ўсе ігракі станавіліся на адной лініі тварам у адным

напрамку. Па камандзе "Марш" яны павінны былі на вялікай хуткасці бегчы да якога-небудзь прадмета: дрэва, слупа, плота, куста. Пераможцам быў той, хто першым дабег і дакрануўся рукой ла гэтага прадмета.

### VIII. "НА БАРЦА".

Барацьба праводзілася на якім-небудзь "мяккім" месцы: на густой траве, на палянцы, пакрытай мохам, на саломе, на сене. Два хлопцы браліся абедзвюма рукамі за тулавы адзін другога "крыж на крыж". Патрэбна было любым прыёмам зваліць суперніка на зямлю. Пераможцам аказваўся той, хто быў наверсе.

### IX. ПУСКАННЕ "ЗМЕЯ".

"Змея" рабілі так: прамавугольнік памерамі прыблізна 40х60см рабілі з лучыны і звязвалі ніткамі. Потым па верху з двух бакоў прыклейвалі газеты ці шпалеры. Рабілі са стужак "хвост" для раўнавагі, з процілеглага боку прычэплівалі тоўстую моцную нітку або аборанку даўжыней да 50 метраў.
Запускалі "змея" такім чынам: адзін хлопец браўся за свабодны канец ніткі, другі, – браў у рукі "змея". На роўнай пляцоўцы яны разбягаліся супраць ветру. Узлёт угару "змея" залежаў ад хуткасці разбегу і ад правільнай яго канструкцыі.

### X. СКАЧКІ НА КОНЯХ.

Раней амаль у кожнага селяніна быў свой конь. Хлапчукі-падлеткі і дзяўчынкі ездзілі летам на начлег пасвіць коней. Калі ехалі вечарам да месца начлега, часта арганізоўвалі скачкі на конях на вялікай хуткасці, - хто першы прыедзе да месца начлега. У добрае надвор'е арганізоўвалі на конях пераадоленне канавы, рова, кар'ера. Спаборнічалі, у каго лепшы конь і хто лепшы гаспадар каня.

### XI. ПАДНЯЦЦЕ ЦЯЖКАСЦЕЙ.

Пасля вайны часта рабіліся самаробныя штангі. Бралі звычайны лом і з двух канцоў чаплялі жалезныя колы з сельгаспадарчых машын рознай вагі і памераў. Звычайна вечарамі ўлетку збіраліся хлопцы-падлеткі і падымалі гэгу "штангу" да сёмага поту. Пра таямніцы сапраўднай трэніроўкі і тэхнікі практыкаванняў пад'ёму штангі ніхто з нас тады не ведаў. Тэхніка пад'ёму была зусім простай: ухапіўшы лом штангі двума рукамі, трэба было падняць яго на грудзі, а потым выпіхнуць яе ўгару над галавой любым шляхам. Пераможцам, звычайна, быў той, хто падняў найбольшую вагу штангі (кожнае кола і лом былі ўзважаны на вагах у калгасе).

### XII. СТРАЛЬБА З ЛУКА.

Лук рабілі з вельмі пругкай сцяблінкі ялінца, не вельмі тоўстай. Сагіналі ў дугу і нацягвалі тонкую аборанку, зробленую з пянькі. Стрэлы рабілі з роўных аднагадовых парасткаў дрэва (клёна, ясеня, дуба, вербалозы).
Спаборнічалі ў меткасці стральбы з лука. "Мішэнню"былі дрэвы, бляшанкі ад кансерваў, або мішэнь рабілася з газеты.

### XIII. ПЕРААДОЛЕННЕ "ПЕРАШКОД".

Для гульні патрабавалася мець кола, паверхня якога была гладкай і любых памераў. Часта гэта кола было ад якой-небудзь сельгаспадарчай машыны. Таксама кавалак тоўстага дроту, загнутага адпаведным чынам.
Трымаючы дрот за ручку, кола кацілі па пляцоўцы ці па дарозе. Гулялі летам пасля дажджу, калі на вуліцы з'яўляліся лужы, канаўкі. Спаборніцтвы заключался ў хуткім разгоне кола і пераадоленні канаў, лужын. Пры адсутнасці такой магчымасці рабіліся

штучныя перашкоды: бугры з зямлі, кучы травы ці саломы, лажылася ўпоперак бярвенне. Лепшым лічыўся той, хто з першай спробы пераадольваў перашкоду і яго кола не падала на зямлю пасля пераадолення.

### XIV. "ПІКАР".

На роўнай пляцоўцы рабіўся квадрат 100х100см. Ён абводзіўся з вонкавага боку лініяй, якая ўтварала круг на адлегласці 8-10м ад бакоў квадрату.

Кожны ігрок меў палку даўжынёй каля метра. У сярэдзіну круга ставіўся "пікар", – кавалак круглай аглоблі даўжынёй 10-15см і таўшчынёй 4-5см. Выбіраўся вядучы, які таксама меў палку. Па сігнале ўсе ігракі набліжаліся да "пікара", а вядучы павінен быў абараняць "пікар". Калі ўдавалася паваліць "пікар" у квадраце, то ўсе ўдзельнікі гульні кідалі свае палкі і ўцякалі за лінію круга. Вядучы павінен быў дагнаць каго-небудзь і дакрануцца сваёй палкай да яго. Калі гэта ўдавалася, то апошні станавіўся вядучым. Гульня паўтаралася. Пераможца гульні не вызначаўся.

### XV. "РУХІ"(ГАРАДКІ).

Названая гульня, на мой погляд, з'явілася на Беларусі вельмі даўно, бо яшчэ мой бацька і дзед гулялі ў яе ў дзяцінстве. Правілы былі такія:

На роўнай пляцоўцы маляваўся квадрат 100х100см. З аднаго боку адмяралася 10 крокаў і праводзілася лінія, ад якой іграі павінны былі выбіваць "рухі" з квадрата палкай даўжынёй каля метра. Самі "рухі" рабіліся з круглага палена таўшчынйй 4-5см і даўжынёй да 20см. Я памятаю толькі 5 фігур, якія мы забівалі: "Студня", "Гармата", "Поп", "Салдаты", "Пісьмо" ці яшчэ яго называлі "Канверт".

**Умовы гульні былі такія:** гулялі два ігракі, у кожнага было па дзве палкі (біты). "Рухі" ставіліся ў сярэдзіне квадрата. Па жэрабю адзін з ігракоў пачынаў першым. Ён павінен

*Гульня "РУХІ" (ГАРАДКІ).*



быў поўнасцю выбіць усе “рухі” першай фігуры, і лічылася, колькі ён затраціць на гэту фігуру палак (біт). Фігура лічылася выбітай, калі ўсе “рухі” будуць выбітымі за лініі квадрата.

Потым гэту фігуру пачынаў выбіваць другі ігрок, і зноў лічылася, колькі ён затраціць палак (біт) на гэтую фігуру.

Пасля ставілася наступная фігура, і так паўтаралася да апошняй выбітай фігуры. Пераможца вызначаўся па найменшай колькасці затрачаных палак (біт) на выбіванне ўсіх 5-ці фігур.

## XVI. “КАЛАЎРОТ”.

Дзейнічае і зараз. Толькі дэталі яго сталі сучаснымі: кола металічнае, з прымацаванымі металічнымі поручнямі . Санкі таксама металічныя.

Умовы гэтай забавы. На роўнай лядовай пляцоўцы пасярэдзіне прабіваўся лёд і ставіўся кол, альбо лом. Ён павінен умёрзнуць. Потым на кол надзявалася кола ад фурманкі, да кола прымацоўвалася жардзіна даўжынёй 5-7 метраў. На супрацьлеглым канцы жардзіны прымацоўваліся невялікія санкі.

На санкі садзіўся адзін з удзельнікаў гульні, які даваў “пакатацца” . Некалькі дужых хлопцаў устаўлялі калы ў спіцы кола і пачыналі круціць яго супраць руху сонца. Санкі з ездаком развівалі вялікую хуткасць, і часцей за ўсё, “яздок” не мог утрымацца на санках, зрываўся і на жываце сунуўся па паверхні лёду з хуткасцю тарпеды. Асабліва цікава было назіраць гэта відовішча вясною, калі на паверхні лёду ўжо з’яўлялася вада. “Яздок” мокры, як жаба, бег хутчэй дадому. Ніхто пасля гэтага не хацеў садзіцца на санкі, каб “пакатацца”. Але сталыя хлопцы ўгаворвалі другога “ездака”, і потым зноў усё паўтаралася. Назіраць гэта было вельмі смешна і весела.

## XVII. “АБАРОНА” І “АБЛОГА” КРЭПАСЦІ.

Гэта гульня праводзілася ў час адлігі. Рабілася снежная “крэпасць”, дакладней, “ляпілася” са снегу.

Удзельнікі гульні разбіваліся на дзве каманды: абаронцы і тыя, хто нападаў. “Зброяй” абодвух каманд былі снежкі (камякі снегу), іншая “зброя” не прымянялася.

Абаронцы ўладкоўваліся ў крэпасці, нападаючыя павінны былі “ўзяць” яе, выбіваючы снежкамі “абаронцаў” Крэпасць лічылася “захопленай”, калі нападаючыя ўрываліся ў “крэпасць”.

## XVIII. СКАЧКІ НА ЛЫЖАХ З АБРЫВУ (ТРАМПЛІНА).

На сярэдзіне крутой гары насыпаўся і ўтрамбоўваўся невялікі груд снегу (“абрыў”). З канца вяршыні гары ён быў палогі, а з боку падножжа, – стромкі (вертыкальны). Праз “абрыў” пракладвалася лыжня. Пры спуску на лыжах з гары праз “абрыў” атрымліваўся скачок. Перамагаў той, хто зрабіў даўжэйшы скачок ад стромкага краю “абрыву”.

## XIX. КАТАННЕ З ГАРЫ НА “ЛЯДЗЯНКАХ” – “ЛЯДОЎНЯХ”.

Зімою, каля студняў, дзе бралі ваду, звычайна намярзаў тоўсты слой лёду. Жыхары гэтай вуліцы збіраліся ў выхадныя дні з тапарамі і абсякалі студню ад леду, адкідвалі лёдавае смецце далей і рабілі падыход. Тады дзеці прасілі сваіх бацькоў, альбо сваякоў, каб яны высяклі з гэтага лёду для іх “лядзянкі”, г.зн. патрэбна было з тоўстага лёду высечы кавалак памерамі: дыяметрам каля 50см і таўшчынёй 30см, акруглай формы. Потым з аднаго боку рабілася дзірачка, каб зачапіць аборанку (вя-

ровачку) і цягаць гэту "лядоўку". Малых дзяцей вазілі на вуліцы падлеткі, цягнучы за аборанку. Каталіся і коўзаліся на "лядоўнях" з крутой утрамбаванай гары хлопчыкі і дзяўчаткі. Хуткасць "лядоўні" развівалі неймаверную.

## XX. КАТАННЕ НА САМАРОБНЫХ КАНЬКАХ.

Большасць дзяцей і падлеткаў у даваенныя гады "коўзаліся" зімою на самаробных каньках. Бралі кавалак дрэва цвёрдай народы даўжынёю 30-40см, абчэсвалі сякерай з трох бакоў, кавалак рабіўся трехгранным, потым гэтыя грані-бакі абчэсвалі гэблікам. Спераду рабіўся зрэз накасую, каб канёк не зарываўся ў снег ці лёд. На ніжняй грані, дзе размяшчалася лязо, рабіліся дзве невялічкія выемкі-выразы, каб працягнуць аборанку-крапільніцу. Кавалак дроту таўшчынёй 3-5мм згінаўся і прымацоўваўся да канька на ніжняй грані, утвараючы лязо канька. Там, дзе размяшчалася ступня нагі, прымацоўвалася фанерная дошчачка адпаведнай формы.

Нага ставілася на гэту дошчачку, аборанка ў выглядзе двух петляў прыкладвалася да нагі і закручвалася невялічкай палачкай з надворнага боку. Каталіся на такіх каньках па ўтрамбаванай дарозе, на сажалках, на рэчках. Спаборнічалі навыперадкі.



*Агульны выгляд*

# Вёска Дакудава

**ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ВЫДАНЬНІ** / Васіль САМЦЭВІЧ

*Аднымі з першых краязнаўцаў на Крупшчыне былі браты Самцэвічы, - Пётра й Васіль. Зараз рыхтуецца асобны артыкул аб іх жыцьцёвым і творчым лёсе. А зараз мы прапануем адну з публікацый Васіля Самцэвіча, што пабачыла сьвет у часопісе "Наш край", 1927г., №8-9, с. 38-45., на мове арыгіналу.*



*САМЦЭВІЧ ВАСІЛЬ АНДРЭЕВІЧ, (7.3.1889, в. Дакудава Крупскага р-ну – 11.10.1973). Вядомы беларускі савецкі краязнавец, мовазнаўца і педагог. У 1929-32гг. навуковы сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце АН БССР. Кіраваў Барысаўскай краязнаўчай філіяй. Супрацоўнічаў у часопісе "Наш край". Агульны сьпіс публікацыяў Самцэвіча налічвае каля 300 назваў.*

Васіль САМЦЭВІЧ.

**ВЁСКА ДАКУДАВА** (Крупск, р., Аршанскай акр.).
*(Культурна-гістарычны нарыс).*

I. Кароткая гісторыя і месцапалажэньне вёскі.

Аб гісторыі вёскі Дакудава мала што вядома.

У пачатку XVIII ст. в. Дакудава ўваходзіла ў склад Барысаўскага староства і перажывала ўсе асноўныя моманты экономічна-гістарычных падзей, якія мелі месца на тэрыторыі Барысаўшчыны: барацьбу Польшчы і царскай Расіі, прыгоннае права, барацьбу праваслаўя з каталіцтвам, нямецкую і польскую окупацыі.

Да часоў утварэньня Савецкай Беларусі в. Дакудава ўваходзіла ў склад Менскай губ., Барысаўскага павету, Лошніцкай воласьці. Пасьля раёнаваньня 1923 г. вёска Дакудава ўваходзіла ў склад Крупскага раёну Барысаўскай акругі. Цяпер уваходзіць у Аршанск. акругу.

Вёска знаходзіцца ад Менску на адлегласьці 105 вёр. ад Барысава ў адлегласьці 27 вёр. З гэтымі гарадамі яна зьвязана гасьцінцам і чыгункай. Да бліжэйшай чыгуначнай станцыі 7 вёр.; раённы асяродак (м. Крупкі) знаходзіцца ў адлегласьці 17 вёр. У Крупках адбываюцца кірмашы, ёсьць агрономічны і вэтэрынарны пункты, пошта, больніца. Аднак-жа трэба сказаць, што сяляне в. Дакудава з часу раёнаваньня ніяк не прызвычаіліся наведваць м. Крупкі; іх больш прыцягвае г. Барысаў, дзе адбываюцца больш багатыя кірмашы, ёсьць больш багатыя коопэратыўныя крамы з вялікім выбарам розных тавараў, сельска-




*СХЭМАТЫЧНЫ ПЛЯН ВЕСКІ ДАКУДАВА*

гаспадарчыя склады; туды-ж аддаюць некаторыя сяляне і сваіх дзяцей вучыцца ў гарадзкія сямілеткі і тэхнікум. Слаба зьвязана вёска з Крупскай поштай і больніцай. У гэтай справе вёска мае большую сувязь з с. Лошніцай, быўшым валасным асяродкам (10 вёр.). Вёска зьвязана з Лошніцкай поштай лістаносцам, які 2 разы ў тыдзень прыносіць і адносіць паштовыя корэспондэнцыі.

У 21/2 вяр. ад вёскі праходзіць М.-Бел.-Балт. чыгунка. Бліжэйшая чыгуначная і паштовыя станцыя Прыяміна знаходзіцца ў 7 вёр.

На працягу каля 2-х вёр. з паўднёвага ўсходу на паўночны захад уздоўж балота з паўночнага боку расьцягнулася вёска. Балота і далей агібае вёску з усходн. і заходняга канцоў вёскі. На паўднёвым баку вёскі раскінуліся вясковыя палеткі. З трох бакоў вёску абкружаюць лясы, дзе яшчэ нядаўна было шмат дзікіх зьвяроў: ваўкі, лісіцы, мядзьведзі і інш. Зараз лясы ў значнай меры ўжо зьнішчаны.

Шляхі зносін вёскі з суседнімі вёскамі надзвычайна дрэнныя. Мясцамі праз самую вёску ў дажджлівую восень і раньнюю вясну нельга ня толькі праехаць, але нават і прайсьці. Вясной на вуліцы гразнуць каровы. Дарогі ў трох кірунках (на паўн., паўн. усх. і паўн. зах.) ідуць праз балоты, найлепшыя шляхі зносін магчымы толькі зімой, калі маразы моцна закуюць балоты. Летам прыходзіцца рабіць вялікія аб'езды ў некалькі вёрст, каб выбрацца на гасьцінец ці на больш буйную дарогу, асабліва ў паўн. і паўн.-зах. кірунку. Дарогі на Вялікія Жаберычы, Ратуцічы, Начу на балотах маюць грэблі, якія пралажаны невядома калі. У час вайны 1914-17 г. г. гэтыя грэблі папраўляліся, а цяпер вельмі сапсуліся. Папраўкі дарогі і грэбляў ня робіцца. Толькі ў паўднёвым кірунку магчым праезд ва ўсе пары году бяз значных перашкод. Наогул-жа дарогі знаходзяцца ў вельмі дрэнным становішчы.

## II. НАСЕЛЬНІЦТВА ВЁСКІ.

Вёска да Кастрычнікавай Рэволюцыі падзялялася на дзьве часткі: „мужыкоў» і „шляхту». „Шляхта» была экономічна больш моцнай групай, але і кожная з гэтых груп была неаднолькава па сваім соцыяльным складзе: некаторыя „мужыкі» былі багацей за сярэдняга „шляхціца» і некаторая частка „шляхты» ня мела хлеба на цэлы год. У часы паншчыны „мужыкі» належалі спачатку да Радзівіла, а потым (з 40-х гадоў XIX ст.) да б. в. кн. Мікалая Мікалаевіча. Адбываць паншчыну хадзілі вярсты за 41/2 у фольв. Валянцінава (цяпер „Галубы»). Пры вызваленьні ад прыгону сяляне в. Дакудава атрымалі зямлю ў розных кавалках.

„Шляхта» – ранейшыя арандатары зямлі ў таго-ж Мікалая Мікалаевіча. Мясцовыя старажылы апавядаюць: пры царыцы Ганьне (якой – ня ведаюць) быў нейкі прыдворны дваранін Ходасаў, які з цягам часу абяднеў і распрадаў сваю маемасьць. Патомкі яго, ня маючы сродкаў на пражыцьцё, сталі арандаваць у памешчыкаў фольваркі і сваімі ўласнымі рукамі апрацоўвалі зямлю. Адзін з іх заарандаваў зямлю ў Радзівіла па суседзтву з вёскай Дакудава. Вёска ў той час знаходзілася ў іншым месцы (цяпер уроч. „Старае сяло»). Патомства разрасталася, зямля драбілася. З цягам часу патомкі Ходаса згубілі сваё дваранства і сталі называцца „вольнымі хлебаробамі». Іх паселішча звалася „хутар Дакудава». Замест грашовай платы за арэнду яны хадзілі адбываць некалькі дзён у месяц паншчыну ў той-жа самы фольв. Валянцінава. Але неяк, прыблізна каля 1855 г. яны сталі дамагацца, каб зьвярнуць сабе зноў дваранства і ў 1861-2 г. ім удалася гэтага дабіцца. Але з боку экономічнага становішча жыцьцё іх не зьмянілася: яны засталіся арандатарамі ў Мік. Мік. аж да самай лютаўскай рэволюцыі 1917 г. Мік. Мік альбо яго намесьнікі ў любы час маглі адабраць ад іх зямлю з будынкамі, выкінуць іх з наседжанага гнязда. Такія выпадкі ня раз мелі месца ў іх жыцьці.

У свой час несельніцтва вёскі складалася з некалькіх „фамілій», з якіх першае месца займалі Хадасевічы і Бараны. З цягам часу насельніцтва павялічвалася, наяжджалі новыя гаспадары.

У сучасны момант маем такі склад вёскі:

| Узрост | Мужчын | Жанчын |
|---|---|---|
| Да 7 год ... | 38 | 24 |
| Да 10... | 24 | 17 |
| Да 16 ... | 25 | 28 |
| Да 55... | 119 | 129 |
| Старэй ... | 18 | 14 |
| Усяго: | 224 | 212 |

## III. ЗЯМЛЯБУДАЎНІЦТВА І ЗЯМЛЯКАРЫСТАНЬНЕ.

Насельніцтва вёскі займалася і займаецца пераважна сельскай гаспадаркай і мае ў сваім карыстаньні 300 дзес. пахаці, 88 дз. сенажаці, (на 60 % балотнай), і 50 дз. выгану. Рэволюцыя зямлі сялянам не дала з тае прычыны, што паблізу ня было ні зямель памешчыкаў, ні запасных.

Зямля разьмяркоўвалася і разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Насельніцтва | Душ | Дз. пах. Зямлі | Сенажаці | Выгану | Усяго дз. на адну душу |
|---|---|---|---|---|---|
| „Шляхта» | 208 | 160 | 36 | 40 | 1,13 |
| Сяляне | 228 | 140 | 52 | 10 | 0,9 |
| Усяго | 436 | 300 | 88 | 50 | |

Калі мы паглядзім, як разьмяркоўваецца зямля паміж паасобнымі групамі насельніцтва, дык убачым наступную карціну:

| Катэгорыі сялян | Лік двароў | Лік едакоў | Зямлі ўсіх відаў | Прыходзіцца ўсяго дз. на 1 душу | Коняй | Кароў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Безьзямельных | 2 | 5 | — | — | | |
| Ад 1 да 2 дз. | 19 | 84 | 36 | 0,43 | 17 | 24 |
| „ 2 „ 3 „ ... | 12 | 41 | 28 | 0,68 | 13 | 18 |
| „ 3 „ 5 . ... | 43 | 196 | 199 | 1,00 | 48 | 96 |
| „ 5 , 8 . ... | 19 | 91 | 137 | 1,50 | 41 | 41 |
| , 8 . 16 „ ... | 3 | 19 | 38 | 2,00 | 8 | 11 |
| Усяго | 98 | 436 | 438 | | 127 | 190 |

Такім чынам бачым, што веска мае пераважна серадняцкі склад насельніцтва (61,2%) і ў значнай частцы – бядняцкі (30%). Досыць яскравы малюнак клясавай розьніцы веска мела да часоў рэвалюцыі. Пасьля рэвалюцыі частка зямлі ад найбольш заможных перайшла да малазямельных. Эканомічная няроўнасьць паступова зьнішчаецца, але „шляхта» яшчэ не пазбавілася сваіх „шляхоцкіх» дробна-буржуазных поглядаў і ня зусім зьліваецца з „мужыкамі» ў агульна-грамадзкіх справах.

Землякарыстаньне як у „шляхты», так і ў „мужыкоў» цераспалоснае. Але „шляхта» перад вайной 1914 г. правяла нейкае землябудаўніцтва: усё поле разьбілі на чатыры зьмены, паменшыўшы лік і павялічыўшы велічыню палос. Тут на аднаго гаспадара прыходзіцца ад 6 да 8 кавалкаў пахаты і 3-4 кавалкі сенажаці. Велічыня розная: нарэзы („разы») – ад 1/2 да 3 дз. і „наддаткі» – ад 1/10 да 1/2дз.

Другі выгляд у „мужыкоў»: тут пануе трохпалёўка. Некаторыя гаспадары, маючы 4 ½ дз. зямлі, маюць да 20 кавалкаў пахаты і 12 кавалкаў сенажаці. Велічыня таксама ад 1/10 да 1 дз.

Але ня гледзячы на тое, што ў „шляхты» чатырохпольле, – пладазьмен вядзецца ў іх па сыстэме трохпольля, нават, як самі яны кажуць, горш: 1 – папар; 2 – жыта; 3 – яр і 4 – яр. Правільнага севазвазроту завесьці ня можна па тэй прычыне, што кожны гаспадар, які захоча завесьці на сваім палетку той ці іншы пладазьмен, – залежыць ад сваіх суседзяў, бо згаварыцца ўсе адразу ніяк ня могуць. І ці можна завесьці шматпольле з правільным пладазьменам на 3-х дз., якія раскінуты ў 20 кавалках. І ў зьвязку з гэтым – апрацоўка зямлі вядзецца па-дзедаўску. Пераважна сеюць: жыта, авёс, бульбу, ячмень, гарох, грэчку. Толькі ў апошнія гады зьявілася

канюшына, віка, лубін; некаторыя асобныя гаспадары прабуюць сеяць сэрадэлю, але няўдала; кармавыя буракі, турнэпс пачынаюць займаць досыць значнае месца ў гаспадарцы. З гэтай прычыны, дзеля падняцьця сваёй гаспадаркі, некаторыя гаспадары маюць вялікае жаданьне аддзяліцца на хутары, каб можна было весьці гаспадарку паводле ўсіх правіл агрономіі.

Большая палова насельніцтва вёскі, чуць ня ўсе „мужыкі» маюць жаданьне правесьці зямлябудаўніцтва, але дзякуючы таму, што іх не набіраецца 2/3, і зямлі ў кожнага з іх вялікая нястача, – справа гэта ня можа крануцца з месца. „Шляхта» ж, якая мае больш і лепшую зямлю, злучыцца з „мужыкамі» для зямлябудаўніцтва ня хоча. Яна лічыць „мужыкоў» мужыкамі, галыцьбой, з якімі зьвязвацца можна тады, калі ад гэтага ім бывае яўная выгода. І ў зьвязку з гэтымі анормальнасьцямі ў зямлякарыстаньні, дзякуючы вялікаму недахопу зямлі, некаторыя сяляне імкнуцца перасяліцца на Кубань. Яшчэ раней, задоўга да вайны, некаторыя сяляне прадавалі свае палеткі, маемасьць і пераяжджалі ў Сібір, на Каўказ. З трох двароў, якія перасяліліся ў Сібір, не вярнулася ніводнага. На Каўказ перасяліўся адзін гаспадар, які праз нейкі час вярнуўся назад.

### IV. ТЭХНІКА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

Першы плуг зьявіўся на сяле, прыблізна, гадоў трыццаць-трыццаць пяць таму назад у досыць багатага селяніна з „шляхты». Гэтая „машына» зразу зацікавіла ўсю вёску, і калі запрэглі каня ў плуг, зьбеглася паўвёскі глядзець, як урачыста гаспадар гэтай „машыны» прагнаў баразну на гары ў самым сяле. У працягу 10-15 год саха ўжо скарыстоўвалася толькі ў асобных гаспадароў. І яшчэ гадоў каля 12-15 таму ў вёсцы быў гаспадар, які зусім не хацеў прызнаць плуга і выводзіў свае роўныя баразёнкі сахой. Цяпер-жа сохі сустракаюцца досыць рэдка. На ўсё сяло ёсьць 9 сох, якія скарыстоўваюцца толькі для абкопваньня (падмешваньня) бульбы, дый то саха пачынае замяняцца асыпнікам.Тып плугоў, якія сустракаюцца ў сялян – звычайны аднаконны плуг; якія робяць саматужнікі-кавалі. Вельмі рэдка сустрэць плуг фабрычнага вырабу тыпа „Сухені». Звычайна за работу плуга з матар'ялам плоцяць 10-12 руб.

Бароны ўжываюцца свайго вырабу: рамы драўляныя, а зуб'і жалезныя. Дзе-ні-дзе сустракаюцца бароны з драўлянымі зуб'ямі, якія скарыстоўваюцца для скараджэньня бульбы. І толькі, як сьведка мінуўшчыны, – у аднаго гаспадара ў хлеве вісіць продак бараны– смык. Звычайна кожны гаспадар мае столькі барон, колькі мае і коняй.

Больш багатыя гаспадары маюць веялкі, саламарэзкі, малацілкі з прыводамі. Іншых машын, дзякуючы малазямельлю і вузкапалосіцы,– няма.

Усяго ёсьць: – веялак – 3, саламарэзак – 5, малацілак – 2, прыводаў – 2.

Усе іншыя сельска-гаспадарчыя прылады, як: косы, сярпы – усё гэта здабываецца ў сельска-гаспадарчым складзе НКЗБ у Барысаве.

### V. АГРОНОМІЧНАЯ ДАПАМОГА.

Агрономічны вучастак знаходзіцца за 17 вёрст у м. Крупках. Сяляне агронома ў вёсцы амаль што ня бачаць. Аднак, нельга сказаць, каб гэтая вёска адставала ў сельскай гаспадарцы ад

іншых. Хаця агроном бывае досыць рэдка, працы амаль што ніякай не праводзіць, тым часам сярод самаго насельніцтва прыкмячаецца імкненьне да лепшага зямлякарыстаньня і апрацоўкі зямлі. Выдзяляюцца асобныя гаспадаркі І гаспадары, якія робяць розныя досьледы з розным угнаеньнем (штучнае, тарфяное, попел) і рознай апрацоўкай глебы, пасеваў.

У 1926 г. некаторыя сяляне пасеялі жыта радавой сеялкай. У аднаго гаспадара ёсьць пладовы выхавальнік, у якім у гэтым годзе налічваецца да 4l/2 тысяч дрэўцаў. Прабуюць разводзіць племяны скот, асабліва сьвіней. Праўда, усё гэта робіцца без усялякай сыстэмы, выпадкова, бо сталых кіраўнікоў у гэтай справе няма. Але і гэта выпадковасьць дала свае вынікі як па палепшаньні глебы, гатунку скаціны, так і разьвядзеньні пасяўных траў (канюшына, віка), корань-плодаў (буракі, турнэпс, нават марква), лубіну і інш.

У гэтым годзе організавалася мэліорацыйнае Т-ва, якое задалося мэтай асушыць каля сотні дзесяцін балота пры самай вёсцы. У склад яго ўвайшлі карэнныя сяляне. Праца яшчэ толькі распачынаецца.

## VI. КООПЭРАЦЫЯ І ГАНДАЛЬ.

Аб коопэрацыі насельніцтва мала чаго ведае. Ніякіх коопэрацыйных установ ня было і няма. У спажывецкіх таварыствах няма ніводнага члена з сялян. Толькі ў выпадку вострай патрэбы той ці іншы селянін зварочваецца да раённага (у Крупках) сельска-гаспадарчага таварыства, запісваецца ў лік сяброў. Такім чынам, з вёскі запісалася ў сябры с.-г. Т-ва ў м. Крупкі 8 сялян вёскі. Усе тавары, патрэбныя для сваёй гаспадаркі, купляюць на рынку ў прыватных гандляроў. Часта прыходзіцца чуць скаргі на коопэратывы за іх высокую цану на тавары. Камітэту сялянскай дапамогі, як асобнай адзінкі, ня існуе ў вёсцы, а пры сельсавеце ў сяле Нача (за 7 вёрст). Сярод насельніцтва Камітэт мала заслужыў увагі, бо нічым сябе ня выявіў, ніякай працы не вядзе і імкненьне да яго вельмі нязначнае. З усяе вёскі сябрамі камітэту толькі 23 чал., галоўным чынам серадзнякі. Бедната ня можа ўступіць у члены, бо ня мае сродкаў на ўступленьне, багатыя-ж зусім ня хочуць запісвацца, бо, як яны самі кажуць, камітэт ім не патрэбен.

## VII. НАРОДНАЕ ЗДАРОЎЕ.

Вёска пабудавана пры самым балоце. Адным канцом яна ўразаецца проста ў балота. Дзякуючы блізкаму суседзтву балота, блізкасьці грунтоўных вод, студні сустракаюцца вельмі часта. Праўда, абсталяваньне іх кепскае; драўляны, абросшы мохам зруб глыбынёй ад 11/2 да 3 арш., вілы каля студні, перасьвер з крукам – вось і студня. Вада аддае балотам, глеем. Вуліцы мятуцца досыць рэдка, бо большую частку году на вуліцах гразь. У той-ж час, калі суха, сьмяцьцё ссоўваюць у груд, пераносяць і скідаюць у дрыжніку. Апошні займае значную частку двара; на яго скідаюць усялякае сьмяцьцё, памыі і г. д.

Памяшканьні трымаюцца брудна. Падлогу звычайна мыюць к такім рэлігійным сьвятам, як Каляды, Вялікдзень, Тройца, Пакроў. Праўда, у апошнія часы сяляне свае хаты будуюць на дзьве паловы, з якіх першая зьяўляецца „чорнай», дзе сьпяць, працуюць, кормяць сьвіней і інш. дробную жывёліну, а другую палову трымаюць больш чыста.

Ня гледзячы на такія ўмовы жыцьця, насельніцтва вёскі досыць здаровае. Пошасных хва-

роб бывае вельмі мала, асабліва сярод дарослых. Сухотнікаў мала. Увесь цяжар хвароб выносяць на сваіх плячох дзеці, за якімі дагляду няма амаль ніякага, асабліва летам. І розныя хваробы на жывот, скураныя, праступа, кохлік (коклюш) зьяўляюцца прычынай сьмяротнасьці дзяцей. Ёсьць выпадкі прыпадачных хвароб. Калецтва дзіцяці ад недагляду, рахіт (крываножжа, крываручча) досыць частае зьявішча.

Лекавай дапамогі на месцы няма. У тым выпадку калі з чалавекам бывае сур'ёзная хвароба (гарачка, калецтва) – зьвяртаюцца да доктара ў Крупкі ці ў Лошніцу (17 і 10 вёр.) Дактары наогул вельмі рэдка бываюць у вёсцы. За гэты 1926 г. ні фэльчар, ні доктар ні разу сюды не заглядваў. Лякарстваў адчуваецца недахоп, лекарскія сілы слабыя, а ў зьвязку з гэтым сялянства слаба верыць у моц мэдыцыны. Часта сяляне зварочваюцца да мясцовых лекароў-шаптух і шаптуноў. І якія толькі хваробы ня лечуць шэптамі?! Якіх спосабаў няма! І ў карыце, і на лаўцы пад сукам, і на зачынку, і пад прыпечкам... і чаго, чаго ні выдумае цёмны селянін, а яшчэ больш – хітры шаптун! Праўда, у вёсцы былі выпадкі, калі шаптун на ўсё жыцьцё застаўляў дзіця калекай, але вера ў іх яшчэ не пагасае. Не малую ролю ў жыцьці вёскі іграюць „бабкі» (павітухі). Звычайна ў бабкі бяруць тых кабет, якія самі мелі некалькі дзяней, а цяпер па старасьці, ці па іншай якой прычыне, згубілі надзею мець дзяцей. Да акушоркі, якая знаходзіцца ў Крупках і ў Лошніцы, ніколі не зьвяртаюцца.

## VIII. НАРОДНАЯ АСЬВЕТА.

Да 90-х гадоў мінулага сталецьця граматныя людзі ў вёсцы былі рэдкім выключэньнем. У пачатку 90-х гадоў у вёсцы адчынілася школа граматы, дзе вучылі няўдачнікі-паповічы самымі архаічнымі мэтодамі. Псалтыр ды эвангельле былі асновай усёй навукі. Некаторыя сяляне пасылалі ў школу дзяцей толькі вучыцца маліцца богу. На гэтым часамі навука іх і канчалася.

К сучаснаму моманту мы маем наступную граматнасьць у вёсцы:

| Узрост | Мужчын | Жанчын | Усяго | о/о |
|---|---|---|---|---|
| Ад 7-16 г. . | 23 | 23 | 46 | 49 |
| Ад 17–25 г. . | 28 | 9 | 37 | |
| Ад 26–55 г. . | 26 | 8 | 34 | |
| Вышэй | 1 | – | 1 | |
| Усяго | 78 | 40 | 118 | |

Якасьць гэтай граматнасьці вельмі нізкая, бо пераважная большасьць граматных ня скончыла нават школы граматы, ці сучаснае аднакамплектнае школы.

Школа знаходзілася і знаходзіцца ў наёмных будынках, пераносіцца кожны год з аднае хаты ў другую. Абсталяваньне школы надзвычайна дрэннае, дзецям няма на чым сядзець. Настаўнікі амаль штогод мяняліся і мяняюцца з прычыны дрэнных умоў працы. За ўвесь час існаваньня школы ў вёсцы сяляне ня бачылі ніводнага добрага настаўніка.

Ні нардому, ні хаты-чытальні, ні бібліотэкі, ніякіх гурткоў у вёсцы няма. Насельніцтва слаба ўцягнута ў культурнае жыцьцё і савецкае будаўніцтва. Няма каму павесьці працу, паставіць яе

на належны шлях, а запатрабаваньні да лепшага новага жыцьця адчуваюцца, асабліва сярод моладзі.

Часопісаў ніякіх не атрымліваецца. Газэты выпісваюць мала: „Крестьянская газета» – 3 экз., „Правда» – 1, „Зьвязда» – 1, „Гудок» – 1. Дзе-ні-дзе можна сустрэць яшчэ эвангельле, маліцьвеньнік, але рэдка. Культурныя мерапрыемствы прышчэпліваюцца слаба. Толькі асобныя гаспадары пачынаюць уводзіць у сваю гаспадарку тыя ці іншыя зьмены.

У гэтым годзе 4 гаспадары пасеялі жыта радавым сеўнікам. Ёсьць спробы ўжываньня тарфянага і попельнага (зольнага) угнаеньня, разьвядзеньня кармавых караньплодаў (буракі, турнэпс, марква), пасеву лубіну. Настаўнік П. Самцэвіч разьвёў невялічкі (у 4 з паловай тысячы) пладовы выхавальнік.

Краязнаўчай працы і краязнаўцаў сярод насельніцтва няма. Ёсьць тры сябры членаў ячэйкі ЛКСМБ (ячэйкі знаходзяцца ў с. Нача), 2 кандыдаты КПБ, піонэраў няма.

### IX. ВЯСКОВЫЯ ЗАБАВЫ І ЗВЫЧАІ.

І Вясна, лета і восень праходзяць у напружанай працы на гародзе, полі, сенажаці. Працуюць ад усходу і да заходу сонца мужчыны, жанчыны і дзеці. Нядзеля – дзень адпачынку. Зрэдка хто наведаў царкву (за 7 вёрст), дзе можна было сустрэць знаёмых, пагаварыць. Маліцца, мала хто маліўся, нават ня ўсе і ў сподведзь хадзілі. Мужчыны лічылі за лепшае сабрацца ды выпіць па паўбутэльцы. Зараз ужо і ў нядзелю працуюць, калі ёсьць сьпешная работа.

Узімку калядамі моладзь зьбіраецца на вечарынкі, наладжвае ігрышчы. Наймаецца хата, гарманісты і пачынаюцца танцы, з якіх першае месца займаюць„вальць», полька. Раней вельмі пашырана была„кадрыль». Вечарынкі не абыходзяцца бяз выпіўкі; досыць часта вечарынкі заканчваюцца бойкамі. Варожымі лягерамі раней у большасьці былі „шляхоцкія» і „мужыцкія» хлопцы.

Вечарынкі з танцамі зьяўляюцца адзінай забавай для вясковай моладзі. Ніякіх іншых забаў няма. Ні спэктакляў, ні хору, ні літаратурных ці палітычных вечароў вёска амаль што і ня бачыла.

„Шляхоцкія» хлапцы, часамі ня меўшыя ў гаспадарцы хлеба да новага ўраджаю, часта няпісьменныя, хаця і гулялі з „мужыцкімі» дзеўкамі, але ніколі на іх не жаніліся. Лепш жаніўся які-небудзь захудалы „шляхцюк» на зусім няўдалай „шляхцянцы», чым на аднэй з лепшых „мужыцкіх» дзяўчат. Так і мяняліся дзьве суседнія вёскі і паасобныя сем'і „шляхты» жанчынамі, з прычыны чаго амаль усе сем'і „шляхты» знаходзіліся паміж сабой у сваяцтве. Гэтай замкнутасьці ў „мужыкоў» зусім ня было. Гэтыя перажыткі мінулага, выкліканыя ўсё-ж нейкімі саслоўнымі прывілеямі „шляхты» (дваран), засталіся ў значнай меры і цяпер.

Рэлігійныя забабоны ў вёсцы глыбокіх каранёў ня мелі. Насельніцтва к часам рэволюцыі да царквы і папоў адносіліся больш формальна. Моладзь яшчэ і раней досыць крытычна глядзела на ўсе абрады і падсьмейвалася над старымі, якія сьлепа верылі папом.

*Увага: Лічбовыя даныя сабраны і прадастаўлены ў карыстаньне П. Самцэвічам.*

# Халапенічы.

## *Старонкі гісторыі.*






**ЮБІЛЕЙ** / СТАРЫ ЛІЦЬВІН

*У 2001 годзе споўнілася 550 год мястэчку Халапенічы. На жаль раённая улада не знайшла грошай, каб адзначыць гэты паважны юбілей, да якога, дарэчы, самі местачкоўцы рыхтаваліся, – нават быў складзены плян сьвяткаваньня. Рыхтаваліся й скаўты Малога Палесься – быў падрыхтаваны невялічкі спэктакль па гісторыі Халапеніч, Алесь Пушкін браўся правесьці конкурс "Міс Халапенічы" й падрыхтаваў адмысловыя прызы. Таксама былі зроблены памятныя налепкі "Маім Халопенічам – 550", якімі плянавалася павіншаваць амаль усіх местачкоўцаў... (фота 1).*

*Будзем спадзявацца, што 555 год мы адзначым сапраўдным сьвятам!*

**Памятныя налепкі *"Маім Халопенічам – 550".***

1. Першы ўспамін – 1451г. – Наш кароль і вялікі князь Казімір пажалаваў канцлеру ВКЛ Міхаілу Кезгайлу (Кежгайлу) 10 даньнікаў і 11 цяглых сялянаў у шэрагу вёсак Лукомскай воласьці (былое Лукомскае княства), сярод якіх згадваюцца і Халапенічы.

2. Назва мястэчка – гідронім: "Халапея" (балт.); ХАЛА – возера, Пея – рэчка. Гэта значыць: **возера, утворанае рэчкай – Халапенічы.** Прыклад: прыток Дняпра – р. Халапея.

3. З 1555 па 1620г.г. – належаць папераменна: Шэметам, Завішам, Вішнявецкім, Дарагастайскім, Валадковічам, Нонхартам, Нароўнікам.

4. 1620-1644г.г. – належалі Мікалаю Млечку, харужаму Аршанскага павету. Стварыў маёнтак з цэнтрам у Халапенічах, збудаваў двор. У 1640 г., фундаваў у Халапенічах кармеліцкі касьцёл і кляштар. З 1621 па 1635 год Мікалай Млечка жывучы ў маёнтку вёў дзёньнік, у якім, акрамя іншага, зьмясьціў інвэнтар за 1620г., плян панскага дому, апісаньне кухоннага начыньня, скаціны, гаспадарчых прылад, сьпіс рэчаў, падараваных ім Халапеніцкай вуніяцкай царкве, лекарскія й



**Дамініканскі кляштар і касцёл у Халапенічах**

кулінарныя рэцэпты таго часу.

5. 1644-1670г.г. – належалі Мікалаю Цеханавецкаму, што быў старастам і ваяводай мсьціслаўскім.

6. 1670-30-я г.г.XVIII ст. – належалі Халецкім. Зь якіх Гедэон Халецкі у 1690 г. заснаваў кляштар дамініканаў (кармеліцкі касьцёл “згас без фундушу”). Яго сын Марцыян, староста навасельскі фундаваў дамініканскі кляштар і касцёл у Халапенічах у 1700г.(фота 2). Дарэчы, Марцыян Дамінік Халецкі быў першы з Халецкіх, хто ў сваё імя ўвёў назву маёнтка Халапенічы і пісаўся ў дакумантах наступным чынам: “Марцыян Дамінік з Хальча на Чэрніхаве й Халапенічах Халецкі, навасельскі староста”.

7. 30-я г.г. XVIII ст. – 1855г. - належалі Храптовічам. Самы знакаміты з іх – Храптовіч Яўхім Ігнацы Юзаф Літавор (1729-1812) нарадзіўся ў в. Ясянец сучаснага Баранавіцкага р-ну Берасьцейскай вобласьці. Палітычны, грамадцкі і культурны дзеяч ВКЛ, публіцыст, паэт, перакладчык, мэцэнат, вучоны-гуманіст. Апошні канцлер ВКЛ (з 1793г.). пісаў на польскай, лацінскай й беларускай мовах. Паходзіў са старадаўняга ліцьвінскага магнацкага роду, што карыстаўся гэрбам “Адравонж” і меў ва ўладаньні, сярод іншых, маёнткі Шчорсы, Вішнева, Бешанковічы, Зембін, Халапенічы. У Шчорсах сабраў знакамітаю бібліятэку (10 тыс. тамоў).

У 1783г. даў Халапенічам шэраг гандлёвых і эканамічных ільгот. Лепшых сялян вызваляў ад прыгону й пераводзіў на грашовы аброк (в. Яўхімаўка – зараз: Якімаўка). Займаўся разумнай мэліарацыяй вакол мястэчка. У 1786г. пабудаваў й адчыніў у Халапенічах шасьцікласную школу (2-ва двухпавярховых й 1-н трохпавярховы будынкі). У ёй дзеці шляхты й сялян вывучалі латынь, матэматыку, гісторыю, права, земляробства, садаводства й пчалярства. У маёнтку стварыў



**Царква ў Халапенічах**

дваровую бібліятэку. Распаўсюджваў сярод сялян агранамічныя веды (каровы "цірolькі").

Яго сын Адам працягваў мэліарацыю вакол мястэчка. У 1828г. пабудаваў драўляную вуніяцкую царкву у Халапенічах, у выглядзе карабля. У 1840г. адкрыў у мястэчку больніцу й аптэку для сялян (адзіную на ўвесь Барысаўскі павет). Вучыў сялян культурнаму земляробству.

8. 1772-1793гг. – пасьля першага падзелу нашай краіны, Аршанскі павет быў падзелены на дзьве часткі, большая зь якіх з цэнтрам у Воршы апынулася ў Расейскай імпэрыі. Другая, заходняя частка разам з Халапенічамі засталася ў складзе нашай дзяржавы. Паводле каралеўскага прывілея 1775г. Халапенічы былі прызначаны адміністрацыйна-судовым цэнтрам гэтае часткі Аршанскага павету. Менавіта тут сталі адбывацца паседжаньні гродцкага й земскага судоў Аршанскага павету Рэчы Паспалітай. Гэта ўзвысіла мястэчка ў эканамічным і культурным пляне.

9. 19 кастрычніка 1856г. у ваколіцы Халапеніч, вёску Шчаўры прыехаў на дажынкі знакаміты Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч па запрашэньню свайго прыяцеля, уладара аднайменага маёнтка, Юліяна Рашкоўскага. Творчым вынікам паездкі сталіся: вершаваная аповесьць "Шчароўскія дажынкі", верш "Да пачцівых беларусаў" і вершаванае апавяданьне "Літаратурныя клопаты". А для сябе Беларускі пясьняр узяў у жонкі мясцовую шляхцянку – Марыю Паўліну Грушэўскую! Пабываў пісьменьнік і у Халапенічах у свайго добрага знаёмага, уладара маёнтка Аляксандра Дамініка Лапы, падарыўшы яму свайго знакамітага "Гапона".

10. 25 сакавіка 1862г. – нарадзіўся Адам ( у хросьце – Адольф) Ягоравіч Багдановіч (быў ахрышчаны па вуніяцкаму абраду ў Халапеніцкай праваслаўнай

царкве! (фота 3). Фальклярыст, этнограф, мемуарыст, бацька Максіма Багдановіча. Сабраны бацькам фальклёр Максім шырока выкарыстаў у сваёй творчасьці (напрыклад у вершы "Зьмяіны цар"). Акрамя іншых шматлікіх прац Адам Ягоравіч пакінаў шыкоўныя успаміны аб Халапенічах XIX стагодзя, якія сьмела можна лічыць энцыклапедыяй сялянскага жыцьця нашага мястэчка.

11. Вясна 1863г. – атрад капітана Трашчынскага, сабраны ў ваколіцах Халапеніч, рушыў у бок Барысава на злучэньне з больш буйнымі паўстанцкімі фармаваньнямі й папаў у засаду ля вёскі Падбярэзьзе. Месца пахаваньня загінуўшых вядома.

12. 1897г. – нарадзіўся Віктар Міхайлавіч Берман, выдатны навуковец, доктар медыцынскіх навук, прафэсар, аўтар падручніка "Прыватная эпідэіялогія".

13. 13 сакавіка 1908г. – памёр Міхаіл Наумавіч Берман, доктар Халапеніцкай больніцы, які карыстаўся ўсенароднай любоў'ю й павагай далёка за межамі мястэчка (бясплатна лячыў бедных, "...Высокага сэрца быў чалавек!"). Пахаваны на габрэйскіх могілках г.Барысава (фота 4).

14. 1918 – 1921г.г. – у мястэчку й ваколіцах пасьпяхова дзейнічала "зялёная армія" на чале атамана Лукаша Семенніка (нарадзіўся ў в. Траянаўка Халапеніцкай воласьці), якога халапенінцы, пасьля адступленьня немцаў у 1918г. абралі сваім камісарам. У 1918-1919г.г. савецкай улады ў мястэчку й воласьці амаль не існавала. А вось што дакладваў А. Чарвякову 28 кастрычніка 1920г. Барысаўскі камісар аб становішчы ў павеце: " Зелёная армия в борисовском уезде разрослась до неимоверных размеров. Нет ни одной волости уезда, где не было бы банд. Осо-

**Памятны камень на магіле Бермана М.Н.**



бенно много их в некоторых волостях, где есть для них природные убежища... По слухам, по всему уезду имеется несколько тысяч бандитов. В настоящее время банды начали действовать открыто... Они напали на Гайна-Слободу и местечко Плещеницы, которое некоторое время находилось в руках бандитов... На беспартийной конференции в Холопеничах была принята резолюция, в которую внесены слова контрреволюционного пожелания: желаем мирным путём освободить Беларусь от польских и советских войск и дать ей возможность самоопределиться без чьей бы то ни было диктатуры."



**Самцэвіч Пётра Андрэевіч**

15. У 30-я г.г. ХХ ст. у мястэчку працаваў настаўнікам беларускай мовы й літаратуры, вядомы краязнавец, сябра Інбелкульта Самцэвіч Пётра Андрэевіч (нарадзіўся ў в. Дакудава Крупскага р-ну) (фота 5). Друкаваўся ў часопісе "Наш край", зьбіраў слонік тапонімаў Барысаўшчыны й Крупшчыны (забіты фашыстамі пры растрэле габрэяў ва ўрочышчы "Каменны лог" восеньню 1941г. – каля 900 чалавек).

16. Імі ганарымся:

- **Бандарэнка Канстанцін Аляксандравіч,** нарадзіўся ў 1918г. Афіцэр, маёр, прайшоў баявы шлях ад Адэсы да сталіцы Чэхіі у франтавой выведцы, узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, медалямі. З 1967 па 1987г. працаваў начальнікам аддзела кадраў Адэскага педінстытута. Склаў грунтоўныя радаводы вядомых халапеніцкіх родаў: Бандарэнкаў, Баркоўскіх, Сазонавых, Скалубовічаў. Апублікаваў (на правах рукапісу) кнігі па гісторыі мястэчка.

- **Ганчарэнка Андрэй Маркавіч,** нарадзіўся ў 1933г. Акадэмік Нацыянальнай АН Беларусі, доктар фізыка-матэматычных навук, прафэсар, Заслужаны дзеяч навукі БССР.

- **Хадасевіч Уладзімір Рыгоравіч,** нарадзіўся ў 1933г. Вынаходнік СССР, кандыдат тэхнічных навук, майстра спорту СССР.

- **Зуёнак Васіль,** нарадзіўся ў 1935г. Беларускі паэт, з 1990 па 1998г.г. – старшыня Праўленьня Саюза пісьменьнікаў Беларусі, аўтар больш 20-ці зборнікаў паэзіі.

- **Грышановіч Валерый,** нарадзіўся ў 1947г. Беларускі паэт. У1980-х г.г. рэдактар газэты "Знамя юности", у першай палове 1990-х гадоў – дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура". Аўтар паэм: "Пагоня вяртаецца на Беларусь" (1992), "Халопенічы" (1998).

- **Мажэйка Зінаіда Якаўлена,** (1933г.) вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру НАН Беларусі, доктар мастацтвазнаўства, Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, аўтар звыш 200 навуковых прац, 7-мі дакумэнтальных этнамузыкальных кінастужак. Яе імя – у Кэмбрыджскім даведачным выданьні: "2000 выбітных інтэлектуалаў ХХ ст." Амэрыканскім даследчыцкім біяграфічным інстытутам аб'яўлена "Чалавек 2000г." й узнагароджана Medal of honor.



# Варажба травы



**КНІГА**

**“Гэты радасны свет**
**Падарыла мне мова”**
***А.Котава, “Варажба травы.”***

*Кніжная серыя “Бібліятэка часопіса “Маладосць” (№7,2001г.), дзе выдадзена першая кніга вершаў Алены Котавай “Варажба травы,” падарыла магчымасць чытачам пазнаёміцца з гэтым прыгожым паэтычным светам, створаным самабытным мастаком слова і фарбы. Алена Адамаўна Котава жыве ў Менску і працуе выкладчыкам на аддзяленні дызайну Менскага дзяржаўнага архітэктурна-будаўнічага каледжа. Асноўная яе прафесія – мастак. Але слова падуладна ёй не менш, чым колеры.*

**Алена Котава,** *аўтапартрэт.*

Жыццё Алены некаторы час было звязана з мястэчкам Крупкі, з ракой Бобр, так хораша апаэтызаванай у адным з яе вершаў. Некаторы час Алена вучылася тут у школе №2. І цяпер тут, у Крупках, Алену чакае яе маці, Анастасія Пахомаўна.

Характэрнымі рысамі творчасці паэтэсы з’яўляюцца глыбінная сувязь з гісторыяй Беларусі, яе культурай, мастацтвам, надзвычай добрае валоданне самымі шырокімі пластамі лексікі беларускай мовы, неадольнае захапленне Яе Высокасцю Прыродай, вастрыня, шчырасць, прага самых высокіх пачуццяў. Паэтэсе ўласцівы толькі яе асабісты паэтычны погляд на свет, сваё індывідуальнае светабачанне. У краіну Паэзію Алена Котава прынесла сваю жыццёвую мудрасць.

Нярэдка ў творах аўтара сустракаецца паўтарэнне адных і тых гукаў, – алітэрацыя. Вось чатыры радкі з верша “Цішыня”, якім адкрываецца зборнік:

*Не шапоча пышная шыпшына,*
*Птушка ў застрэшшы не цвірчыць.*
*Не скрыгоча шынамі машына.*
*Шпаркі дождж у лісці не шуміць.*

Паўтор шыпячых гукаў тут – гэта толькі водгаласак апалай кроплі дажджу, гэта пошум ветру, які ўзгадваецца і мроіцца, калі прыслухоўваешся да цішыні. "Каб разумець вершы, іх трэба слухаць у цішы,"- як бы настройвае чытача паэтка на самым пачатку сустрэчы.

Паэтэса жыве з адчуваннем повязі з мінуўшчынай, з продкамі. Якімі важкімі з'яўляюцца для яе "скарбы курганных глыбінь": "прасцячок-чарапок", плеценыя з саломы і лазы "з адценнем золата старыя экспанаты", "пявучы арнамент" старадаўняга народнага адзення…

Цэлая баталія разыгралася – паўстала перад вачамі паэтэсы, калі ўбачыла яна Барысавы камяні з высечанымі на іх словамі. Яна пачула водгук даўніх ратных падзей, калі князь Барыс з дружынай бараніў сваю зямлю ад нашэсця ворагаў (верш "Барысавы камяні").

Нават адзінокая кветка, балотны жоўты касач, сарваны дзяўчатамі, нагадаў пісьменніцы князя, які загінуў у бойцы (верш "Балотны князь").

Паэзія Алены Котавай незвычайна настраёвая, паказвае, што аўтар – вельмі эмацыйны і ўражлівы чалавек. Верш "Лесавое" – лепшае падцвярджэнне гэтаму. На змярканні, у звычайным лесе, калі " гаснуць промні ў прымхах хвояў", яе лірычную гераіню раптам апаноўвае сапраўдны жах: "у чарах лесу – жаху джала". Рэчка асацыіруецца з ракой забыцця Летай, гераіні мрояцца самыя розныя пачвары, міфічныя стварэнні, падземнае царства, цмокі, багна, пасткі вакол…". Няўжо і гэта, што ў крыві – ад дзікіх продкаў?" – дзівіцца аўтар сама сабе. Але настрой мяняецца ў адно імгненне: знікаюць усе жахі да адзінага, а прычына ў тым, што закувала зязюля, і гэтага дастаткова, каб вярнуць чалавека да рэальнасці, да нармальнага стану. Спадае напружанне і у чытача, якому ўжо паспеў перадацца вельмі трывожны настрой.

Верш "Майскі дождж" – гэта сапраўдны маленькі шэдэўр, імгненны здымак душэўнага стану чалавека, нашага сучасніка, які, здараецца, сярод людзей задыхаецца, дранцвее ад адзіноты, непаразумення, незапатрабаванасці, усемагчымых умоўнасцей, вымушанага маўчання, няшчырасці, нежадання прыняць іншага, мабыць, проста ад launch ператомленасці. Насустрач майскаму дажджу расчыняецца душа паэтэсы ажно да самага донца, да самага далёкага куточка, аж да таго, што паэтэса сама просіць прабачэння за гэту расчыненасць. Як да прыяцеля ці як да лекара звяртаецца яна да дажджу, хапаецца за яго, як за "ніць Арыядны", за "пуцяводны прамень". І ліўнем праліваецца ў аўтара жаданне расказаць пра ўсё, што было "закансервавана ў душы", нібы ў склепе; знікае, змываецца здранцвенне, нібы праходзіць атручэнне. Жвавым, нечаканым, чароўным, вясёлым, спагадлівым аказваецца дождж. З ім утульна.

Свежай, багатай, яркай вобразнасцю адзначаны амаль усе вершы паэтэсы. А верш, радок з якога ўвайшоў у загаловак гэтага артыкула, з'яўляецца адным з самых метафарычных, маляўнічых, і у ім крэда аўтара: пісаць для таго, пісаць так, каб бязмежнае чароўнае мора роднай мовы адкрылася ўсім, каб, "хвалі вобразаў" са жменькамі "каштоўных каменьчыкаў кропак і косак" дакрануліся да кожнага.

Раней з вершамі Котавай Алены пазнаёміліся чытачы часопісаў "Полымя" і "Маладосць", а вось першая яе кніга ішла да чытачоў доўга. Між тым, гэта невялікая кніга ўвабрала ў сябе шмат цікавых паэтычных знаходак, не пакінула абыякавымі чытачоў. Летам 2002 г., на чарговым

пасяджэнні секцыі паэзіі Алена Адамаўна Котава рэкамендавана для прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў*.

*Таццяна Каваленка, супрацоўнік краязнаўчага музея г. Крупкі.*



*КАВАЛЕНКА ТАЦЦЯНА СТАНІСЛАВАЎНА, нар. 15.06.1962 у г.Клецку Мінскай вобл. У Крупках жыве з 1964-га. Паэтка, філолаг, краязнавец, музэйны работнік. З 1999г. працуе ў Крупскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Друкавалася ў раённай газеце "Ленінскім курсам", у газетах "Чырвоная змена", "Мінская праўда","Беларускі універсітэт", часопісах "Маладосць", "Работніца і сялянка", "Першацвет" , у калектыўных зборніках "Вусны" (Мн., "Юнацтва" 1985), "Квадра" (Мн., 1990), "Нас слова Купалы да творчасці кліча" (Мн., 1999), "Ручаіны" (Мн., "Чатыры чвэрці", 2001). У 2005-м выйшла першая кніжка вершаў "Просінь".*

## РЭЧКА БОБР

Рэчка Бобр, бору сябра.
Стужкай срэбнай лугам вольна
Зіхаціць вада прывабна
У дымлівых купаў вольхаў.
Кропляй чыстаю ў дзяцінстве
На маім кірпатым носе
Зіхацеў ты і іскрыўся
У валасах, нібы ў калоссі.
Водар лугу, вецер з поля
Скрозь працяты пахам хвойным
Маладым буслам прыволле
Чыста, лёгка і спакойна
Быццам зараз за спіною
Пругка крылы развінуцца
Рэчка Бобр, мне з табою
Цэлы век не размінуцца.

***

Чарада курганоў –
Старажытнасці знак –
Шляху вольнага ўздоўж
Вартай-раццю глядзіць.
Раздарожжа вятроў –
Пылу горкага смак.
На сустрэчы шляхоў
Крыж каменны маўчыць.

На далоні ляжыць
Прасцячок – чарапок,
Скарб курганных глыбінь.
Стужка – хваля над ім
Шмат стагоддзяў бяжыць.
- Цур, славянскі гаршчок,
У хвалях часу не згінь
З даўнім продкам маім.

Срэбнай грыўны авал
Важыць тысячу год.
На пялёстках вянцоў –
Таямніца замоў.
Грыўнай лёс ахінаў
Шыю той, мо што род
- Пачынала з высноў.
Як пяе тая кроў!

## БАЛОТНЫ КНЯЗЬ

Узняўшы буйнай галавы
Бурштын і золата жывое,
Касач – князёвіч лугавы –
Глядзеў у далеч над травою.

І варта верная яго –
Аеру ўзброенае войска –
Ля князя яснага свайго
Сцяною высілася войстрай.

Навокал даннікаў Двара –
Плылі стракатых кветак гоні.
Не ўратавалі ўладара
Ў пяшчотнай сонечнай кароне...

– Глядзі, касач. Ды вунь жа ён!..
Дзявочы смех, хлюпценне гразі
І боль...Чакаў яго палон
І смерць у крышталёвай вазе.

**P.S. У студзені 2003г. прынята ў Саюз Пісьменнікаў Беларусі (рэд.)*

# Матэрыялы велапаходу

***па маршруце: г. Крупкі – в. Прудок – в. Вялікае Горадна – могілкі былой в. Шырнавічы – г. Крупкі***

**ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ** / Валерый АРЦЮХОВІЧ

1 – месца былой в. Красная Горка
2 – месца былой в. Шырнавічы
3 – старыя могілкі в. Шырнавічы
4 – месца былой в. Слоўч
5 – пошукі сярэдневяковага могільніка каля в. Прудок
6 – могілкі в. Вялікае Горадна
7 – гарадзішчы жалезнага веку каля в. Вялікае Горадна

г. Крупкі
Чыгунка
в. Новае Жыццё
р. Бобр
Шырнаўскае поле
р. Еленка
ручай
воз. Глухое
р. Пясчанка
в. Прудок
р. Можа



*АРЦЮХОВІЧ ВАЛЕРЫ ЎЛАДЗІМІРАВІЧ,*
*нар. 03.05.1985 у м.Крупкі. Скончыў гістарычны факультэт Віцебскага Дзяржаўнага Ўніверсытэта імя П.Машэрава (2009). Краязнавец, настаўнік гісторыі сярэдняй школы ў в.Ігрушка Крупскага раёну. Капьёвы Харугвы Скаўтаў Малога Палесься. Сябра рэдкалегіі альманаху.*







## АПІСАННЕ ПАХОДУ

**Фота 1. На мосце праз Бобр у в. Выдрыца**

Апошняй вясновай раніцай 2002 года мы выправіліся ў такі доўгачаканы намі велапаход. Надвор'е выдалася добрае, па-вясноваму цёплае і здавалася сама прырода спрыяе нам. У гэты раз наш шлях ляжаў у кірунку вёскі Вялікае Горадна, што на поўдні Крупшчыны. Прыкладна праз дзве гадзіны, калі нашы ровары ўжо не выглядалі такімі бліскуча чыстымі, мы прыехалі да вёскі Прудок – першага пункта нашай вандроўкі. Адпачыўшы і падсілкаваўшыся мы, спачатку запытаўшыся ў мясцовай жыхаркі і не атрымаўшы станоўчага адказу, пачалі самастойныя пошукі познасярэдневяковага могільніка, які па звестках археолагаў павінен знаходзіцца дзесьці недалёка ад вёскі ва ўрочышчы Дзяцінная Гара (1).

**Мэты паходу**

1. Пошук познасярэдневяковага могільніка каля в. Прудок
2. Абследаванне і вывучэнне могілак в. Вялікае Горадна
3. Выяўленне і даследаванне гарадзішчаў каля в. Вялікае Горадна
4. Пошук і вывучэнне могілак былой в. Шырнавічы

**Удзельнікі паходу**

1. Арцюховіч Валерый – вучань 10 "в" класа
2. Шкілёнак Андрэй – вучань 10 "в" класа
3. Шкілёнак Антон – вучань 7 "а" класа

**Дзённік паходу**

6.00 Збор удзельнікаў

6.00 - 6.10 Інструктаж па тэхніцы бяспекі, удакладненне маршрута





Але на жаль нашы пошукі не далі плёну. Параіўшыся мы вырашылі не губляць часу і рушылі далей – у вёску Вялікае Горадна.

Праязджаючы праз вёску Выдрыца (што побач з в. Вялікае Горадна), мы апынуліся на мосце цераз раку Бобр (фота 1). Нас вельмі ўразіла шырыня ракі. У параўнанні з Крупкамі тут яна шырэйшая ў два разы! Гэту прыгажосць немагчыма апісаць словамі, лепей пабачыць (фота 2). Непадалёку ад сучаснага маста засталіся сляды старога – драўлянага: з вады тырчаць чорныя дубовыя слупы, як жаўнеры на варце (фота 3).

**Фота 2. Рака Бобр у ніжнім цячэнні**

**Фота 3. Сваі старога маста**



***Мал. 1. Сігізмунд Герберштэйн***

6.10 - 8.05 Рух да в. Прудок
8.05 - 8.30 Сняданак. Удакладненне мэтаў паходу
8.30 - 9.30 Пошук могільніка ў лясным масіве каля в. Прудок
9.30 - 9.50 Рух да могілак в. Вялікае Горадна
9.50 - 10.50 Абследаванне і вывучэнне могілак в. Вялікае Горадна
10.50 - 11.20 Пошук гарадзішча каля в. Вялікае Горадна
11.20 - 12.00 Абед, адпачынак
12.00 - 13.00 Абследаванне гарадзішча каля в. Вялікае Горадна
13.00 - 13.30 Выяўленне і даследаванне другога гарадзішча каля в. Вялікае Горадна
13.30 - 15.00 Рух да былой в. Шырнавічы
15.00 - 15.30 Адпачынак, палуднаванне
15.30 - 15.50 Пошук могілак былой в. Шырнавічы
15.50 - 17.00 Абследаванне і вывучэнне могілак в. Шырнавічы
17.05 - 17.45 Рух да г. Крупкі




***Мал. 2. Фрагмент мапы 1772 г.***

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Вёска Вялікае Горадна – адна з самых старажытных на Крупшчыне. Аб засяленні гэтай мясцовасці ў старажытныя часы сведчаць гарадзішчы жалезнага веку, што знаходзяцца каля вёскі, і цяпер не існуючы курганны могільнік каля вясковых могілак (2). Вёска ж упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1517 годам. Менавіта тады, а таксама і ў 1526 г., пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Герберштэйн (мал. 1) праязджаў праз вёску (3). У 1670 г. Горадна Вышняе – сяло Барысаўскага староства, 6 двароў. На мапе "Менскае і Наваградскае ваяводствы" з "Атласа Рэчы Паспалітай" Я.А. Рызі Занноні 1772 г., назва вёскі напісана: "Horodnja" і выразна бачна ўніяцкая царква (мал. 2). У1773 г. у Горадна Верхнім 18 "кунічных двароў". У 1897 г. ў складзе Вялікага Горадна (Вышняга Горадна) 46 двароў, 582 жыхары, хлебазапасны магазін, а таксама хутарскі двор – 6 жыхароў. У 1917 г. ў складзе Вяляціцкай воласці Барысаўскага павета Мінскай губерні. З 1924 г. ў Крупскім раёне. У 1930-я гады вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас "Зорка". У 1941 г. ў вёсцы 79 двароў, 437 жыхароў. На франтах ІІ-й Сусветнай вайны і ў партызанах загінулі 62 чалавека, фашысты знішчылі 17 мірных жыхароў. Вёска была амаль поўнасцю спалена. Зараз вёска ў складзе калгаса імя Кірава. На 01.01.1998 г. 82 гаспадаркі, 210 жыхароў (4).

## МОГІЛКІ ВЁСКІ ВЯЛІКАЕ ГОРАДНА

Могілкі знаходзяцца побач з дарогай і з чатырох бакоў абкапаны ровам. Памеры іх па лініі поўнач-поўдзень – 40 м, а па лініі захад-усход – 60 м. (мал. 3). Могілкі шматканфесійныя: прысутнічаюць пахаванні па каталіцкаму,

РОЎ – 40м ↔



Фота 4. Каменны крыж на могілках в. Вялікае Горадна



Фота 5. Адзін з драўляных крыжоў на могілках в. Вялікае Горадна

Пдз → Пн













УВАХОД

РОЎ – 60м ↕

Больш за 380 надмагільных камянёў.
3 каменных крыжа.
7 выяў: 5 на камянях, 2 на крыжах.

*Мал. 3. План могілак в. Вялікае Горадна*

праваслаўнаму і стараверскаму абрадах. Сярод прозвішчаў найбольш распаўсюджанымі з’яўляюцца Хвашчэўскія, Лучыны, Драніцы.

Пры абследаванні мы налічылі больш за 380 надмагільных камянёў і тры каменныя крыжы вялікіх памераў, а таксама 7 выяваў, з якіх 5 на камянях і 2 на каменных крыжах (мал. 4: а – ж). У тым ліку знойдзены каменны (граніт “рапаківі”) крыж без выявы, памерамі: у вышыню – 75 см, у шырыню – 65 см (фота 4: з), а таксама дзве вялікія каменныя пліты памерамі: 80×50см і 110×60 см. Акрамя каменных крыжоў на могілках ёсць і драўляныя. Адзін з іх дубовы, і на выгляд яму ўжо больш за сто гадоў (фота 5).

Другі крыж (фота 6) маладзейшы за першы, але ён цікавы тым, што да яго гарызантальнай папярочыны, злева, прымацаваны невялічкі драўляны крыжык. Гэта можа азначаць,

Фота 6. Пахаванне маці і дачкі



*Мал. 4. Надмагіллі могілак в. Вялікае Горадна*



а;Б) каталіцкі крыж



В) грэцкі крыж




Г) салярны знак альбо, магчыма, галгофа




Д) салярны знак




Е) варыянт мальтыйскага крыжа




Ж) варыянт каталіцкага крыжа







З) надмагільныя пліты

згодна з народнай традыцыяй, пахаванне ў адной магіле маці і дачкі. Калі б крыжык быў прымацаваны справа гэта б азначала пахаванне маці і сына.

Асобна трэба апісаць дзве выявы на камянях. Першы камень (мал. 4: г) мае надзвычай нестандартныя памеры (шырыня – 50 см, а вышыня – 25 см), што насцярожвае. Выява ж на гэтым камені нагадвае язычніцкі салярны знак (на іншых могілках Крупшчыны нічога падобнага пакуль што не выяўлена). Магчыма, гэты камень – толькі ніжняя частка кампазіцыі. Можна выказаць меркаванне, што верхняй часткай гэтай кампазіцыі мог з'яўляцца каменны крыж з выявай чэрапа (мал. 5). Тады выява на самім камені сімвалізуе Галгофу.



*Мал. 5. Рэканструкцыя надмагілля на могілках в. Вялікае Горадна ў выглядзе каменнага крыжа*

Выява ж на на другім надмагіллі (мал 4: д) ўвогуле ўнікальная (таксама пакуль не мае сабе аналагаў), і што яна азначае – пакуль загадка. Мы мяркуем, што гэта варыяцыя аднаго з язычніцкіх салярных знакаў, які з'яўляецца сімвалам агню ці сонца. Вядома, што "в 1957 году при раскопках в селе Лепесовке археолог М. Тиханова открыла сооружение I – IV веков с жертвенником посередине. Это было святилище – место, где древние славяне… «общались» с богами. Внутри жертвенника находились ритуальные чаши. На широком венчике одной из чаш были изображены двенадцать различных прямоугольных секций, и ни одного одинакового рисунка (мал. 6)...

*Мал. 6. Каляндар з выявай "касых крыжоў" на ляпесаўскай чары*

На трёх рисунках (1, 3, 6) – чёткие косые кресты. Их называют «поганскими крыжами». Это символы огня или солнца. В шестом рисунке косой крест повторен дважды и дополнен волнистой линией – обычным символом воды.” (5).

Прымем гэтую важную інфармацыю да ведама, а менавіта: касыя крыжы ў язычніцкай сімволіцы з’яўляюцца знакамі агню ці сонца. Але, як культ сонца і агню можа быць звязаны з пахавальным абрадам? Вядома, што да прыняцця хрысціянства ў нашых продкаў (і ўвогуле ў індаеўрапейцаў) існаваў абрад “ачышчэння”, калі нябожчыка спальвалі на вогнішчы. Месца пахавання попелу таксама абавязкова “ачышчалася” агнём. Увогуле, жыццё нашы продкі параўноўвалі з рухам сонца: ”В ежедневном движении солнца младенчествующий предок видел целую жизнь живого существа, подобие своей собственной: оно родилось, быстро становилось юношей, затем мужем, исполненным сил, постепенно старело, наконец умирало, скрываясь на западе...” (6).

Культ сонца, як і шматлікія іншыя, працягваў “жыць” і пасля прыняцця хрысціянства нашымі продкамі. А яго рэліктавыя праявы у той ці іншай ступені захаваліся і да нашых дзён. Вось як, напрыклад, святкуюць Вялікдзень у вёсцы Сомры Крупскага раёна. Падрыхтаваўшы ўсе абавязковыя стравы (велікодныя булкі, яйкі, соль і г. д.), іх кладуць на паднос, выходзяць за поўгадзіны да ўзыходу сонца ў двор і ставяць паднос на шулу (цэнтральны слуп звычайнай брамы). Як толькі сонейка ўзышло і кранулася промнямі ежы кажуць, што ўжо свянцонае – можна есці. Аналагіча святкуюць Вялікдзень і ў в. Варанцэвічы Талачынскага раёна (7).

Але вернемся да могілак вёскі Вялікае Горадна. У архіве скаўтаў Малога Палесся захоўваецца легенда: “Чаму ў Горадне Радаўніца ў панядзелак?”, якую паведаміла Драніца Надзея Ўладзіміраўна, 1930 г. н. Ёй слова: “Раней бацюшкі не паспявалі пасіціць ўсе могільнікі. І яны рашылі, што на некаторых могільніках Радаўніца будзе ў панядзелак. Адным з гэткіх могільнікаў стала Вялікае Горадна. Аднойчы жыхары вёскі вырашылі, што яны будуць спраўляць Радаўніцу, як і ўсе, у аўторак, сяроўна бацюшкі няма. Вось і пайшлі яны ў аўторак. Расклалі скацёркі, паставілі свечкі, каб памянуць продкаў. І тут паднялася такая бура, што некаторыя скацёркі занесла так, што іх не маглі знайсці. Усе спужаліся й палічылі, што гэта ім за тое, што пайшлі ў аўторак, а не ў панядзелак. З тае пары жыхары вёскі рашылі, што будуць хадзіць на могілкі ў панядзелак, як ім і казаў бацюшка” (7).

Акрамя могілак вёскі Вялікае Горадна, на іншых могілках Крупшчыны скаўтамі Малога Палесся таксама выяўлены таямнічыя знакі, магчыма, звязаныя з культам сонца (мал. 7). Гэта – могілкі каля вёсак Свірыдаўка (мал. 7: а,б), Кіявец (мал. 7: в), Дакучын і Радзіца (мал. 7: г). Таксама сустракаюцца і спалучэнні хрысціянскага крыжа з сімвалам сонца – в. Калодніца (мал. 7: д) і в. Радзіца (мал. 7: е).



а) в. Сьвірыдаўка



б) в. Сьвірыдаўка



в) в. Кіявец



г) в.в. Дакучын і Радзіца




д) в. Калодніца



е) в. Радзіца

***Мал. 7. Салярныя сімвалы на надмагільных камянях Крупшчыны***



**Фота 7. Схіл гарадзішча каля в. Вялікае Горадна**

### ГАРАДЗІШЧЫ КАЛЯ ВЁСКІ ВЯЛІКАЕ ГОРАДНА

Пасля абследавання могілак мы рушылі на пошукі гарадзішча. Праехаўшы ўздоўж вёскі, напрыканцы звярнулі да ракі Бобр. Схаваўшы ровары, мы пачалі прачосаваць лясны масіў за вёскай і ў хуткім часе ўбачылі стромкі схіл, роў і вал гарадзішча (фота 7). Узрадаванныя мы абыйшлі яго кругом і вырашылі адпачыць. Абедалі на гарадзішчы.

Пасля адпачынку правялі абследаванне. Пляцоўка гарадзішча мае форму трохкутніка, даўжыня 70 м, шырыня 40 м. З заходняга боку па краі пляцоўкі захаваўся дугападобны вал вышынёй 1, 5 м. З поўначы і захаду гарадзішча абнесена ровам. З паўночна – заходняга боку маюцца дзве перамычкі (мал. 8: а). У вырытай скарбашукальнікамі яме мы знайшлі 14 кавалкаў гладкасценнай і з дробнай штрыхоўкай ляпной керамікі, а таксама 1 кавалак ганчарнай. Акрамя керамікі знойдзена 6 кавалкаў шлаку і некалькі кавалкаў драўлянага вугалю.

Прайшоўшы каля 100 метраў на захад, мы ўбачылі другое гарадзішча, крыху меншае памерамі, прамавугольнай формы (мал. 8: б). Яго пляцоўка мае памеры прыблізна 50×35 м. З паўночнага боку ўмацавана валам. З усходняга, заходняга і паўночнага бакоў гарадзішча абнесена ровам. З паўночнага боку ў рове ёсць перамычка. Паўднёвая частка пляцоўкі, ў параўнанні з паўночнай, ніжэй на некалькі метраў.

Скончыўшы даследаванне гарадзішчаў мы рушылі на роварах у адваротным накірунку, да былой вёскі Шырнавічы (выселена ў 30-я гады XX стагодзя).

*Мал. 8. Планы гарадзішчаў каля в. Вялікае Горадна*







**Цяпер на месцы вёскі засталося поле, якое ўсе завуць Шырнаўскім (фота 8).**

*Пра вёску нагадваюць бадай што толькі камяні былых падмуркаў хат, што невялічкімі пагоркамі раскіданы па полі, ды старыя могілкі. А калісці тут буяла жыццё...*



Фота 8. Шырнаўскае поле



Фота 9. Канстанцін Астрожскі

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Вёска Шырнавічы ўпершыню сустракаецца на старонках гістарычных дакументаў пад 1481 годам. Належала яна спачатку пану Юшку (Юрыю) Гойцавічу. Ён завяшчаў сваю "выслугу на вялікім князе Жыгімонце" – маёнтак Рэпухаў з сялом Воўкавічы і даннікамі ў Шырнавічах – жонцы Ганне Даўгірдаўне. Тая пасля яго смерці выйшла за шляхціца Івана Ільініча і ў 1481 годзе падаравала яму спадчыну першага мужа. У 1559 годзе Шырнавічы згадваюцца як уласнасць вялікага князя Жыгімонта III Аўгуста і былі прыпісаны да Аршанскага замка. Па інвентару замкавай воласці ў Шырнавічах на той час было 19 дымоў і 5 служб. На мапе "Менскае і Наваградскае ваяводствы" (мал. 2) назва вёскі па-польску пададзена як: "Tirnowice", а таксама выразна відаць выява ўніяцкай царквы. У 1775 годзе ў вёсцы 26 двароў. Пад уладай Расійскай імперыі ў складзе Копыскага, пазней – Сенненскага паветаў. З 1924 г. у складзе Крупскага раёна. У 1933 г. Шырнавічы, а таксама вёскі Маласаі і Красная Горка, былі выселены з прычыны стварэння на іх месцы вайсковага палігона (8).

Таксама па некаторых звестках вядома, што 28 жніўня 1514 г. на рацэ Бобр, мажліва недалёка ад Шырнавіч, адбыўся бой паміж нашым войскам на чале з гетманам ВКЛ Канстанцінам Астрожскім (фота 9) і маскоўскімі атрадамі, што ўцякалі на ўсход (9). А праз некалькі дзён, 8 верасня, на Крапівенскім полі пад Воршай 30-ці тысячнае войска ВКЛ дазвання разбіла 80-ці тысячную армію маскоўцаў, пабраўшы ў палон іх ваяводаў. Імя Князя Канстанціна Астрожскага ўславіла ўся краіна – ад Вялікага Князя да сялян.

## МОГІЛКІ БЫЛОЙ ВЁСКІ ШЫРНАВІЧЫ

Адпачылі і папалуднавалі мы на прыгожым беразе ракі Бобр, якая ў гэтым месцы (каля былой вёскі Шырнавічы) вельмі маляўнічая і кручастая. Пошук могілак распачынаем прама ад берага ракі, у старым лесе. Праз пэўны час перад намі адкрываецца відовішча могільніка, даўно забытага людзьмі і парошага хмызняком (мал. 9). Сярод лесу ў цішы, пад старымі хвоямі і бярозамі стаяць каменныя крыжы і надмагільныя камяні.

Памеры могілак 60×80 мэтраў. Абследуем увесь могільнік і з жалем бачым нядаўна разрытую магілу, – так званыя "скарбашукальнікі", а насамрэч вандалы-бязбожнікі, ўжо дабраліся і сюды...

Складаем план могільніка, замалёўваем самыя цікавыя камяні і прамалёўваем цікавыя выявы. Усяго мы налічылі 230 надмагільных камянёў і 3 каменных крыжы. Апошнія пахаванні на могілках рабіліся, відаць, яшчэ ў 50-х гадах XX ст., бо ва ўсходняй частцы могільніка знаходзяцца чатыры магілы сучаснага тыпу, на трох з якіх стаяць звычайныя металічныя крыжы, зробленыя з вадаправодных труб і пафарбаваныя ў блакітны колер.

Намі было знойдзена 8 выяў, з якіх 5 – на камянях, а 3 – на каменных крыжах

**Мал. 9. План могілак былой в. Шырнавічы**

Пн
Пдз
60м
80м
1892
Дарога на в. Прудок
Больш за 230 надмагільных каменёў.
3 каменных крыжа.
8 выяў: 5 на камянях, 3 на крыжах.

**Фота 12. Крыж рэдкай формы з Шырнаўскіх могілак**





**Фота 10. Каменны крыж на могілках былой в. Шырнавічы.**

**Фота 11. Завостраны канец лопасці крыжа.**

(мал. 10). Папярочына аднаго з крыжоў на канцах мае завостраную форму (фота 10; 11), што пакуль не мае аналагаў на Крупшчыне. На ім выбіты праваслаўны крыж (мал 10: а), ніжняя касая папярочына якога, як і на іншай выяве (мал. 10: г), памылкова мае нахіл справа налева. Гэта вельмі распаўсюджаная з'ява не толькі на Крупшчыне, але і ва ўсёй Беларусі. Таксама цікавым з'яўляецца і другі каменны крыж (мал. 10: б). Вышыня яго 140 см, шырыня ў перакрыжаванні – 100 см, а таўшчыня – 25 см. Па сваёй форме ён не мае пакуль паўтораў на

Крупшчыне (фота 12). Гэты крыж зроблены з так званага “гнілога каменя” – чырвонага граніту “рапаківі”. Пасярод могільніка ўзвышаецца насып вышынёй каля 60 см і дыяметрам каля 4, 5 метраў вельмі падобны на курган.

Скончыўшы даследаванні, ўзрадаваныя сваімі знаходкамі і адкрыццямі, але ўзрушаныя бязбожнымі ўчынкамі вандалаў, мы прачыталі “Ойча наш” на ўскрайку могілак і пачалі збірацца дадому.

На запыленых і стомленых роварах мы рушым у Крупкі. Вандроўка скончана.




***Мал. 10. Выявы на крыжах і камянях могілак былой в. Шырнавічы***

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ:

1. Пабаль Л.Д. Старажытнасці Крупшчыны // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Крупскага раёна. Мн., 1999. С. 32
2. Пабаль Л.Д. Старажытнасці Крупшчыны // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Крупскага раёна. Мн., 1999. С. 31 – 32
3. Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988. С. 240.
4. Хромчанка Д.М., Чуракова Т.Р. З гісторыі населеных пунктаў // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Крупскага раёна. Мн., 1999. С. 597
5. Драчук В.С. Дорогами тысячелетий. М., 1977. С. 195 – 196
6. Соболев А.Н. Мифология славян. Загробный мир по древнерусским представлениям. СПб., 2000. С. 96
7. Архіў харугвы скаўтаў Малога Палесся (захавальнік Аляхновіч А.П.). Тэчка "Легенды й паданні Крупшчыны"
8. Архіў харугвы скаўтаў Малога Палесся (захавальнік Аляхновіч А.П.). Тэчка "Крупшчына ў часы ВКЛ"
9. Грыцкевіч А. Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. // Спадчына. 1992. №6. С. 4

# У імя догмы

**СПАДЧЫНА** / Мікола ЦЭЛЕШ



*ЦЭЛЕШ (ЦЕЛЕШ) МІКОЛА ЯФІМАВІЧ, (25.06.1900 у в.Зазер'е Бялыніцкага раёну Магілёўскай вобл. – пасьля 1976-?), (псэўд. Марцін (Мартын) Люціч, крыпт. М.Ц.). Беларускі празаік, публіцыст, перакладчык. Скончыў царкоўна-прыхадскую школу ў в. Зазер'е, потым год вучыўся ў вышэйшым народным вучылішчы ў м. Бялынічы, а іспыты па заканчэньні навучаньня здаваў у в. Выдрыца (зараз Крупскі р-н). Бліжэйшыя сваякі жылі у в.в. Матошка, Забянькова і Ухвала, таксама Крупскага раёну. Друкавацца Мікола Цэлеш пачаў у 1929г. Супрацоўнічаў з часопісамі "Полымя рэвалюцыі", "Маладняк", "работніца і калгасніца Беларусі", "Паляўнічы Беларусі", газэтамі "літаратура і мастацтва" і інш. Да вайны выдаў у Менску кнігі "Апавяданні паляўнічага", "Курылка", зборнік апавяданьняў "Знаходка" і інш. Знаходзячыся на эміграцыі друкаваў свае творы ў газэтах "Бацькаўшчына", "Беларус", альманаху твораў беларускіх эміграцыйных пісьменьнікаў "Ля чужых берагоў". У 70-х гадох выехаў на радзіму й ...зьнік на абшарах былога СССР, – некаторыя бачаць у гэтым руку КДБ. Творы Міколы Цэлеша адметныя й запамінальныя, кранаюць сэрца. Асабліва яго апавяданьні – рэалістычныя замалёўкі жыцьця нашага народу ў канцы 20-х і ў 30-я гады. Як піша літаратуразнаўца Лявон Юрэвіч у прадмове да кнігі "Хмары над Бацькаўшчынай" (1995г.): "Мікола Цэлеш быў Сьведкам. Ён бачыў як ідзе запрыгоньваньне сялян, як вытраўляецца з чалавека гаспадар, як плянамерна нішчыцца нацыянальная інтэлігенцыя, як рабуюць і расьцягваюць багацьце зямлі беларускай".*



## У ІМЯ ДОГМЫ

Раскажу я вам, мае сябры, адну гісторыю - лёс аднае сям'і. Гэтая гісторыя кожнаму із вас, можа быць, нагадае не адну такую-ж гісторыю, у якой, так ці інакш, былі закранутыя вашыя блізкія - сваякі або сябры.

Жыў у нас на засьценку чалавек. Жыў сабе проста, гаспадаркі вялікай ня меў: шэсьць дзесяцінаў зямлі, добры конь, са тры каровы, авечкі, сьвіньні ды іншае. Адно, што можна пра яго сказаць як пра гаспадара - быў бязьмерна працавіты, ну, і хлеба не пазычаў, а меў такі-сякі лішак, так што адна дачка ягоная навет і ў гімназыі вучылася.

Раптам (гэта было ў пачатку трыццатых гадоў) заходзіць да яго, і якраз у часе сьняданьня, старшыня сельсавету Хвёдарка Скураток, ведаеце, можа, яго? Да гэтага самага Кастрычніка вясельлі ўсё па вёсках граў, бо на скрыпачцы ўмеў траха пілікаць. А зь ім заходзіць і сакратар партыйнай ячэйкі Янук Бізун, асоба таксама выдатная: картыга, выпівоха, хабарнік; у дзевятнаццатым папоў усё «расстрыгаў». Заходзяць, ні слова ні кажучы, садзяцца. Няёмка нея к Богушу - так звалі таго гаспадара - запрасіць-бы да стала, дык страва занадта штодзённая, яшчэ пакрыўдуюць: «Іш чым частаваць наважыў, куляшом нейкім, быццам яечні няма з чаго ўпячы!» Пачаць рыхтаваць што-якое іншае, дык, можа, сьпяшаюцца куды?

Урэщце Богуш пытаецца:

- У справе якой ці, можа, так сабе наведаць прыйшлі?

- У справе, а як-жа, будзем хадзіць у гэты час «так сабе», - а самі сьмяюцца.

- А ў якой такой справе, калі не сакрэт? - цікавіцца Богуш.

-Ты ня прыкідвайся дурной авечкай! - адказвае больш языкасты Янук. - Табе павінна быць ужо ўсё ведама...

-Бог з вамі! Каб мне было што ведама, дык хіба я пытаўся-б? От крыж, што мне нічога такога ня ведама. Пра што вы кажаце?

-Ты падаткі заплаціў?

А трэба сказаць, што Богуш быў у гэтым вельмі рупны. Бывала, з нас хто-небудзь упрэцца, дык і то Богуш будзе казаць: «Як-жа, падаткі плаціць трэба: і на школу, і на дарогі, і на бальніцы, і на паліцыю (ніяк ня мог прызвычаіцца казаць “міліцыю”), бо паліцыя парадак беражэ...» Якое-ж было яго зьдзіўленьне, калі ён пачуў пра падатак!

-Ці вы жартуеце, ці проста пазьдзеквацца прыйшлі?

-Зусім не жартуем: апісаць тваю гаспадарку прыйшлі!

Тут Богуш сапраўды разгубіўся. Гаспадыня яму шэпча:



«Квіты! Квіты пакажы ім, вунь там за абразамі тырчаць!» А Богуш, як аслупянелы, стаіць сярод хаты. Урэшце пытаецца:

-А паперы ад вышэйшых уладаў у вас ёсьць на тое апісаньне? - думаў, пэўна, спалохаць іх гэтым.

Скураток, праўда, дастаў із свайго брызэнтавага партфэлю паперку й пачаў яе чытаць: «Гаспадарка Богуша Макара, якая ў мінулым выкарыстоўвала наймовую працу і як не плаціўшая падаткаў, пастановай сельсавету апісваецца з мэтай абкладаньня індывідуальным...»

Паклаў паперку ў партфэль й сказаў:

Зразумеў? А цяперака пастаў тутака свой подпіс, і калі не аплоціш гэты індывідуальны да наступнага панядзелка, дык усё тваё будзе сканфіскавана, а сам ты паедзеш туды, дзе Макар ніколі цялят ня пасьвіў... - і гучна зарагатаў.

Якое гора ахапіла ўсю Богушаву сям'ю, калі Скураток із Януком пакінулі хату. Каб у Богуша былі грошы, дык ён, магчыма, тым ці іншым шляхам пакіраваў - бы гэтую справу ў іншы бок. А то ў кішэні ў чалавека нічога: адно чырвонец нейдзе валяўся, які некалі прыслала дачка Раінка. Прадаць што-колечы, дык дзе-ж патрапіш у гэтакі кароткі час, дый што прадасі на гэтакія вялікія грошы?

Страшэнная ноч была тая для Богушавых. Сынок Юльяш, такі здатны хлапчук, каб нічога ня чуць і ня бачыць, закруціўся ў коўдру, трасецца ды плача. Раптам - грукат у шыбу. Тут усе й памлелі. А маці стала на калені, склала рукі на грудзях ды моліцца:

- Ойча, зь неба Божа, ізжалься над намі!..

І тады толькі падышла да вакна. Бразгат паўтарыўся.

- Каго там Бог нясе?

- Свае, адчыніце!

Якая радасьць ахапіла ўсіх, пачуўшы голас Зенькі. Юльяш выскачыў з-пад коўдры, пабег адчыняць. З грукатам адсунуў засаўку.

- Заходзьце, дзядзька Зенька!

Празь сьветлую пляму адчыненых дзьвярэй у хату ўсунулася няскладная постаць Зенькі.

- Што гэта вы сёньня гэтак рана замкнуліся?

Гаспадыня зараз-жа залемантавала:

- Зенечка, родненькі, скажы, што на сьвеце чуваць? Усё-ткі ты больш за нас мусіш ведаць! (У Зенькавай хаце за пераборкай была канцылярыя таго сельсавету).

- Ды нічога добрага! - пачаў той. - Адно зьдзекі з народу нашага: былі нацдэмы - вучняў забіралі ў турмы, а цяперака кулакі - высылкі ў сібірскую немарач...

Раптам з палацяў пачуўся крык Богуша ды такі страшэнны, вяр'яцкі нейкі, што ўсе ў хаце аж памлелі.

-Гэта яны... гэта яны... ідуць... ідуць!..

-Богуш! Богуш, апамятайся! - паклікала ўстрывожаная гаспадыня.

Богуш прачнуўся, сеў на палацях і, азіраючыся, загаманіў ужо спакайней.

- О ты, Божа! Сон... ды такі страшны! Ніколі, здаецца, такога страшнага ня сьніў. Здаецца, я адзін у полі. І чорная, чорная хмара завісла пад небам. І здаецца, крукі круцяцца, круцяцца нада мной...

Сотні іх! Ага, сотні! А я галодны й зусім зьнясілены, навет кропелькі вады ня было ў роце... І ледзьве дыхаю я. А яны ўсё круцяцца, круцяцца ды ўсё бліжай, бліжай! А ў мяне голыя рукі. І зь кіпцюрамі, усё зь кіпцюрамі да мяне! А вочы іхныя прагныя, крывяжэрныя! Божа ты мой! Я ўсё вочы плюшчу, плюшчу, каб ня дацца ім. Хочу махнуць рукою, рука не паварочваецца, крыкнуць - язык анямеў, так аслаб, мусіць, я! А яны ўжо і да вачэй дабіраюцца - выдзяўбці мне вочы хочуць!..

- Крукі, кажаш? - пытаецца Богушыха.

- Ага, крукі! - адказвае, усё яшчэ пад уплывам сну, гаспадар.

- Крукі - то нашы ворагі, - заключае гаспадыня. - То яны круцяцца над намі... Хочуць нашае крыві! Сьвятая царыца маці, выратуй нас!

- Што вырабляюць?! - раптам заўважае Зенька. - Надысь дык завязалі дзьверы знадворку ў хаце Міхалкі, каб ня мог даць па галаве - ведаеце Міхалкаў нораў, - ды вывелі карову, быццам ён падатак не заплаціў... А ўчора дык у Аўдолі кублы трасьлі, і што там трэсьці ў яе, каб іх трасца трэсла! Бачыце, бедная ўдава адгукнулася пра калгасы нядобра!?

- Няўжо пра гэта дзе-небудзь вышэй ня ведаюць?

- Мо' й ведаюць - адна хэўра!

- Зладзюга Янук усім гэтым верхаводзіць. Выгадавала маці сынка на гора людское! Тады, як яшчэ падлеткам быў ды сала ўкраў у Аўдолі, каб выдалі ўладзе, дык мо' цяпер людзі дзякуй сказалі-б...

- Здаецца, і да вас сёньня ўраньні заходзілі? - цікавіцца Зенька.

Богушыха пацьвердзіла, што заходзілі, - Янук і Хвёдарка.

Тады Зенька пачаў апавядаць, як, вярнуўшыся ад Богушавых і паклікаўшы з крамы спажывецкага таварыства Гарэліка - трэцяга члена бюро ячэйкі, яны пра неважна доўга спрачаліся. Пра што была гутарка, праз пераборку ня ўцяміць, але Янук усё крычаў на Хвёдарку: «Што ты зь імі цацкаешся!? Дырэктыва партыі... Правая палітыка... Ліквідаваць як клясу...» Якая тутака правая палітыка, калі яна зусім ня правая! - еканчыў Зенька. - Па-мойму, дык яна хвальшывая!

- Тваёй абароне аддаемся, сьвятая Божая Маці, - шаптала Богушыха ў кутку каля ложка.

- І гэтак штовечар: гавораць, гавораць... - працягвае Зенька. - І як языкі не забаляць?

- Дык-жа за гэта грошы маюць! - устаўляе Богушыха.

- Пра адно буду прасіць цябе, Зенька, - умяшаўся ўрэшце Богуш. - Калі што-якое здарыцца із намі, дык паведамі Раінку, - усё-ткі настаўніца яна, можа, хоць дзяцей выратуе!

- А я вам скажу: людзі самі ў пекла лезуць, - разважае Зенька. - Гэта, як я ўспамінаю, пачалося ад тае першае пачкі, што папісаліся ў гэты самы хаўрус. Было іх няшмат - усяго дзевяць чалавек на сельсавет, але імі цяпер казыраюць, хоць і есьці ў іх няма чаго. «Народ, маўляў, прэ-эць у калгасы!» Ну, а хіба захочуць запытацца ў кожнага па добрай волі? Іхная-ж тут карысьць: будуць сядзець на карку агулу ды гарэлку смактаць...

Зенька пайшоў, а тое, што ён сказаў, яшчэ доўга мянтэжыла Богушавых.

- Я так і ведаў, што ўсё гэта Янук капае на нас, - заўважыў Богуш.

- Ня дай, Божа, сьвіньні рогі! - зірнуў праз вакно на вуліцу, дзе нехта прайшоў з цыгаркай.

- Проста ўтварылася хэўра злачынцаў і зьдзекваюцца зь людзей...

- Схадзіў-бы ты да Сукеніка, усё-ткі ён начальнік тутака, у павеце.
- Няма цяперака ніякіх паветаў, - запярэчыў Богуш.
- Раёны ўсюды.
- Ну, дык у раён. Мо'яшчэ не забыўся, як і мы ня цураліся яго.
- Так ісьці няма чаго: трэба ўсё гэта на паперы выкласьці.
- Можа Юльяш змог-бы?
-Не пад сілу яму яшчэ! Раіна - тая магла-б. Але пакуль да яе дабярэшся...
Наважылі: заўтра ўраньні ісьці да Мікітавага сына, вучня сярэдняй школы, ды прасіць, каб ён склаў заяву, а тады ўжо ў тэй раён, можа, яшчэ пасьпеем добра надзерці нос гэтаму зладзюгу Януку! Разважыўшы гэтак, яны нават крыху павесялелі. Але назаўтрае ўраньні па засьценку разьнесьліся чуткі, што на вуліцы, каля былой карчмы, ляжыць няжывы Хвёдарка Скураток. Да Богушавых першай прыбегла із гэтай навінай тая-ж Аўдоля Бабок.
- А вы тутака сядзіцё й нічога ня бачыце й ня чуеце: гэта-ж Скураток няжывым пад плотам знойдзены!
Богуш спачатку неяк нібы ўзрадаваўся, а потым падумаў: ото ліха! Яшчэ да мяне прычэпяцца!
Тым часам пайшлі паглядзець: праўда, ляжыць у гразі, рукі раскінуў, быццам лёг адпачыць пасьля цяжкое працы. Нагой упёрся ў плот, і ў кулаку корак ад бутэлькі з гарэлкай трымае.
На целе Скуратка ня было нічога такога, што паказвала-б на сьмерць ад забойства ці іншага якога-колечы гвалту, тым ня менш, прыехаў унезабаве прадстаўнік ДПУ з карагодум міліцыянэраў і з вышуковым сабакам і распачаў вышук. Зэфір абнюхаў Хвёдаркаву куртку, лізнуў ягоны пасінелы твар, якраз каля самага роту, зь якога яшчэ сьмярдзела гарай, брахнуў разы са два ды, адбегшыся крокаў на колькі, падняў нагу на плот.
- Расьпісаўся! - заўважыў нехта з натоўпу праз агульны рогат.
Прыехаў на райкомаўскай машыне й Сукенік, а ўнезабаве й пракурор. Прывезьлі із сабой і спэцкора ад цэнтральнай газэты. Спачатку яны цікавіліся толькі справай Скуратка, але хутка пачалі «выкрываць» злосных неплацельшчыкаў падаткаў, кулакоў і іншых парушальнікаў савецкіх парадкаў. А назаўтрае ў газэце зьявілася цэлая бачына, прысьвечаная «барацзьбіту за лепшую будучыню чалавецтва, Хвёдарку Скуратку, загінуўшаму ад рук кулакоў і іхнае агентуры на сваім пасту...»
- Божа мой, колькі нагаворана! - заўважыў настаўнік нашае школы. - Калі ён і быў барацьбітом, дык толькі за бутэльку гары...
Нататка канчалася: «Мы ведаем, хто зрабіў гэтую справу! Мы ведаем і натхніцеляў забойства, тых, хто сунуў зброю ў рукі забойцы! Сьмерць кулакам і іхным агентам - беларускім нацдэмам!»
- Во і зброя ўжо найшлася!
- А ты думаў як?
- Акалеў чалавек пад плотам, хапіўшы празь меру...
-Акалеў ці не акалеў, але цяперака, браце, пільнуйся!
Але Богуш іначай думаў: дзякуй Богу, займуцца гэтай бруднай справай, дык мо' й пра нас забудуць. Толькі ўспамінак пра беларускіх нацдэмаў дужа яго непакоіў: шмат знаёмых дачкі Раіны яшчэ раней пазабіралі як нацдэмаў. Ды яна й сама пісала некалі вершыкі. «Патрэбны ёй гэтыя

цыдулькі!? Ня той час, каб песьні пяяць! Дзе ейныя гэтыя сшыткі?» Адчыніў сундучок, дзе яшчэ хаваліся студэнцкія працы Раіны. Пажоўклыя бачыны сшытка, перакладзеныя сухімі галінкамі незабудак, бэзу і іншых кветак, якія нагадвалі-б Раіне не адну вясну ейнага жыцьця, дрыжэлі ў нязграбных руках усхваляванага хлебароба. «Адны толькі прыкрасьці ад гэтых вершыкаў! Вунь колькі людзей пазабіралі!» Асцярожна згарнуў сшыткі да купы і нейдзе схаваў, падалей ад вачэй людскіх.

Водгук настаўніка аб Скуратку дайшоў і да Богушавых. Богушыха сказала:

-Пагаманіў-бы ты, стары, з настаўнікам! Усё-ткі ён адукаваны ды з Раінай некалі сябраваў...

Калі сьцямнела. Богуш па агародах дабраўся да школы і ціха пастукаў пальцам па шыбе. Настаўнік адхіліў фіранку й пазнаў Богуша.

- Заходзьце! - кіўнуў галавой. Выйшаў у калідор адчыніць дзьверы.

- Што вас прыгнала так позна да мяне?

Богуш убачыў крэсла й сеў - дух занімала ў яго.

- Скажыце, што-ж гэта робіцца? - і пачаў апавядаць сваю бяду.

- Можаце не казаць - усё ведама...

- Але што-ж гэта такое? Дзеля чаго? Зь якой мэтай?

Настаўнік прайшоўся па пакою, стаў перад Богушам, паклаўшы рукі ў кішэні. Задумаўся.

- Я баюся, што вы мяне не зразумееце, - заўважыў.

- Пастараюся. Кажыце!

- Перш-наперш: што гэта такое? Тэрор! Зьдзек прайдзісьветаў з сумленных людзей. Другое: дзеля чаго? Каб умацаваць сваё хісткае становішча, бо апынуліся у сьляпым завулку...

- Для мяне не зразумела, як можна ўмацаваць сваё становішча, рабуючы народ?

- Справа вось у чым: існуе догма, што сацыялізм, а тым больш камунізм, адкідае ўсялякую хворму прыватнай уласнасьці. Усё павінна бьць нічыім, агульным...

- Не разумею! Як гэта нічыім, агульным!? Нехта-ж мусіць сачыць за парадкам. Раскрадуць! І хто-ж тады стане дбаць пра што-кольвек, калі ўсё нічыё?

- От-жа гэтыя самыя Хвёдаркі ды Янукі...

- Дык-жа ня будзе чаго ўжо рабаваць!

- А цяпер дзеля якой мэты? Бачыце, гэтую догму выпрацаваў Карла Маркс...

- Каб ён здох той Макс...

- Ды ён ужо даўно ў магіле, - усьміхнуўся настаўнік. - Але паводле гэтае догмы, сацыялізм і камунізм прышчэпяцца толькі у высака індустрыяльных краінах...

- Разумею...

- Дзе амаль усе людзі работнікі, а ня ўласьнікі. Тым часам, Расея ня ёсьць высака індустрыяльная, а якраз адсталая. Вось-жа ў імя гэтае догмы й робіцца ўсё гэта: перш-наперш, адабраць у людзей усякую ўласнасьць, заняволіць іх і панаваць, бо іначай трэба адмовіцца ад улады...

- Улада, праўда, спакушае, і чым больш улады, тым больш зла... І я цяпер бачу, што усё тое, што гаварылася раней і гаворыцца цяпер ад імя савецкае ўлады, ёсьць проста брахня, ашуканства!

- Як хочаце назавіце...

- Але ў мяне тутака іншае пытаньне: людзі ўсьцяж гарнуліся ад горшага да лепшага, а цяпер,

выходзіць, наадварот, трэба гарнуцца ад лепшага да горшага... Канец сьвету надыходзіць, ці што?!

Настаўнік быў даўно пад падозраньнем, і пасьля справы Скуратка яго арыштавалі. Але Богуша, як ён і меркаваў, ня краталі. Ён ужо й зусім павесялеў. «От, дзякаваць Богу, як той казаў: бяз зла ня бывае дабра...»

І раптам прыбегла ад Зенькі дзяўчына.

- Тата казаў, каб вы ведалі...

Гаспадар і гаспадыня кінуліся тое-сёе хаваць, але было ўжо запозна: каля дзьвярэй зьявіліся Янук, Юзік і сам Сукенік, галава раёну.

- Ну, усё скончана! - толькі і мог вымавіць Богуш.

Ідуць вязаць! І бязуладна апусьціўся на лаўку. Раптам пацягнуўся рукой да сякеры, якая тырчэла перад вачыма за лаўкай. «Я-ж вас, нягоднікаў!» - прамовіў, сашчэрыўшы зубы. Богушыха да яго:

- Ня губі дзяцей! Ня губі дзяцей! - і засланіла сабой сякеру.

Богуш застагнаў, пазіраючы наўкола. Калі ў хату ўвайшлі ўсе ўтрох, Богушыха заўважыла:

- Дзяжу падымаў мой стары, дык засопся... Сукенік, як стары знаёмы (раней скупляў па вёсках лён, ільняное семя, шчаціньне, цынічна прамовіў:

- Ну, як маешся, старэча? (Добра ўмеў размаўляць па-нашаму).

- Якая справа вас прынесла да нас? - не хаваючы злосьці, з натугай прамовіў Богуш.

-Усялякія справы бываюць - і прыемныя й няпрыемныя, - адказаў лагодна, - Так ужо павялося на сьвеце... Але трэба-ж неяк жыць!? Цяпер у нас справа няпрыемная...

Адчыніў свой тоўсты партфэль і пачаў павольна заstругваць аловак. Потым паклаў на стол аркуш паперы. Убачыў на шасьце вязанкі цыбулі й давай гаманіць пра цыбулю. «Якая яна ў вас добрая! І дзе яна такая расла? Цяпер на рынку нічога ня купіш, хоць зубы кладзі на паліцу. Як ты думаеш, Макар, хто ў гэтым павінен?» Янук і Юзік рагаталі. «Ну, досыць! На басьнях далека не заедзеш». І пачаў чытаць паперу, водзячы алоўкам па радкох. У ёй і быў лес Богушавых. Цэлая куча розных злачынстваў, пра якія Богуш, каб не пачуў ад Сукеніка, так і ня ведаў-бы аж да самай сьмерці. Пасьля, спаслаўшыся на рэзалюцыі пленумаў і зьездаў, заключыў:

- Пазбаўляецца ўсяе маёмасьці... Падлягае высылцы.- Дазваляецца ўзяць із сабой толькі тое, што можна панесьці з сваёй сям'ёй...

Богуш, зьбялелы, цяжка дыхаючы, сядзеў нярухома. Юльяш і Агатка ўголас заплакалі.

- А дзеткі, а родныя, а нашто-ж я вас парадзіла! - залемантавала Богушыха.

І тады раптам Богуш зноў ірвануўся да сякеры, але Янук загарадзіў яму дарогу.

- Куды, шалапут!

Некаторы час Богуш глядзеў на яго налітымі крывёй вачыма. Але пасьля неяк скурчыўся, зьмізарнеў і асеў...

***

Зенька ўсё падрыхтаваў. Як толькі зьявіўся Юльяш, яны селі й паехалі... За засьценкам адразу пачынаўся лес. У ім было так ціха й прыгожа! Мяккі сьнег камамі ляжаў на лапніку хвояў і

лашчыў позірк. Але на сэрцы дзіцяці быў смутак: мо' ў гэты час памірае бацька? Мо' яго забівае Янук? Мо' над заплаканай маці стаіць з палкай Юзік? Мо' ужо і Агатку забіваюць? Хай-бы лепш заставаўся пры іх! Хай-бы ўсіх разам, калі гэтакі наш лёс! Хай бяз лішніх мукаў - у адну магілу! А Раіна-б паплакала... паплакала... ды нічога... было-б лягчэй, чым бачыць сваімі вачыма... А потым і забылася-б... забылася-б...

- Та-та! Ма-ма, дзе вы? - вырвалася раптам у малога скрозь сон.

- Але-ж трэба паведаміць Раіну, - сказаў Зенька.

- Ты, можа, хочаш заснуць? Дык загарніся ў кажух ды сьпі!

Раіна яшчэ ня спала. Сэрцам чула бяду: хадзіла па пакоі, хвалявалася, журбавала. «Як яны там цяперака? У газэтах усё пішуць аб наступе на прыватны сэктар у вёсцы, аб беларускіх нацдэмах, аб апартуністых, левых і правых, трацкістых, прышчэпаўцах... Дзе падзеліся тыя гэроі, што рабілі рэвалюцыю? Толькі адзін ён - ён нягрэшны, сьвяты, чысты, як дыямэнт; ён усё ведае, усё прадбачвае, а ўсе іншыя, увесь народ - гэта нішто, авечкі, быдла... Як-жа тады жыць? Як жыць, калі няма пра што думаць, калі ён за ўсіх думае, а ты ня маеш правоў думаць, і для цябе гэта рызыкоўна: табе толькі застаецца ўсё насіць ў сваім сэрцы, пакутваць, хвалявацца, мучыцца за ўсё і за ўсіх, блізкіх і далёкіх, за ўсіх, за ўсіх!.. Божачкі, як гэта ўсё цяжка, здаецца, лепш памерці-б, адысьці, куды ўсе ўрэшце адыходзяць... От толькі іх, іх бясконца шкада... бясконца... Яны клапаціліся. Яны думалі даць мне добрую будучыню, рупіліся, дбалі, а цяпер? А цяпер яны для мяне - стрэмка ў сэрцы! Калі зь імі, ня дай Божа, што-небудзь... лепш заплюшчыць... заплюшчыць вочы назаўсёды... Ён - упыр! Крывяжэрная пачвара...» Зірнула на ягоны партрэт. «Божачкі. Божачкі, што я кажу? Гэта- ж, гэта-ж, Божа мой!» Падышла да вакна, прыслухалася, хоць добра ведала, што не прамовіла ніводнага гуку, а толькі размаўляла із сваім сэрцам. «Але-ж ці яны кулакі? Божачкі, Божачкі, як страшна стала жыць!..»

За вакном быццам-бы зарыпеў пад нейчымі нагамі сьнег. Устрапянулася ўсім целам, прынатужыла слых, замерла. Але-ж ніхто і нічога пачуць ня мог, бо нічога ня было прамоўлена. А калі возьмуць... Скажаш і тое, чаго ніколі ня было... ня было сказана й ня было зроблена. Адчула холад па ўсёй сьпіне. Намерылася пайсьці ўзяць хустку, прыкрыцца ёю. І ў гэты час пачула нейкі шорах за вакном. Мабыць, вецер. Гэтак часта бывае: шорах ветру за вакном у стрэхах прымеш за рух жывой істоты, калі напружаны нэрвы. Але цяпер ужо выразна пачуліся крокі. Страх зноў скаваў усю істоту, і адначасна нібы радасьць мільганула ў душы, што нехта жывы ёсьць паблізу, што яна не адна і калі што, дык усё-ж такі... усё-ж такі нехта жывы!.. Прыклалася да сьцяны вухам і ў той-жа час пачула голас Юльяша:

- Раіна, адчыні!

«Юльяш, чаму? - падумала. - І чаму так позна? Пэўна, здалося ад напружаньня нэрваў». Але зноў пачулася:

- Раіна, Раіна, адчыні!

Трызьніцца! Трызьніцца, да чаго дайшла! Хапілася за галаву й пачала церці скроні, але зноў, ужо гучней:

- Ты ня сьпіш. Раіна. Праз шчыліны ў вакяніцы відаць сьвятло з твайго пакою. Адчыні, гэта я, Юльяш...

І ён уголас заплакаў. І тады Раіна з усёй сілы кінулася да дзьвярэй, штурханула далоньню засаўку і адчыніла зусім напята дзьверы. Выскачыла на ганак, абхапіла Юльяша за шыю, прыліпла да яго і пачала абсыпаць сястрычнымі пацалункамі.
- Што здарылася? Што здарылася? - сьпяшалася хутчэй дазнацца.
- А нічога, - няўпэўнена, сьціраючы з вачэй сьлёзы і кідаючы позіркам на Зеньку, казаў Юльяш.
Гэта яе на нейкі мамэнт як-бы супакоіла. Пачала сьцягваць зь Юльяша сьвітку. Меркавала: пэўна, выпадкова, куды-небудзь едучы... Можа, па доктара ці за лекамі якімі, бо там-жа ў іх нічога ня знойдзеш. Павесіла вопратку, потым зноў:
- Не, вы хлусіце! Скажыце, вы хлусіце? Нешта здарылася? Па доктара едзеце? Ага, маўчыцё! – і гістэрычна, скрозь сьлёзы, засьмяялася.
Юльяш закрыў далонямі твар і зачмыхаў носам, нямаючы сілы паўстрымацца. Тады загаласіла і Раіна.
- Я ведаю, нешта здарылася. Цяжкое, надзвычайнае. Мабыць, у сувязі з забойствам Скуратка? (Яна ўжо ведала пра гэта з газэтаў). Божа, што ў вас там робіцца?
Разгублена замітусілася па пакою.
- Зь якім забойствам? - адказаў Зенька. - Хто яго тамака забіваў? Проста акалеў п’янюга пад плотам, перабраўшы меру.
Ён сьпяшаўся расказаць:
- Увесь вечар утрох: Скураток, Юзік і Янук пілі ў мяне за перагародкай. Пасьля выйшлі ўсе, абняўшыся. Ну, і паваліўся і акалеў на марозе...
- Божа, Божа, і чаму ў вас гэтакае здарылася? Цяпер вас не пашкадуюць... Прычэпяцца...
- Ды яно так, абы прычапка...
- Забралі каго... у вязьніцу?
- Забралі - не забралі, проста зганяюць зь мейсца, а куды - невядома.
- Ага, высылаюць, значыць!
Зенька маўчаў. Юльяш зноў загаласіў. Раіна прытулілася да яго, пытаючыся:
- Юльяш, браток, скажы праўду: тату й маму высылаюць?
Юльяш хацеў нешта сказаць, але ня мог, кіўнуў толькі галавой. Раіна зьбялела і абамлелая павалілася на падлогу. Зенька падскочыў да яе, пачаў пляскаць па шчоках. Загадаў Юльяшу зачэрпнуць вады. Пачаў пырскаць ёй на твар. Потым пасадзіў яе на крэсла, падтрымліваючы, каб не павалілася зноў.
- Глыні крыху вады!
Паднёс да роту крынку і гвалтам уліў ёй глыток вільгаці. Цяжка дыхаючы, Раіна адплюшчыла вочы.
- Каб колькі кропляў валяр’янкі!
Паказала рукой на столік.
Пасьля кропель адчула сябе лепей.
- Трымайся, дзяўчына! - сказаў Зенька. - Цяпер такі час, што ў кожнага што-небудзь няладна! А ты мусіш выратаваць дзяцей - безь цябе загінуць! Не маленькая, разумееш! Вазьмі сваё сэрца ў кулак і скажы яму, каб яно маўчала. Людзей цяпер не шкадуюць. Іх валяць, як той лес! Хочаш - ня

хочаш, кладзіся пад сякеру! Газэта табе гэтага ня скажа, але ўсе добра ведаюць гэта. Ці ты чытала што-кольвек пра Матошку? Зь дзевятнаццаці двароў застаўся цэлым толькі адзін: васямнаццаць вылюднены, павысланы, зьнішчаны. І старых і малых - усіх разам! Трымайся, ты мусіш выратаваць Юльяша і Агатку. Толькі ты адна можаш гэта зрабіць. Той, ад каго гэта залежа, і ў вус не падзьме, як яны будуць замярзаць...
- Мамачка, татачка, што-ж із вамі будзе?
- Трымайся, дзяўчо! Апраніся цяплей, мы едзем, бо час не чакае. Не паедзеш-жа так, як стаіш?
- Маё сэрца чула... Мае сэрца чула... - стагнала, апранаючыся.
- Ды, калі праўду казаць, і нам тутака, хто застанецца, ня соладка будзе. У калгас загоняць. Зямлю і ўсё дабро адбяруць. І будуць сядзець на шыі розныя Скураткі, Юзікі ды Сукенікі, як тыя вошы!.. Ім што? Такі цяпер сьвет пайшоў... Я просты чалавек, газэтаў ня чытаю, але бачу, пакоцяцца гэныя парадкі па ўсяму сьвету...
Па дарозе Раіна ўвесь час паўтарала:
- А ці мама хоць цёпла надзелася? А ці ім дадуць што-небудзь узяць ізь ежы? Ці ім сказалі, куды іх павязуць?
- Куды? Ясна куды, у Сыбэрыю тую – угноена яна чалавечымі касьцямі за сотню з гакам год!- А родненькія мае! А даражэнькія! А ці ўбачу я вас яшчэ калі? А мамачка! А татачка!

Як толькі Юльяш пакінуў хату, пабегшы да Зенькі, пачаўся ўзаконены вышэйшымі савецкімі ўладамі працэс рабаваньня, які афіцыйна называўся раскулачваньнем. Перш-наперш на сярэдзіну хаты выцягнулі куфар гаспадыні. Усё, што было ў ім, апынулася на падлозе. Трубкі палатна кужэльнага, белага, як сьнег, - праца рук Богушыхі, - вышываныя ручнікі, бялізна, верхняя вопратка... Новыя, яшчэ не апранатыя кажухі і суконныя каштоўныя рэчы былі адкладзены асобна, мабыць, для сябе. Грошы, якія гаспадыня ўзяла за ягады, што назьбірала ўлетку Агатка, аднекуль высыпаліся на падлогу. Янук і Сукенік не паўстрымаліся, каб не пазьбіраць іх у свае кішэні. Пасьля ўзяліся за гаспадароў сундучок. Калі ўзьнялі вечка, на дне, сярод усякае дробязі, убачылі невялікі плецены кошык. Адчынілі: ляжалі шматкі рознай матэрыі, напарсткі, нажнічкі, эпалеты з двума «лычкамі» (рэліквія з часоў Богушавае службы ў войску), а на самым нізе, беражна загорнуты ў эластычную паперу, партрэт гаспадара й гаспадыні, як яны стаялі пад вянцом. Сукенік усьміхнуўся, а Янук брыдка вылаяўся і кінуў картку пад ногі. Але два срэбныя пярсьцёнкі і два такіх самых крыжыкі, за якія тое-сёе можна было набыць у «Таргсіне», падзялілі паміж сабой...
Пакуль Янук і Сукенік «гаспадарылі» ў хаце, трымаючы здранцьвелага Богуша і амаль ужо няпрытомную Богушыху за пераборкай, каб яны ня бачылі, што робіцца зь іхнай працай, Юзік гаспадарыў у каморцы, дзе стаяла ў кубельцы сала, віселі пад стольлю шынкі й каўбасы, і ў слоіках ды макітрах ляжала масла ды сыры. Твар ягоны быў ужо ў тлушчах, а пальцы й рукавы сьвіткі ў сьмятане. Калі Сукенік і Янук заглянулі ў каморку, ён зайздрасна прасіпеў:
- Ежце! Ежце, ліханька! Поўны кубелец сала - ды якое!? Панюхайце толькі!
Зарагатаў, абціраючы аб валасы рукі.
- Ото была-б масьленіца для Хвёдаркі, каб быў жыў..
Усіх выгнанцаў гуртам пагналі да чыгункі для пагрузкі на цягнік. Але вагонаў яшчэ ня было.

Начальнік канвою, камандзір войскаў ДПУ, у новенькай, зь іголачкі, хворме, загадаў фурманкам стаць шнурам каля прысадаў станцыі. Некалькі чырвонаармейцаў, таксама з войскаў ДПУ, у цёплых шапках і новенькіх валёнках і кажухох, з аутаматамі за плячыма, шпацыравалі ўзад і ўперад па шнуру. Для разьвітаньня з выгнанцамі іхным сваяком і знаёмым начальнік канвою «вялікадушна» дазволіў гадзіну.

Вазок Богушавых стаяў першым ад краю. Раіна і Юльяш убачылі яго адразу. Накрытая кажухом Богушыха ляжала, а ля яе, маленькім камочкам, Агатка. Дзіця было прастуджана, у грудзях у яе хрыпела, яна кашляла, час ад часу падымала галоўку і хныкала. Быў чуваць плач і іншых дзяцей. Здавалася дзіўным і незразумелым нават для нашага народу, бачыўшага ня раз гора, як гэта можна выгнаць гуртам усіх з хат бяз жадных повадаў і прычын і гнаць іх, наўсуперак іхным жаданьням, некуды на край сьвету, на голад, холад і павольную сьмерць!?

Богуш ні то сядзеў, ні то ляжаў у перадку вазка, час ад часу мацаючы вусы й бараду і скідаючы зь іх смочкі намёрзшага лёду. Быў спакойны. Убачыўшы Раіну і Юльяша, узварухнуўся, але ня было відаць, каб занепакоіўся. Ня стаў ні пра што распытваць, толькі заўважыў, што забыўся спусьціць із ланцуга Бобіка - бедны, пэўна, сядзіць ды вые!..

- Ты, Раіна, аддай яго якому-небудзь добраму гаспадару - Бобік верны сябра!

У ціхай роспачы Раіна нахілілася да ягонага твару, падстаўляючы свой лоб для бацькаўскага пацалунку.

- Ну, што-ж, усё скончана, і няма пра што гаманіць...

- Ня трэба, тата, пасядзім моўчкі.

- Вось што я хочу сказаць толькі: ня ворагі мы, а хлеборобы! З таго, што зараз надумана там, навярху, нічога добрага ня выйдзе! Праца й толькі карысная й разумная праца робіць чалавека шчасьлівым і здаровым! Але праца ня з прымусу, а па сваей добрай волі, тая, што ідзе ад свайго ўласнага нутра. Кожны чалавек - сам па сабе: і па працы, і па вопрацы, і па гамонцы, і па розуму, і навет па тым, як ён ідзе, што есьць, як сьпіць... Самая маленькая дробязь і тая будзе рабіцца адным гэтак, а другім іначай. На фабрыцы, у войску й то кожны работнік і кожны вой розныя... А тут хочуць зрабіць вялікую гаспадарку, дзе раней працавала па адзіночцы сотня або тысяча людзей, і каб усім было пароўну, і каб ніхто ня быў пакрыўджаны, і каб быў добры посьпех у працы?! Перамелюць народ, дый годзе! Доўга думаў я над гэтым! Той наш нацдэм Прышчэпа разумна разважаў: «Што-ж, кожная сям'я гаспадара ёсьць калгас. Неразумна ламаць сем'і, заганяючы іх у адзін вялікі калгас». А гэтыя; камісары - проста хэўра галадранцаў, злачынцаў ды людзей, якія не разумеюць нас, хлебаробаў, або проста хочуць пажывіцца з нашае працы, атрымаўшы пасады ў калгасах.

- Дзеткі мае! - адгукнулася аслаблым голасам Богушыха. - Як-жа вы цяперацькі будзеце безь мяне?

- Мама, ня трэба! І так разрываецца сэрца! Можа, як- небудзь скончыцца гэтае ліха, і зноў будзем разам...

- Будзем, будзем! Усе апынімся некалі там, заўважыў Богуш. - Але там ужо ня трэ' будзе думаць ні пра што...

Вагонаў усё не падавалі. Адціснутыя ахоўнікамі ад фурманак сваякі і знаёмыя, што прыйшлі ў астатні раз сказаць свае шчырае «бывайте!», стаялі групкамі наводдаль. Маўчалі. Усіх гнебіла адна




й тая-ж думка, адна й тая-ж цяжкая роспач, скруха.

- Сэрца разрываецца! - стагналі некаторыя.

- Сэрца разрываецца! Хай-бы лепш усім нам праваліцца ў якое прадоньне!

Зенька не выпускаў із зубоў піпкі, ціснуў яе зубамі, грыз, пыхкаў ёю, хоць у ёй ужо нічога й ня было.

Раіса глытала гарачыя сьлёзы.

Юльяш і Агатка учапіліся ў крысо ейнага кажушка, быццам баючыся, што яна ад іх уцячэць,- дрыжэлі, сморгалі прастуджанымі насамі; усхліпвалі, калі да іхнае сьведамасьці даходзіў трагізм з бацькамі...

Было ўжо блізка раніцы, калі, стукаючы буфарамі, паравік падсунуў да станцыі чараду пустых таваровых вагонаў.

Ахоўнікі ўзялі стрэльбы напагатоў, і пачулася сухая каманда:

- Уставаць! Пакідаць вазы! Станавіцца па тры – мужчыны асобна, жанчыны асобна! Малых брацць жанчынам! Фурманам апекавацца коньмі! Гатова?

- Гатова!

Маўклівай, прыгнебенай, зьнясіленай масай людзі заварушыліся і пасунуліся ў напрамку да вагонаў, ахопленыя з усіх бакоў вартай. Сьнег рыпеў і енчыў пад іхнымі нагамі... І ў гэты мамэнт аднекуль зь цемры пачуўся страшэнны й надрыўны крык, б'ючы, як электрыкай, у мозг тым, хто яго чуў:

- Ка-ты! Ка-ты! Вырадкі! Няма на вас кары божай! Згіньце вы із сваёй камунай! Жыве Беларусь!

...

Усё сьціхла, замерла ў жудаснай цемры.

*1941-1971*

МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2003-2004 PatriaSuperOmniaPatr

**Гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі альманах Друцка-Бярэзінскага Краю**

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР / Андрэй Аляхновіч
РЭДКАЛЕГІЯ / Валер Арцюховіч, Міхал Баравуля,
Яніна Дэмух, Васіль Лапацін.
МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ, МАКЕТ / Марцін Койдан
**Адрас рэдакцыі: skaut63@gmail.com**
**http://kamunikat.org/maloje_palessie.html**






## З Ь М Е С Т

# Дарагі чытач!





**ПРАДМОВА-2004**

ТЫ ТРЫМАЕШ Ў РУКОХ ДРУГІ НУМАР НАШАГА КРАЯЗНАЎЧАГА АЛЬМАНАХА. Выдаем яго мы – харугва скаўтаў і сяброў Малога Палесься, што на Крупшчыне. Прайшоў год пасьля выхаду нашага першага нумара ў сьвет, і гэты год прынёс нам шмат новых адкрыцьцяў, падзей і сяброў. Таму на старонках альманаха мы з задавальненьнем даем месца не толькі нашым краязнаўчым працам і дасьледаваньням, але і нашым сябрам – навукоўцам, бардам, паэтам, мастакам, музэйным работнікам і, вядома ж, землякам. Матэрыялы, зьмешчаныя ў гэтым нумары адлюстроўваюць не толькі розныя перыяды з гісторыі нашага рэгіёна, але і розныя погляды. Мы лічым гэта натуралёвым і важным на шляху адраджэньня нашай гісторыі і культуры і ўсталяваньня сапраўднай незалежнасьці роднай краіны.

Можа некаторых нашых чытачоў зьдзівіць мова нашага выданьня, - адразу тлумачым, што мы з павагай ставімся да роднай мовы ва ўсіх яе формах. Таму на старонках альманаха вы знойдзеце артыкулы, напісаныя як “тарашкевіцай”, гэтак і “наркомаўкай”.

Спадзяёмся, дарагі чытач, цябе зацікавяць матэрыялы, зьмешчаныя ў гэтым нумары і, магчыма ўзьнікне жаданьне напісаць нам, альбо даслаць свае краязнаўчыя матэрыялы, – з задавальненьнем надрукуем.

**ГЭРБ СКАЎТАЎ МАЛОГА ПАЛЕСЬСЯ**

*У срэбраным полі чырвоны чатырохкутны крыж. На крыжы выявы кола вадзянога млына і травы-кветкі “крупка дуброўная” ў золаце.*
*1. Шчыт – сімбаль абароны й захаваньня нашай гісторыі і культуры.*
*2. Колеры: чырвоны, срэбраны і залаты абраны ў падзяку і захаваньне гістарычнай памяці аб уладарах Крупшчыны й Крупак, - князях Друцкіх і магнатах Сангушак, - адпаведна шляхоцкія гербы каторых маюць менавіта такія колеры.*
*1. Элементы герба: а) Крыж азначае, у першую чаргу, - адданасьць найвышэйшым хрысьціянскім каштоўнасьцям, а ў другую, - гістарычную адметнасьць Крупскай зямлі. На Крупшчыне перакрыжоўваюцца, – найстаражытнейшы водны “шлях з варагаў ў грэкі” і сухапутны шлях з Эўропы ў Расію.*
*б) Кола вадзянога млына і восем сьпіцаў ў ім сімвалізуюць бясконцасць жыцця і непарыўную сувязь з індаеўрапейскімі каранямі беларусаў.*
*в) Трава-кветка “крупка дуброўная” азначае любоў да сваёй малой радзімы – Малога Палесься.*
*Наш герб распрацаваны вядомым беларускім мастаком-геральдыстам, супрацоўнікам Нацыянальнага архіву РБ, Андрэем Леўчыкам.*

# Таямніцы Выспянскай гары

*Фрагмэнты гутаркі карэспандэнта газэты "Культура" Сьвятланы Ішчанка з загадчыкам аддзела археалёгіі жалезнага веку Інстытута гісторыі НАНБ, прафэсарам Вадзімам Шадырам у жніўні 2003г.*



**АРХЕАЛЁГІЯ-СЭНСАЦЫЯ!**



*Нейкая заможная франціха сьпешна схавала перад варожым нападам самае, мабыць, каштоўнае, што мела: набор упрыгожваньняў. Закапала ў неглыбокай ямцы, ды, магчыма, і загінула побач, не пасьпеўшы ўратавацца. Час быў вельмі неспакойны: VII ці VIII стагоддзе нашай эры, міжплемянныя сутычкі ды яшчэ пачатак славянскай каланізацыі балцкіх плямён, якая праходзіла не заўсёды мірна. На ўсіх археалягічных помніках апошняй трэці I тысячагоддзя на тэрыторыі Беларускага Падзьвіньня і Меншчыны навукоўцы знаходзілі сьляды пажарышчаў, наканечнікі стрэл. У тым ліку – на гарадзішчы "Выспянская Гара", што на востраве возера Сялява ў Крупскім раёне. Там і знайшоў вышэйзгаданы скарб падчас раскопак у ліпені загадчык аддзела археалёгіі жалезнага веку Інстытута гісторыі НАНБ Вадзім Шадыра. Дарэчы, у красавіку Вадзім Язэпавіч абараніў доктарскую дысэртацыю па тэме "Беларускае Падзьвіньне ў эпоху жалеза і раньняга сярэднявечча (VIII ст. да н.э. – VIII ст. н.э.)".*

**- Упрыгожваньні, якія вы расклалі на стале, не надта падобныя да сучасных: вельмі шырокія колцы, нейкія пазелянелыя спружынкі – што гэта?**

- Мы знайшлі 5 срэбраных скроневых колцаў дыямэтрам 10 сантымэтраў, 3 бронзавыя бранзалеты і каля 15 бронзавых пранізак, якія падаюцца Вам падобнымі да спружынак. Пранізкі служылі абрамленьнем для жаночых галаўных вянкоў – вайнагаў, уваходзілі ў склад наплечных хустак вілайнэ – гэтыя ўборы атрымалі асабліва шырокае распаўсюджваньне ў латгалаў, нашчадкаў балтаў. Усе гэтыя рэчы ляжалі купкай на глыбіні 1 мэтр, а сантымэтраў на 5 вышэй аказаліся 2 чалавечыя шкілеты.

**- Напэўна, натрапіць на такі скарб – удача для археоляга?**

- Сапраўды, знаходка цікавая, найперш зьмяшаным характарам: скроневыя колцы, уласьцівыя славянкам, побач з тыпова балцкімі арнаментаванымі бранзалетамі, патоўшчанымі на канцох, і пранізкамі. Гэта паказвае на тое, што розныя памежныя плямёны гандлявалі або пераймалі адно ад аднаго "моду"



на ўпрыгожваньні. Таму этнічную прыналежнасьць іх уладальніцы цяжка вызначыць. Несумненна, аднак, што яна была няпростай жанчынай, можа, нават жонкай правадыра племені.

**- А што ўвогуле ўяўляе сабою гарадзішча "Выспянская Гара"?**

- Умацаванае паселішча плошчай каля паловы гэктара было абнесена землянымі валамі, рэшткі якіх захаваліся дасюль. Сьляды чалавечай дзейнасьці фіксуюцца тут з эпохі нэаліту па VIII стагоддзе нашай эры. Гэты помнік адметны тым, што знаходзіцца якраз на сутыку днепра-дзьвінскай культуры і культуры штрыхавай керамікі. Носьбіты апошняй праявілі сябе найбольш актыўна. На матэрыялах раскопак можна ўбачыць іх узаемадзеяньне. Возера Сялява зьвязвае басейны Заходняй Дзьвіны і Дняпра адпаведна рэчкамі Югнай і Ракітаўкай. У гэтай мясцовасьці пралягаў лукомльскі адрэзак шляху "з варагаў у грэкі". Гарадзішча да будаўніцтва ГЭС (у 1950-я гады) знаходзілася на перашыйку між двох азёраў – Радца і Сялява. У VIII стагоддзі на ім жылі яшчэ плямёны так звана-

**Знойдзеныя ўпрыгожваньні на гарадзішчы Выспянская гара.**

га банцараўскага кола, з'явіліся і крывічы. Хаця славяне, на маю думку, заходзілі сюды і раней.

**- Што яшчэ далі сёлетнія раскопкі гарадзішча?**

- Гэты сезон выдаўся самым "ураджайным": на плошчы 80 кв. м і глыбіні 1 мэтр 20 см у чэрвені – ліпені было зроблена звыш 200 індывідуальных знаходак – асобных рэчаў з бронзы, жалеза, гліны, каменя. Упершыню сустрэліся фрагмэнты гаршка з бяросты. Яна трохі абпаленая, толькі таму і захавалася. Ёсьць меркаваньне, што такія гаршкі выкарыстоўваліся як пахавальныя урны пры трупаспаленьні, бо побач у раскопе выяўлена шмат кальцыніраваных чалавечых костак. Траплялiся таксама амулеты з зубоў бабра, ваўка, мядзьведзя; разнастайна арнаментаваныя прасьліцы, грузікі і гаршкі – на іх можна распазнаць сымбалі язычніцкага пакланеньня сілам прыроды, Багіні-Маці.

Адзначу, што такія плённыя дасьледаваньні Выспянскай Гары сталі магчымымі толькі дзякуючы бескарыснай дапамозе скаўтаў з харугвы "Малое Палесьсе" і іх куратара, былога настаўніка Крупскай сярэдняй школы №1, краязнаўцы Андрэя Аляхновіча. Менавіта ён, дарэчы, першы заўважыў у раскопе ўпрыгожваньні. Мы ўжо 5 археалягічных сезонаў пасьпяхова працуем разам на раскопках гарадзішча, і за гэты час я ўпэўніўся ў такіх якасьцях крупскіх скаўтаў як надзейнасьць, зацікаўленасьць, руплівасьць, сумленнасьць.

**- Раскопкі на востраве працягваюцца?**

- Так, і да канчатковых навуковых высноваў яшчэ далёка. Спадзяюся, Выспянская Гара раскрыла далёка ня ўсе свае таямніцы.

***"... я ўпэўніўся ў такіх якасьцях крупскіх скаўтаў як надзейнасьць, зацікаўленасьць, руплівасьць, сумленнасьць".***

*Вадзім Шадыра*



**Удзельнікі раскопак 2003 года.**

# Піва Малога Палесься

## Асаблівасьці нацыянальнай ахвяры



**КРАЯЗНАЎСТВА** / Андр. МЕЛЬНІКАЎ

*Распавед пойдзе не столькі пра напой, колькі пра сьвята з гэткай назвай. Паходжаньне сьвята Піва сягае ў часы вельмі дахрысьціянскія і губляецца ў смузе тысячагодзяў.*



*МЕЛЬНІКАЎ АНДРЭЙ МІХАЙЛАВІЧ, нар. у 1965, м.Доўск Рагачоўскага раёну Гомельскай вобл. Вядомы беларускі бард, паэт, журналіст. Жыве ў Гомлі. Ганаровы сябра Харугвы Скаўтаў Малога Палесься.*

Памятаеце Караткевічава "Заяц варыць піва"? Заяц у індаеўрапейцаў атаясамліваўся з усходам, пачаткам дня. І менавіта пра гэты ранішні час – у вершы Караткевіча. Да зайца першага прыкаціўся Калабок-Сонца ў аднайменнай казцы. Заяц – пачатак, заяц – заснавальнік роду.
І Піва – перад усім – сьвята роду. У найаўтэнтычнейшым выглядзе яго можна сустрэць зараз хіба толькі ў блізкіх да вадападзелу і аддаленых ад буйных дарог вёсках Цэнтральнай Беларусі – на Малым Палесьсі.
Піва сьвяткуецца адзін раз на год. Розныя вёскі робяць гэта ў розныя дні, але Піва абавязкова супадае з якімсьці хрысьціянскім сьвятам.
Зусім недалёк ад калісьці галоўнага кельцкага капішча ў цэнтры Малога Палесься размясьцілася адна такая вёсачка, за насельнікамі якой здаўна і цьвёрда замацавалася назва "даўбешнікі". Другая іх неафіцыйная назва – "кубінцы" – да машэраўскай меліярацыі вёска ляжала на востраве сярод балот, і толькі сухім летам, ды ўзімку па лёдзе да яе можна было лёгка дабрацца; Куба – адным словам. Сёньня назва "кубінцы" – амаль рудымент, вострава фактычна больш няма, а вось "даўбешнікі" – гучала і гучыць. Актуальна ды злавесна.
Піва на "Кубе" супадае з праваслаўным дабравешчаньнем. Далёкія і блізкія сваякі зьбіраюцца ў адной хаце, разам вараць знакаміты слабаалкагольны напой. Пасьля расьпіваюць яго, паралельна абмяркоўваючы надзённыя сямейныя пытаньні.
А напярэдадні мужчыны роду рыхтуюць бярозавыя "даўбешкі". Накшталт бейсбольных біт. Ачышчаюць ад кары ды ставяць ля печак на прасушку.
На Піве абавязкова патрабуецца прысутнасьць аднаго-двох чужакоў (звычайна з суседняй вёскі). "Халява" заўжды была папулярнай, таму знайсьці іх зазвычай няцяжка. "Чужыя" прысутнічаюць на сьвяце нароўні са сваякамі і разам зь імі

радуюцца жыцьцю.
Калі страваў на радавой трапезе істотна паменее, мужчыны ідуць да суседзяў з "мядзьведзем", які танчыць ды выдурняецца зьбіраючы да стала пачастунак. Падобна на калядаваньне з казой. Пэўна быў час – мядзьведзя вадзілі сапраўднага. У сучаснасьці – гэта проста здаровы хлопец-"чужынец".
Кульмінацыя сьвята надыходзіць, калі і "мядзьвежыя" пачастункі ўжытыя. Мужчыны роду бяруць у рукі даўбешкі і мяцеляць сытых, пьяных ды задаволеных "чужынцаў".
Яшчэ ў першыя пасьляваенныя гады "чужых" у выніку Сьвята Піва забівалі – род прыносіў штогадовую чалавечую ахвяру. Білі бязьлітасна – пра тое сьведчаць і моцна патручаныя косткі старажытных курганоў навакольля.
Сучаснасьць непараўнальна больш гуманная. Адмяцеленыя вяртаюцца туды, адкуль завіталі, чарнікі паступова зажываюць. Людзі працягваюць жыць. І працягвае жыць традыцыя.

# Археатыпы духоўнай і матэрыяльнай культуры Друцкога княства

*на тэрыторыі сучаснай Крупшчыны*



**КРАЯЗНАЎСТВА** / Міхал БАРАВУЛЯ



I

*З часоў знікнення Друцкога княства як дзяржаўнага ўтварэння сярэднявечча прайшло каля пяці вякоў. Але і гэтае паўтысячагоддзе не было літасцівым для людзей, якія жылі і жывуць на "Друцкіх палях": кожнае стагоддзе зямля іх ухутвалася дымам і полымем пажараў вайны, пакрывалася шматлікімі папялішчамі, досыта напівалася крывёю сыноў-патрыётаў і ворагаў-набрыдняў.*

У гэтым жудасным полымі знікалі гарады і мястэчкі, вёскі і фальваркі, каб пасьля зноў і зноў аднавіцца недзе побач і часам ужо пад іншай назвай. Але памяць аб паселішчах, знікшых у віхуры жудасных войн, перадавалася ад пакалення да пакалення: перадавалася яна ў тапанімічных назвах і ў звязаных з імі легендах і паданнях.

У полымі войнаў знікалі і цэрквы – тагачасныя своеасаблівыя архівы і бібліятэкі. Знікалі разам з начыннем і непаўторным мастацкім аздабленнем, а часам і разам з прыхажанамі, якія хаваліся ў святым храме з надзеяй аб спасенні. І, мусіць, легенды аб праваліўшыхся пад зямлю або на дно возера цэрквах, пра якія распавядуць вам на Крупшчыне амаль ў кожнай вёсцы, - не такая ўжо і фантастыка, а памяць народная, пераўвасобленая ў паэтычную форму. Старыя людзі, носьбіты гэтых легенд строга-настрога забараняюць весці на такіх землях сельгаспадарчыя работы і вераць, што падымуцца калісьці з падземных лёхаў тыя цэрквы з крыжамі і людзьмі-пакутнікамі і іх калакольны перазвон абудзіць усё наваколле.

Упершыню адну з такіх легенд пра знікшую пад зямлю разам з людзьмі царкву ў нашай мясцовасці мне давялося пачуць у 1986 годзе ў в. Мікалаека (былая Галяшычы) ад старэнькай бабулькі:

"У нас, у Мікалаеўцы, сярод поля на бугарку, за рэчкай Чуліндай, мясцінка ёсць, уся каменем заваленая. І хоць высокае месца, але ніхто спрадвеку яго не разворвае. Ды і ў буднія дні, асабліва апоўдні і апоўначы, людзі пазбягаюць туды хадзіць. Кажуць, што дужа нячыстая гэта мясціна. Там можна рознай нечысці на-

глядзецца. Нейкае дужа старое там каладзішча было, а калі там людзей хавалі, дык яшчэ нашы дзяды і прадзеды не помнілі... І яшчэ расказваюць, што стаяла на тым месцы і цэркаўка невялічкая, але са званамі. Дык людзі даўнія, што ў ёй маліліся, нечым Бога прагнявілі. І калі сабраліся разам, усім сялом, на нейкае свята, дык тая цэркаўка ад грахоў іх цяжкіх і правалілася пад зямлю з людцамі тымі.

Мая бабка расказвала, што калі надыходзе Вялікдзень, дык на тым месцы, калі прыкласці вуха да зямлі, добра чуць, як на тым свеце людзі гэтае вялікае свята адзначаюць: і моляцца, і песні царкоўныя пяюць, і ў званы б'юць. Мы, бывала, калі маладзейшыя былі, яшчэ ў дзеўках, дык бегалі на Вялічка той царкоўны перазвон слухаць. Добра было чуць, як званы звіняць, а спевы і малітвы дык не так выразна. Глухавата неяк. Ведама ж, пад зямлёй людзі маліліся."

Археалагічнае абследаванне месца, дзе знікла царква, і наваколляў вёскі Мікалаеўка, праведзенае археолагамі Побалем Л.Д. і Іовым А.В. у той жа дзень выявіла ў гэтых мясцінах цэлы комплекс археалагічных помнікаў: гарадзішча жалезнага веку, дзве невялікія групы курганаў, два сярэдневяковых селішчы, а на месцы знікшай царквы – могільнік з пяці курганаў і мноства каменных магіл.

Праз некалькі гадоў сябрам краязнаўчага таварыства "Малое Палесьсе" ўдалося дадаткова знайсці два курганы (ва ўрочышчы Высокая Гара), кавалак разбітага ідала язычнікаў (на месцы былой царквы) і запісаць легенды пра святую крыніцу, дзе нібыта Напалеон утапіў залатую карэту, а таксама пра 12 святых дубоў, пад якімі ў старажытнасці вечна гарэлі ахвярныя вогнішчы, а зараз штогод, па вясне збіраюцца чэрці сушыць золата.

З цягам часу ў нас з'явіліся і новыя звесткі пра знікшыя цэрквы: каля вёсак Сомры, Свірыдаўка, Задні Бор (былой) Ухвальскага с/савета, Забалацце і Стары Сакол Дзянісавіцкага с/савета, Хотамльскага возера Круглянскага раёна, а з імі – і новыя легенды, адна прыгажэйшая за другую.

Вёска Сомры – адна з самых старажытных у раёне, сталіца Крупскай партызанкі. І ў наш час яе з усіх бакоў акаймлёўваюць бясконцыя балоты і амаль непраходныя лясы. А ў часы Друцкога княства жыццё тут віравала. Пра гэта нам сведчаць шматлікія курганныя могільнікі (ва ўрочышчы Чудніца іх толькі ў адным месцы 128), язычніцкае капішча, балотнае гарадзішча... , і легенды. Аўтарам гэтага артыкула разам з мясцовым краязнаўцам Іванам Алексіевічам іх у Сомрах запісаны дзесяткі. Адна з іх – зноў жа пра знікшую царкву.

## СВЯТЫ ЗВОН

На месцы вялікага балота некалі даўнымдаўно, яшчэ пры цару Гароху, шыкоўным люстэркам ззяла маляўнічае возера. На самым высокім яго беразе, які цяпер завецца Высокай Гарой або Замачкам, узвышаўся замак. Купец лавіў у возеры рыбу і прадаваў яе навакольных мястэчках і гарадах. Вельмі багаты і не менш набожны, ён насупраць свайго прыгожага драўлянага замка, але на працілеглым беразе возера, пабудаваў царкву. Горда ўзвышалася яна ў неба, зазываючы на малітву ўсіх людзей, што жылі ў навакольных пушчах, сваім цудоўным перазвонам. Але асабліва цягнуў да сябе спеў званоў маладых хлопцаў, бо была ў купца дачка-прыгажуня, якая штодзень прыходзіла ў царкву і, запаліўшы перад абразамі свечку, утарапёна малілася, не звяртаючы аніякай ўвагі на зайдросныя погляды юнакоў. А кожны з іх усім сэрцам жадаў спадабацца прыгажуні і мог пайсці за ёй на край

свету. А дзяўчына, здавалася, акрамя Бога і ведаць нікога не жадала, бо такімі натхнёнымі і самаадданымі былі яе малітвы. Нават і не верылася, што яна калі-небудзь прыгарне кагосці да свайго сэрца.

Але мала хто ведаў, што прычынай такой моцнай набожнасці было каханне. А кахала яна пастуха-язычніка, які пасвіў бацькавых кароў і гэтак жа ўтарапёна маліўся драўляным ідалам у лесе. Слёзна прасіў ён дазволу ажаніцца на хрысціянцы, без якой і свет белы яму быў не мілы.

Стары купец добра ведаў аб душэўнай прывязанасці сваёй дачкі, таму і стараўся заўсёды трымаць яе на вачах. А пастуха штовечар зачыняў на моцныя запоры у хляве і не выпускаў аж да світання, калі юнаку прыходзілася выганяць статак на пашу. Але, як кажуць, і вельмі беражонае не заўсёды зберажэш.

Сустрэцца закаханым за ўсё лета неяк удалося, але толькі ў самую рабінавую ноч. Па небу грозна плылі страшэнныя чорныя хмары. Дождж ліў як з вядра. Неба раз-пораз апаясвалі бясконцыя ланцугі маланак. Бесперапынна чуліся гарматныя раскаты грому. Вецер ламаў сухое галлё на дрэвах і шпурляў маладым яго цэлымі ахапкамі пад ногі. Гэта Ілля-прарок на вогненнай калясніцы гойсаў па бяскрайнему небу і кідаў свае вогненныя стрэлы ў полчышчы нячысцікаў, якія хацелі ўступіць у бойку з Богам. І пакуль людзі баязліва маліліся і хрысціліся пры кожным раскаце грому і блізкім удары перуна, маладыя вычарпалі ваду са спалохана гойдаючага на хвалях возера чоўна, адвязалі яго ад слупка і паплылі на процілеглы бераг. Хвалі кідалі човен з боку на бок, залівалі вадой, але магутныя ўзмахі вёслаў рабілі сваю справу. Праз нейкі час лодка ўткнулася носам у пясок якраз супраць царквы, якая вынырнула з цемры, асветленная святлом адразу некалькі маланак.

Прывязаўшы лодку, закаханыя пад ліўнем кінуліся да святога храма і, адчыніўшы дзверы ключом, схаваліся там ад непагадзі. А праз нейкі час каля царквы і навокал забушавала ніколі нябачаная ў нашых краях бура. Ураган вырываў з каранямі векавыя дрэвы і з размаху кідаў іх у возера. Мора вады абрушылася на ўзгорак і цэркаўку. Жудасна і роспачна загудзелі яе званы пасля ўдару адразу некалькі перуноў. Узгорак ліхаманкава задрыжаў і на вачах пачаў змяншацца і павольна апускацца ўніз. Вось і хвалі возера ўжо ўдарылі ў каменныя сцены святога будынка, які павольна і плаўна йшоў пад зямлю пад урачысты святы перазвон. Праз нейкі час нават крыжа не стала бачна на паверхні возера, якое за адну ноч павялічылася на некалькі сот разоў.

Бура пачала заціхаць, а раніцай, калі людзі выглянулі са сваіх хат, разбуджаныя промнямі ласкавага сонечнага святла, усё наваколле зіхацела ад расы. На небе – не хмурынкі, азёрная гладзь была на дзіва спакойная і люстраная. Толькі на тым месцы, дзе ўчора быў высокі пагорак і стаяла царква, плаваў адзінокі човен ды нібыта з-пад вады даносіўся ўсё заціхаючы перазвон царкоўных званоў.

Прайшло шмат вякоў пасля гэтага здарэння. Неглыбокае возера паступова заплыло тванню, зарасло мохам, журавіннікам і дурнічнікам, невысокім сасоннікам. І толькі на тым месцы, дзе павольна пайшла пад зямлю царква, засталося яшчэ невялікае вокнішча непамернай глыбіні. Старыя людзі кажуць, што кожную рабінавую ноч звоняць тут царкоўныя званы, а паабапал азярынак цэлае лета па начах карагодзяць русалкі".

## II

Памяццю аб Друцкім княстве з'яўляюцца і шматлікія старажытныя могільнікі , якія захаваліся на тэрыторыі Крупшчыны. У першую чаргу, бяспрэчна, да іх адносяцца каменныя магілы.

Адзін з такіх помнікаў археалогіі сярэднявечча захаваўся недалёка ад вёскі Старая Слабада Ухвальскага с/савета ва ўрочышчы Руддзё. Мясцовыя жыхары яго так і называюць – Каменныя Магілы.

Размяшчаецца могільнік на самым грэбне пясчанай марэны, якая цягнецца ў метрах 60-100 ад поймы ракі Можа ў напрамку з усходу на захад убок вёскі Старыя Пышачы. Усе каменныя магілы (а іх тут каля 35-40) арыентаваны строга з усходу на захад. Каменныя вымасткі могільніка вельмі пашкоджаны трактарамі ў час лесанарыхтовак, у шматлікіх месцах пакрытыя мохам і буграмі зямлі.

Найбольшую захаванасць мае другая каменная магіла з усходняга боку могільніка. Схема размяшчэння камянёў на ёй уражвае недвухсэнсоўнай сімволікай, якая паддаецца разуменню амаль любому, хто яе ўбача: дзевяць найбольшых камняў гэтай вымасткі нагадваюць па сваіх абрысах фігуру чалавека. Самы вялікі – гэта галава ўяўнай чалавечай фігуры, два меншых каля яго – плечукі, наступныя два – локці, шосты і сёмы – каленкі, восьмы і дзевяты – ступні ног. Даўжыня магілы прыкладна 3,5м., шырыня – 2,2м., а вышыня да 0,7м.

Астатнія каменныя магілы маюць амаль такую ж канфігурацыю, толькі з той розніцай, што каменныя вымасткі магіл у напрамку на захад становяцца ўсё больш меншымі па памерах і ніжэйшымі па вышыні.

Цікавай з'яўляецца і плаціроўка пахаванняў. Усе яны размешчаны не роўнымі шэрагамі, а зрушаны адна адносна другой з такім разлікам, каб ні адна з магіл не лягла ў адзін рад з суседняй, або нават далёкай ад яе. Здаецца, што продкі прытрымліваліся павер'я, якое і зараз бытуе на Крупшчыне, а таксама сярод жыхароў Шчучынскага і Мастоўскага раёнаў: нельга нябожчыкаў-сваякоў хаваць роўнымі радамі, бо ў такім выпадку ў хуткім часе такімі ж радамі паляжа ўвесь род (гл. Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993, с.301-302).

Галаўныя камяні на гэтых магілах па сваіх памерах у два-тры разы большыя за бакавыя і маюць авальную або падтрохвугольную форму, а некалькі з іх уяўляюць сабой вялікую неапрацаваную пліту.

Амаль на кожным галаўным камні маюцца нейкія загадкавыя знакі. Так, напрыклад, на галаўным камні пахавання №2 выбіта колца, круглая адтуліна дыяметрам да 1,5см., нешта падобнае на перавернутую трохгранную завушніцу з колцам, а ў цэнтры камня – выява падобная ці то на крыж, ці то на птушку, якая ляціць. Усе галаўныя камяні зараслі мохам, частка іх пашкоджана, і таму яны патрабуюць далейшага даследвання.

Па сцвярджэнню мясцовых жыхароў, уся выспа ва ўрочышчы "Руддзё" – гэта вялікі могільнік. На ім, быццам бы, былі і камяні з загадкавымі надпісамі, якія з цягам часу асыпаліся пад уздзеяннем перападу тэмператур.

Навукоўцы сцвярджаюць, што апісаныя вышэй каменныя магілы – яцвяжскія пахаванні, а нашы землякі даводзяць, што ў каменных магілах пахаваны іх продкі ("Каб ваўкі і лісы не выцягвалі косці памерлых, старыя людзі абкладвалі магілы камнем").

На нашу думку, рацыю маюць і тыя, і другія, тым больш што такія пахаванні сустракаюцца на Крупшчыне і Барысаўшчыне, а таксама на поўначы Бярэзіншчыны паўсюдна (в.в. Хар-

чычы, Знаменка, Новы Сакол, Мікалаеўка, Аздзяцічы, Эсьмоны, былая вёска Задні Бор і інш.). справа ў тым, што наяўнасць каменных магіл на тэрыторыі Былога Барысаўскага старосства з'яўляецца яскравым падцверджаннем правільнасці паведамлення рускага гісторыка В.М. Тацішчава аб паходзе ў 1102 годзе першага друцкага князя Барыса Усяславіча на яцвягаў і засяленні захопленнымі палоннымі горада Барысава і залежных ад яго зямель. З цягам часу гэтае балцкае насельніцтва было асімілявана і поўнасцю страціла свае нацыянальныя асаблівасці, але памяць аб ім засталася дзякуючы археалагічным помнікам, - каменным магілам.

Дарэчы, на поўначы Крупшчыны ў раёне возера Сялява ў тыя далёкія часы жылі прадстаўнікі яшчэ аднаго балцкага племені – селаў, якія і далі назву аднайменнаму возеру (селы – Сялява). На такую думку наводзіць характар "аздаблення" курганных могільнікаў: каля вёскі Дакучын паўсферычныя курганы, якія па сваёй форме вельмі нагадваюць дрыгавіцкія, па перыметру падножжа акуратна абкладзены поясам з камняў.

Наогул, тапонімы і мікратапонімы сведчаць, што на тэрыторыі Друцкога княства побач са славянамі, селамі і яцвягамі жылі і угра-фіны (курганны могільнік Чудніца на Можы), і літва (Літоўск, Літвінка), і прусы (Прусаўшчына Ухвальскага с/савета), латгалы (Латыголь), і магчыма, Голядзь (Галяшычы), і нават велеты (Вяляцічы). Насельніцтва, як бы мы цяпер сказалі, было шматнацыянальным, бо яно пастаянна папаўнялася за кошт захопленных у іншых землях палонных. Пра гэта сведчаць і раскопкі гарадзішча старажытнага Барысава, дзе былі знойдзены " ...2 (дзве) бронзавыя фібулы ў выглядзе падковы ўсходнебалцкіх тыпаў і фіна-угорскае ўпрыгожванне з срэбра – пустая зоамарфічная прывеска... , залатая завушніца з трыма пацеркамі кіеўскага тыпу" (Памяць. Барысаў. Барысаўскі раён. Мн., БЭ, 1997, с.26).

**АРХЕАТЫПЫ КУЛЬТУРЫ...**

Славянізацыя гэтых шматлікіх плямёнаў адбылася ў часы Друцкога княства пад уздзеяннем хрысціянскай рэлігіі, якая была пануючай на яго тэрыторыі і ўжывала ў багаслужэнні стараславянскую і старабеларускую мовы.

### III

У XIX стагоддзі вучоныя-даследчыкі манументальных помнікаў матэрыяльнай культуры беларускага народа ўпершыню звярнулі ўвагу на барысавы камяні – магутныя валуны з крыжамі і надпісамі "Господи помози рабу своему Борису". Навукоўцы прыйшлі да думкі, што надпісы і крыжы князь Барыс Усяслававіч высек на язычніцкіх фетышах, каля якіх паганцы маліліся аб ураджаі, удалым паляванні або ўлове рыбы, каб сінтэзаваць язычніцкія і хрысціянскія вераванні, "ахрысціяніць" іх, а таксама і ўвекавечыць сваё імя (Памяць. Талачынскі раён. Мн., 1988, с 41). Надпісы былі зроблены у 1128 годзе, а на Рагвалодавым камні – у 1171, у часы найбольш жорсткай барацьбы язычніцтва і хрысціянства.

Прайшло з таго часу ўжо больш васьмі стагоддзяў, а на Крупшчыне, асабліва ў яе паўднёвай лясістай частцы, навукоўцы і мясцовыя краязнаўцы раённага аб'яднання "Малое Палесьсе" кожны год адкрываюць ахрысціязаваныя царкоўнымі легендамі, а то і наогул язычніцкія "святыя камяні".

Мясцовае насельніцтва яшчэ да нядаўняга часу несла да іх аброк, каб зрабіць літасцівай міфалагічную істоту, якая пераўтварылася ў магутны валун. Найбольш значнымі з такіх камняў на Крупшчыне лічацца Мядзведзь-



**Фота №2. Камень Божае крэсла**



**Фота №3. Камень на Крыжавых**

Камень каля вёскі Знаменка (фота 1), Князь-Камень, Змееў Камень, камень Ваўкалака і камень Божае Крэсла каля вёскі Сомры (фота 2), Каменныя Валы каля в. Гумны, Божая Печ каля в. Захараўка, Мядзведзь і Казёл каля в. Лажкі, камень на Крыжавых каля в. Старая Слабада (фота 3), Сівы Камень каля в. Новая Слабада, Гарбаты камень і Чортаў камень каля в. Забалацце, Плісаў Крыж каля былой вёскі Гаць, Камень-Кравец (Цар-Камень) каля в. Янаўшчына (фота 4), Валова Гара каля в. Барсукі.
У тыя далёкія часы, мабыць, амаль каля кожнага паселішча былі свае “святыя”

Мядзведзь-Камень
Пн
У
З
Пд
100м
Сабакі і Паляўнічы
на Сомры
на Дзеўяніцу

*Малюнак №1. Схема Мядзведзь-камня*





**Фота №4. Цар-камень**

мясціны, да якіх неслі ахвяраванні, а дзе-нідзе – і па некалькі. Акрамя камня, яшчэ абавязкова святое дрэва і святая крыніца. Мядзведзь-Камень знаходзіцца прыкладна ў трох кіламетрах на ўсход ад вёскі Знаменка Ухвальскага с/савета недалёка ад развілкі дарог на Сомры і Дзевяніцу (мал. 1). Уяўляе сабой цэлы археалагічны комплекс: магутны валун, які нечым нагадвае забітага мядзведзя, а ў ста метрах ад яго роўна на поўдзень на невялікім пагорку размешчана свяцілішча, якое мясцовыя жыхары называюць Сабакі і паляўнічы. Існуе і легенда пра ўзнікненне гэтага рукатворнага помніка старажытнай матэрыяльнай культуры беларусаў:

**Фота №1. Скаўты Малога Палесься ля Мядзведзь-камня**



"Аднойчы мясцовы жыхар з Гібайлавіч пайшоў у Вялікдзень на паляванне. Побач з ім весела беглі яго сабакі. Недалёка адыйшоўшы ад вёскі, ён зусім блізка ля дарогі заўважыў магутнага мядзведзя, які павольна ішоў проста на яго, равучы што ёсць моцы. Сабакі кінуліся на звера, а паляўнічы, схаваўшыся за тоўстую сасну, чакаў, пакуль мядзведзь падыйдзе бліжэй. Кажуць, што чалавек ён быў не палахлівы, а лепшага паляўнічага за яго ва ўсёй воласці не было. Трапны стрэл – і мядзведзь, дзіка зароўшы, асунуўся на зямлю. У гэты момант з яснага неба, на якім плыла толькі адна невялікая хмарка, бліснула маланка іадразу ж ударыў пярун. І мядзведзь, і паляўнічы, і сабакі, якія перад гэтым чамусьці кінуліся пад ногі гаспадару і ледзь не збілі яго з ног, адразу ж пераўтварыліся ў камні. Старыя гавораць, што гэтак Бог наказвае тых, хто парушае святасць Вялікадня" (запісаў Баравуля М.А. ад лесніка Труса І.М. 1928 г.н. у вёсцы Знаменка (раней Гібайлавічы) у 1978 годзе).

Вельмі падобную легенду раскажуць вам і жыхары вёсак Селішча і Забалацце, але ўжо пра Гарбаты камень ва ўрочышчы Папоўка. Толькі дзеючымі асобамі ў ёй ужо будуць тры паляўнічыя, іх сабакі і забіты лось.

Праўда, гэтае старажытнае свяцілішча, таксама размешчанае на ўзгорку каля балота, значна пашкоджана пры будаўніцтве высокавольтнай ліні, але рэканструкцыя яго яшчэ магчыма.

Ва ўсходняй частцы вёскі Гумны ва ўрочышчы Падкаменне існавала калісьці свяцілішча земляробаў, ўзнікненне якога таксама звязваецца з Перуном, які пакараў, ператварыўшы ў камні, сям'ю мясцовага селяніна разам з валамі і хатнімі жывёламі, бо той нібыта таксама асмеліўся араць сваё поле ў святочны дзень. Пры абследаванні гэтай мясціны нам



удалося выявіць апрацаваныя камні, вельмі падобныя на свойскую свінню, сабаку, валоў, жабу і круглы бохан хлеба... . Нажаль, пры землеўладкаванні прылягаючага да ўрочышча поля валуны былі згорнуты бульдозерам у памежныя кусты.

І калі першыя два свяцілішчы былі, на нашу думку, прысвечаны славянскай Артэмідзе, багіні палявання, то апошняе – славянскай Дэметры, багіні зямлі і ўрадлівасці.

Цікавы археалагічны комплекс размешчаны і ва урочышчы Крыжавыя, што на ўсход ад вёскі Старая Слабада. Складаецца ён з двух камянёўволатаў і курганнага могільніка (мал. 2).

На адным з яго камняў выбіты барэльефы зайца (захаваўся), ваўка (збіты), лісы (збіты, але контуры таксама захаваліся) і, магчыма, мядзведзя, размешчаныя вакол добра апрацаванага круга з невялікай выемкай у сярэдзіне. Фігуры жывёл строга арыентаваны па бакох свету: барэльеф зайца – на ўсход, ваўка – на захад, лісіцы – на поўнач, а мядзведзя – на поўдзень.

Другі камень знаходзіцца недалёка ад першага, але быў амаль поўнасцю засыпаны зямлёй, што нагадвае нешта падобнае на падземны алтар старажытнарымскага аграрнага бога Конса, славянскага Рады. На камні шмат адбіткаў капытоў хатніх жывёл. Крыху далей, цераз дарогу, пачынаецца курганны могільнік з васьмі курганоў-паўсфер з перамычкамі і ровікамі вакол іх. Сем з гэтых курганоў, якія на поўдні Крупшчыны называюць капцамі, а на поўначы – валатоўкамі, выкладзены ў форме сузор'я Вялікай Мядзведзіцы, а восьмы размешчаны строга над яго Каўшом.

## АРХЕАТЫПЫ КУЛЬТУРЫ...

Магчыма, перад намі адзін з класічных узораў былых свяшчэнных славянскіх гаёў, пра якія з такой любоўю апавядаў у свой час М. Карамзін у сваёй "Гісторыі дзяржавы Расійскай".

З другіх святых камняў найбольшую цікавасць для даследчыкаў старажытнай мінуўшчыны нашага краю ўяўляюць камні Божае Крэсла, Змееў Камень, Князь-камень і камень Ваўкалака, якія знаходзяцца ў ваколіцах вёскі Сомры. І не толькі яны самі, але і легенды пра іх, запісаныя мясцовым краязнаўцам Іванам Алексіевічам. Прапаную іх у сваёй літаратурнай апрацоўцы.

*(працяг тэмы чытайце на старонцы 192)*




***Малюнак №2***
***Археалягічны комплекс Крыжавыя ля Ст. Слабады***



*Сваю назву мой горад вядзе ад аднайменнай рачулкі Крупка (Крупеніца), што цячэ праз увесь горад і ўпадае ў раку Бобр на паўднёвым яго ўскрайку. Гідронім "Крупка" азначае, у перакладзе са старабеларускай мовы, - кароткі, незамярзаючы прыток ракі. Так яно і ёсьць, - рачулка Крупка раней ніколі не замярзала ўзімку, старажылы сьведчаць, што калі яна замёрзла ў 1940 годзе, усе казалі, што будзе вялікае ліха..., і праз год пачалася вайна. І пазьней, пакуль не пачалася меліярацыя ў 60-х гадох, Крупка кожную зіму жвава струменіла між вербалозін, не баючыся лёду... Зараз гэта ужо невялічкі ручай, на берагох якога прайшло маё шчасьлівае дзяцінства.*

Упершыню Крупкі ўпамінаюцца ў пісьмовых крыніцах на пачатку XVII стагоддзя (1603г.), а на мапах зьяўляюцца ў 1613 годзе (вядомая мапа Макоўскага - Вялікае Княства Літоўскае,Рускае і Жамойтскае...). Але ж эканамічнае жыццё тут пачалося значна раней. Дадзеныя археалягічных дасьледаваньняў сьведчаць, што ў IX-XI ст.ст. ад нараджэньня Хрыстова праз Крупкі, па рацэ Бобр праходзіў адзін з запасных шляхоў знакамітага воднага гандлёвага шляху "з вараг у грэкі," - па маршруце: Дзьвіна - Ула - Лукамка - воз. Сялява - 6 вёрстаў волакам - Бобр - Бярэзіна - Дняпро. А яшчэ раней, у VI-VIII ст.ст. жыхары паселішча займаліся выпальваньнем драўлянага вуглю і па рэках Нача-Бобр-Беразіна-Дняпро гандлявалі ім з Кіевам.

У часы Полацкага княства (IX-XIIст.ст.) большасьць вясковага насельніцтва была асабіста свабоднай. Людзі жылі ў невялічкіх паселішчах і карміліся як з расчышчаных лядоў, так і з дароў лесу: палявалі, зьбіралі грыбы, ягады, лавілі рыбу ў рэках. Адным з важнейшых промыслаў было бортніцтва: на дрэвах падвешвалі калоды-борці, у якіх вяліся пчолы. Сяляне мелі зямельныя надзелы, атрыманыя ў спадчыну ад продкаў або распрацаваныя ўласнымі рукамі. Галоўнымі іх абавязкамі былі вайсковая павіннасьць і выплата штогадовай даніны. Апрача даніны заставалася выконваць перыядычныя работы на будаўніцтве гарадскіх умацаваньняў, дарог для праходу войска, пастаўляць транспарт для перавозкі

ваенных і дзяржаўных грузаў.

У XIVст. тэрыторыя Крупскага раёну ўвайшла ў склад нашай славутай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага (фота 1). Землі вакол Крупак уваходзілі ў склад Друцкога княства й належалі князям Друцкім і лічыліся даволі глухім месцам. Калі ў 1395 годзе вялікі князь Вітаўт йшоў на Воршу і Смаленск праз нашы землі - дарогу прыходзілася прарубаць праз непралазныя лясныя гушчары. Вядома, што Вітаўт прыпыніўся на адпачынак ля Крупак у вёсцы Маласаі і, за шчыры прыём і дапамогу войску прадуктамі, аслабаніў жыхароў вёскі ад падаткаў "на ўсе вякі" - на што і выдаў ім прывілей, які сяляне захоўвалі доўгія часы.



Трохграшовік ВКЛ 1563г.



Падаткі, крупскія сяляне, працягвалі плаціць у асноўным мёдам. Так, вядома, што ў 1350 годзе князь Васіль Міхайлавіч Друцкі падараваў друцкай царкве пэўную маёмасьць, аб чым зрабіў запіс на старонцы евангельля, якое ён жа перадаў у друцкую царкву. У ліку гэтага дару вызначана "на Худаве полулуконье" - гэта значыць, даніна мёдам у памеры палавіны лукна (лукно - старажытная мера аб'ёму, вялікі кош прыкладна ў 25кг.). Вёска Худава знаходзіцца недалёка ад Крупак, на возеры Сялява. Трэ дадаць, што Крупка ў тыя часы ўваходзіла ў маёнтак Шыйка Друцкога княства. І, хоць у краіне характар землеўладаньня істотна зьмяніўся, - вялікія паўсамастойныя княствы (Друцкае, Лукомльскае) распаліся, а на іх месцы ўтварыўся шэраг асобных маёнткаў, якія адначасова сталі належыць некалькім землеўласьнікам,- землі вакол Крупак гэты працэс не закрануў. Яны захавалі , напэўна, тую ж структуру (сялянскія абшчыны на чале з выбарнымі старцамі ды княжы цівун, што кантраляваў збор падаткаў), толькі замест аднаго з паўсамастойных князёў перайшлі ў падпарадкаваньне да Вялікага князя. Галоўнай праблемай для тамашніх сялян заставалася ліхаімства намесьнікаў, якія імкнуліся хутчэй узбагаціцца за іх кошт. Прыціск з боку намесьнікаў, які адчувалі сяляне, быў часткай агульнага наступу на правы сялян, які адбываўся ў дзяржаўных маёнтках.

Павел Караль Сангушка 1734г., пляменьнік Тэафілы Сангушкі.



Напрыканцы ж XVIст. Крупка перайшла ва ўладаньне славутага роду Сангушкаў - нашчадкаў Вялікага князя Альгерда. І ў гэтыя часы пачынаецца "сангушкаўскі пэрыяд у гісторыі майго горада, які доўжыўся амаль 300 год. У пісьмовых крыніцах Крупка ўпершыню выступае як уласнасьць Сымона Самуэля Сангушкі ў 1627 годзе. Ужо ў 1667 годзе, згодна тарыфу падымнага падатку Аршанскага павету, у Крупках 60 дымоў (каля 500 жыхароў) і дзейнічае млын. У гэты час на тэрыторыі сучаснай Крупшчыны

ўжо зьявілася некалькі мястэчак (Крупкі, Нача, Бобр), якія абавязаны сваім узьнікненьем вялікай гандлёвай магістралі , якая канчаткова сфарміравалася да гэтага часу і вяла з усходу, з Маскоўскай дзяржавы, праз Смаленск і Воршу на Барысаў, Лагойск, Маладэчна і далей на сталіцу - Вільню. У 1686 годзе княгіня Тэафіла Сангушка нядзяліла крупскіх габрэяў правам безпадатковага гандлю ў мястэчку і навакольных землях, што таксама паспрыяла актывізацыі эканамічнага жыцьця ў рэгіёне (фота 2). У 1790 годзе ў мястэчку "82 дымы" (каля 800 жыхароў). Але перыяды роськвіту перамяжоўваліся перыядамі заняпаду - шматлікія войны, якія вяла краіна ў XVII-XVIIIст.ст., непасрэдна адбіваліся на жыцьці мястэчка, якое знаходзілася на такім важным шляху.

**Вадзяны млын у Крупках, 1918г. (не існуе).**



Захоп, пад выглядам далучэньня нашай краіны да Расейскай імперыі не зрабіў жыцьцё лепшым, бо ў самой імперыі выразна адчуваліся цяжкасьці, выкліканыя бюракратызацыяй улады і састарэлым прыгонным правам. Адсюль паўстаньні былых жыхароў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у 1794, 1831, 1863 гадох супраць акупантаў. Войны Расеі патрабавалі шмат рэкрутаў, што лягло новым і нязвыклым цяжарам на сялянства. З 1793 года мястэчка ў складзе Бобрскай воласьці Сень-



Сінагога ў Крупках, 1989г. (не існуе).

ненскага павету Магілёўскай губерніі.
1812 год амаль зьнішчыў Крупку і новы ўладар мястэчка, пан Сьвяцкі пачынаў практычна з нуля - адбудаваў царкву, даў ільготы габрэям-гандлярам, спрыяў хутчэйшай адбудове жытла местачкоўцамі. З сярэдзіны XIXст. у мястэчку пачынае разьвівацца прамысловая вытворчасьць, - у 1859 годзе будуецца новы млын з сукнавальняй, на якім у 1861 годзе працавала 17 рабочых, а ўсяго жыхароў у мястэчку на гэты год - 701. Праз 20 год у Крупках: піваварны завод, 2 млыны, 24 лаўкі, карчма, царква, 3 габрэйскія малітоўныя школы, сінагога (фота 4). Дзякуючы менавіта гэтым млынам Крупкі сталі вядомыя далёка за межамі свайго рэгіёну. Вось што сьведчаць крыніцы 1882 году: "У мястэчку Крупцы губерніі Магілёўскай на Бабры ёсьць млыны, на якіх вырабляецца найдэлікатнейшая мука пшоная і пад назвай "Крупецкай," альбо "Крупчаткі," дастаўляецца да найгалоўнейшых гарадоў," і яшчэ: "...вырабляюць у год больш 30 тысячаў пудоў круп агульным коштам звыш 30 тысячаў рублёў..." (фота 3). Калі улічыць, што ў 1871 годзе праз Крупкі прайшла лінія Маскоўска-Брэсцкай чугункі, - можна меркаваць, што ў жыцьці мястэчка пачаўся новы перыяд, які быў прыпынены Кастрычніцкім пераваротам 1917г. у Петраградзе. Так, у 1896 годзе Міхаіл Сьвяцкі (сын Карла) заснаваў фабрыку запалкавай саломкі, на якой у 1900г. працавала 52 рабочых, а сума вытворчасьці складала 31700руб. (фота 5) У 1913г. гэтыя паказчыкі павялічыліся: 55 рабочых выпрацавалі прадукцыі на суму 35тыс. рублёў, - значная частка прадукцыі вывозілася ў Амерыку. У 1900г. купец Арон Гіршаў Курнік заснаваў лесапільны завод, на якім было занята 16 рабочых, а сума вытворчасьці складала амаль 18тыс. рублёў. У 1897 годзе Крупкі - гэта: "...местечко Сенненского уезда Могилевской губернии при реке Бобр, станция Московско-Брестской железной дороги, нагрузка лесных материалов и хлеба. Жителей 1532 (1080







**Сядзібны дом Караля Сьвяцкага, 1993г.**
*Стаяць: настаўнікі Якаў Максімавіч і Александра Нічыпараўна Мінковы, невядомы, 1950-я гг.*

евреев). Православная церковь, 3 молитвенных дома. Крупчатая мельница, фабрика спичечной соломки и лесопильный завод"; а таксама: "...сукнавальня, 7 кузьняў, скураны, маслабойны заводы, паштова-тэлеграфнае аддзяленьне, царкоўна-прыходская школа, сінагога, пастаялы двор, аптова-вінны склад і кірмашы 29 жніўня і 9 сьнежня. Дзейнічала ў мястэчку і ганчарная майстэрня, на якой выпускаўся, знакаміты сваёй якасьцю, паліваны посуд і дзіцячыя лялькі (прадпрыемстваў такога узроўню на Беларусі тады было ўсяго 8), які з поспехам прадаваўся далёка за межамі рэгіёну (фота 6).

Наступныя вядомыя гістарычныя падзеі (Кастрычніцкі пераварот, грамадзянская вайна ў Расеі, падзел краіны Рызкай дамовай 1921г., антыбальшавіцкі супраціў на савецкай частцы Беларусі 1918-1925г.г.) надоўга прыпынілі нармальнае разьвіцьцё майго горада. А ўлетку 1920г. ён зноў, як і сто год таму, амаль поўнасьцю быў зьнішчаны пажарам.

Але жыцьцё працягвалася. У 1924 годзе Крупкі становяцца цэнтрам аднайменнага



**Вырабы Крупскага ганчарнага заводу.**

раёну. У 1926г. ў мястэчку 2097 жыхароў. І вось як выглядалі Крупкі ў эканамічным пляне ў 1934 годзе: "Льнозавод №8 - колькасьць рабочых і служачых 36, выпушчана прадукцыі на 28485тыс. руб.; лесацьвікавы завод - колькасьць рабочых 20, ганчарны завод - колькасьць працоўных 18, выпушчана прадукцыі на 34273тыс.руб.; кузьнечная арцель "Чырвоны молат" - колькасьць працоўных 24, прадукцыі на 133018тыс.руб.; шавецкая арцель "Перамога" - колькасьць працоўных 31, прадукцыі на 137399тыс.руб.; хлебапякарня - колькасьць працоўных 4, прадукцыі на 17660тыс.руб.; кравецкая арцель - колькасьць працоўных 16, прадукцыі на 36386тыс.руб.; шавецкая арцель - колькасьць працоўных 5, прадукцыі на 10706тыс.руб.; лесапільны завод - колькасьць працоўных 24, прадукцыі за паўгоддзе на 12096тыс.руб.; саўгас "Крупкі" з плошчай сенапахаці 1160,12га і 50 рабочых, раённая МТС мае 11 трактараў, складаных малаткарняў 11 і 2 сеялкі 24-радковых. З 27 верасьня 1938 года Крупкі - гарадскі пасёлак, які ў наступным годзе налічваў 3455 жыхароў.

З 1 ліпеня 1941г. да 28 чэрвеня 1944г. пасёлак акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 1800 грамадзян. У час акупацыі ў Крупках знаходзілася ўправа, нямецкі гарнізон, канцлягер. За гэты перыяд немцы вывезьлі ў Нямеччыну 1/5 частку лясных багацьцяў раёна. Па сьведчаньнях старажылаў, - да вайны вакол Крупак стаялі вялікія рошчы бярозы, вяза, а дубравы былі распаўсюджаны па ўсім раёне. Усе яны зьніклі пад час вайны. На франтах і ў партызанах загінула 340 маіх землякоў. А ўвогуле Крупшчына, за гады вайны 1941-1945 гг., страціла каля 7 тыс. чалавек.

Абавязкова трэба адзначыць, што за перыяд існавання савецкай улады з 1918 па 1988 гады ў маім раёне было незаконна рэпрасавана больш за 2000 асобаў. З якіх каля 500 безпадстаўна расстраляны ў часы сталінскага тэрору 30-х гадоў.

Ужо ўвосень 1944г. пачалі працаваць прамысловы камбінат, скураны, цагельны заводы, крыху пазьней шавецкая арцель, МТС, радыёвузел, тэлефонна-тэлеграфна станцыя, раённая больніца, дзіцячы дом. У 50-я гады пабудаваны універмаг, культмаг, кніжны магазін, хлебазавод, кінатэатр. У 60-я - пабудаваны жылыя кварталы, вытворчыя майстэрні райсельгастэхнікі (зараз "Амкадор-Можа"), пладовагароднінны завод, школы. У 1980 годзе, з вялікай дапамогай касманаўта Ўладзіміра Кавалёнка, нашага земляка, пабудавана новая, сучасная паліклініка й больніца. У 1991 годзе наш гарадскі пасёлак атрымаў статус горада. На 1 студзеня 1998г. у Крупках пражывала 10 223 жыхары. Дрэваапрацоўчы камбінат, ільнозавод, лясгас, пладовагародненны завод, 3 сярэднія і адна музычная школы, 2 дамы культуры, 2 бібліятэкі, раённы вузел сувязі, 4 банкаўскіх установы, раённыя службы кіраваньня, райспажыўсаюз, 8 дамаў грамадскага харчаваньня, кінатэатр, Дом дзіцячай творчасьці, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, 3 дзіцячыя садкі, музэй, Дом быту, аптэка, крамы - вось сучасны твар горада. 27 траўня 1999г. Крупскім райвыканкамам зацьверджаны герб горада, які спалучае ў сабе тры адметнасьці - рэчку Крупку, кола вадзяного крупяного млына і кветку-траву "Крупка дуброўная".

Па эканамічных паказчыках наш сельгаспадарчы раён знаходзіцца далёка не ў лідэрах. І, апошнім часам, па горадзе ходзяць настойлівыя чуткі, што наш раён хочуць зьліквідаваць й далучыць, як у мінулыя часы да Барысава, Талачына ці Бярэзіна. А мне хочацца верыць, што мае землякі дачакаюцца новых, лепшых часоў...

# Малы слоўнічак жывой халапеніцкай гаворкі

**КРАЯЗНАЎСТВА**/ Пятро й Алена АЛЯХНОВІЧЫ

**“З родным чалавекам сустрэнішся, пагаворыш – як мёду напьешся!”**

*З халапеніцкай гаворкі*

*Гэты слоўнічак зьяўляецца спробай захаваць гаворку, на якой размаўлялі жыхары мястэчка Халапенічы ў 1930-1960-х гадох XX стагодзьдзя. Зразумела, што ён далёка няпоўны й праца па яго напаўненьню будзе працягвацца. У слоўнічку таксама зьмешчаны прыклады народнага лекаваньня, прыказкі, прымаўкі, показкі й жартачкі, асабліва шырока распаўсюджаныя ў мястэчку й ваколіцах. Шмат зь якіх слоў і па сёньня гучаць у Халапенічах, але ёсьць і такія, што ўжо адышлі ў Гісторыю.*



*АЛЯХНОВІЧ АЛЕНА ЯЎСТАФ’ЕЎНА, нар. 24.11.1943 у м.Халапенічы Крупскага раёну. Краязнавец, выдатны педагог і трэнер Крупскай дзіцяча-юнацкай школы ў 1966-1984гг. У цяперашні час – пенсіянер.*

### А

1. **Абдзірала** – несумленны чалавек, вымагальнік (выраз: “Абадраў як ліпку.”).
2. **Абібок** – гультай.
3. **Абічайка** – аснова, да якой крапілася мелкае сіта для прасейваньня мукі. Звычайна рабілася зь ліпавай тоўстай кары.
4. **Аборы, аборкі** – вяроўкі, якімі прымацоўваліс лапці да нагі.
5. **Абручак** – шлюбны пярсьцёнак.
6. **Адборнік** – рубанак, якім выбіраюць чвэрць (звычайная назва “зэнзубель”).
7. **Адгрохаў** – пабудаваў з шыкам (выраз: “Во адгрохаў дом – палац, не йначай!”).
8. **Адлупцаваць** – 1) адшлёпаць рамнём альбо рукой па задняму месцу з мэтай выхаваньня; 2) пабіць кулакамі.
9. **Азызак** – чалавек, які баіцца холаду.
10. **А ляі ляі ля, ліські-біські** – так пяшчотна называюць маленькае дзіцятка.
11. **Амярыць** – ударыць каго-небудзь палкай.
12. **Апастыляцца** – спрачацца зь некім.
13. **Апірутаваць** – есьці са смакам, з вялікім апетытам.
14. **Аплыцька** – недалужны чалавек, які апусьціўся.
15. **Апялешчыць** – ударыць са злосьцю.
16. **Аруля** – мянушка чалавека, які руль ровара называў “руля”.

17. **Аскялёпак** – трэска, кавалак дрэва.

**Б**

1. **Бабкі-драпкі –** дзіцячая гульня, калі адзін другога носіць на сьпіне (выраз: “Пакатай мяне бабкі-драпкі.”).
2. **Бабух цёп-цёп** – так пяшчотна кажуць, калі купаюць у вадзе малое дзіця.
3. **Бавіць час** – гутарыць дзе-небудзь на пасядзелках, ад няма чаго рабіць.
4. **Бадзяцца** – хадзіць, блукаць бяз толку.
5. **Байкі бавіць** – расказваць розную лухту.
6. **Байня** – лазьня.
7. **Балабашкі** – аладкі, бліны.
8. **Балбатун** – цецярук.
9. **Банкарт** – дзіця, народжанае ў дзяўкох, не замужам.
10. **Бацян, буцян** – бусел.
11. **Бегма бегчы** – вельмі хутка бегчы.
12. **Біра** – мянушка чалавека, які быў ціхім і працавітым.
13. **Блакуняка** – гультай, што ходзіць (блукае, бадзяецца, цягаецца, швэндае) па мястэчку бяз мэты.
14. **Блудніца** – дзеўка, альбо жанчына, якая мела шмат кавалераў, ухажораў.
15. **Блэндаць** – гл.: **Бадзяцца**.
16. **Бразгатаць, брандзіць** – званіць, біць у званы.
17. **Бразнуў, бразнуўся** – ударыў, ударыўся.
18. **Брандзалеты** – салдацкія ці паліцэйскія атрыбуты, прычэпленыя на яго уніформу.
19. **Брахалы** – людзі, якія кажуць абы што, брэшуць.
20. **Буланы** – жоўты колер поўсьці каня.
21. **Бултыхнуць** – зьнікнуць пад вадой з галавой, нырнуць.
22. **Бурбалкі** – пузыры (выраз: “Во бултыхнуў, што толькі бурбалкі пайшлі па вадзе.”).
23. **Бэбла** – мянушка чалавека вялікага росту, але недалёкага розуму.
24. **Бязэдніца** – прорва, не маючая дна й канца на балоце.
25. **Бялясы** – бярозавыя калы, з маладога бярэзьніку зь якіх зроблена агароджа альбо плот.

**В**

1. **Вадзянік** – мітычны дух зла, што жыве ў вадзе (выраз: “Каб цябе вадзянік вадзіў.”).
2. **Валтузіць** – штурхаць, шкамутаць, шморгаць адзін аднога.
3. **Валхвітка** – жанчына, якая заўсёды абхітрыць, падманіць.
4. **Вантробы** – нутро, унутраныя ворганы чалавека ці жывёлы (выраз: “Ой, вантробы разбалеліся.”).
5. **Ванцак** – нячысьцік, чорт (выраз: “Во, ванцак цябе носіць, спакою табе няма.”).
6. **Варголы чорныя** – бліны з перазімаваўшай у зямлі бульбы (у голад 1946г., па вясьне, гэткую бульбу зьбіралі й елі...)
7. **Васьвістал** – мянушка чалавека, які заўсёды пасьвістываў пры зьдзіўленьні ці якой працы.
8. **Вільчык** – найвышэйшая частка даху любой пабудовы – хаты, хлева і г.д.
9. **Вірлавокі** – чалавек з вялікімі вачыма.
10. **Восьці** – 1) валаскі на ячменю; 2) рыбалоўная, браканьерская прылада.
11. **Вургаўка** – дзіцячая цацка, зробленая з сьвінячай костачкі й шнурка й пры гульні выдаючая гук “вург”.
12. **Вурза** – абжора.
13. **Выёдаваць** – прыгатаваньне дэлікатэсаў з вялікім стараньнем.
14. **Выжлукціў** – выпіў да дна.
15. **Выстрэнчаваць** – вельмі старанна й грунтоўна рабіць якую-небудзь працу.

16. **Высьпятка** – ударыць дзіцяці пад зад з мэтай выхаваньня (выраз: "Супакойся, а то атрымаеш у мяне высьпятка.").
17. **Вяркаць** – выдумляць, распускаць плёткі.

### Г

1. **Гак** – невялікая адлегласьць на мясцовасьці (выраз: "Да туль будзе тры кілёметры з гакам.").
2. **Галандзюрыць** – весьці размову аб якой-небудзь бязглузьдзіцы.
3. **Галдыячыць** – падаваць нейкія незразумелыя гукі (выраз: "Што ты галдыячыш, як індык?).
4. **Галіяш** – мянушка мужчыны, вельмі працавітага, аж да ўпартасьці.
5. **Гаматы** – галошы.
6. **Гамзіць** – казаць што-небудзь хворым, прастужаным голасам.
7. **Гандзюлі** – агульная мянушка вясковых жыхароў, што прыяжджалі ў Халапенічы (выраз: "Во ўжо гэтых гандзюлей панаехала ў мястэчка!").
8. **Гандзюрыць** – казаць абы-што.
9. **Гаўкала** – гл.: **Пад'ялдыка**.
10. **Гачак** – кручок для лоўлі рыбы.
11. **Гішэфт** – тайная справа паміж двума людзьмі.
12. **Гляк** – гліняны посуд.
13. **Гонза** – мянушка жаднага чалавека.
14. **Гоні** – адлегласьць на мясцовасьці, каля 80 мэтраў даўжынёй (выраз: "Цэлыя гоні ўзараў.").
15. **Грамузда** – глядзі: **Гыркала**.
16. **Групка** – печ, толькі для ацяпленьня хаты.
17. **Груца** – дробныя ячменныя крупы.
18. **Грызла** – зубы, рот.
19. **Грэбаваць** – не паважаць (выраз: "Калі не грэбуеш, то бяры...").
20. **Гуз** – вузел.
21. **Гузак** –атрыманая пры ўдары шышка на галаве.
22. **Гушкаць** – калыхаць дзіцятка, каб заснула альбо не плакала (выраз: "Пагушкай яго, каб не плакаў.").
23. **Гыркала** – малакультурны чалавек, які любіць павучаць непрыстойнымі словамі.

### Д

1. **Дадушы** – чэсна (прыкладаючы кулак да грудзёў казалі: "Дадушы, праўду кажу!").
2. **Дамавіна** – гроб.
3. **Даць дразда** – выкінуць які-небудзь фокус.
4. **Даць драла** – уцекчы.
5. **Даць нырца** – нырнуць у ваду.
6. **Даць чосу –** моцна адлупцаваць каго-небуць (гл.: **Адлупцаваць**).
7. **Дзеўка-сядуха** – жанчына, якая не выйшла замуж з вялікага выбору й засталася ў дзяўкох.
8. **Дзугайла** – чалавек, які "суне свой нос куды ня трэба".
9. **Дордзік** – мянушка чалавека, дзёрзкага, парывістага.
10. **Драбіны** – пераносная лесьвіца.
11. **Драндулет** – матацыкл.
12. **Драпаць** – уцякаць (гл.: **Даць драла**).
13.**Драпежыць** – за шмат патрабаваць ад чалавека, зрабіць яму крыўду.
14. **Драпкі** – від конных калёс (выраз: "Ён сена наклаў поўныя драпкі.").
15. **Дрында** – высокая, худая, нязграбная дзяўчына.
16. **Дрыстун** – панос (хвароба).
17. **Дрысьцік –** 1) хворы на панос; 2) слабы, трусьлівы чалавек.
18. **Дурэць** – свавольнічаць (пра дзіця).
19. **Дыбае** – йдзець, ходзіць.
20. **Дыбачкі –** наскі ног (выраз: "Стань на дыбачкі – тады й дастанеш...").
21. **Дэра** – неахайны чалавек.

**Е, Ё**

1. **Евель** – адукаваны, культурны селянін (выраз: "Ён жа ў нас евель, не абы хто!").
2. **Епацёнак** – мянушка чалавека, прозьвішча якога было Плаксёнак.
3. **Ёлкае** – старое, жоўтае сала.

**Ж**

1. **Жмакаць –** нялоўка, абы-як выкручваць пасьціраную бялізну.
2. **Жмында –** жадны, сквапны чалавек.
3. **Жэўжык** – вельмі рухавы, вяртлявы хлопчык.

**З**

1. **Забарляць** – зрабіць абыякава, неахайна, не па-людцку (выраз: "Во ён дрэнна паскарадзіў сваю ніву, - абы забарляць.").
2. **Закілзаць** – зацугляць каня.
3. **Закрыліна** – нешырокая дошка, прымацаваная да канька страхі.
4. **З леганца ўдарыў** – не моцна, лёгенька адшлёпаў.
5. **Заскавыча** – завые, заскуголіць, запішчыць (выраз: "Нешта сабака ноччу як заскавыча.").
6. **Затула** – фартух, пярэднік.
7. **Зашмаргнуць** – завязаць вяроўкі, альбо шнуркі.
8. **Збайдышыў** – вельмі хутка нешта згубіў (выраз: "Не пасьпела купіць яму шапку – ужо збайдышыў.").
9. **Збродлівы(ая)** – кажуць пра хатнюю жывёлу (каня, карову,казу), якая не трымалася статку й заўсёды сыходзіла куды-небудзь.
10. **Зенькі** – вочы (выраз: "Што ты зенькі вылупіў?").
11. **Зырка** – так казалі пра вельмі сьпякотнае надвор'е ў чэрвені, калі каровы ці коні, пакусаныя ваднямі уцякаюць ад іх задраўшы хвасты (выраз: " Во ўжо сяньня зырка!").
12. **Зыркаць** – глядзець, падглядываць куды ня трэба, шпіёніць.
13. **Зьбіўся з панталыку** – пра чалавека, які робіць абы што, жывець не па-людцку.
14. **Зьвяглівы –** пра чалавека брыдкаслова, пляткара.
15. **Зьняўсьцейкі** – нечакана, зьнянацку.
16. **Зьдзел** – зробленнае наўмысна, з дурной мэтай, на шкоду чалавеку.

**І**

1. **Інды** – бязглузьдзіца (выраз: "Што ты мне тут інды пляцеш? Кажы праўду.").
2. **Інтэрыя** – нечаканасьць, зьдзіўленьне ад чаго-небудзь (выраз: "Прыйшла дадому, а там інтэрыя – сын з войска вярнуўся!").

**К**

1. **Кавардак** – беспарадак.
2. **Кавэра** – неакуратны, абыякавы чалавек.
3. **Казённае** – належыць ураду, дзяржаве.
4. **Казычыць** – сьвярбіць у носе, чэшацца.
5. **Каламаты** – няголены й лахматы мужчына.
6. **Калатоўка** – кухонная прылада для прыгатаваньня куляша, кісяля, падобная на рагатку.
7. **Кандэйка** – агульная мянушка жыхароў вёскі Пярэсіка (як жанчын, гэтак і мужчын).
8. **Капа** – 60 штук гуркоў ці іншай гародніны (выраз: "Сяньня выбрала капу гуркоў.").
9. **Каракаціца** – крываногая, нязграбная жанчына.
10. **Кароста** – часотка, хвароба скуры.
11. **Кацап** – старавер.
12. **Качалка** – прылада для прасаваньня бялізны (выраз: "Буду качаць бялізну.").
13. **Качарэжа, качарэжка** – качарга для печы.
14. **Качулка** – кухонная прылада з драўлянага кругляша, што падкладывалася пад вілачнік для больш спрытнага даставаньня чугункоў з печы.

15. **Кебус** – мянушка чалавека, што ад нараджэньня быў нямы й толькі казаў гук “ке-ке”.
16. **Клямар** – мэталічная скаба, злучво двох бярвеньняў (на будоўлі хаты ці іншай гаспадарчай пабудовы).
17. **Клямка** – мэталічная прылада, каб зачыніць дзьверы.
18. **Копка** – мянушка акруглай, тоўстай, невысокай жанчыны, фігура якой нагадвала капежку сена.
19. **Коптар** – накласьці вядро бульбы з гарой.
20. **Коўтаць мілі** – пераадольваць нейкую адлегласьць, іцьці.
21. **Кругляк** – кароткае, тоўстае бервяно.
22. **Куганка** – кружка ў лазьні, звычайна медная.
23. **Кузлы вязаць** – гаманіць аб сваім (выраз: “Ці нам старым з вамі маладымі кузлы вязаць.”).
24. **Куль** – тоўсты, вялікі сноп саломы для накрыцьця даху, страхі хаты, хлева й інш. збуд.
25. **Куляй** – перакульвай (выраз: “Куляй воз сена.”).
26. **Курмель** – рыба, пячкур.
27. **Куфлік** – маленькі чайнік для заваркі гарбаты.

**Л**

1. **Лабусь** – мянушка чалавека недалёкага, але ўпартага (выраз: “Во ўжо лабусь, як упрэцца ў што, лоб не прабіць”.).
2. **Лазаты** – дрэнны, абыякі чалавек (выраз: “А, гэты чорт лазаты.”).
3. **Лайба** – ровар, веласыпед.
4. **Лайдуда** – вельмі разбэшчаны гультай.
5. **Лайно** – якое-небудзь не новае адзеньне (кашуля, спадніца).
6. **Ласуха** – аматар салодкай ежы.
7. **Латруга** – гультай.
8. **Латэндзя** – гл.: **Латруга**.
9. **Лахардзікі** – цукеркі, слодыч ці проста вельмі смачная ежа.
9. **Лахудра** – жанчына, непрычасаная, дрэнна апранутая, некультурная.
10. **Лацьвей** – зн.: лепей, чым іншым (выраз: Табе лацьвей, – у цябе грошыкі ёсьць.”).
11. **Лідаік** – ваніты, ванітаваць.
12. **Лодзік** – скарочанае імя Ўладзімер.
13. **Лупы** – вялікія губы (выраз: “Пацалаваў яе прама ў лупы.”).
14. **Лусьне** – трашчыць, трэсьне (выраз: “Во мароз, йду, а гонта ў страсе як лусьне!”).
15. **Луста –** кавалак хлеба.
16. **Лында –** гл. **Латруга**.
17. **Лынды біць** – нічога не рабіць, марна бавіць час.
18. **Ляпы** – ськівіцы, рот (выраз: “Дай яму па ляпах.”, ці “Ляпу зачыні”.).
19. **Лярва** – 1) вельмі флегматычны, санлівы, непаваротлівы чалавек альбо жывёла;
2) жанчына лёгкіх паводзін, ненадзейная.

**М**

1. **Манджэра** – разява.
2. **Мажы** – конная павозка на 4-х колах зь вельмі высокім кузавам.
3. **Мажэя** – мянушка дзяўчынкі, якая заўсёды прасіла намазаць ёй тлушчу на лусту хлеба.
4. **Макацёр** – гліняны посуд, у якім цёрлі мак, калі гатавалі стравы на Каляды.
5. **Макітра** – 1). драўляная чурка ў форме галавы для шыцьця і сушкі шапак; 2). мянушка някемлівай жанчыны;
6. **Малаткар** – каваль.
7. **Малізінчык** – чалавек, вельмі пераборлівы ў ежы (выраз: “Ня ведаю, чым гэтага малізінчыка карміць?”).
8. **Малюпасенька** – пяшчотная назва дзіцяткі.
9. **Маляйка** – малое дзіця.

10. **Мармыль –** чалавек нелюдзімы, зусім не гаваркі.
11. **Матуся** – хросная маці.
12. **Маўра** – мянушка жанчыны, якая была вельмі непаваротлівая, з запаволеннымі рухамі й думкамі, заўсёды й усюды адставала ад іншых.
13. **Мацуя** – мянушка жанчыны, якая пры разгаворы рабіла моцны націск на літару "ц" (яе выраз: "Во, гэтыя граўцы, (рэд.: "Жыхары вуліцы Гаравая") сала наяду**цц**а, малака напью**цц**а, бульбы нажару**цц**а і за хлебам на Рагатку (рэд.: "Цэнтр мястэчка") пру**цц**а).
14. **Мацю** – мянушка хлопца, які у дзяцінстве так называў сваю маці.
15. **Мітлін** – мянушка чалавека, які быў вельмі спакойны й мірны (выраз: "Гэты Мітлін й курыцу не пакрыўдзіць.").
16. **Міцюрня** – ежа, у якой намяшана рознай гародніны, так званае комплекснае блюда.
17. **Млосна** – стан чалавека на мяжы страты прытомнасьці.
18. **Музей й музеіха** – мянушка мужа й жонкі, старавераў з вёскі Бабарыка, якія былі першымі (!) горкімі пьяніцамі у ваколіцах мястэчка (рэд.: "Для таго часу (50-я г.г.) гэта была унікальная зьява – сямья старавераў-пьяніц. У сваёй большасьці старaверы навакольных вёсак вялі трэзвае жыцьцё. Таму іх лічылі ледзь не музэйнымі экспанатамі – адсюль і мянушка").
19. **Мурлаты** – чалавек, у якога тоўстыя, абвіслыя шчокі.
20. **Мяла** – рот.
21. **Мярэча** – мянушка жанчыны недалёкай, але вялікіх памераў.

**Н**

1. **Навярох** – наверх (выраз: "Падай вяроўку навярох стага.").
2. **Надыбаў** – набыў нешта нячэсным шляхам.
3. **Наканавана** – прадвызначана лёсам.
4. **Наколкі** – спартовыя шыпоўкі для лёгкай атлетыкі.
5. **Напраскі** – пайсьці напрамкі, кароткай дарогай.
6. **Наські** – пра знаёмага чалавека, свайго (выраз: "Гэта наські хлапец, з нашай вуліцы").
7. **Нахрапам** – напралом, любым шляхам.
8. **Нацянькі** – пайсьці кароткай, але патаемнай дарогай.
9. **Начовачкі** – кухонны посуд, зробленны з дрэва ў выглядзе невялікай ваннaчкі.
10. **Начоўкі** – вялікая драўляная ванна, зробленная з ліпы, для купаньня дзіцяці й сьціркі бялізны.
11. **Нашпірляць** – вельмі шчыльна ўзараць ворыва, баразну ля баразны.
12. **Неахайна** – абы як, дрэнна, неакуратна (выраз: "Во ўжо ён неахайна сваю ніўку ўзараў").
13. **Недавярак** – неразумны й недаверлівы чалавек.
14. **Недалуза** – недалужны, няспрытны чалавек.
15. **Недацёпа** – абыякавы, недаразьвіты чалавек.
16. **Не наські** – чужы, незнаёмы чалавек, людзі (выраз: "Нейкія людзі не наськія пайшлі")
17. **Непераліўкі** – г.зн.: атрымалася не так, як хацеў (выраз: "Хацеў Ганну ўзяць, а тут яму непераліўкі").
18. **Несусьцейкі** – нечакана (выраз: "Пайшоў па лёдзе й несусьцейкі праваліўся").
19. **Неўвірутны** – чалавек хітры, усюды вывернецца (выраз: "Во злодзей неўвірутны!").
20. **Нудзіла** – надаедлівы, нудны чалавек.
21. **Нягеглы** – чалавек з фізычнымі

недахопамі.
22. **Ня ежкі** – чалавек, які мала еў, без апетыту (выраз: "Барыс наш дужа ня еў, – ня ежкі быў.").

П

1. **Пабірацца** – жыць на дармаўшчыну, клянчыць.
2. **Падбел** – маці й мачыха (зёлка).
3. **Падбрэхач** – падпявала начальству, гл.: **Пад'ялдыка**.
4. **Падвей** – 1) завіруха (выраз: "Разгуляўся ў полі, кінуўся падвей"); 2) злы дух (выраз: "Каб цябе Падвей ўзяў").
5. **Паддзеўка** – кароткая куртка, паўпаліто.
6. **Падлабуніў** – узяў без дазволу якуюнебудзь рэч у сваіх родных, ці блізкіх.
7. **Падплітанка** – прылада працы, зробленая з галёнкі сьвіньні, якой падплітаалі падэшвы новых лапцей.
8. **Падсьлёпісты** – чалавек з дрэнным зрокам.
9. **Пад'ялдыка** – падхалім, выслужлівы чалавек.
10. **Пазёмак** – 1) неўдалая, хілая расьліна (выраз: "Жыта ў гэтым годзе не зрадзіла, зерне – адны пазёмкі"); 2) чалавек, разумова й фізычна недаразьвіты.
11. **Пазёмка** – першыя залёты сьняжынак перадзімья.
12. **Пакладзісты** – памяркоўны чалавек.
13. **Пакост** – аліфа, для разбаўленьня фарбаў.
14. **Палакалі** – зьелі й папілі ўсё, што было.
15. **Палуднаваць** – абедаць.
16. **Палэхалі** – зьелі нямнога й толькі самае смачнае (выраз: "Во, ня елі, а толькі палэхалі").
17. **Памяло** – венік з сасновых галінак, навязаны й закрэплены на даўгім шасьце, якім вымяталі попел у печы перад выпечкай хлебу.
18. **Паплеціна** – тонкая, яловая, альбо сасновая жэрдачка, якой прыціскалася салома да страхі хаты ці хлява, пры будоўлі (у выпадку, калі дах рабілі з саломы).
19. **Папіхайла** – лянівы чалавек, пакуль не падштурхнеш – працаваць не пачне.
20. **Парахня** – цалкам згніўшае дрэва.
21. **Патопак** – лапаць, які ўжо стаптаўся.
22.**Паўбэлак** – дурак.
23. **Паўзун** – 1) гл.: **Сецька**; 2) яблынька, што расьце гарызантальна зямлі.
24. **Паядунак** – лепшая ежа, харч, які давалі на пасту, у лес ці на касьбу.
25. **Папіхайла** (2) – той, хто заўсёды падганяе ў працы, брыгадзір у калгасе.
26. **Паўшавэлак вушаногі** – мянушка хлопца неакуратнага, малакультурнага.
27. **Паціньня** – мянушка дзеўчыны, у якой маці звалі Еўфрасіньня.
28. **Паціпнік** – мелкі бярэзьнічак, што дазвалялі зьбіраць на дровы бясплатна (націск на літару "а").
29. **Пацыкайлік** – гл.: **Пад'ялдыка** (выраз: "Во ўжо пацыкайлік – бяз мыла ўлезе й свае тры грошы ўставіць").
30. **Передок** – невялікая табурэтка даіць карову.
31. **Перакуліўся** – казалі пра чалавека, што памер.
32. **Перапечкі** – аладкі, бліны.
33. **Пеўні ён пайшоў** – напэўна ён пайшоў.
34. **Піпка** – 1) люлька, трубка для паленьня табакі; 2) мянушка хлопчыка, у якога кончык носа быў вельмі задраны ў гару.
35. **Плаха** – прыстасаваньне з дрэва для чысткі авечай скуры.
36. **Плашка** – гл.: **Аскялёпак**.
37. **Плявузгала** – чалавек, які гаворыць абышто, плявузгае.
38. **Пляскач**, **пранік** – пляскаты драўляны

брусок з ручкай, якім перылі бялізну пры мыцьці.
39. **Пляцкала** – жанчына-пляткарка.
40. **Пляцень** – плот, агароджа, зробленая з лазовых галінак.
41. **Побрыкі** – бегчы падпрыгваючы, весела падбрыкваючы (выраз: "А мая карова пасьля зімы, глянь як у побрыкі пайшла!" (націск на "о")).
42. **Пожня** – у канцы агарода пару сотак засеяных травой, дзе пасьвіўся свойскі конь.
43. **Прадуў** – прайграў у нейкім спаборніцтве ці ў карты.
44. **Пранцы** – злыя духі, ведзьмы (выраз: "Каб цябе пранцы ўзялі.").
45. **Прас** – уцюг.
46. **Прахажай** – ліхі чалавек, прахадзімец.
47. **Прыджгаць** – прыбегчы, ці прыехаць на кані вельмі хутка.
48. **Прыкарманіць** – украсьці.
49. **Прыпёрся** – прыйшоў нязваны.
50. **Прыпірышча** – сталае месца (выраз: "Нідзе сабе прыпірышча не можа знайсьці").
51. **Пруткі** – 1) сьпіцы для вязаньня; 2) лыжныя палкі (у абодвух значэньнях націск на літару "і"); 3) спрытны, фізычна разьвіты чалавек (націск на "у").
52. **Прыстоік** – сьліўкі на малаке, што пастаяла ноч у гарлачы.
53. **Прытча** – якое-небудзь здарэньне з чалавекам (выраз: "Во каб цябе пранцы, - паехаў у гэткую сьлякаць й прытча са мной здарылася").
54. **Прэнт** – маленькі мэталічны лом, прылада працы.
55. **Пстрычка** – 1) шчаўчок па ілбе, калі прайграўся ў карты, ці з мэтай выхаваньня.
56. **Пуздрыла** – абжора.
57. **Пукаць** – прадоўжыць малацьбу цэпам зерня ячменю (без саломы), аббіваючы ад зерня восьці (гл.: **Восьці**).
58. **Пустамеля** – недалёкі, гаваркі чалавек.
59. **Пута** – 1) спецыяльная вяроўка, якой стрыножвалі каня; 2) абы-які чалавек (выраз:
"Пута бязродная.").
60. **Пярэплат** – азярод.
61. **Пяхцер** – рэдка сьплецены з тонкіх вяровак мех, у які напіхвалася сена для каня, калі адпраўляліся ў дарогу.
62. **Папаршчын** – ворыўнае поле пад парам, папар.

**Р**

1. **Ражка** – невялічкая драўляная бочка для лазьні без накрыўкі.
2. **Разбэшчаны** – чалавек, які страціў сумленьне.
3. **Разводзьдзе** – паводка вясной.
4. **Разінька** – пра чалавека, разяву.
5. **Румза** – плакса, плаксівае дзіця.
6. **Румзаць** – плакаць, але не сур'ёзна, ці з хітрынкай, каб нешта выпрасіць.
7. **Румпель** – у чалавека нос вялікіх памераў.
8. **Рывус** – мянушка чалавека, які быў вельмі спакойны, з павольнымі рухамі.
9. **Рымза** – гл.: **Румза**.
10. **Рымзаць –** гл.: **Румзаць**.
11.**Рыштаваньне** – пабудоўчыя лясы вакол хаты ці хлева пры будоўлі.
12. **Рэзьвіны** – прыстасаньне для пераносу сена для жывёлы з гумна ў хлеў, зробленае з пруткоў арэшніку й вяровак.
13. **Рэцьма** – хутка бегчы, напралом (выраз: "Рэцьма кінуўся да яго").
14. **Рэшата** – мелкае сіта для прасейваньня мукі.
15. **Рэшацень** – слуп, з прасьвідраванымі у ім дзіркамі, у якія засоўваліся жэрдзі пры зборцы азярода.

### С

1. **Савасьцей** – фэстываль (выраз: "Во, ўжо гэты савасьцей пачаўся ў Маскве" (гэтае слова зьвілася ў мястэчку падчас правядзеньня ў Маскве І-га міжнароднага фэстываля моладзі й студэнтаў 1958г.)).
2. **Саладуха** – брага, што пілі без перагону на самагон.
3. **Самасей** – мак ці табак, што вырас сам.
4. **Серан** – шарпак, наст (руск.).
5. **Сербапічка** – мянушка дзяўчынкі вяртлявай, непаслухмянай й капрызнай.
6. **Сецька –** дзіця, што позна пайшло ножкамі (выраз: "Я ў маленстве тры гады сецькай была").
7. **Сёрбаць** – есьці ўслых, неакуратна.
8. **Сідар з Барысава** – чалавек нагружаны клункамі, валізкамі.
9. **Скавычыць** – выць, сквуголіць (выраз: "Не так ужо й баліць табе – чаго скавычыш?").
10. **Скапыч** – прылада працы, вілы для разгрузкі гною, што вывез на поле.
11. **Скасабэчыўся** – зкрывіўся тулавам.
12. **Скасавурыўся** – недаверліва паглядае (выраз: "Што ты скасавурыўся, як сыч?").
13. **Скнара** – сквапны, жадны чалавек.
14. **Смаркач** – 1) чалавек, што часта шмыгае носам; 2) малады й недалёкі чалавек.
15. **Смык** – "зуб" драўлянай бараны з натуральнага яловага сука.
16. **Старцы зарэцкія** – вельмі бедныя людзі, жабракі.
17. **Століь** – паталок у хаце.
18. **Стромкі** – высокі й пакручасты (напр.: бераг ракі).
19. **Ступень па пень** – так станміўся, што няма моцы ўстаць.
20. **Сумёт** – сугроб сьнегу.
21. **Сьвярбіць** – чэшацца (выраз: "Нешта нос сьвярбіць, - мабыць выпью сяньня!").
22. **Ськіба** – вялікі кавалак хлеба.
23. **Ськібіца** – гл.: **Луста**.
24. **Сьліжак** – уклейка, рыба.
25. **Сьцібуваль** – гл.: **Савасьцей**.
26. **Сьціпціць** – вельмі хутка ўкрасьці (выраз: "Во ўжо, не пасьпеў адвярнуцца – ужо сьціпцілі").
27. **Сьцябачка** – брусок тачыць касу (рабілі так: на драўляны брусок з абодвух бачын намазвалі раствор цэмэнту).

### Т

1. **Такаю** – любое смачнае пітво.
2. **Тандэт** – якая-небудзь рэч, зробленая прыгожа й зручна, але ненадзейна, няпрочна – хутка паламаецца.
3. **Танянёхаць** – песьціць роднае дзіця, - як малое, так і дарослае.
4. **Тарадэйка** – гаваркая, недалёкага розуму, жанчына.
5. **Тарпачыць** – вельмі доўга й нязграбна імкнуцца прасунаць нітку ў іголку, ці інш.
6. **Татусь** – хросны бацька.
7. **Торбахват** – зайздросны чалавек, ласы да чужога, вялікі скнара.
8. **Транта** – 1) старое адзеньне (выраз: "Што ты трантамі трасеш?"); 2) бядняк.
9. **Трапачка** – брусок тачыць касу (націск на другое "а").
10. **Трапло** – 1) прыстасаваньне часаць лён; 2) чалавек, гаваркі па-пустому.
11. **Трубло** – абжора (выраз: "Во ўжо, трубло ненасытнае!").
12. **Трында** – хлус, падманшчык.
13. **Трындзець** – хлусіць, казаць бязглузьдзіцу.
14. **Трынка Пярэсіцкі** – мянушка чалавека вясёлага, артыста й музыканта – але легкадумнага.
15. **Трынкаць** – йграць абы-як на музычным

інструмэнце.
16. **Трэп** – мянушка чалавека па прозьвішчу Трыпуцень.
17. **Тумарнік** – чалавек закрыты, ціхі, але здольны на ліхое.
18. **Тыцкала** – ежа, мачанка падобная на верашчаку.
19. **Тычка** – драўляная палачка, што служыла адмецінай нейкіх памераў на полі ці лузе.

У

1. **Увалень** – гультай.
2. **Увіраць** – закладываць снапы ў азярод (націск на "а").
3. **Угрунь, угрунём, угруньком** – вельмі хутка бегчы, ці ехаць на кані.
4. **Удалка** – мянушка жанчыны працавітай, хуткай й спрытнай (націск на першую "а").
5. **Упадаваць** – дагаждаць каму-небудзь (выраз: "Во ўжо, трэ упадаваць перад ім").
6. **Упрочкі** – 1) пайшоў жыць да другой жанчыны (выраз: "Зьбег упрочкі"); 2) жонка пайшла жыць да сваіх бацькоў на некаторы час, перачакаць крыўду.
7. **Услончык** – гл. **Перадок**.
8. **Ушчалопак** – невялічкі узгорак сярод поля ці луга.

Ф

1. **Файны, файная** – 1) вельмі добры чалавек, прыгожая дзеўчына; 2) добра зробленая рэч
2. **Фанабэрысты** – чалавек пагардлівы, ганарлівы, які любіць зьвярнуць на сябе ўвагу.
3. **Фанька** – пяшчотная мянушка чалавека, імя якога Тамаш.
4. **Фацэзія** – дзіўная рэч, ці зьява (калі ў мястэчку зьявіўся першы тэлевізар, казалі: "Вось фацэзія, дык фацэзія!").

Х

1. **Халаміда** – адзеньне.
2. **Халіпа** – надворье, калі парывісты вецер нясе сьнег з дажджом (націск на першую "а").
3. **Хамаюк** – мянушка жанчыны, нячыстай на руку, вельмі варавітай.
4. **Ханянём хадзіць** – г.зн.: вельмі рухава, грацыёзна.
5. **Хапун** – у 1937-38 гадох, без ніякай абвесткі, па начох, НКВД забірала людзей (шмат хто зь іх зьнік назаўсёды...).
6. **Хахаль** – падпольны любоўнік.
7. **Хахатала** – сатырычная назва твару чалавека (выраз: "Бі яго ў хахатала").
8. **Хлуд** – насечаны хмызьняк, якім засыпалі яміну, лужыну, ці пераход праз канаву.
9. **Храпка** – корань, "ножка" качана капусты – качарыжка.
10. **Храпы** – ноздры.
11. **Хэўра** – спаяная кампанія ў адмоўным сэнсе, на дрэнныя справы (у мястэчку так называлі калгаснага брыгадзіра й яго падпявалаў).

Ц

1. **Цалік** – кавалак неўзаранай ворыўнай зямлі на якім ляжыць камень, ці стаіць пень.
2. **Цацкацца** – песьціць дзіця, дараваць яму ўсе благія ўчынкі.
3. **Цвыркун** – кузьнечык, конік.
4. **Ціртуха** – пацёрты мак.
5. **Цугаць** – на таку малаціць цэпам.
6. **Цурка** – дзіцячая гульня (гл.: артыкул Пятра Аляхновіча: "Гульні майго дзяцінства").
7. **Цыбаты** – чалавек вялікага росту й нязграбны.
8. **Цымус** – 1) тушоная бручка; 2) вельмі смачная, габрэйская ежа-далікатэс; 3) любая смачная ежа.
9. **Цындаловы** – чырвона-рыжы колер

валасоў на галаве ў чалавека.
10. **Цыпкі** – 1) цыпляты, кураняты; 2) хвароба – патрэсканая скура на ступнях ног.
11. **Цытра** – мянушка непрыемнай, пагардлівай й надаедлівай дзяўчынкі ці жанчыны.
12. **Цэйтлік** – квіток.
13. **Цэўкі** - перадплечча ("Так нарабілася, што ў цэўках рукі баляць").
14. **Цюрла** – абжора.
15. **Цягаецца** – ходзіць бяз толку.
16. **Цяльпух** – няспрытны, недалёкі чалавек.

**Ч**

1. **Чалдон** – мянушка чалавека, недаразьвітага псыхічна.
2. **Чалая** – расьліна заняпаўшая, худасочная.
3. **Чамбэрыкі** – не новы абутак.
4. **Чапярыдла** – 1). чапяла, качарга; 2). няўдалая, нязграбная дзеўчына альбо хлапец.
5. **Чарнуха** – мянушка чалавека з вельмі чорнымі валасамі на галаве (пра яго казалі: "Чорны – як асірыец!").
6. **Чачотка** – бяроза, у якой зьнізу тоўстая й патрэсканая кара.
7. **Чмура балотная** – нудная, прыставучая, гаваркая жанчына.
8. **Чмыркаць** – усхліпаваць пры плачы.
9. **Чмырык** – ненадзейны, сьлізкі чалавек.
10. **Чмых** – мянушка чалавека, які часта шморгаў носам.
11. **Чобаты** – вельмі старыя чаравікі.
12. **Чунджа** – мянушка чалавека, які часта сьпяваў сабе пад нос: "чунджа, чунджа, чунджа...".
13. **Чуркі** – нестандартныя дровы, – аппілкі, хвасты.
14. **Чылы** – чужы, незнаёмы чалавек.
15. **Чымярыца** – мянушка чалавека неакуратнага, завёўшага ў галаве вошы.
16. **Чэпік** – мянушка чалавека вельмі патрабавальнага й справядлівага.

**Ш**

1. **Шабалдыхаць** – ледзь іцьці.
2. **Шалудзька** – незграбны, зачуханы чалавек.
3. **Шамаць** – есьці ежу, калі ўжо амаль няма зубоў.
4. **Шапка** – 1) галаўны убор; 2) даўгі слуп, што лажылі зьверху на шулы (гл.: **Шула**).
5. **Шарнаплёўка** – чалавек, дзіця, які робіць абы-што.
6. **Шарудзіць** – рабіць што-небудзь патаемна, ўпрыцемках.
7. **Шваль бязродная** – вельмі дрэнны чалавек, людзі.
8. **Швандзя** – гл. **Блакуняка**.
9. **Швэндацца** – хадзіць, блукаць бяз мэты.
10. **Шкамутаць** – гл.: **Валтузіць**.
11. **Шкарацъ разьдзёртая** – мянушка чалавека, які лезе не ў свае справы, імкнецца "прыгнуць вышэй галавы".
12. **Шлёгаць** – біць каня пугай.
13. **Шлэндаць** – гл.: **Швэндацца**.
14. **Шлэпці** – старыя боты з адрэзанай халявай.
15. **Шмэды** – шэры колер, дакладней – белы колер, пераходзячы ў шэры.
16. **Шмэрка** – мянушка чалавека з фізычнымі недахопамі (хлопаў вачыма й шмыгаў носам).
17. **Шпырык** – астравок, кавалачак зямлі.
18. **Шула** – слуп, слупы, на якіх трымаецца брама й калітка.
19. **Шуры-муры** – заляцацца да чужой жонкі.

**Ю**

1. **Юрзаўка, Юрздыка** – вуліца, тэрыторыя за касьцёлам (выраз: "Ён хату сабе паставіў не абы-дзе, – на Юрздыцы!").

## ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ПОКАЗКІ Й ЖАРТАЧКІ

1. У няўмечкі ні баляць ні ручкі, ні плечкі.
2. Адна, як палка, няма куды й прыхінуцца.
3. Кажы яму белае, а ён ўсё чорнае.
4. Упёрся, як бык.
5. Дурню сцы ў вочы, а ён кажа: дождж ідзе.
6. Вышэй локця ня ўкусіш.
7. Не круцісь, як вірацяно.
8. Цыган за дружбу гатоў павесіцца.
9. Лезе, як жаба на корч.
10. Не стоя аўчынка выдзелкі.
11. Хто з язычком, той з піражком.
12. Баба з калёс – каню лягчэй.
13. Ні наеўся дык ні наліжышся.
14. Ці пнём аб саву, ці савой аб пень – усё раўно саве баліць.
15. Ні сабе паглядзець – ні людзям паказаць.
16. Воўк сабакі не баіцца, але не любіць яго зьвягі.
17.Зь вялікага грому малы дождж.
18. Памалюся зранку й усё як з воску ліецца (зн.: усё атрымоўваецца, за што ні вазьмуся).
19. Зь ім пагаворыш – розуму набярэшся.
20. Разумная кабылка – запрагайся ў плуг і ары сама.
21. Там дзе чорту не пад сілу – ён бабу пашле.
22. З плеч ды ў печ (зн.: бедна жывуць).
23. Ні Богу сьвечка, ні чорту качарга.
24. Конь стары, а хвост як у жарабя.
25. За выборкі пашле чорт аборкі; ці Пашле чорт аборкі за пераборкі (зн.: пра пераборлівую дзяўчыну, што доўга шукае жаніха).
26. Нікога ня слухае – хоць кол на галаве чашы.
27. Голь на выдумку мудра.
28. Што ўбіў, то ўехаў (чаму навучыўся, тое тваё).
29. Як зробіць што – курам на сьмех.
30. Багаты, як шалёны.
31. Усе чэрці роўныя.
32. Чаму мужык з жонкай сварыцца, – таму, што ў гаршку трасца варыцца.
33. Не бяры на пуп (зн.: не надрывайся, не рабі непасільнай працы).
34. Не вярціся, як шкурат на вогнішчы.
35. Аж луні па ім ходзюць (пра прыгожага, дагледжанага каня).
36. Уруніла жыта, што варона хаваецца (зн.: рунь вышынёй 30-40см.).
37. Восень на рабым кані езьдзіць (зн.: 5-ць разоў на дзень надворье зьменіцца).
38. Біліцы прадала, разявайку купіла (зн.: была на базары, нічога не купіла – няма грошай).
39. Дышлем цюкнулі бабульку (зн.: моцна пабілі каго-небудзь).
40. Што ты ў старца адбіраеш апошні кій?
41. Што ты маўчыш, як рыба аб лёд?
42. Адчапіся – прычапіўся, як сьляпы да плоту.
43. Спасаўская муха хужэй чым дзеўка-сядуха.
44. Нуда хужэй кароcты.
45. Так смачна есь, аж нос у прысядку гуляе.
46. З родным чалавекам сустрэнішся, пагаворыш – як мёду напьешся!
47. Шыцік, ня будзь ты разумней свайго бацькі.
48. Сядзелі разам – бражка такая! (зн.: вясёлая кампанія).
49. Мы вазьмём калы ў рукі і пайдзём на Красналукі – каго ўрэжам, каго ўбьём, а каго ў плен вазьмём.
50. Не лайся дзядзя пры савецкай ўладзе.
51. Сеіць калхоз рож – і ты нямнох кінь, сеіць калхоз бульбу – і ты нямнох утыркні (гэтак старавер з Бабарыкі навучаў свайго сына, - каб потым можна было спакойна красьці у калгасе).
52. Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў мяне ў рызіну (зн.: пасьля вайны прымушалі калгас

вырошчваць каксагыс – культуру, што давала каўчук для вытворчасьці гумовых бот).
53. З бульбы бліны, з бульбы каша – прападзі ты доля наша.
54. Гэты грузін рыжы ўсіх нас рабамі ягіпецкімі парарабіў (пра Сталіна).
55. У крамах такую цану ломяць – як чорт за бацьку! (пра дарагавізну).
56. Хто гуляе – той ваду хлябае.
57. Далёкі рубель сьмяецца над бліжнім (г.зн. лепей імкнуцца зарабіць грошы бліжэй да хаты, чым на чужыне).

## ЯК КЛІЧУЦЬ ДА СЯБЕ ЖЫВЁЛУ

1. **Авечку** – шу, шу, шу, шушэнька.
2. **Барана** – бэр, бэр, бэр, бэранька.
3. **Быка** – бысь, бысь, бысь, бысенька.
4. **Вутак** – вуць, вуць, вуць, вуценькі.
5. **Галубоў** – вуль, вуль, вуль, вуленькі.
6. **Гусей** – це, це, це, цежычкі.
7. **Каня** – кось, кось, кось, кося.
8. **Карову** – цёсь, цёсь, цёсь, цясютка.
9. **Ката** – каці, каці, каці, каточак.
10. **Курэй** – ціп, ціп, ціп, ціпанькі.
11. **Сабаку –** на, на, на, цю, цю, цю, цюцька.
12. **Сьвіньню** – дзю, дзю, дзю, дзюшка.

## З НАРОДНАЙ ЛЯКАРНІ

1. **Залатнік** – хвароба, якая ўзьнікае пасьля таго, як чалавек падняў цяжкое й пачынае балець жывот.

**Лекі**: трэба ўзяць качалку (гл.: **Качалка**), уперці яе адным канцом ў сьцяну, а другі прыставіць да пупа жывата. Падтрымліваючы качалку рукой памалу націскаць усім тулавам на качалку, да таго моманту, пакуль не пачнуцца рытмічныя рухі, падобныя на работу сэрца. Так рабіць да зьнікненьня гэтай пульсацыі.

2. **Надырваў сярэдзіну** (паясьніцу) – хвароба, якая ўзьнікае падчас цяжкай працы, ці пры падыманьні цяжкіх рэчаў.

**Лекі**: трэба ў хаце адчыніць дзьверы й легчы на жывот папярок парога. Дзіця, вагой каля 20-25 кг., павінна ахайна таптаць голую паясьніцу хвораму, асабліва па хрыбетніку й робячы націск на яго болей пяткай. Пазванкі стануць на месца.

3. **Вогнік –** дзіцячая хвароба (звычайна зімой) – на твары, каля рота й на барадзе выскоквалі болькі.

**Лекі**: бабця ставіла дзіця тварам да печы, у якой яшчэ гарэлі вуглі. Скураной ранкавіцай брала адзін гарачы вуглік з печы й водзячы ім вакол твару (па сонцу) тройчы казала: "Вогнік, вогнік – зьнікні на сіня мора, на дрымучыя лясы, на вялікія горы, аслабані твар майго ўнука (унучкі) ........... ад гэтай хваробы, зрабі яму твар прыгожы, як быў, бязбольны". Потым дзіця тройчы плявала ў печ, а бабця ў гэты час тройчы казала: "Ідзі туды вогнік, на агонь" і кідала гэты вуглік у печ.

4. **Валасень** – хвароба (медыцынская назва: панарыца), якая узьнікала пасьля таго, як зрэжыш завусьніцы каля пазногцяў на пальцах – яны пачыналі нарываць й балець.

**Лекі**: хворага ставілі ля вакна, што выходзіць на ўсход, – на падаконьніку знаходзілі сучок і хворы палец ставілі на яго. Далей ножыкам імітавалі, што саскрабаюць з пальца хваробу й шапталі загавор...

5. **Зубіны** – праразаюцца зубкі ў малога дзіцяці.

**Лекі**: у лесе знаходзілі падвойную сасну, зразалі тую частку, што ўтварае дзірку. Бабця надзявала яе на руку, як бранзалет і тыкаючы на твары пальцам па тых месцах, дзе рэжуцца зубы, тройчы казала: "Зубы, зубы дарагія, зубы залатыя, расьціце ў (імя дзіцяці) і не баліце". А потым у адкрытым роце пальцам надаўлівала на дзёсны, паўтараючы тое ж.

6. **Ранішні загавор ад зьдзела** (запісаны ад Яўстафія Баркоўскага, 1893 г.н. гл. фота 1) – устану я ранюсенька, умоюсь бялюсенька, полоценцам уструся, месяцэм агаражуся, сонцэм асьвячуся. Найсьветлай Мацерью агаражуся, Плашчаніцай захінуся, гада я не баюся. Гаду я язык вырываю, зубы яму замаўляю, а в том каменя а ў бару карэньня папьеш усё паясі, толькі тады раба Божага Івана Сьвясі, а я з духам, а Бог і Багародзіца с помаччу Івану, рабу Божаму.



7. **Вечаровы загавар ад зьдзела** (запісаны ад Я. Баркоўскага, 1893 г.н.) – абгарождаецца Цар Давыд ад сына да века з нябескай сілай жалезным цевуном і астаўляе на трыдзевяць папаршчын з папаршчынай, і запірае на трыдзевяць дзьвярэй з дзьвярмі, і замыкае на трыдзевяць замкоў з замком і кідае ў Сіян-мора залатыя ключы, і як мне ў Сіянморы ятнех ключэй не дастаць, так ведзьма Чередзейніца і Чередзейнік не сможыт раба Божага Івана. Я з духам, а Бог і Багародзіца з помаччу Івану, рабу Божаму.

8. **Калі пачыналася моцная ікота** лічылася, што нехта ўспамінае нядобрым словам. Тады казалі – "Хто ўспамянуў, каб ён кія не мінуў!".

9. **Калі дзіця ўпадзе**, казалі: "Вой, цьфу, паваліўся, ну не плач – Бог падушачку падсьцяліў і не пабіўся!", або "Вой, зваліўся, не плач – заўтра матуся сьпячэ калач, маслам памажам, а табе не пакажам." (калі не сьціхнеш).

***Халапенічы-Крупкі, 2000-2002гг.***

# З гісторыі каталіцкай парахвіі ў Бабры

**КРАЯЗНАЎСТВА**/Яніна ДЭМУХ, Алесь ЛІЦЬВІН

*У даўнія часы (1669г.-пачатак XX ст.) на тэрыторы сучаснай Крупшчыны знаходзілася дзьве каталіцкія парахвіі – у Халапенічах і Бабры (фота 1). У Бабро́ўскай парахвіі ў 1781 годзе налічвалася 490 вернікаў, у 1884г. – 31 прыхажанін (8 з Бабра і 23 з Крупак) (?), а на пачатку XX ст. - 2,5 тыс. вернікаў (?). Безумоўна гэта былі жыхары не толькі Бабра і Крупак, а таксама й навакольных вёсак.*




***Мал. 1. Касьцёл Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны (рэканструкцыя па тэксьце выканана мастаком Алесем Пушкіным).***

На сёньняшні дзень каталікоў у Бабры каля 10 чалавек. Хто ж тыя 2,5 тысячы чалавек, які іх лёс, і чаму так сталася? Гэтыя пытаньні яшчэ чакаюць свайго адказу. Зьвернемся на пачатку да гісторыі Баброўскага касьцёлу.

**Першы касьцёл ў Бабры быў заснаваны 5 траўня 1760г. Ігнацыям Агінскім,** маршалкам Вялікага Княства Літоўскага, і яго жонкай Аленай, дачкой віленскага ваяводы, пад тытулам Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны (мал. 1).

Фундавалі яны храм на ўласныя грошы. Вось яго апісаньне паводле кнігі Аляксея Яроменкі "Каталіцкія сьвятыні": *"...Гэта быў драўляны, ашаляваны і крыты гонтай, храм крыжовай кампазыцыі з купалам у цэнтры, памерамі каля 20*16м. Увенчвалі сьвятыню "капула пасярэдзіне і 4 невялікія вежачкі".* Падлога ў касьцёле была каменнай, столь – дашчатай. Закрыстыя была адна. Інтэр'ер храма ўпрыгожвалі 5 "на оптыцы маляваных" алтароў. У галоўным алтары знаходзіўся цудадзейны абраз Маці Божай З Дзіцяткам "з каронамі ў срэбнай шаце з рубінамі і дыяментамі". Левы алтар быў прысвечаны Св. Тадэвушу, правы – Св. Ганне. У капліцы, зробленай ў левым крыле трансепта, знаходзіўся алтар Укрыжаваньня. 2-ярусная званіца знаходзілася "ў куце могілак".

У антырасійскім паўстаньні 1830-31г.г. Баброўскі касьцёл не быў задзейнічаны. Па гэтай прычыне тагачасныя рэпрэсыі не кранулі яго. Сярод вернікаў пераважала засьцянковая шляхта і сяляне (былыя уніяты). Парахвія была заможнай, пра што сьведчыць, што настаяцелямі касьцёла прызначаліся звычайна члены капітулу.

**Фота 1. Від на мястэчка Бобр з-за ракі, 1914г.**



У 1861 годзе дэканам Магілёўска-Капыскім ксяндзом Францам Луба (пражываў у Талачыне) у мястэчку Бобр быў закладзены новы ўжо каменны касцёл (фота 2). Асьвечаны быў 19 сакавіка 1867 г. у дзень Св. Юзафа з дазволу біскупа Станеўскага, выдадзенага 23 сьнежня 1866 г. за №2099, пробашчам касьцёла ксяндзом Францішкам Пятроўскім пад гістарычным тытулам. "Так на гандлёвай плошчы мястэчка з'явіўся 2-вежавы касьцёл (каля 19 х 10 м) у стыле неаготыкі, цагляны, атынкаваны і пабелены. Званьніца на 4-ры невялікіх званы была зроблена ў 2-ярускай вежы справа ад уваходу. Над касцёлам чатыры купалы з жалезнымі крыжамі. Першыя ўваходныя дзьверы падвойныя, дубовыя, разьбяныя. У прытворы трое дзьвярэй з ясеню, уверсе зашкленыя каляровым і белым шклом. У касцёле 15 вокан: адно круглае на хорах, дванаццаць на верхніх ярусах, з рознакаляровым шклом, два па баках вялікага алтара, таксама з ка-

**Фота 2. Каменны храм у Бабры, 1912г.**





Ксёндз Аляксандр Пухальскі

ляровым шклом. Арган перавезены з зачыненага касцёла ў Княжыцах (цяпер Магілёўскай вобл.). У храме быў крыж са сьвятымі рэліквіямі. Алтароў па-ранейшаму было 5, але іхнія тытулы і кампазыцыі зьмяніліся. Старажытны, багата упрыгожаны 20 каштоўнымі вялікімі чырвонымі і мноствам малых цёмных камянёў, цудадзейны абраз Найсьвяцейшай Багародзіцы з Дзіцяткам Езусам знаходзіўся цяпер у 2-ярусным галоўным аалтары.. Сам алтар драўляны, з трыма прыступкамі. Над ім знаходзіцца выява Езуса Хрыста разьбяной работы ў драўлянай пазалочанай раме. Табернакул разьбяной работы – ахвяра Ігната і Алены Агінскіх. Левы бакавы алтар у прэзбітэрыі быў асьвечаны ў гонар Св. Антонія і завершаны ў 2-м ярусы абразом Св. Пятра, правы алтар Св. Юзафа завершаны абразом св. Паўлы. Левы прысьценны алтар быў прысьвечаны Уваскрэсеньню Збаўцы, правы – Найсьвяцейшай Марыі Паньне. На сьценах разьмяшчаліся абразы, ахвяраваныя ксяндзом Аляксандрам Пухальскім і 14 стацый Крыжовага Шляху Езуса Хрыста. У 1900 годзе касцёл агароджаны драўляным, пафарбаваным плотам."

Стары ж касьцёл пасьля паўстаньня Кастуся Каліноўскага ў 1863-64 гадох быў зачынены – у знак пакараньня за ўдзел парахвіянаў у паўстаньні. Многія маёнткі былі канфіскаваныя, семы вывезеныя ў Сібір. Пагоршыўся й матэрыяльны стан ксяндзоў – у канцы XIX пачатку XX стагоддзя іх фінансава падтрымлівалі толькі паны Ліпскія, уладальнікі маёнтку Чачэрын.

Трэба ўзгадаць, што абслугоўвала нашу парахвію і адна капліца на мясцовых могілках. "Гэта было драўлянае 8-граннае збудаванне, выцягнутае па падоўжанай восі і пастаўленае на крыпту-падмурак (каля 5х4м) з бутавага каменя. У крыпце былі пахаваныя святары бабрскай парафіі. Антыкаваны інтэр'ер упрыгожваў алтар з драўляным Укрыжаваньнем і 12 драўляных падсвечнікаў. Акрамя таго ў капліцы знаходзіўся звон сярэдняй велічыні".

**Фота 3 на старонцы 139:** ***Каталіцкія могілкі в.Шчаўры, месца былой капліцы, 2004г.***

Другая парафіяльная капліца знаходзілася ў Шчаўрах (Крупскі р-н) на вясковых могілках. Пабудаваная ў 1861 годзе валадаром маёнтка Шчаўры Юліям Рашкоўскім ужо ў 1865 годзе была зачынена і апячатана царскімі ўладамі ў пакараньне за актыўны ўдзел шляхціца Рашкоўскага ў паўстаньні Кастуся Каліноўскага 1863-64 г.г. Адчынена зноў у 1905 г. і служыла духовым патрэбам вернікаў да сярэдзіны 20-х г.г.мінулага стагодзьдзя.

Капліцы ў Бабры і Шчаўрах не захаваліся (фота 3).

Баброўскі касьцёл меў прывілеі: 5 чэрвеня 1884 г. архібіскуп мітрапаліт Магілеўскі Аляксандр Гінтаўт дараваў індульгенцыямі за №1650 за памерлых галоўны алтар на 7 год; індульгенцыя ў кожную пятніцу Вялікага Посту, дадзеная








**Ксёндз біскуп Сьцяпан Дзенісевіч**
**Ксёндз архібіскуп Аляксандр Гінтаўт**
**Ксёндз Ян Радзівон**



Папам Піем VI 1 верасьня 1785 г. і 24 лістапада 1785 г. зацьверджаная Віленскім біскупам князем Масальскім; вечная прывілея Брацтву Сэрца Езуса Хрыста ў Баброўскім касьцёле, дадзеная Папам Піем VI 19 лістапада 1785 г. і зацьверджаная 7 студзеня 1789 г. Віленскім біскупам князем Масальскім;

З таго часу ў парахвіі дзейнічалі шпіталь і брацтва Сэрца Езуса, а таксама парахвіяльная школа. Ганарыліся вернікі і сваёй бібліятэкай. Касьцельны архіў захоўваў: пасьведчаньні аб нараджэньні, памерлых і шлюбах з 1740 г. па 1812 г., у адным пераплёце; пасьведчаньні аб нараджэньні з 1812 г. па 1877 г., з 1877 г. па 1887 г., з 1887 г. па 1908 г., з 1908 г. па 1910 г.; аб памерлых з 1812 г. па 1898 г. і далей; аб шлюбах з 1811 г. па 1898 г. і далей з 1900 г.; дашлюбных экзаменаў з 1816 г. па 1898 г. і далей.

Пры касьцёле – плябанія, драўляны флігель, хлеў, сьвіран, каменны флігель і дом – ахвяра ксяндза Падбярэзкага.

У 1895 годзе колькасьць парахвіян складалася з 2301 асобы (мужчын – 1264, жанчын – 1137).

Падчас візытацыі парахвіяў Магілёўскай архідыяцэзіі у 1910 годзе ксёндз біскуп Сьцяпан Дзенісевіч удзяліў сакрамант бежмаваньня ў Бабры 689 асобам, а таксама заахвочваў духавенства ды і сам нярэдка прамаўляў па-беларуску. Колькасьць парафіян у гэтым годзе перавышала 2 500 чалавек.

Адпустовыя сьвяты: Сьв. Юзафа (19 сакавіка) і omnia festa 1-mae clash.

Удалося адшукаць некалькі прозьвішчаў сьвятароў баброўскай парахвіі з 1760 па 1934 г.г.і:, архібіскуп Аляксандр Гінтаўт, архібіскуп князь Масальскі, Юзаф Круль[1], Станеўскі, Баніфацый Пархвіяновіч, Францішак Пятроўскі, Павал Падгурскі, Мікалай Мілкоўскі, Ян Радзівон, Падбярэзкі, Аляксандр Пухальскі, Антоні Мачук[2], Фелікс Каспяровіч[3].

Пра ксяндза Паўла Падгурскага, які працаваў ў Бабры больш за 20 год, захаваўся добры ўспамін. Яму прыпісваюць словы, якія ён вельмі любіў паўтараць жанчынам: “Дачка мая, размаўляй з сваім мужам часьцей пра Бога, а з Богам часьцей размаўляй аб сваім мужы.”.

У 1923-м мясцовая савецкая ўлада пазбавіла ксяндза Антонія Мачука плябаніі і дома (там зрабілі клуб). У 1927-м арыштавалі і самога сьвятара. З 1927 па 1934, духоўныя трэбы адпраўляў ксёндз Фелікс Касьпяровіч (з перапынкамі). Яго арыштавалі 25 студзеня 1934-га разам з парафіянінам Леапольдам Пушкіным (1887г.н.). Буданак храма ўлады прыстасавалі пад пякарню. У 1941 годзе адступаючымі чырвонаармейцамі быў спалены дах. Па некаторых звестках, у 1942-м будынак касьцёла быў часткова ўзарваны крупскім падпольшчыкам Цюхловым Фёдарам Пятровічам, які ў 1943 годзе зноў “паспрабаваў паўтарыць дыверсію, але быў затрыманы. . . з мінай у кішэні. . . .У 1944 г. Фёдара і яго жонку немцы расстралялі, праўда дзяцей не кранулі”[4]. Па ўспамінах баброўцаў, у 1943-м зьнявечаны будынак храма канчаткова быў узарваны немцамі, а друз

яны выкарысталі для рамонту плошчы і прылягаючай вуліцы, што вяла ў Бабёр ад маскоўскай шашы.

Пахаваньні баброўскіх сьвятароў на могілках і каля касцёла не захаваліся (зруйнаваныя).

На былых местачковых каталіцкіх могілках знайшлі вечны супакой былыя жыхары Бабра й ваколіц, такія як: Анулевічы, Красоўскія, Дышлеўскія, Гуданісы, Мілеўскія, Рэўты, Сяліцкія, Дулеўскія, Хрыпачы, Міцкусы, Ерджэўскія, Тышкі, Закрэўскія, Дулісы, Валенціновічы, Бабічы, Стахоўскія, Кейзы, Ладоўскія, Ермаловічы, Карасі, Бабіцкія, Карпечанкавы, Лукашэвічы, Клячкоўскія, Фалеі, Бараноўскія, Карзюкі, Лютынскія, Сарапасы, Федаровічы, Дабрынскія, Сокалы, Казлоўскія і інш.

Зараз да каталіцкіх родаў Бабра можна аднесьці Сяліцкіх, Тышкевічаў, Мальвінаў, Марцынкевічаў і Ванду Браніславаўну Андрэеву. Многія зь іх, вядома ж, не асабліва трымаюцца каталіцкага рэлігійнага календару – некаторых на сьвяты можна сустрэць у Баброўскай праваслаўнай царкве сьв. Міколы. Пэўны спадзеў маем з адбудовай ў Крупках новага касьцёлу, дзе ўжо будзе фармавацца каталіцкае жыцьцё Крупшчыны.

Пакуль жа на месцы былога касьцёла і могілак сьвятароў у Бабры знаходзіцца дзіцячая бібліятэка. Акурат, дзе былі магілы ксяндзоў – грамадзкая прыбіральня!?? Зроблена гэта знарок ці выпадкова?

Па-хрысьціянску было б навесьці там парадак і паставіць на гэтым месцы крыж з памятным надпісам...

**ДАДАТКІ:** ......................................................................................................

*З кнігі А.Аляхновіча і С.Дубаўца "Хроніка палітычнага тэрору 1918–2008, Крупскі рэгіён-Малое Палессе -Друцка-Бярэзінскі край" (рукапіс):*

[1]**Круль Юзаф Адамавіч,** н. у 1866. Каталіцкі святар, магістр тэалогіі, навуковец. Вышэйшая адукацыя. Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю і акадэмію ў Санкт-Пецярбургу. Прыняў сакрамэнт святарства (1891). Прызначаны вікарыем касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі у Санкт-Пецярбургу. Далей служыў вікарыем парафіі св. Міхала Арханёла ў м. Чарэя Чашніцкага р-ну Віцебскай вобл. Потым жыў у м. Бобр Крупскага р-ну. Служыў там пробашчам парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі. У 1898 пераведзены ў м. Сянно Віцебскай вобл. Працягваў там службу пробашчам і дэканам парафіі Найсвяцейшай Троіцы. Касцельнымі ўладамі адзначаны званнем "Ганаровы канонік Магілёўскай архідыяцэзіі". Арыштаваны ў 1919 (пасля зняволення ў Пецярбургу арцыбіскупа Эдварда Ропа як адзін з 18 "польскіх закладнікаў"). Абмяняны на ваеннапалонных у 1920. З 1921 служыў у парафіі Кельцэ, пасля адміністратар

касцёла ў Потаку Стопніцкага дэканату, Польшча. З 1926 пробашч парафіі Ляшчыны, а з 1930 дэкан у Малагошчы, Польша. Служыў там і ў часе 2-й сусветнай вайны. Адышоў з гэтага свету 2.2.1947.

[2]**Мачук Антоні,** н. у 1866. Каталіцкі святар. Прыняў сакрамэнт святарства (1888). Да 1902 служыў пробашчам касцёла Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў м. Рэжыца (цяпер Рэзэкне, Латвія). Потым служыў у парафіі Святога Юзафа Абранніка ў г. Орша. З 1913 адміністратар касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі ў м. Бобр Крупскага р-ну. Арыштаваны ў пачатку 1927. Этапаваны ў ГУЛАГ у 1931 (?). Далейшы лёс невядомы.

[3]**Каспяровіч Фелікс Браніслававіч,** н. 18.5.1895, г. Барысаў. Шляхецкіх каранёў. З польскай сялянскай сям'і. Каталіцкі святар. У 1914-18 вучыўся ў Магілёўскай духоўнай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу, пасля яе закрыцця – у Навагрудскай духоўнай семінарыі. Прыняў сакрамэнт святарства (1920). Прызначаны адміністратарам касцёла Св. Ганны ў м. Койданава (г. Дзяржынск) на Міншчыне. Першы раз арыштаваны ў 1922 за супраціў канфіскацыі касцёльнай маёмасці. Неўзабаве вызвалены. Пераведзены ў парафію Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Барысаве, потым у Мінск. Другі раз арыштаваны ў 1927. Вызвалены. Працягваў служэнне. Пасьля арышту кс. Антонія Мачука (гл. Год 1927) служыў для каталікоў Крупшчыны ў касцёле м. Бобр. Трэці раз арыштаваны ў 1930 у м. Хойнікі на Гомельшчыне. Неўзабаве вызвалены. Чацьвёрты раз арыштаваны 25.1.1934. Праходзіў па адной справе (№20630-п; захоўваецца ў архіве УКДБ Віцебскай вобл.) з парафіянінам Леапольдам Пушкіным (н. у 1887). Асуджаны 26.2.1934 калегіяй пры ОГПУ як удзельнік антысавецкай шпіёнскай арганізацыі ПАВ на 10 гадоў канцлагера. У лютым 1934 этапаваны ў Карагандзінскі лагер НКВД Казахскай ССР. 22.9.1936 пераведзены ва Ухта-Пячорскі, 11.6.1938 – у Варкуцінскі лагер НКВД Комі АССР. Пасля сканчэння тэрміну вызвалены. Высланы 22.8.1944 у Архангельскую вобл., Расія. Канчаткова вызвалены 13.2.1947. Вярнуўся ў г. Дзяржынск. Неўзабаве арыштаваны пяты раз. Асуджаны на 3 гады ссылкі ў Сібір (с. Булаева Томскай вобл.). Памёр у 1950. Рэабілітаваны 24.11.1989 пракуратурай Віцебскай вобл.

[4]Газэта "Крупскі веснік" ад 15.2.2006, дапаўненьне да кнігі "Памяць", раздзел "воіны-землякі".

# «Голос сельскаго дьячка»



**ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ВЫДАНЬНІ**

*Пад гэтай рубрыкай мы прапаноўваем вашай ўвазе два матэрыялы з перыядычнага друку XIX і пачатку XX стагоддзя.*

*Першы твор называецца "Голос сельскаго дьячка" і быў зьмешчаны ў "Могилевских епархиальных ведомостях" №27 ад 21 верасьня 1884г. Мы захавалі стыль напісанага, але не падаем літару "ъ" з дарэвалюцыйнага рускага альфабэту. Нам падалося, што чытачу будзе цікава пачуць "жывы голас" пазамінулага стагоддзя з нашага рэгіёну.*

*Другі матэрыял мае назву "Па Магілеўшчыне" і быў надрукаваны ў легендарнай ўжо газэце "Наша Ніва" №29 ад 19 ліпеня 1913г. пад псэўданімам А.У. Сярод іншых аўтар, вандруючы па нашых мясьцінах, дае замалёўкі пра мястэчкі Бабёр і Абчуга. Матэрыял таксама пададзены з захаваньнем тагачаснага стылю, які характэрны для часоў беларускага адрадджэньня пачатку XX стагоддзя.*

**ГОЛОС СЕЛЬСКАГО ДЬЯЧКА**

Есть на свете добрые люди, которые не забывают и нас бедных, отживающих свой век, дьячков. С благодарностию видим, что и нам, доселе безгласным, теперь дозволяется иногда поднять голос и говорить о том, что томит наше сердце. Много говорят и пишут о горькой доле наших приходских батюшек, чаще они сами, а о нас никто не скажет ни слова, будто мы и не люди и не знаем нужды, не несем работы в приходе. Работа наша не мала и в последнее время стала сложнее. Мы теперь – дьячки и пономари (с уничтожением последней должности), да еще и учителя церковно-приходских школ. От нас требуют, чтоб мы всегда были исправны по службе в церкви, во всякое время на все требы являлись, все книги церковные писали, бумаги по церквам разносили и т. п. Прежде нам както льготнее было работать по дому – молотить, косить, поехать в лес дров нарубить, а теперь не стало, потому что в каждый час надо быть готовым к службе при требах. А за требу получишь 1 – 5 коп., – вот и живи, как хочешь, с 8-ю ду-

шами. В доме прислугу дьячку нельзя нанять, потому что он сам получает в год 144 р. жалованья и то с вычетами, прислуге одной нужно дать 30 р., да прокормить и одеть ее. Сосчитав все копейки, которые мы получаем, так в год наберется не более 25 руб. даже лошадь нам зачастую не на что купить; оттого иным из нас приходится отдавать в аренду (обыкновенно с третьего снопа) и ту небольшую часть земли, какая достается на нашу долю. Своего хлеба у нас хватает поэтому только на месяца три, да еще на месяц с прихода получишь, а остальные восемь месяцев должны покупать. Много натерпишься, пока соберешь 1 рубль или пуд хлеба, а семейному человеку, как бы ни были скромны его требования, нужно ведь много кое-чего. И приходится часто деткам сидеть в холодной, насквозь светящейся, мокрой и не покрытой хате, забраться на печку и жевать черствую корку хлеба. А ведь и нам хотелось бы видеть своих деток неголодными, одетыми, здоровенькими и веселенькими, и выростив, усадить за книжку, а потом отдать в школу – им на счастие, себе на радость и поддержку в старости.

Немногим только из нас дается такая радость, равно как и другия радости жизни. Нерадостные речи заходят у нас, когда подчас соберемся в кружок, да сами между собой и толкуем о своей доле. Одни говорят, что у них нет дров и соломы, не на что и купить, а жиду так задолжали, что перестал уж и верить без залога, а заложить нечего. Другие говорят: "э, братцы! Без топлива как-нибудь да можно обойтись; а вот беда, как хлеба не станет, так тут уж пропадай: дети пищат, – просят хлеба, жена плачет, а тут и сам без рук и ног от постоянных хлопот." Третьи говорят: "да уж, братцы, и без того нам конец недалек, ведь нашего дьяковства не станет, а займут все наши места люди не нам чета – псаломщики пусть и так, а все же, пока мы существуем, не следует пренебрегать нами, тем более, что, неся свои труды по службе, мы, как овцы смиренныя, всегда с подобающим уважением и послушанием относимся к своим пастырям."

Вот о чем мы говорим на своих собраниях; потоскуем, погорюем, да и поплетемся всяк в свою весь. Если же из нас кому-либо приходится в собрании столяров, кузнецов, маляров, слесарей и других крестьян, ходящих в картузах, поддевках и сюртуках, то и те смотрят на нас с каким-то презрением, выдавая себя за шляхтов. А иногда случается, нам слышать от них тяжелыя на наш счет замечания. "Да что это за большие люди – дьячки! – говорят они; их бы нам не следовало и принимать даже, да так уж из сожаления и их зовем к себе." Многие из нас с горя и сами тянут горькую, чтобы ею заглушить это горе, поговаривая: "не бачили мы счастья с роду, не побачим его и до гробу." Но более твердые из нас еще крепятся и тешатся надеждой, что терпением и трудами им удастся, наконец, обставить свою жизнь более или менее удовлетворительным образом.

*Сельский дьячек Гр. Куторга*

## ПА МАГІЛЕЎШЧЫНЕ

М. Бобр. На другі дзень у цені старых бяроз старога гасцінцу я на сваей сталёвай казе пракаціў 9 вёрст да мястэчка Бобр. Шэрыя убогія дамкі, рады крам на рынку, цэрква (фота 1), два аптэкарскія магазыны, земскі доктар, станавы прыстаў, акушэрка, воласць. Па крамах таўклося колькі барадатых беларускіх селян (тут селяне барод ня голюць). За рэкай Бобрам на гарэ відаць праз зелень, мураваныя палацы нейкаго расейскаго генерала – памешчыка; Нешчасьце Бабра, што чугунка праходзіць за вярсту, і німа станціі, а лічыцца пляцформа Бобр. "Застанаўліваюцца толькі 2 поезды, але багажу не прыймаюць; мястэчка цэлыя годы просіць, каб зрабілі станцію, але каму у Расеі цікава доля нейкаго мястэчка". А мястэчка Бобр на сплаўнай рэцэ (прыток Бярозы), адзін з старадаўнейшых гарадоў Беларусі. З старога інвэнтара м. Бобра 1573 году відаць, што у мястэчку тагда было 99 дымоў і млын па 2 колы, тагды паны запрашывалі людзей, каб толькі жылі у мястэчку, стары дакумэнт пачынаецца так: ...у ім мешчане усе нованаселенцы, каторым воля вышла на дзень сьвятога Міхала року 1572, усёж жадное платы з іх небрана, і нават не стаўлена... там жа у Бобры пустых дамоў, гдзе людзі могуць асядаць, 26... Відаць тагды стараліся засяліць мястэчкі, каб ішоў гандэль, рэмёслы, каб развівалося экономічнае жыцьцё кутка.

М. Абчуга ляжыць на тракце вёрст за 20 на поўнач ад Бабра, тракт абсаджэн 20-ці летнімі бярозкамі, каторыя дадаюць шмат красы гэтаму шляху; якому добраму чэлавеку падзякаваць за гэтыя бярозкі, мы ня ведаем.

М. Абчуга маець калькі жыдоўскіх дамоў і воласьць. Адзін жыд хацеў расшырыць Абчугу і пастроіў дом за воласцьцю, бо ў самым мястэчку ужо цесна, але паліцыя яго аселіла ізноў назад, лічучы ужо навасёлам, такі ёсць закон, пачаўся ён ешчэ законам 1833 г., па каторому нашым жыдам пазволена жыць толькі у мястэчках.

Каля Абчугі і далей характар краю робіцца балотны – круглые горкі, паміж імі круглые лагчынкі, у каторых стаяць вазёры. Лясоў на гэтын вадараздзеле саўсім мала, казенных лясоў німа.

*А. У.*



# Герб горада Крупкі

*(хроніка стварэньня 1989-1999г.г.)*





**ЮБІЛЕЙ** / Андрэй АЛЯХНОВІЧ

*27 траўня 2004 году спаўняецца 5 год з дня афіцыйнага зацьверджаньня герба нашага горада Крупскім райвыканкамам. І хоць гэта самы маленькі юбілей, які толькі можа быць у гісторыі, але ён дае нам магчымасьць узгадаць асноўныя падзеі стварэньня нашага герба. Ніжэй ў храналагічным парадку падаюцца асноўныя факты, пачынаючы з 1989 году.*

**Герб горада Крупкі прыняты і зацьверджаны на паседжаньні Крупскага райвыканкама 27 траўня 1999 году**

**13 ліпеня 1989г.** раённая газэта “Ленінскім курсам” надрукавала атрыкул А.Аляхновіча “Ведаць свой край, сваю гісторыю”, дзе ўпершыню прагучала прапанова аб’явіць раённы конкурс на лепшы варыянт герба для (тады яшчэ) г.п. Крупкі. У артыкуле таксама гаварылася, што толькі мястэчка Бабёр у мінулым мела свой герб і адзначалася вялікае выхаваўчае значэньне геральдыкі ў выхаваньні моладзі.

**12 кастрычніка 1989г.** раёнка прысьвячае цэлую старонку матэрыялам раённага краязнаўчага таварыства “Малое Палесьсе”, створанага Міхаілам Баравуляй, Андрэем Аляхновічам і Васілём Баравулям. Сярод артыкулаў быў надрукаваны матэрыял “Сімвалы незалежнасці”, у якім пададзена падрабязнае апісаньне герба м. Бабёр і зноў агучана прапанова аб’явіць конкурс на лепшы варыянт герба для Крупак, а потым прыняць яго афіцыйна.

**5 сьнежня 1989г.** раённая газэта надрукавала пад рубрыкай “Увага – конкурс” артыкул “Герб для Крупак”, у якім вышэйназваныя краязнаўцы ад імя раённага краязнаўчага таварыства “Малое Палессе” аб’явілі конкурс на лепшы варыянт герба для Крупак і прапанавалі першы яго варыянт, намаляваны мастачкай Галінай Храпавіцкай, з падрабязным апісаньнем (фота1),– “...з гісторыі мы ведаем, што яшчэ пачынаючы з XVII стагоддзя, Крупкі славіліся сваімі вадзянымі млынамі, дзе жыхары мястэчка і навакольных вёсак малолі муку, абдзіралі на крупы ячмень.” Асноўнымі колерамі герба прапаноўваліся: блакітны, зялёны,

карычневы, чырвоны і жоўты.

**27 студзеня 1990г.** раёнка надрукавала першыя водгукі на конкурс. Чытач А. Асінскі з Дубраўкі падтрымліваючы варыянт млына на гербе прапанаваў сваё каляровае вырашэньне: "...узяць два іншыя колеры – белы і чырвоны. Мае абгрунтаванні: ...бела-чырвоны колер гістарычна склаўся на Беларусі, што ў наш час стала шмат каму вядома. ... шчыт павінен быць, калі не поўнасцю, дык часткова афарбаваны ў чырвоны колер. З гісторыі вядома, што воіны князёў Брачыслава, Усяслава і іншых змагаліся за Полацкія землі (а гэта і наша крупская зямля) з чырвонымі шчытамі". А чытач А. Цяглік з Крупак у лісце "Млын на гербе абгрунтаваны" пераканаўча давёў гістарычную неабходнасьць размяшчэньня асноўным элемэнтам на гербе менавіта млына і даў падрабязнае апісаньне колішніх млыноў і гатункаў мукі, што яны выраблялі ў Крупках.

**24 лютага 1990г.** раённая газэта друкуе чарговы водгук на конкурс. Чытач П. Курнакоў з Худаўцоў ў артыкуле "Шукаць больш значнага" прапаноўвае яшчэ адзін варыянт герба: "... верхняяя частка шчыта чырвоная, ніжняя – зялёная. З левага краю зверху ўніз надпіс "КРУПКІ". Пасярэдзіне – бюст двойчы Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР, земляка Уладзіміра Васільевіча Кавалёнка, спавіты светлай стужкай-следам узляцеўшага ў вышыню касмічнага карабля, якім і заканчваецца стужка-след у правым верхнім кутку шчыта. Думаецца, тое, што Крупшчына ўзгадавала аднаго з першых зямлян, хто вырваўся ў касмічны прасцяг, – адна з адметнейшых падзей гісторыі нашага краю."

**У 1991г.** краязнаўцы Сяржук і Алесь Будзькі з пас. Лянок, а таксама Ігар Геут з Халапеніч прапанавалі яшчэ адзін варыянт герба, галоўным элемэнтам якога "...з'яўляецца ганчарны посуд – гладыш (фота 2). З гісторыі вядома, што на прыканцы XIX ст. ў Крупках пачаў дзейнічаць ганчарны заводзік, які вырабляў гліняны посуд і цацкі. І хоць такіх заводзікаў у тыя часы па краіне было шмат, – наш вылучаўся высокаякасным глазураваным посудам. На пачатак XX ст. толькі ў 8 гарадох Беларусі выраблялі падобны. Яскравая эканамічная адметнасьць."

**17 красавіка 1993г.** раёнка друкуе артыкул "Герб Крупак", у якім чытач Аляксандр Міхееў з Крупак, вядомы мастак і рэзчык па дрэве, прапаноўвае свой варыянт з грунтоўным апісаннем кожнага элемэнта і дадае: "Герб выкананы ў чатырох колерах: белы чырвоны – асноватворныя колеры Рэспублікі Беларусь, жоўты – сімвал зерневых культур, яркага мірнага сонца, і блакітны – Беларусь жа багата рэкамі і азёрамі." Асноўным элемэнтам таксама прапаноўваецца млын.



***Варыянты герба (ад верху): 1,2,3***

**У 1995г.** дырэктар краязнаўчага музэя Таццяна Белая прапанавала свой арыгінальны варыянт герба для Крупак (фота 3), намаляваны тагачасным архітэктарам горада

Сяргеем Малюком.. Галоўным элемэнтам з'яўляецца выява кветак і ракі, якія маюць аднолькавую назву – Крупка. Рака Крупка (Крупеніца, Курнееўка), што цячэ праз увесь горад і упадае ў р. Бобр. На старабеларускай мове "крупка" азначае кароткі незамярзаючы прыток ракі (так яно і было да часоў машэраўскай суцэльнай меліярацыі – наша рачулка Крупка не замярзала і ў моцныя маразы). Кветкі, што вы бачыце на гербе маюць назву "Крупка дуброўная", альбо "Draba nemorosa" (лат.) і ў неабмежаванай колькасьці растуць па берагох рэк Крупка і Бобр, што цякуць праз наш горад.

**11 чэрвеня і 8 кастрычніка 1997г.** раённая газэта "Ленінскім курсам" зьмяшчае матэрыялы пад аднолькавай назвай "Зноў пра герб для Крупак", у якіх робіцца спроба падвесьці папярэднія вынікі конкурсу. Былі вылучаны тры лепшыя варыянты герба, якія сярод іншых былі ў той час выстаўлены на выставу "Герб для Крупак", якую арганізаваў Крупскі краязнаўчы музэй (фота 1,2,3).

***Варыянт 4***



**29 кастрычніка 1997г.** раёнка ў артыкуле "Герб для Крупак" паведамляе: "Усе варыянты герба, у адпаведнасьці з законам, былі прадстаўлены ў Дзяржаўную геральдычную службу пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. ... камісія... прапанавала жыхарам горада Крупкі і раёна для абмеркавання і канчатковага вылучэння лепшага – два варыянты герба. Варыянт I: "Мясцовая крупчатка". Галоўнымі элементамі герба з'яўляюцца: кола вадзяного млына, трава-кветка – сімвал нашай мясцовасці (фота 4). Варыянт II: "Крупка дуброўная". У аснове герба Крыж Святога Юр'я, у які ўпісана трава-кветка "крупка дуброўная" і кола вадзяного млына."(фота 5). Аўтарам абодвух варыянтаў быў мастак-рэстаўратар Нацыянальнага архіва РБ, вядомы ў краіне мастак-геральдыст Андрэй Леўчык. Асноўныя колеры абодвух варыянтаў – чырвоны, срэбны і залаты. Далей паведамлялася, што праз месяц з дня апублікаваньня гэтай інфармацыі ўсе матэрыялы будуць перададзены нашым раённым уладам для прыняццьця канчатковага рашэньня (з улікам прапаноў грамадзян). Разам з выявамі герба ў Крупскі райвыканкам намі была пададзена падрабязная тлумачальная даведка, дзе між іншым было напісана: "Выбар чырвонага, срэбнага і залатога колераў не выпадковы. Справа ў тым, што уладары Крупак, спачатку князі Друцкія, а затым магнаты Сангушкі мелі свае родавыя гербы менавіта такіх колераў. Таму дзеля захавання гістарычнай памяці менавіта такое каляровае рашэнне ўзята за аснову."

***Варыянт 5***



У наш райвыканкам пачалі зьвяртацца грамадзяне з прапановамі аб удасканаленьні выявы герба. Так, грамадзянін Дмітрый Хромчанка, даведаўшысь, што родавым гербам магнатаў Сангушак была славутая "Пагоня", катэгарычна прапанаваў замяніць усю каляровую гаму герба. Новы кіраўнік Дзяржаўнай геральдычнай службы Сяргей Рассадзін прапанаваў свой праект герба, у якім гарманічна спалучыў два папярэдніх

варыянты мастака Андрэя Леўчыка. Менавіта гэты праект і быў прыняты і зацьверджаны на паседжаньні Крупскага райвыканкама **27 траўня 1999 году** (фота 6)! Дзесяцігадовая праца над стварэньнем герба была лягічна завершана! Вось як гучыць яго апісаньне ў канчатковым варыянце:

"Герб горада Крупкі ўяўляе сабой знак наступнай формы: прамы верх і акруглы ніз. Поле гербавага знака блакітнага колеру. У блакітным полі – хваляпадобны срэбны пояс. Зьверху – срэбнае кола вадзянога млына, зьнізу – срэбная галінка травы "крупкі" з залатымі кветачкамі на ёй.

Колеры герба: адпавядаюць эўрапэйскай геральдычнай традыцыі і падкрэсьліваюць нашы спрадвечныя, лепшыя якасьці БЕЛАРУСКАГА ХАРАКТАРУ.

Блакітны колер сімбалізуе Неба і яго Боскую сутнасьць, а таксама годнасьць, вернасьць і бездакорнасьць.

Срэбны колер лічыцца сымбалем хараства, справядлівасьці і цнатлівасьці.

Залаты колер адлюстроўвае міласэрднасьць, вялікадушнасьць і каханьне.

Элемэнты герба:

Хваляпадобны пояс (рака). Сваю назву наш горад узяў ад рэчкі Крупка (Крупеніца, Курнееўка), што цячэ праз увесь горад і ўпадае ў р. Бобр. Гідронім "Крупка" на старабеларускай мове азначае кароткі незамярзаючы прыток ракі.

Кола вадзянога млына. Паказвае сабой галоўную эканамічную адметнасьць нашага горада ў гістарычным мінулым. Яго выява сімбалізуе сабой млын на р. Бобр, які на працягу 17-19ст.ст. зьяўляўся своеасаблівай "візітоўкай мястэчка Крупкі. Першы упамін аб ім тычыцца 1667г. (тарыф падымнага падатку Аршанскага павету за 1667г.). Далей ў гістарычных крыніцах наш млын праходзіць у 1765, 1812, 1859 і 1880г.г. . "Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага і іншых краёў славянскіх" (Варшава, 1880, т.1, стар. 254) сьведчыць: "У мястэчку Крупцы губерніі Магілёўскай на Бабры ёсьць млыны, на якіх вырабляецца найдэлікатнейшая мука пшоная і пад назвай Крупецкай альбо Крупчаткі развозіцца да найгалоўнейшых гарадоў."

Галінка травы-кветкі. Сімбалізуе любоў да сваёй малой радзімы. Трава-кветка "крупка дуброўная" у неабмежаванай колькасьці расьце па берагох рэк Крупка і Бобр у навакольлях нашага горада."

17 ліпеня 1999г. раённая газэта друкуе на першай старонцы артыкул "Сёння – 75 гадоў з дня ўтварэння Крупскага раёна", у якім упершыню зьмяшчае выяву герба, канстатуючы: "Сімвалы раёна і горада зацверджаны і ўручаны!" І далей: "Наступае ўрачыстая хвіліна перадачы герба і сцягоў. І сапраўды, гэты самы хвалюючы момант выклікаў у душах і сэрцах крупчан бязмежны гонар за нашу радзіму – за нашу Крупшчыну. Так, мы дастойныя гэтых сімвалаў і будзем паважаць іх і берагчы да апошняй хвіліны свайго жыцця."

P.S. На пачатку 2001 года наша раённая газэта "Леніскім курсам" зьмяніла сваю назву на "Крупскі веснік", а выява герба заняла ганаровае месца на першай старонцы газэты, побач з назвай.

# Фарміраванне сеткі шляхоў зносін

ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ / Алег ІВАНОЎСКІ



*ІВАНОЎСКІ АЛЕГ, нар. 11.04.1983г. у в.Калодніца Крупскага раёну. Скончыў геаграфічны факультэт БДУ (Мінск, 2005). Краязнавец, фатограф.*

**Фота ў загалоўку: Крупкі, Старажытны Кацярынінскі шлях.**

*Фарміраванне сеткі шляхоў зносін Крупскага раёна адбывалася на працягу шматлікіх стагоддзяў, пра што сведчаць і гістарычныя хронікі, і мапы розных перыядаў, і сучаснае становішча дарожнай сеткі. Нельга не заўважыць, што шляхі камунікацыі сярод непралазных лясоў і балот былі нешматлікія і для мясцовага насельніцтва ўяўлялі вялікую каштоўнасць, з чым зградждаецца і даследчык археалагічных помнікаў Мінскай губерніі Г. Х. Татур, "чем труднее было их провести и устроить, чем меньше было для этого средств и возможности, тем большее значение они имели в старину". Не ўсе шляхі захаваліся і вядомы нам, але некаторыя і зараз знаходзяцца ва ўжытку.*

Цалкам верагодна, што прататыпы сучасных шляхоў былі закладзены яшчэ пад час Вялікага перасялення народаў.

Паводле некаторых меркаванняў паказальнікамі старажытных шляхоў могуць быць курганы і камяні. Яны і на самой справе раскіданы па ўсяму Крупскаму раёну, асабліва па яго паўночнай частцы, на берагах возера Сялява. Гэта ўскосна сведчыць на карысць запаснога шляха з "варагаў у грэкі", які, па сцвярджэнні Е. Р. Раманава, праходзіў непадалёк. Курганы маглі быць, як указальнікамі, так і месцамі пахавання людзей, нечакана памёрлых, альбо загінуўшых пад час падарожжа. Час ўзнікнення крупскіх курганаў 10-13 стагоддзе. Камяні выкарыстоўваліся для тых жа самых мэтаў, што і курганы.

Згодна з меркаваннямі мясцовых краязнаўцаў, менавіта камяні-крыжы ўказваюць на існаванне старажытнага шляху паміж вёскамі Калодніца і Харытанцы: "…один из них «Макаровский», возле дороги из имения Язвы в деревню Харитонцы Черейской волости, другой «Моисеевский», в версте от перваго…"

Праз Барысаўшчыну і Крупшчыну, пралягае, так званая **Вітаўка,** альбо **Вітава дарога.** Узнікла яна ў 1395 годзе, калі Вялікі князь Вітаўт ішоў з ваенным па-

ходам на Оршу і Смаленск. Пра яе дакладную геаграфічную прывязку мы можам здагадацца па тым факце, што ў вёсцы Маласаі, паўз якую ён праходзіў, накармілі войска, закалоўшы "дваццаць быкоў", тым самым ўсчуліўшы князя. Вітаўт выдаў жыхарам вёскі, у падзяку, грамату- прывілей, вызваляўшую ад падаткаў "на ўсе вякі". Вядома, што да сярэдзіны XX стагоддзя ля вёскі існавала "Вітава студня", калодзеж выкладзены з камянёў. Вітаўкай, таксама, называюць адрэзак дарогі паміж пасёлкамі Лянок і Крупскі. Землі вакол Крупак лічыліся даволі глухім месцам, але не магчыма, каб Вітаўт сам пракладваў дарогі па бяскрайніх лясах і гразкіх балотах, гэтаму супярэчаць хуткасці яго ваенных пераходаў. Пагэтаму, цалкам верагодна, што князь карыстаўся шляхамі існаваўшымі задоўга да яго, збудаваныя яшчэ старажытнымі жыхарамі рэгіёна і падарожнікамі, якія імкнуліся на поўдзень.

## ФАРМІРАВАННЕ СЕТКІ ШЛЯХОЎ ЗНОСІН

Асноўнай транспартнай артэрыяй, як раней, так і на сучасным этапе, для Крупшчыны з'яўляўся шлях з **Масквы на Мінск,** альбо **на Вільню,** праз Лагойск і Маладзечна. Менавіта па яму праходзілі і праяжджалі ўсе тыя асобы, каторыя пакінулі ў сваіх запісах згадкі пра тэрыторыю сучаснага Крупскага раёна. Сярод іх былі: Сігізмунд Герберштэйн, Бернгард Тэнэр, Пётр Талстой, Вільям Кокс, Рычард Джонстан, Мікалай Галавін і шмат іншых.

Эканамічныя выгоды такога "суседства" на відавоку. Менавіта ў час канчатковага фарміравання магістралі, на прыканцы XVI стагоддзя, ўзніклі першыя мястэчкі – Крупкі, Нача і Бобр. Актывізацыі рэгіянальнага эканамічна жыцця паспрыяла і тое, што княгіня Сангушка (ўласнасцю якой і былі Крупкі), надзяліла мясцовых габрэяў правам свабоднага, беспадатковага гандлю ў мястэчку і навакольных землях. Па шашы адпраўляліся на Менск, Барысаў, Магілёў, Вільню і іншыя гарады, прадукты сельскай гаспадаркі і мясцовых кустарных вытворчасцяў.

Захаваліся і рэшткі старога Кацярынінскага шляху, які кавалкамі можна знайсці ля саміх Крупак.

Акрамя "транзітных" шляхоў, існавалі дарогі якія звязвалі паміж сабой блізкія населеныя пункты (чытай вёскі). Звычайна іх колькасць была пастаянна (ў сярэднім каля чатырох). Такія дарогі існуюць і зараз. Праўда, большасць з іх



**Фота 1. Лясная дарога на Крупшчыне.**

страцілі сваё значэнне і выкарыстоўваюцца выключна для пешых пераходаў. Нашы продкі і "транзітчыкі" разумелі, што больш мэтазгодна выкарыстоўваць водныя шляхі, якія ўяўляюць з сябе больш спрыяльныя магістралі, чым тыя ж шляхі, але пракладзеныя праз лясы і балоты. Шматлікія беларускія рачулкі і азёры толькі спрыялі развіццю водных перавозак. Спачатку людзі карысталіся прыроднымі рускамі, а там дзе іх не было, будавалі волакі. З цягам часу яны пачалі будаваць каналы, спрамляць рэкі, будаваць сістэму шлюзаў і дамб.

Першым, вядомым з пісьмовых крыніц, водным шляхом праз тэрыторыю Крупскага раёна быў **шлях "з варагаў у грэкі",** дакладней, ягонае сяляўскае адгалінаванне. Даследчык былога Сенненскага павету Е. Р. Раманаў азначаў яго такім чынам: "...З. Дзвіна – Ула – Лукомка – воз. Сялява – волак 6 вёрст – Бобр – Бярэзіна – Днепр..." Кніга "Памяць. Чарэйскі раён" крыху ўдакладняе гэтыя звесткі: "...воз. Сялява – р. Калодніца (тут невялікая памылка, напэўна маецца на ўвазе рака Ракітаўка, якая ўпадае ў возера Сялява, ля вёскі Калодніца) – волак..."

Прыняўшы ў разлік Ракітаўку, бачым, што яна, амаль пастаянна цягнецца на ўсход, а потым, ля вёскі Харытнацы, збочвае на поўнач. Амаль такая ж сітуацыя назіраецца і з Бабром. Ён максімальна набліжаецца да Ракітаўкі

**Фота 3. Частка Сялявы – воз. Радцы. Менавіта па ёй праходзілі караваны "з вараг ў грэкі".**






Фота 4. Царква св. Міхаіла Архангела (1604 год) у Чарэі.

толькі ля вёскі Кіявец і пасёлка Шарнева. Змерыўшы адлегласць, паміж гэтымі двума кропкамі, атрымоўваем прыкладна "...6 вёрст". Перапады вышынь на дадзеным кавалку ня значныя, меншыя за 15 - 17 метраў. Такім чынам, мы з вялікай доляй верагоднасці можам адзначыць на мапе месцазнаходжанне старажытнага шляха. Пошук рэштак старажытнага волака ўскладняеца тым, што за прайшоўшыя часы (а мінула з тае пары амаль 10 стагоддзяў), тэрыторыя пастаянна змяняла свой знешні выгляд. Акрамя таго, што векавыя лясы паступова сціралі са свайго долу згадкі пра волак, дык і сам чалавек паступова пачаў выкарыстоўваць прылягаючыя землі пад свае гаспадарчыя патрэбы, а ў сярэдзіне XX ст. была праведзена меліярацыя, якая знішчыла апошняе.

Як лічыць гісторык Н. Кіндзяева, менавіта дзякуючы старажытным падарожнікам ўзнікла Чарэйскае княства (у склад якога, на той час, ўваходзіла Сялява). "Княства мясцілася ў лясной глухамані, сярод дрымучых непралазных пушчаў і лясоў, у балоцістай мясцовасці..."

Лукомскае княства, што месцілася на берагах ракі Лукамкі і аднайменнага возера, таксама было звязана з гандлёвымі аперацыямі русаў, і кантралявала вышэй апісаны шлях. Гэта ўскосна тлумачыць разбураныя ўмацаванні Лукомскага замку перыяду X ст. Магчыма гэта вынік барацьбы за гегемонію ў Падзвінні паміж Лукомлем і Полацкам.

Доказам старажытнага воднага шляху могуць быць, таксама, знойдзеныя ў 1898 і 1903 гадах, скарбы ў вёсцы Стражавічы, непадалёк ад Лукомля. Сярод шматлікіх кавалкаў срэбра, срэбнага дроту, упрыгожанняў і інш., былі знойдзены срэбныя саманідскія манеты X ст., а таксама кельнскія, германскія і англасаксонскія манеты X – XI стст. Па неафіцыйных звестках, падобны скарб быў знойдзены і ў вёсцы Дакучын, на беразе возера Сялява ў 70-х гадах мінулага стагоддзя. На старажытным Лукомскім гарадзішчы быў знойдзены баявы молат, які, па сцвярджэнні археолагаў, мог належаць скандынаўскаму ваяру.

Судаходнай, рака Бобр была і ў больш познія часы, пра што сведчаць запісы Брандэнбургскага пасла, які праяжджаў па тэрыторыі раёна ў 1675 годзе: "Бобр впадает в Березину у Борисова; по нему ходят небольшие струги (struzen)". Але ўжо ў апісанні Зеленскага (1855г.) заўважаецца, што шырыня і глыбіня ракі ня значная і выкарыстоўваецца выключна для сплава.

Рака Эса, якая нясе свае воды ў заходне-дзвінскі басейн, таксама адыграла значную ролю ў эканамічным развіцці Крупскага раёна. У былыя часы, уздоўж яе берагоў, раслі выдатныя лясы, якія ў выніку некантраляванага сплава ў Рыгу, былі цалкам зведзены. Сплаў карабельнага лесу амаль цалкам спыніўся ў 1882 годзе і датычыўся толькі мелкага лесу і дроў. Да адкрыцця Бярэзінскай воднай сістэмы, сплаў па рацэ быў даволі значны. Зімой да Эсы звозіўся лес не толькі з наваколля, але і з возера Палік. Ля Халапеніч, на беразе ракі, нават да гэтага часу існуе мясціна пад назваю Рум, што азначае з нямецкай [ Rumpf ] – месца ля ракі, дзе складваліся штабелі дроў. Адсюль і пачынаўся сплаў.

Вялікае эканамічнае значэнне такой транспартнай артэрыі відавочна. Сяляне навакольных вёсак пад час сплаўных сезонаў мелі не малы заробак, наймаючыся плытагонамі, альбо нарыхтоўваючы ўзімку лес і падвозячы яго да Эсы. Тыя ж, хто апрацоўваў лес перад адпраўкай, зараблялі па 700 даляраў (на сучасныя грошы) за сезон, паводле меркаванняў і падлікаў мясцовых краязнаўцаў.

За часамі караля Сігізмунда III нарадзілася думка стварэння свабоднага воднага шляху з Дняпроўскага вадазбору ў Нёманскі, пры дапамозе канала. Пад час рэкагнасцыроўкі мяцовасці Марцінам Бадзені, па невядомым прычынам, гэты план быў адкінуты і ўсе погляды скіраваліся на Заходнюю Дзвіну. Палітычныя прычыны не далі праекту разгарнуцца і матэрыялы даволі працяглы час захоўваліся ў барысаўскім земскім судзе, дзе былі знойдзены Тадэвушам Чацкім, які звярнуў увагу царскага ўрада на эканамічныя выгоды такога будаўніцтва і распрацаваў мемарыял аб з'яднанні Дняпра з Дзвіной праз пасрэдніцтва рэк Бярэзіны і Улы, які быў зацверджаны 23 лютага 1797 года.

Пры будаўніцтве Бярэзінскай воднай сістэмы ўвага была звернута на паглыбленне фарватараў і ўмацаванне берагоў ўжо існуючых вадатокаў, а затым на будаўніцтва новых каналаў і шлюзаў.

Нажаль сістэма не апраўдала тых вялікіх затрат і надзей, якія былі на яе ўскладзены. Хуткае абмяленне рэк і страта значнай часткі лясных багаццяў, прывялі да таго, што Эса страціла статус судаходнай і сплаўнай ракі, а пасля праведзенай меліярацыі і ўвогуле ператварылася ў канал.

## РАЗВІЦЦЁ СІСТЭМЫ РАССЯЛЕННЯ

Спрэчкі наконт фактараў, якія вызначаюць памеры, планіроўку, тыпы, асаблівасці і гушчыню размяшчэння сельскіх населеных пунктаў Беларусі, прадстаўнікамі розных навуковых дысцыплін (археолагамі, гісторыкамі, географамі, этнографамі і інш.) распачаліся яшчэ на прыканцы XIX стагоддзя і не скончаны да гэтага часу. Які з фактараў вядучы – сацыяльна-эканамічны, альбо прыродны? Памылка крыецца ў тым, што кожная тэрыторыя па-свойму індывідуальна, а навукоўцы прымаюць за асноўную адзінку даследвання даволі вялікую ў прасторы плошчу. Правільны падыход павінен ўкладацца ў межы, якія не перавышаюць памераў сучасных сельсаветаў, у крайнім выпадку, раёнаў (пры апошнім падыходзе дадзеныя будуць больш як недакладныя).

Пры даследванні любога населенага пункту, трэба ўлічваць, што ён не з'яўляецца пастаянным ні ў прасторы, ні ў часе. Калі, напрыклад, само ўзнікненне паселішча больш абавязана прыродным фактарам, такім, як блізкасць да азёр і рэк, наяўнасць лясных масіваў, асаблівасці рэльефу мясцовасці (для невялікіх мясцовасцей фактар клімату не нясе вызначальнага характару), эканамічныя фактары, такія як блізкасць да транспартных шляхоў, адлегласць да вялікіх населеных пунктаў, маюць значнае, але другаснае значэнне, то ўжо з цягам часу сацыяльна-эканамічныя фактары пачыналі пераважаць, уплываць на планіроўку, гушчыню засялення, колькасць двароў і жыхароў.

Цяперашнія вялікія сельскія населеныя пункты, як правіла, былі такімі на працягу доўгіх часоў (пра што сведчаць старыя мапы). Менавіта вакол старажытных вёсак узнікалі аколіцы, засценкі, хутары з сваеасаблівым сацыяльным складам насельніцтва.

Першапачаткова населеныя пункты будаваліся, альбо хаатычна, альбо лінейна, уздоўж якой-небудзь прыроднай мяжы – бераг ракі ці возера, узлесак, выразная форма рэльефу. З цягам часу паселішча паступова расло ў памерах. Яно працягвала расці ўдоўжкі, звычайна на некалькі кіламетраў (Калодніца, Худава, Камянец і інш. – такіх, дарэчы, большасць), альбо, калі сустракала якую перашкоду, развівалася хаатычна (Дубы, Грыцкавічы), ці разбудоўваліся ўшыркі, утвараючы новыя вуліцы і адгалінаванні (Слабада, Барсукі, Вял. Хальнявічы, Слабада і інш).

Вёскі Крупскага раёна маюць адносна правільную планіроўку – лінейную, альбо радковую. Хаатычна забудаваных (кучавых), амаль няма, гэта звязваецца з тым,



**Фота 5. Мястэчка Крупкі.**

што ў сярэдзіне XVI ст. была праведзена зямельная рэформа “Устава на валокі”. Дзякуючы рэформе многія населеныя пункты набылі правільную форму.
Згодна з артыкулам 29, які вызначаў агульны выгляд сяла, месца для паселішча адводзілася на трэцім, сярэднім полі, у цэнтры сяла, таму сядзібы і выцягваліся ўздоўж цэнтральнай вуліцы, гумны ж у супрацьпажарных мэтах размяшчаліся на другім баку, агароды знаходзіліся за хатамі і звычайна прылягалі да вады – ракі, сажалкі або балота.

Перапланіроўка сельскіх населеных пунктаў на Беларусі пачалася намнога раней, чым на астатняй тэрыторыі, заселенай усходнімі славянамі. У Расіі рэформа была праведзена аж на 200 гадоў пазней, пры Пятры І. Працэсу перапланіроўкі дапамагала і тое, што вялася яна не толькі па каралеўскіх указах, але ініцыявалася гаспадарамі ў прыватных маёнтках. Радковая, альбо лінейная планіроўка з двухбаковай забудовай, пачала пераважаць над іншымі тыпамі ў XIX ст.

Побач з аднавулкавымі вёскамі, сустракаюцца і такія, якія збудаваны з 2-3 (Барсукі, Лісічына, Узнацк, Дубраўка, Лютыя, Вял. Хальнявічы і інш) і нават 4 вуліц (Слабада).

Шматвулкавыя сёлы можна падзяліць на некалькі тыпаў:

- паралельныя вуліцы, злучаныя завулкамі – Барсукі
- дзве вуліцы, што перакрыжоўваюцца ў цэнтры вёскі – Мал. Каменец, Гарадзішча
- вёскі з адгалінаваннямі (прыбудовамі) – Дубраўка, Дудзінка, Лісічына
- некалькі вуліц злучаюцца ў агульным цэнтры – Слабада, Дубы, Грыцкавічы



**Фота 6. Маёнтак у Язбах. Былы выгляд.**

Вёскі можна класіфікаваць на тры тыпы па залежнасці планіроўкі ад сацыяльна-эканамічных і фізіка-геаграфічных фактараў:

- планіроўка залежыць ад блізкасці да водных аб'ектаў (азёр, рэк, балот) і рэзка акрэсленых формаў рэльефа (вяршынь ўзгоркаў, іх схілаў) – Худава, Гузовіна, Прошыка, Старожышча, Гарадзішча, Вялікі, Камянец, Клішына, Баркі, Падбярэззе, Высокае і інш.
- планіроўка абумоўліваецца накірункам дарог – Дакучын, Дудары, Дубраўка; большасць прымыкаюць да дарог альбо перакрыжоўваюцца імі - Лісічына, пас. Язбы, Малінаўка, Барсукі, Язбы, Лютыя і інш.
- змешаны тып (у фарміраванні адыграў сваю ролю комплекс фактараў) – Калодніца, Хальнявічы, Вял. Хальнявічы, Дудзінка.
- У цэлым, вывучэнне дадзенага пытання патрабуе больш дэталёвых даследванняў з далучэннем спецыялістаў розных навуковых накірункаў.

## ТАПАНІМІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

Адны і тыя ж геаграфічныя назвы, рознымі навукоўцамі падаюцца ў розным значэнні, з розным паходжаннем. Таму ў дадзеным раздзеле, па-магчымасці будуць выкарыстоўвацца, як працы па тапаніміцы вядомых даследчыкаў сучаснасці і былых часоў, так і ўласныя меркаванні і назіранні.

Варта зрабіць абмоўку, што арэал, які даследуецца ў даннай працы, некалькі перавышае межы паўночнай часткі Крупскага раёна. Гэта ў першую чаргу сведчыць пра складанасць і неадназначнасць утварэння і размеркавання геаграфічных назваў.

Даследванні тапанімічнага характару дазваляюць нам у агульных рысах, скласці пэўную карціну засялення тэрыторыі ў старажытныя часы, вызначыць этнічныя групы, якія на розных гістарычных этапах, каланізавалі, выцясняліся і асіміляваліся іншымі, проста наведвалі раён. Геаграфічныя назвы могуць шмат сказаць і пра старажытныя шляхі, і пра сродкі сувязі паміж населенымі пунктамі, і пра род заняткаў насельніцтва, і пра ўладальнікаў тых ці іншых зямель.

Першым даследчыкам тапанімікі Крупшчыны (тады яна была падзелена паміж Барысаўскім і Сенненскім паветамі) трэба лічыць Адама Ягоравіча Багдановіча (бацьку ўсім вядомага беларускага паэта Максіма Багдановіча). Ён нарадзіўся ў мястэчку Халапенічы Барысаўскага павета і ў мемуарнай працы "Мае ўспаміны" даў аналіз паходжання некаторых геаграфічных назваў. Ён, не безпадстаўна лічыў, што "прежде, население состояло из разноязычных и разноплеменных ватаг и бродников" [ 9 ]. У гэтай мешаніне пераважалі заходнефінскія плямёны, што называлі ваду "са" і "я" (Іса, рэя, мля), тут і возера Радамля, і рака Эса, і горад Чарэя (хаця ён знаходзіцца ў Чашніцкім раёне). Затым была "весь" і "чудзь" завалоцкая, якая замест "са" і "ца" вымаўляюць "ча" – Нача. Пакінулі свой след вяцячы і пермячы, называўшыя ваду "ва" – Сялява. А затым арыйцы, кельты, літоўцы, латгалы – якія называлі ваду "ра" ("ре-я" і "боб-ра", "ба" і "на", а азёры "Гола" і "Хола" (вёскі В. і М. Хальнявічы на беразе Сялявы). Пра старажытных наведвальнікаў даследуемай тэрыторыі сведчыць і назва Латыголь.

Назва мястэчка Халапенічы, згодна з меркаваннямі Адама Багдановіча, тлумачыцца зусім не тым, што тут жылі "халопы", "…ибо что же это за отличие в стране, где сплошь холопы", а ад рачнога, азёрнага, ці балотнага імя "Халапея" (Хола ці Гола – значыць вада, возера; пея – рака). Скіфы, таксама называлі рэкі пай, альбо пой.

Гідронімы, на наш погляд, з'яўляюцца найбольш устойлівымі ў прасторы і часе. Змены палітычныя, эканамічныя, культурныя, вельмі слаба ўплываюць на іх пераўтварэнне. Іншая справа, назвы населеных пунктаў: пераходзячы ад аднаго ўласьніка да другога, мяняючы якасны і колькасны склад насельнікаў, страчваючы сваю гаспадарчую спецыялізацыю, яны страчваюць, альбо змяняюць сваё імя. Гэта у меньшай ступені датычыцца вялікіх населеных пунктаў – гарадоў, мястэчак, адміністрацыйных, ці гандлёвых цэнтраў і інш. Іх назвы часцей ужываюцца ў афіцыйных дакументах, імі карыстаецца большая колькасць людзей, гаспадарчая спецыялізацыя вызначаецца большай ўстойлівасцю ў часе, у параўнанні з невялікімі сёламі, хутарамі, засценкамі і т. д.

Яшчэ адзін момант, які нельга прамінуць, гэта змена геаграфічных назваў, стала замацаваных за пэўнай тэрыторыяй, пад час тапаграфічных экспедыцый, якія праводзіліся па загаду Расійскага геаграфічнага таварыства.

Некаторыя тапонімы, гідронімы і іншыя назвы, што былі не зразумелы, цяжкавымаўляльнымі, слаба адлюстроўвалі (згодна з меркаваннямі даследчыкаў) фізіка і эканоміка-геаграфічныя асаблівасці тэрыторыі, перайначваліся, альбо ўвогуле, замяняліся на іншыя.

Балцкімі па паходжанню з'яўляюцца гідронімы Сялява і Югна. Існуюць меркаванні, што Сялява атрымала сваю назву ад прыбалтыйскага племені Селы (selis), якія па Заходняй Дзвіне і Уле, нібыта дабіраліся да тэрыторыі Крупшчыны.

Назва возера Худавец, мае вялікую навуковую цікавасць, паколькі, суфікс **– ец,** з'яўляецца старым агульнаславянскім гідранімічным фармантам і таму можа даць важныя навуковыя даныя па гісторыі засялення славянамі тэрыторыі Крупшчыны. Не выпадкова і вёска Худава, размешчаная паблізу, з'яўляецца адной з самых старажытных ў раёне, і згадваецца нават на мапах ВКЛ.

Цікавым з гэтага пункту гледжання з'яўляецца таксама словаўтваральны тып на **– на,** Югна (паводле Катонавай). Возера Балютскае, ці Балюта (так называецца і вёска на ягоных берагах – адносіцца да Чашніцкага раёна) таксама мае балцкі гідранімічны фармант **– юта**.

Некаторыя гідронімы маюць больш ясны, лёгкавытлумачальны, зыходзячы з нашых меркаванняў, сэнс, што дазваляе іх выключна славянскае паходжанне: балота Жалезніца (магчыма тут здабывалі руду), рака Сухая, рака Высокая (невядома чаму, бо рака працякае па нізкай, забалочанай мясцовасці), Ракітаўка (ад дрэва ракіта, што расце па берагах), возера Квеціна (магчыма ад кветак, бо возера інтэнсіўна зарастае ўжо даволі працяглы час).

Пяройдзем цяпер да назваў вёсак. Па назвах вёсак, як ўжо казалася, мы можам вызначыць характар мясцовасці, асблівасці гаспадарчай дзейнасці жыхароў, этнічны склад насельніцтва сяла і інш.

Некаторыя назвы сёл могуць шмат сказаць пра тое, якая расліннасць пераважала на тэрыторыі ў былыя часы, нават, калі зараз вакол іх не бачна ні воднага значнага ляснога масіва – вёскі Дубы і Дубраўка, Баркі, Падбярэззе, Малінаўка, Асінаўка, Забарочча.

Характар акаляючай мясцовасці – Малы і Вялікі Камянцы (непадалёк урочышча Каменны Бор), Глінаўка, Высокае, Ляды.

Жывёльны склад пэўнай мясцовасці. Магчыма жыхары вёсак займаліся лясным промыслам – Лісічына, Барсукі.

Характэрная рыса месцічаў, альбо іхны асноўны занятак, спецыялізацыя – Старожышча, Калодніца, Дудары, Дакучын, Прошыка, Тапарышча, Стральцы, Струга (човен для перавозкі тавараў) і інш.

Ад імён былых уладальнікаў, ці заснавальнікаў – Красноўка, Грыцкавічы, Янаўшчына, Бабарыка, Харытанцы (Харытонцы).

## МІКРАГЕАГРАФІЧНЫЯ ДАСЛЕДВАННІ

На самой справе возера Сялява складаецца з пяці частак-азёр (па лініі поўнач-поўдзень): воз. Абіда, воз. Радца, воз. Сялява, воз. Худавец, воз. Доўгае, і ўсе яны злучаюцца рачулкамі. Пасля пабудовы плаціны на рацэ Югна ўзровень вады значна ўзняўся і розныя часткі зліліся ў адно возера, але назвы і зараз выкарыстоўваюцца сярод мясцовых жыхароў.

Вось няпоўны спіс назваў, што ўдалося сабраць падчас працы над артыкулам (мал. 1):

**Чэрнь** – лес, складаецца пераважна з асіны, ясеня, дуба, але больш за ўсё алешын – адсюль і назва. Жывуць зайцы, куніцы. Знаходзяць і лісіныя норы.
**Выгарка** – балотца насупраць вёскі Клішана.
**Баркоўская канава** – ручай паміж могілкамі вёскі Клішана і вёскай Белыя Баркі.
**Савіна** – лес. Раней там быў хутар, які зараз не існуе, а назва, ад імя гаспадара.
**Макрэц** – рачулка нізкая і забалочаная.
**Самоў Рог** – насупраць самага глыбокага месца ў возеры.
**Кроўна** (альбо Дзікі Востраў) – сведчыць, напэўна, пра былых насельнікаў гэтай зямлі.
**Стаўбун** – былы востраў, зараз пад вадой. Раней, жыхары навакольных вёсак святкавалі там Купалле.
**Грыва** – працяг вострава Выспа. На самой справе здалёк нагадвае грыву.
**Папова** – былыя ўладанні калодніцкага сьвятара.




*Мал. 1. Мапа урочышч тэрыторыі прылеглай да возера Сялява.*

**Святоха** – гара ля вёскі Высокае. Магчыма раней тут здзяйсняліся паганскія абрады.
**Зімнік** – дарога (зімняя) з Калодніцы на Янаўшчыну праз возера. Зараз назва берага.
**Панскае поле** – поле на в. Выспа. У XIXст. тут былі градкі панскага агароду.
**Панская купальня** – маляўнічы бераг возера, непадалёк ад былога язбоўскага маёнтка, які здаўна выкарыстоўваецца як пляж (пясок на які быў завезены мясцовымі сялянамі па загаду ўладара Язбоў, графа Красніцкага).
**Вінчыха** – прагаліна ў лесе. Раней там стаяў хутар.
**Шыманскі Рышт** – балота ля пасёлка Калодніца.
**Сміна** – бераг ля пасёлку Калодніца.
**Выспянская Гара** (альбо Выспа) – востраў, на якім знаходзіцца старажытнае гарадзішча. Першыя насельнікі якога з’явіліся больш за тры тысячы гадоў таму.
**Дзікае балота** – урочышча на ўсходзе Выспы.
**Падгай** – старажытныя могілкі ля вусця Ракітаўкі.
**Царковішча** – месца былой калодніцкай царквы. Старажытныя могілкі.
**Гацішча** – балота. Магчыма там была гаць, для аблягчэння пераезду.
**Ліпавец** – урочышча на паўвостраве. Непадалёк Цар-камень (камень Кравец), які, па сцвярджэнні археолагаў выкарыстоўваўся для абрадаў паганцаў.

**Фота 7. Панскае поле і (на другім плане) востраў Кроўна.**



*Аўтар выказвае словы шчырай падзякі куратару харугвы скаўтаў Малога Палесься г. Крупкі, краязнаўцу Андрэю Аляхновічу за прадстаўленыя матэрыялы і карысныя парады падчас напісання працы.*

# Мой краю любімы …






**КНІГА**

*Віншуем нашых чытачоў! Напрыканцы 2003 году, пабачыла сьвет кніга вершаў Міхала Бярозы "Малітва за Беларусь", што выйшла дзякуючы добраму шматгадоваму сяброўству скаўтаў Крупшчыны з Цэнтрам грамадцкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне" г. Барысава.*

Гэтай кнігай мы распачанаем сэрыю выданьняў паэтаў Крупшчыны пад агульнай назвай "Паэтычная бібліятэчка Харугвы Скаўтаў Малога Палесься". Прадмову да кнігі напісала наша слынная паэтка, захавальніца фондаў Крупскага краязнаўчага музэя Тацьцяна Каваленка.

Невыпадкова нашу сэрыю адкрывае кніга Міхала Бярозы, які нарадзіўся ў 1951 годзе ў в. Гумны нашага раёну і пасьля заканчэньня ВНУ стала і плённа працуе на ніве народнай адукацыі і краязнаўства родных мясьцін. Гэта кніга адкрывае нам Міхала Бярозу як Паэта, які валодае Словам і якому баліць.... Паэта, які любіць, разважае, сумуе, ганарыцца, засьцерагае, "адкрывае нам сваё запаветнае..." і верыць. Верыць у Бога, у сваіх дзетак і выхаванцаў, у сяброў і, не гледзячы ні нашто, у шчасьлівы лёс для Беларусі.

Прачытаўшы кнігу, узгадваюцца радкі з яго паэмы "Велічальная Крупшчыне", якія саграюць сэрца й даюць сілы жыць і працаваць далей:

*Ды як не складаць пра вас здравіцы-песьні,*
*Бары санцакосыя, хвойныя гушчы,*
*Мой краю любімы, Малое Палесьсе!*
*Мая непаўторная Крупшчына!*

Хочацца пашкадаваць толькі аб малым тыражу (150 экз.) выданьня й выказаць спадзяваньне, што мецэнаты – патрыёты Крупшчыны заўважаць гэтую кнігу і паспрыяюць яе перавыданьню большым тыражом, каб кожны аматар паэзіі і роднага слова атрымаў яе ў сваю бібліятэку.

Ніжэй мы падаем падборку вершаў з кнігі Міхала Бярозы "Малітва за Беларусь".

*Андрэй Аляхновіч*

**ТРЫЯЛЕТ**

Я не паэт – я боль людскі,
Сабраны з сэрцаў міліёнаў,
Жахлівых стогнаў і праклёнаў...
Я не паэт – я боль людскі.

І не пачуць вам гімн ўхвалёны
З душы, адчаем спапялёнай:
Я не паэт – я боль людскі
Сабраны з сэрцаў міліёнаў.

*1981*

**ДЗЬМУХАЎЦЫ**

На вясковым выгане запушылі дзьмухаўцы:
Шугануў вятрыска быццам неспадзеўкі.
І ляцяць над травамі роем хутка тухнучым
Парасонцы светлыя – лёгенькія стрэлкі.

Па вясновай вуліцы, злыбядою скручаны,
Сівы дзедка тупае да сваёй суседкі,
І галоўкай-дзьмухаўцам, ветліва засмучана,
Шле нам прывітанне: "Будзьце жывы, дзеткі!"

Прыйдзе час – і нашы скроні пасівеюць,
Душы час бязлітасны, нібы белы пух,
Панясе над лесам снежнаю завеяй...

Мае ўсё на свеце свой канец: надзея,
Чалавек, прырода і тварэнне рук.
Бессмяротны толькі чалавечы дух!

*чэрвень 1990*

**САНЕТ**

Мы глытнулі набгом крыху п'янай свабоды
І ужо прадчуваем агонь страшных мук:
Сняцца вісельні нам, катавальні, разводы
І па нашых касцях куляў стук.

Кажуць вольным не быць аніколі народу,

Што не можа свой рабскі, іржавы ланцуг
Шпурнуць катам-звярам проста ў хцівую морду,
Бо ў крыві тлее памяць дарэмных патуг.

Беларус! Няўжо рабства – твой лёс неадольны?
Няўжо небам накрэслена доля такая?
Гіне край пад цяжарам падаткаў няўмольных,
Сам нямееш... Дзе ж гордасць людская?

Лепей гніць ў Курапатах раздольных,
Чым старцом жыць ля лавак гандлёвых!

*чэрвень 1990*

**РОДНАЯ МОВА**

Ты прыйшла, як сонца раннем,
Каб сказаць: “Жывая я!
Недаверам ці пытаннем
Не забі – я моц твая.”

Вобраз светлы ў німбе божым
З мяне скінуў сон бяздзейны,
Абудзіліся трывожна
Маладых гадоў надзеі.
Прыгажосць твая святая
Свет напоўніла гучаннем.
Ажыла душа... Бо знаю
Ты прыйшла, як сонца раннем.

У апратцы васільковай,
У вянку з сузор’яў яркіх,
У скрываўленых аковах
На руках сваіх сялянскіх.
І нібыта вінавата
Прашаптала спакваля:
- Я прыйшла нязванай ў хату,
Абвясціць: жывая Я!

Хай глуміўся ты часамі
Нада мною, маці роднай,

І не раз прад чужакамі
Адракаўся ўсенародна,
Я прайшла праз тыя здзекі
Без пракляццяў – наракanняў,
Не парань жа сёння, дзетка
Недаверам ці пытаннем!

Ў небе ясным свецяць зоры,
Крылы разгарнуў туман!
Глебы свежыя разоры
Гояць боль нядаўніх ран.
Песняй гулкай і лагоднай
Раз апошні клічу я.
- Сын! Як будзеш зноў свабодны,
Не пакінь – я моц твая!

*1971 – ліпень 1990*

## ІНШЫ РАЗ Я БЫВАЮ САМОТНЫМ ...

*Иногда я бываю печален,*
*Я, забытый, покинутый бог,*
*Созидающий в груде развалин*
*Старых храмов – грядущий чертог.*
*Трудно храмы воздвигнуть из пепла,*
.............................................................
*Н. Гумилёв.*

Іншы раз я бываю самотным,
Як забыты, закінуты маг,
Што між ціны і гнілі балотнай
Узнімае свой сонечны гмах.

Цяжка храм будаваць на руінах
Апаганенай ўладай святыні:
Ад блюзнерства пачвараў жахлівых
Часам кроў ледзянее і стыне.

Сцяўшы зубы і вусны бяскроўныя
У адказ на мярзотны іх рык,

Сыплю ў твань, нібы ў прорву бяздонную,
Пясок чысты з радовішч святых.

Хоць не бачна канца цяжкай працы,
Хоць у рубішчы бедным стаю,
Знішчыць Веру звяр'ю не удасца
Ў непарочную святасць тваю.

Ці таму разам з жвірам іскрыстым
Дзеля Праўды Святой і Ідэі
Я рыдлёўкай жыццё свё істава
На алтар чалавечнасці вею.

12 верасня 1990

**НАШ СЦЯГ**
*(вянок трыялетаў)*

У белым полі след крывавы
Не зацярушыш, не затрэш:
Стагоддзі вытапталі ўпеш
У белым полі след крывавы.
То сімвал наш, наш боль, наш верш,
Наш гімн, што склалі мы найперш!
У белым полі след крывавы
Не зацярушыш, не затрэш!

Не зацярушыш, не затрэш
Крывавых рэк у светлых далях,
Што грозна уздымалі хвалі...
Не зацярушыш, не затрэш!
Яны ў нас Волю адабралі
І годнасць ледзь не пахавалі –
Не зацярушыш, не затрэш
Крывавых рэк у светлых далях!

Стагоддзі вытапталі ўпеш
Рубец на сэрцы той балючы,
І незагойны, і пякучы –
Стагоддзі вытапталі ўпеш!

Ён нас штодзённа з табой мучыць
І не дае нам жыць бязгучна:
Стагоддзі вытапталі ўпеш
Рубец на сэрцы той балючы.

У белым полі след крывавы –
Сцяг бел-чырвона-белы наш:
Радзімы сутнасць – яркі пас:
У белым полі след крывавы
З'яднай народ у горкі час
З адвагай, мужнасцю і славай
У белым полі след крывавы,
Сцяг бел-чырвона-белы наш!

То сімвал наш, наш боль, наш верш,
Сцяг барацьбы за вызваленне,
Сцяг адраджэння, сцяг рушэння –
То сімвал наш, наш боль, наш верш!
Ўздымі ж яго і да здранцвення
Трымай ў руцэ, пакуль жывеш:
То сімвал наш, наш боль, наш верш,
Сцяг барацьбы за вызваленне!

Наш гімн, што склалі мы найперш,
Спявай, гудзі у небе чыстым,
Ўзнясёлы, горды, урачысты,
Наш гімн, што склалі мы найперш –
І пад тваім крылом агністым
Мы пойдзем шляхам прамяністым!
Наш гімн, што склалі мы найперш,
Спявай, гудзі у небе чыстым!

У белым полі след крывавы
Вякамі цягнем за сабой,
Крывёй сплываючы густой...
У белым полі след крывавы –
Суседзяў дар за наш спакой,
За талерантнасць... Мы з табой
У белым полі след крывавы
Вякамі цягнем за сабой.

Не зацярушыш, не затрэш
Той след трагічны аніколі!
Маскаль і поляк; Нашай волі
Не зацярушыш, не затрэш!
Бо ён і вершнік ў белым полі
Нас прывядуць да лепшай долі.
Не зацярушыш, не затрэш
Той след трагічны аніколі!

*1989 – 1998*

## ВЕРШАВАНЫЯ ПАМЕРЫ

ХАРЭЙ

Басаногі сябра мой,
Сябра з малалецтва,
Зноў мы босыя з табой,
А з душой – калецтва.

ЯМБ

Не нас любілі жонкі,
А грошы і работу,
Што мы, як недаробкі,
Цягнулі у ахвоту.

АМФІБРАХІЙ

Штодзённа заботы
Да самай суботы,
А прыйдзе субота
Там выпіць ахвота!

ДАКТЫЛЬ

Ехалі – ехалі
Да камунізма.
Глянулі з кузава –
Бабчына прызба...

АНАПЕСТ

На халоднай чарэні ляжу,
Бок мой грэе ў мазуце ватоўка,
Я нікому ужо не скажу,
Як глядзець мне вам ў вочы нялоўка.

ХОКУ

Мора васількоў...
То вочы беларусаў
Вайною забітых.

***

Погляд да зорак
Юнак накіроўвае,
Старац – да долу.

***

Бі ў барабан:
Цемра ночы баіцца
Бадзёрай песні.

***

Радуйся буры:
Яе магутны подых
Разгоніць хмары.

***

Адны шчупакі
Верхаводзяць у рэчцы...
Як выжыць плотцы?

***

Шэрыя хмары
Абвілі наваколле.
І шэрых людзей.

ТАНКА

Святло падае
Прамністае сонейка
Злым і харошым.
Добрым – з любоўю. Благім,
Каб баяліся Бога.

***

Жывем на зямлі
Як гарох пры дарозе:
Усякі скубе,
Хто праходзіць з вайною...
І лепшых забірае.

***

Кроплі імжакі
У момант камянеюць
У абдымках лёду.
Як і вольная думка
Ў сутарэннях цэнзуры.

***

Ціха на рэчцы...
Толькі плюхаўкі сквапна
Хрумсцяць камароў,
Якія нешта ўпарта
Спрабуюць ім даказаць.

***

Плачуць шыбіны
Старой бацькавай хаты
У сонца праменнях.
Аб мінулым іх слёзы
Ці аб будучым, можа?

***

Колькі мы хвілін
Богам падараваных
Трацім бяздумна...
Якой жа дарагою
Здасца нам апошняя!

***

Зіма і цемра,
Толькі недзе далёка
Енчыць сабака.
Не ўпадабляйся яму,
Бо ты яшчэ чалавек.

***

Салавейка змоўк.
Кажуць, што падавіўся
Ячменным зернем.
Насыць, Божа, ворага,
А я лепш папашчуся.

*1999*

**КАЛІ ЗАПЛАЧУЦЬ ВАЛУНЫ**

*(легенда роднага краю)*

- Калі заплапчуць валуны, –
Казаў мой дзед пры сконе, –
Народ ударыць у званы
І набрыдзь з тронаў зрыне.

Я казкам верыць не прывык,
Легенд старых не ведаў,
Але штодзённа лашчыў слых
Аповяд даўні дзедаў.

- Калі чужыя ўладары
Падсеклі нашым крылы,
Зямлі тутэйшай ваяры
У камянях застылі.

Яны цярпець палон – прыгнёт
Чужынцаў не жадалі,
Таму па ўзлесках, ля балот
Булыгамі паўсталі.

Яшчэ дагэтуль ім аброк
Нясуць старыя людзі:
Хто пояс дорыць, хто пірог,
Хто што... Як на палюдзі!

Калі ж заплачуць валуны,
Зайдуцца ў немым стогне,
Народ ударыць у званы
І набрыдзь з тронаў згорне.
.............................................

Учора ж мне мае сыны
Сказалі росным раннем:
- Глянь, тата, плачуць валуны
У бэзавым тумане!

*люты 2000*

# Усё, як у сапраўдным жыцці...



**ПАЭЗІЯ**

*У паэтычнай творчасці Міколы Маладзіка усё, як у жыцці: ёсць свае вяршыні, уздымы, знаходкі, бясконцыя пошукі, непрадказальныя павароты, моманты поўнага змірэння і адчайнага бунтарства, філасофскай узвышаннасці і яднанасці з усім звычайным, зямным... Біяграфія душэўных пошукаў творчай натуры... Здаецца, вершаванае слова стала спадарожнікам Міколы трывала. У гэтага аўтара многа уласных вершаў. У новую падборку ўвайшлі толькі некаторыя з іх, напісаныя ў апошнія гады.*

Аўтара турбуюць адвечныя пытанні дабра і зла. Не аднадушны ён да легендаў і паданняў роднай зямлі, некаторыя з іх ён па-мастацку апрцоўвае сам. І гэта найлепшая прыкмета, калі аўтар у сваіх творчых пошуках звяртаецца да вуснай народнай творчасці, гэтай невычэрпнай першароднай жыццядайнай крыніцы, здольнай наталіць самую вялікую смагу слова ў кожнага, хто звернецца да яе. Слова заўсёды дапаможа перадаць самыя глыбінныя пачуцці, самыя тонкія душэўныя хваляванні, усё багацце ўнутранага свету чалавека, усе адценні фарбаў мінулага, сучаснага і будачага...
Няхай яно будзе так, імкнемся да гэтага!

*Таццяна Каваленка, паэтка, супрацоўнік*
*Крупскага краязнаўчага музея.*



*АЛЯХНОВІЧ МІКАЛАЙ ПЯТРОВІЧ, (псэўд. Мікола Маладзік) нар. 16.02.1970 у м.Крупкі. Паэт. Працаваў настаўнікам, аператарам кацельні, слесарам, кіроўцам аўто, дызайнерам, цесляром. Вершы друкаваліся: ў раённай газэце "Крупскі веснік"; паэтычным зборніку "Ручаіны" (Мн., "Чатыры чвэрці" 2001); альманаху "Малое Палесьсе", Крупкі 2004. У 2010-м выйшла першая кніга вершаў "Скорость любви".*

* * *

ПА ВІА ДАЛАРОСА ЙШОЎ ХРЫСТОС
З апошняй моцы пад крыжом хіліўся.
І бачыўшыя, як, Ён грэх панёс,
Хто зьдзекваўся, хто плакаў, хто маліўся.

Ішоў ў чарадзе са злодзеямі моўчкі -
Сьвішчэлі бізуны, гукалі смерць.
Ніхто не крыкнуў: "Тата,"- бо ні дочкі,
Ні сына Назарэй не можа мець.

Адна матуля соўгала нагамі.
Надзеі мёртвай цяжар у грудзёх
Нясла, змывала кроў Яго слязамі,
Што запякалася на камянёх.

І вось, Сымон* пад крыж схіліўся спрэчна
Яго зьмяніць, аблегчыць д'яблаў зьдзек.
... Як чалавеку Бог патрэбен вечна,
Так вечна Богу трэба Чалавек.

*18 – 19 снежня 2003г.*

**ПАСХА 1998 ГОДУ**

Ужо з царквы прынесьлі ранак,
У хаце яек трэск стаіць,
Адчынен медавухі збанак,
Анёлам гоманка ляціць.

Дзе Езуса ўспамянуўшы –
Адкупніка зямных грахоў,
Кіруем ад натхненьня душы
Ў глыб прадзедавых вякоў...

Калісьці так і пачынаўся
Ў хаціне сьвята карагод.
І ў гэтым сьвяце нараджаўся
Наноў, здаўна свабодны род.

**Сымон – Сымон Кірынеянін дапамог несці крыж Хрыста. За гэта Ісус абяцаў яму вечнае жыццё (паданне).*

І там, як і цяпер гучала
З вусноў - ляцела як з нябёс:
“Хрыстос уваскрос!” Ўсе пачыналі
Адказваць: ”Сапраўды ўваскрос!”

**РОДНАЕ**
**(ВЯРТАНЬНЕ БЛУДНАГА СЫНА...).**

Як маланка танчыць дзіўна,
І Пярун у бубен б’е,
Ад таго, што зноў каліна
Гронкі аддала вясне.

А каштан – хлапец кудлачны
Ветрык просіць калыхаць,
Запрашае нас ўдзячна,
Ў родну хату завітаць.

Там дзе прызбачка з акенцам
Заручыліс назаўжды,
Там дзе ганак кажа сэрцу:
“Завітайце, як прыйшлі.”

Скок у хату, ўсё як раней
Год таму, альбо другі;
Вось павук, мой сябар даўні
Тчэ спрадвечныя кругі.

Штось цікавага ў хаце?
Каго ветрам намяло?
І адразу немаўляці
Ўсмехалялецца міло.

А ікона Назарэя
Ўсё цьвіце і выцьвіе,
А насупраць -- во зацея,
Рэзны воўк на бервяне.

Да вакенца падыходжу,

Каб пабачыць у бакі
Мо прыбытак ў агародзе
Ёсць які-такі-сякі?

Як заўсёды тата ходзіць
Бы чароўны валхавік;
То ў яблынь карагодзе,
То ля борцеў вартаўнік.

Побач лялька завадная
Ў спадніцы, басанож --
Маці, нібыта шальная,
"Танчыць" поперак і ўздоўж.

Так заўсёды пачынаўся
Featured Рознатвары шлях гадзін
Тут я сэрцам ўзгадаваўся
Ды каб толькі я адзін...

Праз гадзіну панаедуць,
Ну, а хто й падыйдзе.
І пачнём гуляць, вячэраць
У сямейнай чарадзе.

Будуць жарты, як маланкі,
Смех, як быццам б'е Пярун.
І душы сівыя ранкі
Збавяцца ад цяжкіх дум....

*7 сакавіка 1998 года.*

**БЕЛАРУСКАМУ ПІВУ З ПАДЗЯКАЙ І ГОНАРАМ**

То не водка, то лепшае дзіва
З беларускіх палёў і цахоў.
Нідзе ў сьвеце не вараць так піва,
Як у краі балот і бароў.

Дзе "Крыніца" журчыць, лямантуе
"Старажытнае" песні пяе.
"Стары замак" спрадвеку пануе.
Гонар свой ачарніць не дае.

Мудры "Леў" беларускага люду
На "Немізе" сумотны агляд
Пакідае ў "Траецкую" буду –
Бо яе "паглынае" вар'ят.

Але вершніку "Холстану" цяжка
"Князе Вітаўт" яму супраціў
Сваім коштам і якасьцю важкай
Нават "Лідскае" войска пусціў.

"Чорны прынц" пагражае з "Сябрамі"
Яго выгнаць адсюль назаўжды,
Каб не ляцкаў той конь капытамі
І ў народ не прыносіў нуды.

"Мінскі бровар" нясе ганарліва
Нам "Ячменнага коласа" гляк
Следам "Рэчэцкае" ўсім на дзіва.
"Рагвалод" прапануе свой смак.

І шаноўны "Граф Чапскі" ўзгадае
Нам сівой даўніны ўспамін.
І нарэшце ў небе заззяе
Маладзік, што цудоўны "Бурштын".

*1998 – 2003г.г.*

**КАЗКА**

Ціхі вечар памірае,
Асеў пыл дарожны.
Казку маці пачынае
Пра Сярпок двурожны.

Маладзік гуляе ў небе
Зорачкі пільнуе.
І слязінкамі па глебе
І траве вядзьмуе.

Коні пасьвяцца ў полі
Трынажжу абуты.
Быццам сэрца ў няволі
Ў часіну пакуты.

Разцугляным легкадумна
Ветрык чэша грывы,
А яны схіліліcь сумна
Быццам над магілай.

Маладзік ім спачувае
З вышыні дарэмна,
Бо іх сонейка спаткае,
Яго ж толькі цемра.

Гай прыціхшы і не бачна.
Рэчанька ў дрымоце.
Спаць усім дзіцяткам смачна
Ў казачным палёце..

Маладзік зямлю абсяжна
Бачыць праз чарноту.
Моўчкі думае паважна
Пра сваю турботу.

Бо Сьвяціла яму родзіч,
Але поразь ходзяць.
А даўней, бывала, побач
Мкнуліcь карагодзіць.

Ды аднойчы паспрачаліcь,
Хто мацней другога –
Вінаватымі засталіcь
Прад вачыма Бога.

З тых часін не дазваляе
Сустракацца Божа.
Але кожны зь іх чакае
І надзею доўжыць.

*Люты – сакавік 1998.*

# Агляд культурнага жыцьця ў 2004 годзе





*Суб'ектыўныя зацемкі зь дзёньніка мастака з Бабра Алеся Пушкіна*

**ДЫЯРЫУШ** / Алесь ПУШКІН

*Вядома ж год пачаўся з Калядаў. Быў мароз -33*С. У нас усё ж сабраліся тыя сябры, якіх я чакаў. Добра сустракаць Божае Нараджэньне з таго, што найперш, на душы спакой і парадак – прыняўшы Сьвятое Прычасьце, спавядаўшыся, перадусім ты адчуваеш сябе лёгка, упэўнена і вясёла пачынаеш год. Мароз, зоры, добры настрой, людзі, якіх табе прыемна бачыць у хаце сваёй, – цені нашыя – няўклюзныя постаці на бялюткім сьнезе, саламяная зорка калядная, што зрабіла жоначка – пераліў званочкаў на маім капелюшы – і,... расчыняюцца гасьцінна перад намі хаты нашых знаёмых, якіх мы прыйшлі віншаваць з Калядамі – людзі нам радыя. А гармонік Генадзя Драздова (мастака зь Менску) будзіць сонныя вулкі Бабра й Крупак.*



*ПУШКІН АЛЯКСАНДР МІКАЛАЕВІЧ (АЛЕСЬ ПУШКІН), нар. 06.08.1965 у м.Бабёр Крупскага раёну. Вядомы беларускі мастак. Жыве з сямьёй у родным мястэчку. Ганаровы сябра Харугвы Скаўтаў Малога Палесься.*

**19 СТУДЗЕНЯ.**

Атрымаў вестку аб эміграцыі паэта Славаміра Адамовіча, зь якім сябраваў з 1994 году, тады ж у 1994-95 годох напісаў ягоны партрэт, які дагэтуль захоўваецца ў мяне. Прыкра расчароўвацца ў чалавеку, прыкра бачыць ягоныя "творчыя" шараханьні ад стукача КДБ да палымянага адраджэнца, ягоныя абвінавачваньні нас усіх, хто тут застаўся ў нямогласьці. Падкрэсленнае ніцшэанства, выдатныя вершы ў зборніках "Зямля ханаан" 1994г., "Плавільшчыкі расы" 2000г., уплыў яго на маладых, жарсьць і аптымізм, непарасякаемая жыцьцёвая вера яго вершаў, сьмеласьць – і ў вадначасьсе ад'езд-уцёкі (!). Халоднага разьліку просьбы палітычнага прытулку. Нібыта вехі творчай біяграфіі, – гэтыя турэмныя дзёньнікі і зашываньня роту на мітынгу рабіліся цьвярозай галавой з скурпулёзным разьлікам аб далейшым пададзеным сьпісе падстаў на атрыманьне нарвэжскага прытулку. Уласная нямогласьць стварыць сямью – разбэшчанасьць, эгацэнтрызм, пыха, няўменьне жыць зь людзьмі у сваім Будславе (а чаму б і ня быць там мястэчковым настаўнікам, вядомым на ўсю Беларусь паэтам, выпусьціўшым шэсьць цудоўных зборнікаў паэзіі, жыць зь якой беларусачкай, ражаць дзяцей і шых-

таваць падлеткаў будслаўскіх у свой "Правы рэванш"? Чаму б і не?
Але ж не!
Гэтыя допісы ў "Нашу Ніву" з дзёньнікамі з Нарвэгіі – на мой погляд – нейкі літаратурны эксгібіцыянізм. Ён атрымлівае задавальненьне ад адкрыцьця сваіх патаемных бакоў уласнай душы, выносячы гэта на беларускую чытацкую аўдыторыю. Бо нарвэжскай гэта не цікава. Таму і пасыл у "Нашу Ніву". Чаканьне буры, водклікаў, e-mailaў, лістоў... . Бо сумна і самотна у лягеры ўцекачоў на поўначы Нарвэгіі. А тут: Лявон Вольскі выпускае "Крамбамбулю", Нейра Дзюбель сьпявае па-беларуску, Андрэй Аляхновіч са сваімі скаўтамі на археалягічных раскопках знаходзяць унікальны скарб, літаратурныя постаці узьнікаюць – Андрэй Хадановіч са зборнікам "Лісты з-пад коўдры", Ганна Кісьліцына з "Blond-Attak", Юрась Барысевіч з "Alter NEMO", дзе піша пра "Будучыню, якая настала", Альгерд Бахарэвіч дапісвае лепшы раман найноўшых часоў у нашай літаратуры "Натуральная афарбоўка".
Памылка Славаміра Адамовіча найперш у яго непрызнаньні існасьці Бога, у яго душы, якая не можа пакахаць з-за гардыні, з-за маленькага Напалеончыка, што жывіцца яго эгаізмам. Уласнае самаразбурэньне... Расчараваньне 2003 году.

**26 СТУДЗЕНЯ.**

Памёр у Маскве расеец па паходжаньню, пясьняр па духу Уладзімір Мулявін... Адразу ўспамінаецца асабістае пачуцьцё ўдзячнасьці яму, якое я перажыў у 1994 годзе у Вітабску, на "Славянскім Базары-94" на юбілейным канцэрце ў гонар 30-ці годдзя "Песьняроў". Тады да мяне прыехалі на адкрыцьцё помніка Уладзіміру Караткевічу ў Вітабску паэтка Міраслава Лукша, мастак Алік Маціевіч, мастацтвазнаўца Міхал Баразна. Пасьля адкрыцьця помніка (скульптар Іван Казак) мы ўсе пайшлі на канцэрт "Песьняроў" (адкрываў помнік Мечыслаў Грыб, колішні Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі). Гэта быў цудоўны канцэрт! На мне быў нацыянальны строй, і калі прасьпявалі песьню на словы Янкі Купалы "Малітва за Беларусь", я, з пачуцьцём удзячнасьці выйшаў да гэтага чалавека, які такое зрабіў ў сьвядомасьці мільёнаў людзей тагачаснага СССР – беларуская песьня! "Песьняры"! – стаў на калена, падараваў яму кветкі, падзякаваў і пажадаў здароўя.

**30 САКАВІКА.**

Выстава ў Маскве "А. Пушкін і яго Беларусь", прысьвечаная 85 угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі, у выставачнай залі "Варшавка" Паўднёвай адміністрацыйнай акругі (фота 1). Арганізавана выстава беларусамі Масквы, сябрамі таварыства Францішка Скарыны, якое ўзначальвае Генадзь Лех, а намесьнікам Таіса Мішчанка (у якой я і жыў два тыдні падчас выставы).

Выстава паказала найперш тое, што хоць і мала ў Маскве сьвядомых беларусаў, якія адмаўляюць сучасны "лукашызм", амбасаду Беларусі ў РФ і саму сістэму дыктатуры на Радзіме – усё ж яны здольныя наладжваць якое кольвечы культурнае, альтэрнатыўнае тым дням "Русско-Белорусской" культуры ў Маскве, жыцьцё. Гэта і канцэрты Андрэя Мельнікава, Віктара Шалкевіча, сустрэчы з Уладзімірам Арловым, вось мая выстава – гэта ўсё частка нечага іншага, не афіцыёзу, не "лукамольскага", а па духу сапраўды беларускага. На адкрыцьцё сабралася шмат студэнтаў-беларусаў, што вучацца там на розных факультэтах як МДУ, так і мытным, і нават оперным у інстытуце Гнесіных. Прыйшлі вядомыя людзі – прафэсар Я. Шыраеў, дысыдэнт М. Кукабака, дачка Адама Бабарэкі – Алеся. Пазьней выставу наведаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, галава каталікоў РФ. У маскоўскіх касьцёлах Сьвятога Людвіга і Панны Марыі мной былі разьвешаны афішы выставы. Прыйшлі на выставу і былыя акторы тэатра Якуба Коласа, што зь Вітабску, якія перабраліся ў Маскву: Дзяніс Трушко і Андрэй Градабоеў з сем'ямі. Зь Дзянісам мы працавалі ў 1994 годзе падчас пастаноўкі "Караля Ліра" У. Шэкспіра, якую рабіў Валеры Васільевіч Масьлюк.




Яны ж параілі мне паглядзець лепшае, што йдзе зараз на іх погляд у драматургіі сучаснай Расеі – "Горе от ума", Грыбаедава рэжысёра Сяргея Жэновача ў Малым Тэатры – доме А. Астроўскага.

Мы з спадарыняй Таісай схадзілі на гэты сьпектакль адразу ж. Выдатная драматургія, прастата і стылёвасьць. Трупа – зоркі, сярод іншых Ю. Саломін і Н. Быстрыцкая вельмі мяне ўразілі і я адчуў вось гэтую моц і веліч расейскай культуры. Браво, клясіка!

Гэтак жа прыемна было нам зь Янай аглядаць Дзяржаўны Гістарычны Музэй РФ (фота 2). Усё з былога СССР зьвезенае туды, усе культуры і археалягічныя знаходкі 1/6 часткі плянэты... Жоначка была вельмі ўражаная як гісторык і аматар археалёгіі.



Выставы Хельмута Ньютана, які ў той час быў выстаўлены ў Цэнтральным Доме Фота, і графіка Франсіска Гойя "Капрычос" у Музэі Археалёгіі прыемна ўразілі і пакінулі свой сьлед у маёй душы.
Магутная імпэрская сталіца Масква зараз жыве напружана, шмат патрулёў на вуліцах, шмат, як і ў кожнай каляніяльнай сталіцы, інародцаў, каўказцаў і інш. І, здаецца яны, як тыя марлокі ў рамане Гербэрта Ўэлса хутка возьмуць усё ў свае рукі, бо як бы ўвесь "падземны" патаемны сьвет нябачнага боку жыцьця Масквы ў іх ужо пад кантролем. Яны ціха гнуць галовы, але іх вочы гараць нейкім упартым і адным ім ведамым таемным вагнём.
Вельмі няўтульна было сярод іх на рынках, у маршрутках, у пунктах харчаваньня і вулічных шапіках, адкуль неслася зазвычай вельмі гучная арабская музыка. На Беларусі ўздыхнуў з палёгкай – адзіны плюс рэжыму, што няма такой колькасьці азіяцкіх твараў.



Вынікі выставы ў тым, што я зразумеў адно: нейкі свой псіхалягічны рубеж няўпэўненасьці ў сабе я перайшоў і на 37 годзе жыцьця стаў спакойны ў сваім выбары – я мастак, я патрэбны, я маю посьпех і магу рэпрэзэнтаваць свой Край.
Былі паказаныя два рэпартажы па гарадзкім TV: адзін у дзень адкрыцьця выставы – на 5 хвілін, і другі – праз тыдзень выставы, на 15 хв. Часопіс для галерэй і выставачных заляў "Изограф" даў матэрыял з 8-мю працамі і артыкулам мастацтвазнаўцы Н. Оснас. Газэта для мастакоў, ворган аддзела культуры Мосгордумы "Наш Изограф" таксама разьмясьціла маю "Мелёдыю Купальскай ночы" з артыкулам аб выставе (фота 3).
Але на маё запрашэньне не прыйшлі землякі: ні Уладзімер Кавалёнак, ні Павал Шарамет, ні крупскі банкір У. Гара, ні вядомы ў беларускіх колах намесьнік праўленьня банку "Держава" А. Макагон, які вельмі цікавіцца беларускімі справамі ў Маскве. Пасольства РБ ў Маскве таксама праігнаравала маё запрашэньне.
Ды й падчас арганізацыі выставы ніхто з крупскіх прадпрыймальнікаў, да каго я зьвяртаўся, не дапамог мне.
Я гэтым фактам прыдаў значэньне: няма і пакуль ня можа быць на нашай Крупскай зямлі мецэнатаў. Што ж пакажа Крупшчына ў сьвеце? Што застанецца

як набытак нашага часу?
Усё ж пэўныя часіны найперш застануцца ў памяці людзкой ў творах мастацтва! Але: "Усе любяць слухаць, як хораша сьпявае салоўка, але кормяць усё ж курэй"... .

**15 – 16 ЧЭРВЕНЯ.**

Выстава-акцыя салідарнасьці ў Беларускім гуманітарным Ліцэі імя Я. Коласа. Адзіны беларускамоўны ліцэй зачынены рэжымам Лукашэнкі. У Менску няма больш такой навучальнай установы, дзе б па-новаму, па-сучаснаму так вучылі дзяцей цалкам на роднай мове.
І мы, 12 мастакоў (сярод якіх я прадставіў 3 працы), зрабілі выставу-падтрымку ў файе і калідорах ліцэю.
Граў музыка Зьміцер Сідаровіч, прамаўляў паэта Рагор Барадулін, прысутнічалі паслы і палітычныя дзеячы.
Потым у другой частцы імпрэзы ўсе былі запрошаны ў актавую залю і ліцэістамі быў прэзэнтаваны CD "Я люблю ліцэй".
Але ў паветры адчуваўся сум, туга й безвыходнасьць. Страшная, магутная машына антыбеларускай дзяржавы – і маленькая купка выкладчыкаў, ліцэістаў і іх бацькоў... . Сілы няроўныя. Вынік змаганьня передвызначаны. Але нязломнасьць Ліцэю – гэта асабіста для мяне – сымбаль і культурны, і палітычны, і гуманітарны ўсяго мінулага 2003 году.

СЬМЕРЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Пачуў гэтую вестку па радыё "Свабода". Вырашыў аразу ж, 22 чэрвеня першай электрычкай ехаць у Дом Літаратараў на жалобнае разьвітаньне з чалавекам, чыё жыцьцё і творчасьць ёсьць для мяне асабіста прыкладам сумленьня і чысьціні служэньня Радзіме. А 10 гадзіне раніцы ўжо даволі вялікая чарга ў залю Дома Літаратараў. Усю ноч пісьменьнікі разам з удавой і сынамі стаялі супраць прадстаўнікоў улады – Л. Гулякі, М. Чаргінца, гэбістаў ды вайскоўцаў, якія хацелі цішком, па-свойму пахаваць вялікага сына Беларусі. Урэшце, старэйшы сын Быкава пакрыў труну бел-чырвона-белым сьцягам і сказаў, што такая была воля апошняя нябожчыка. Пры гэтым міністр Гуляка і М. Чаргінец сказалі што яны, як дзяржаўныя дзеячы ня могуць прысутнічаць на такім пахаваньні. І сышлі, аддаўшы загад зьняць пасты гэбістаў з уваходаў у Дом Літаратараў і пусьціць ужо ў Залю жалобна прыбраную, дзе была выстаўлена труна, напіраючы з



вуліцы народ.

І людзі пайшлі… . Тысячы людзей у гэты дзень разьвіталіся з Быкавым, тысячы ішлі за ім у вапошні шлях да могілкаў. Я йшоў разам з Алегам Латышонкам, гісторыкам зь Беластоку і Галінай Дубянецкай, літаратурным крытыкам. Потым да нас далучыліся Кася Камоцкая і Віктар Корзун. Я йшоў і думаў – чаму такое супраціўленьне ўлады да прызнаньня свайго, народнага, тут узросшага, і такая пашана, такі піетэт да прыезджага, таксама вялікага, У. Мулявіна?

Чаму так шануюцца тыя прыезджыя пасьля вайны інтэлігентныя рускія людзі, што шмат зрабілі для нашай культуры і набылі сабе і гэтай культуры славу ў цэлым сьвеце, і так неадэкватна і неналежна ўшаноўваюцца афіцыйнай уладай ты я ж Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч, Міхал Забэйда-Суміцкі, Міхал Раманюк, Уладзімер Роўда, Васіль Быкаў?

І заўсёда застануцца мне напамінам словы Васіля Быкава:

*– Так, за Вамі цяпер перамога, але ж за Намі – ісьціна!*

**ЧЭРВЕНЬ 2003г.**

Працую ад пачатку чэрвеня над росьпісам “Паляваньне на Беларусі” у Сакалавіцкім лясьніцтве. Гэта росьпіс, дзе ў добрай рэалістычнай манэры паказаныя ўсе віды паляваньня ў нашых краёх – ад старадаўніх часоў аж да



найсучасьнейшых.

Адзін з фрагмэнтаў росьпісу, прысьвечаны сучаснаму паляваньню на ваўкоў, адлюстроўвае творчую пераапрацоўку сапраўднага выпадку з нашай нядаўняй гісторыі (пасьля рэфэрэндуму 1995г., аб зьмене гістарычнай сымболікі на бэсэсэраўскую, колішні старшыня Крупскага раённага таварыства паляўнічых

Мікалай Кляшчонак ірваў бел-чырвона-белыя штандары на сьцяжкі для паляваньня на ваўкоў...) (фота 5).

## ПАДАРОЖЖЫ ЛЕТА 2003г. 3-4 ЛІПЕНЯ. НЯСЬВІЖ.

Упершыню ў гэты невялікі гістарычны горад прыехала больш за 50.000 наведвальнікаў фэсту сярэднявечнай культуры: і усё дзякуючы шырокай рэкляме на БТ. Проста не было куды стаць нават, не кажучы пра ўмовы камфортнага адпачынку. Але ўсё ж такія фэсты падымаюць дух гістарычнай сьвядомасьці, не гледзячы на іх спрэс рускамоўную інфарматыўнасьць.
На фэсьце ў Нясьвіжы была вельмі цікавая музычная праграма. Гурты старадаўняй музыкі з Ангельшчыны (Шатландзія), Латвіі, Эстоніі, Чэхіі, Польшчы, Расеі, Нямеччыны і нашы беларускія: Капэла Алеся Ляся, "Стары Ольса", Аляксандра і Канстанцін з Барысава – гэта ўсё было вельмі прадстаўніча і цікава! З замежных вельмі спадабаліся: найлепшы медывальна-мадэрновы гурт Польшчы "Open Folk" і расейскі "Drols" з Петразаводзка.
Далей "Drols" усю ноч граў свае лацінскія сярэднявечныя кампазыцыі на Грунвальдскім полі **13-14 ліпеня 2003г.**



Гэта было цьвіком вечаровага музычнага фэсту пасьля відовішчнай рэканструкцыі Грунвальдскай бітвы, што кожны год супольна ладзяць усе клюбы сярэднявечнай культуры ў Польшчы (фота 6).
Пачынаецца ўсё з раніцы, калі ў рыцарскім стане на памост выходзяць гетман Рыцарства Польскага з сваёй малжонкай. Усе клюбы выходзяць па чарзе да яго шыхтамі, з харугвамі і падаюць свае прывілеі.
Ён іх прымае. Потым усе рыцары перашыхтоўваюцца на нямецкіх і славянскіх вояў і выступаюць на гістарычнае поле, дзе ў 1410 годзе адбывалася бітва і якое ўжо спрэс запоўнена гледачамі, што зьехаліся сюды з усёй Польшчы. Праз вялікія магутныя калёнкі-гукаўзмацняльнікі вядучы каментуе ход бітвы.
Яна, вядома, тэатральная, але дзяжурацць машыны хуткай дапамогі й шрубалёт. Бывае, што іх дапамога патрэбная. Пасьля бітвы ўсе йдуць у рыцарскі стан, дзе й адбываюцца: кірмаш, канцэрт, танцы й скокі да раніцы. Кожны год зьбіраецца 80 – 120 тысяч чалавек.

**ПАДАРОЖЖА Ў МАЛЬБАРК** – фартэцыю крыжакаў пад Гданьскам, **дзе 19-20 ліпеня** адбываецца другі найвялікшы фэст сярэднявечнай культуры ў Польшчы пасьля бітвы на Грунвальдскім полі.

Па гістарычнай кроніцы крыжакі, страціўшы магістра тэўтонскага ордэну Юнгінгена пасьля паразы на Грунвальдзе, адступілі да свайго асноўнага аплоту на Балтыцы – Мальбарку (Марыенбургу) – замку, на тыя часы самага вялікага збудаваньня з цэглы ў Эўропе (фота 7). Там абарону ўзначаліў комтур Гэнрых фон Плаўэн, а Вітаўт і Ягайла прапанавалі яму здацца. Фон Плаўэн прыняў ра-



шэньне бараніцца і адбылася аблога Мальбарку 1410 году і крыжакі адстаялі замак, бо войска Ягайлы й Вітаўта было ўжо зьнясіленае Грунвальдам.

Цяпер штогод тут робяць гістарычную рэканструкцыю начной аблогі Мальбарку, куды зьяжджаецца каля 70 тысяч турыстаў. Увесь замак упрыгожаны палаючымі паходнямі, магутныя вайсковыя пражэктары асьвятляюць нападаючых і церпячых аблогу рыцараў, добры каментар зноў жа праз магутныя гукаўзмацняльнікі. Лепшага й эфэктыўнейшага відовішча я не бачыў! Потым, па сканчэньні аблогі, грандыёзны фэйервэрк. А далей, усю ноч увесь гарадок весяліцца: працуюць усе піўныя кафэ і пабы.

Наш клюб – Рыцары Вялікага Княства, назаўтра аглядалі ўвесь замак, потым я маляваў партрэты, а пад вечар другога дня слухаў гурты сярэднявечнай музыкі, дзівіўся сярэднявечным танцам, якія танчыла чэшская, польская й нямецкая моладзь. Дзяўчыны з нашага клюбу таксама не адставалі, бо добра ведаюць гэтыя брандлі, падыспані, алеманды... .

ДУМКІ ПРА ФІЛЬМ АНАСТАСІЯ СЛУЦКАЯ.

Гэты фільм я паглядзеў на яго першым паказе ў Нясьвіжы 4 ліпеня 2003г. разрэклямаваны афіцыйнай прэсай і створаны на грошы і асабіста пад кантролем ідэалягічнай службы А. Лукашэнкі фільм заслугоўвае асобнай увагі.

Дзяржаве, як паветра, патрэбна ідэалягічная падстава для апраўданьня сёньняшніх сваіх дзеяньняў. Таму і выбраны гэты гістарычны час для фільма, гэтыя пэрсанажы, адным словам навідавоку замова на нейкі пэршы камень у падмурак ідэалёгіі нашага памежнага стану паміж Расеяй і Эўропай. Адсюль і Праваслаўе і Іслам, і Усход і Захад. Героі фільма знакавыя: і Мурза-захопнік, і Немец-будаўнік і збройнік, што служыць Анастасіі Слуцкай, і сама Жанчына – Беларуска – Вой, і нядружнасьць баяраў, шляхты – і Іўда сярод іх. І паганскія асаблівасьці душы беларускай. Ды самае галоўнае – мудры і цярплівы Народ, які ўсё разумее, усё падтрымлівае, сам карае іудаў сваіх, які ўсё адбудуе і будзе шчасьлівы. Ды вось толькі той народ размаўляе па-расейску (?).

Фільм зроблены па-расейску, нават і ня думалася рабіць варыянт агучваньня на роднай мове. Пра што з сумам і жалем казала Сьвятлана Зелянкоўская, выканаўца галоўнай ролі, сьвядомая актрыса, выхаванка Ларысы Сімановіч. Гэты твор нагадаў мне пра савецкі культавы фільм-бутафорыю "Аляксандр Неўскі". Тут, у нашым айчынным блёкбастэры, акцэнты ўсё ж зьменены: захопнікі ў нас, у вадрозьненьні ад рускага фільма – усё ж з Усходу, а не з Захаду. І наадварот, – цалкам станоўчы вобраз немца-збройніка.

Асноўнае рэзюмэ ўсё ж такое: няўжо савецкі час не навучыў дзеячоў культуры, – мастацтва ўсё трымаецца на Асобе творцы, на яго суб'ектыўных адлюстраваньнях, рэфлексіях, філясофскіх роздумах пра мінулы і існы час, а не на дзяржаўнай замове перапісаць былую гісторыю, убачыўшы ў падзеях мінулага спосаб вырашэньня сучасных ідэалягічных пытаньняў і праблем, няхай сабе і шляхам падводкі праз кінамастацтва (найбольш масавы від з усіх мастацтваў).

Гэты фільм застанецца ў гісторыі нашага мастацтва як увасабленьне ідэалягічнага заказу на гістарычнай тэме, але дзеля сёньняшняга дня. А можа гэта і ёсьць яго асноўная мэта?

Разглядаючы такую зьяву, як праект **"Крамбамбуля – 1" і "Крамбамбуля – 1,5"** прыхожу да думкі аб самым значным музычным праекце гэтага году. Песьні "Абсэнт" і "Госьці" – гэта тыя рэчы, што зараз найбольш адпавядаюць сёньняшняму беларускаму часу – і без палітыкі, і на беларускай мове. Адно, што дрэнна – гэта ўжо амаль папсовы ўзровень пасьля "Сьветлыя – сьветлыя", "Партызанская", "Паветраны шар", "Маё пакаленьне"... . Але відаць іншага шляху ў такі час і няма, каб дастукацца да сэрца амаль кожнага беларуса.

Лявон Вольскі, усё ж прыхожу да высновы, самая значная пасьля Ўладзімера

Арлова Асоба ў сучаснай беларускай культуры.

Мы з жоначкай былі запрошаны, падчас прыезду **25 жніўня** да нас ў Бабёр сямы Арловых (фота 8), на юбілей пісьменьніка. Гэта нас вельмі прыемна ўразіла! Сам Уладзімер з Валянцінай запрашаюць нас на 50-годзе. Мы з радасьцю прынялі запрашэньне і былі на юбілею. Я падарыў Уладзімеру "Сон Міндоўга" і відэакасэту з сваімі пэрфомансамі.



Пажадалі яму найперш здароўя, і – чыстага сэрца. Бо Бог ня ў сіле, а ў праўдзе – праўда ж у чыстых сэрцах.

**ЖНІВЕНЬ.**

Выхад кнігі "Краіна Беларусь" Уладзімера Арлова і Зьміцера Герасімовіча.

Яркая падзея году! Гэта лепшая, на маю думку, кніга 2003г., бо яна вельмі прэзэнтацыйная, эўрапэйская і шыкоўна прадстаўляе краіну у кантэксьце эўрапэйскай гісторыі. Ад старажытных часоў да 1918 году – году нашай Незалежнасьці. Ёсьць што падараваць гасьцям, замежнікам , сябрам.

Мне яе падараваў Алесь Юркойць, мытнік, які арганізаваў мастацкі пленэр на Астравеччыне ў гонар ксяндза Янкі Быліны, якому спаўнялася 120 год і якога памятаюць там дагэтуль.

Так для мяне адкрыўся Астравецкі Край: Нальшчанскі Край, Віленшчына, зь якой я пасябраваў на ўсё жыцьцё.

Пленэр адбываўся **4-11 жніўня** ў вёсках Клюшчаны, Варняны і Лакцяны. Сабраліся мастакі, краязнаўцы, інтэлігенцыя памежжа – Віленскага Краю. Міхась Казлоўскі, Дзяніс Раманюк, Сяргей Вітушка, Алена Глагоўская, Алесь Цыркуноў, Кірыла Насаеў, Сяргей Харэўскі, Тацьцяна й Віктар Маркаўцы, мясцовыя мастакі, краязнаўцы, журналісты, настаўнікі, дактары, мытнікі і жыхары, хто цікавіцца культурай. Усіх пад 30 чалавек.

Там мы жылі, пісалі творы, ладзілі канцэрты, выставы. Чыталі даклады ў памяць таго ксяндза, які быў адраджэнцам Беларускага Духу.

Гэта найлепшы час за ўсё лета! Мне было вельмі хораша і я напісаў некалькі добрых прац, асабліва партрэт Янкі Быліны (фота 9).

Там жа я сустрэўся зь Людвігай Вітушкавай-Кардзіс, у якую крыху быў закаханы ў 1988 годзе, калі пазнаёміўся зь ёй на ІІ Вальным Сойме Беларускіх Суполак



у Вільні.
Прайшло 15 год і мы сустрэліся...
Па выніках пленэру 15 кастрычніка ў Астраўцы была зроблена выстава і вечарына-прэзэнтацыя Грамадскага Аб'яднаньня "Вільняр" – той суполкі мясцовай інтэлігэнцыі, што зладзіла гэты пленэр і якая надалей будзе рабіць цікавыя, я спадзяюся, мерапрыемствы, на якія мне вельмі прыемна было б быць запрошаным.
На памяць аб Нальшчанскім Краю застаўся вобраз Янкі Быліны, жывы прыемны ўспамін аб Алесю Юркойцю, аб нашых шчырых размовах і тых днях, што мы правялі ў Варнянах і Лакцянах, успаміны аб поўні над Віленшчынай, аб цёплых яшчэ перадвосеньскіх туманах, нечспадзяваных, хвалюючых кроў і ўспаміны душы, нечаканасьцяў – усё гэта напаўняе мяне высокім натхненьнем, адчуваньнем такой паўнаты жыцьця і любові, што даўно мной не перажывалася! Якое шчасьце жыць на сваёй зямлі, жыць з такімі людзьмі, так неспадзявана зь імі пазнаёміўшыся і моцна, бадай на ўсё жыцьцё пасябраваўшы, чакаючы нечага новага, такога ж высокага і чыстага, мастацкага і шчырага, што адбылося на тым пленэры ў гонар 120-годзя Янкі Быліны!!!
Госпадзі! Як я Табе ўдзячны, што маю шчасьце жыць! Адчуваньне падзякі за паўнату і шчасьце жыцьця, творчасьці, прыналежнасьці да сваёй Беларусі – галоўны вынік не толькі лета, а і ўсяго 2003 году.

## 14 КАСТРЫЧНІКА – 15 ЛІСТАПАДА. ВЫСТАВА Ў ВЯЛЕЙЦЫ.

Падчас пленэру я пазнаёміўся з дактарамі Ірынай і Мікалаем Сьцебуракамі і іх сынамі – Анатолем і Ўсеваладам зь Вялейкі. І вось гэта сямья арганізавала мне выставу ў Вілейскай гарадской выставачнай зале імя Мікадзіма Сільвановіча. Гэтая выстава цалкам натуральная і жывая, яе жадалі бачыць самі жыхары Вялейкі – і яна іхняй воляй, сродкамі і імпэтам была зроблена (фота 10). На 38 годзе я дасягнуў народнай любові. Курыраваў выставу Сяргей Харэўскі – мастацтвазнавец.
Запомніліся такія падзеі: падчас выставы экспазыцыю, па загаду намесьніка старшыні выканкама, зачынілі на два дні. І дэлегацыя мясцовых інтэлігентаў у складзе доктара Мікалая Сьцебуракі, намесьніка дырэктара завода "Буддэталі" Валерыя Новікава, мясцовага мастака Эдуарда Мацюшонка пайшлі да раённага вертыкальшчыка з размовай аб недапушчальнасьці закрыцьця выставы Пушкіна ў Вілейцы. І ён паслухаўся іх, і выстава дабыла адведзены ёй тэрмін.



Гэтая акцыя салідарнасьці мясцовай інтэлігэнцыі мяне вельмі ўсхвалявала. Тым дала й нагоду вельмі добра пазнаёміцца зь імі ўсімі. Цяпер у мяне ў Вялейцы ёсьць надзейныя сябры. А такія акцыі-выставы вельмі карысныя менавіта ў правінцыі, дзе амаль няма культурнага жыцьця, апроч пьяных суботніх дыскатэк ды летніх канцэртаў кшталту Ціхановіч і Паплаўская.

Таму на выставу шмат прыходзіла розных людзей – як настаўнікаў, навучэнцаў, дактароў і мэдработнікаў, так і чыноўнікаў, нават скаўты, якія потым доўга пісалі мне лісты ў Бабёр. Выстава надоўга запомнілася ў Вялейцы і была неабыякава жыхарам – гэта факт.

**12 СЬНЕЖНЯ.**

Выстава ў музэі Уладзімера Караткевіча, г. Ворша.

Выстава быля ўнесеная ў плян выставачнай дзейнасьці музэя Інай Пятроўнай Байковай, былой дырэктаркай, якую звольнілі з працы гарадскія ідэалягічныя кіраўнікі, бо ў музэі пачаў складавацца якісьці цікавы асяродак нацыянальнага жыцьця, "кубло нацыяналізму". Былі праведзены сустрэчы з бардам Андрэем Мельнікавым, пісьменьнікамі Уладзімерам Арловым і Вольгай Іпатавай, інтэлігенцыяй горада, выставы мастакоў Валерыя Шкарубы й Аляксея Марачкіна – ўсё гэта не знаходзілася пад кантролем і не ўзгаднялася з начальствам, якое лічыць, што праявы нацыяналізму – гэта калі размаўляюць па-

беларуску і супраць дыктатарскага рэжыму. Таму й выціснулі Іну Пятроўну...
Замест яе паставілі Сьвятлану Пятроўну Кусьпіц, – старэнькую, палахлівую цётачку, якая была настаўніцай геаграфіі і цяпер будзе выконваць загады і фільтраваць усе беларускія свабодамыслячыя ініцыятывы, што стыхійна сталі складвацца і адбывацца на радзіме такога Песьняра Беларусі – рамантыка, чыстага й наіўнага – Уладзімера Караткевіча.
Мая выстава, думаю, была апошнім глытком тае свабоды, якая не дазіруецца. Цяпер задача новай адміністрацыі – зрабіць з жывога, сучаснага музэя сонную сумную установу, дзе ўсе размаўляюць па-руску, куды заганяюць дзяцей і пэтэвушнікаў на экскурсыі, а яны пазяхаюць ад казёншчыны і разбягаюцца весела з ганку пасьля наведваньня такога музэю. І тады ўжо задаваць усім нам рытарычнае пытаньне, – Ну почему беларуская мова и культура такие неинтересные и скучные?
Няведуючы, ці робячы выгляд, што ня ведаюць што гэта зроблена знарок, шляхам кадравых ракіровак такіх шэрых людзей і нецікавых кіраўнікоў, шляхам фільтрацыі і "кастрацыі" ўсіх ініцыятываў, выставаў і імпрэзаў. Вось такая "беларусізацыя" ў сьвятая сьвятых – гонару Воршы, музэі яе слаўнага сына – Уладзімера Караткевіча.
У музэі я выставіў творы, што складаюць афармленьне супольнага мастацкага праекту з А. Сушам – музычнага дыска-двайніка па творчасьці Караткевіча: "Павей вецер...".
Гэта ёсьць супольны музычны праект беларускіх музыкаў і выканаўцаў. Маё мастацкае афармленьне – татуіроўкі на тэмы творчасьці У. Караткевіча (17 сюжэтаў). А таксама дзьве скрыпкі-аб'екты і пэўная колькасьць карцін – сярод іх самы першы аўтапартрэт 1981г. "Маё пакаленьне".
На адкрыцьцё выставы прыехалі "Дзеясловаўцы" – галоўны рэдактар Барыс Пятровіч, сакратар Анатоль Івашчанка і паэт Андрэй Хадановіч.
Быў прэзэнтаваны часопіс "Дзеяслоў". Сярод іншых і нумар 4 – дзе вялікі артыкул Пётры Васілеўскага "Прасьпект Пушкіна".
Варшанскай публіцы вельмі спадабаўся выступ Андрэя Хадановіча і прэм'ера яго верша "Тры каралі".
Мне гэты верш паказаў іншага Хадановіча – правобраз будучага, зрэлага, мудрага й сур'ёзна-добрага паэта ў ягонай сталасьці, якая надыходзіць.

**20 СЬНЕЖНЯ.**

Езьдзілі з жонкай у Палац Рэспублікі на закрыцьцё першага значнага, у пляне арганізацыі, тэатральнага праекту Адрэя Курэйчыка (вядомага маладога драматурга, якому няма й 30 год і які ўжо пасьпеў праславіцца, як надзвычай таленавіты аўтар і ў Менску, і ў Маскве. У нас – "Згублены рай" на Купалаўскай сцэне, у Маскве – у Алега Табакова).



Праект гэты – фэстываль "Открытый формат", дзе былі паказаныя сучасныя спэктаклі з Беларусі, Польшчы, Расеі, а на завяршэньне - спэктакль Эймундаса Някрошуса "Вишнёвый сад" па Чэхаву. 6-ць з паловай гадзін (разам з антрактамі) ішоў гэты спэктакль – завяршэньне чэхаўскай тэмы ў творчасьці сапраўды незвычайнага, таленавітага рэжысэра з Літвы.

Палац Рэспублікі, вышкаленая абслуга – ад ахоўнікаў і кантралёраў да гардэробшчыц і працаўнікоў-адміністратараў ў зале (дарэчы шакалядкі ў зале палацу есьці забараняюць нават у антрактах – толькі ў файе, ці ў буфеце!).

Пра ўласна само відовішча хочацца сказаць наступнае – гэта ўсё ж маса выдатных, пакуль, эпізодаў, часта проста гэніяльных, зьнітаваных "Вишнёвым садам" Чэхава. Гэты геніяльны, старэючы рэжысэр (фота 11) прымушае нас выслухаць яго да канца, выслухаць яго – што ён думае, як ён бачыць і разумее Чэхава, як ён бачыць увесь рускі характар. І мы сапраўды з-за павагі да рускага клясіка і да Някрошуса выслухваем гэта да канца, але не пакідае ўражаньне, што рэжысэр любіць не мастацтва ў самім сябе, а сябе самога ў мастацтве. Калі ў 1997 годзе я глядзеў у Вітабску на сцэне Коласаўскага Тэатру яго спэктакль "Тры сястры" па Чэхаву – гэтага ўражаньня не было. Была гармонія, быў густ і пачуцьцё меры і, як і ў гэтым спэктаклі "Вишнёвы сад", яскрава вымалёўвалася высьвятленьне адносін, у мастацкай форме, вядома ж, – маленькага літоўскага народа ў васобе выдатнага рэжысэра сучаснасьці – і вялікага імпэрскага духа расейцаў – у васобах яркіх, характэрных пэрсанажаў Чэхава, да таго ж гратэскна выпукленых дзе-нідзе рэжысэрскай задумай.

Расейцы ў Някрошуса такія бесшабашныя, шумныя, недальнабачна-разбэрсаныя, але такія абаяльныя!!! Так, - гультаі, так, - беспардоннае хамства, спадзеў на авось і іншы набор якасьцяў рускага характару, але – яны так падабаюцца, што ані на іх няма злосьці!

Ды жорстка і пасьлядоўна ўсё ж бачна згубнасьць такога абаяльнага выбару.

Найбольш ярка сыграла Л. Максакава –Ранеўскую. Яе споведзь парочнай жанчыны, якая анічога ня можа зрабіць з сваёй страсьцямі-жарсьцямі – гэта вельмі пераканаўча!

Ну і вядома адзін з галоўных герояў – новы рускі – Яўген Міронаў – найбольш зараз таленавіты, запрашаемы актор, – сапраўды ўвасабленьне чыста рускага характару – вельмі глыбокі і пераканаўчы артыста з багацейшай палітрай зы-

граных пачуцьцяў і з выдатнай рускай фактурай.
Яго не зблытаеш ні зь кім – дастаткова ўзгадаць ягоную ролю князя Мышкіна ў сэрыяле "Ідыёт" па Дастаеўскаму, што йшоў па РТР.
Наведваньне спэктаклю вельмі запомнілася. Гэта яркае, сьвяточнае высокамастацкае відовішча, якое ў гэтым годзе дапоўніла мае тэатральныя ўражаньні "Згубленага раю" А. Купрэйчыка і "Дзіўная місіс Сэвідж" на сцэне Купалаўскага тэатру. Тэатр – тое, што абавязкова трэба наведваць!
Так скончыўся мой культурны 2003 год.

# Камяні-легенды

*на тэрыторыі сучаснай Крупшчыны*



**КРАЯЗНАЎСТВА** / Міхал БАРАВУЛЯ

## БОЖАЕ КРЭСЛА

*Каля вёскі Сомры з правага боку ад дарогі, якая вядзе на Дзевяніцу, на ўзгорачку сярод поля, перад самай лагчынкай, ляжыць камень, які старыя людзі Божым Крэслам называлі. Яны ж, старыя людзі, і прыходзілі сюды лячыцца, калі ў каго з іх сярэдзіна балела: садзіліся на гэты камень спіной да*

*высокага выступу і маліліся, а пасля аброк клалі (хто яблычка, хто піражок які ці цукерку). Кажуць, што ўсім той камень памагаў: і малым дзеткам, і мужчынам дарослым, і маладзіцам, і зусім ужо нямоглым бабам і дзядам, бо калісьці на ім сам Бог сядзеў. Адсюль і – Божае Крэсла* (гл. фота).*

А было гэта ў тыя часы, калі ў Сомрах першыя хрышчоныя людзі з'явіліся. На беразе возера, на прыгорачку, збудавалі яны невялічкую каплічку і прыходзілі сюды па святах маліцца. Цяпер гэтага возера няма: высахла яно і балотам Каніўкай завецца. А ў той час яно вялікім было і да Доўгага Моста цягнулася, а ад Доўгага Моста – з кіламетр у бок Пышач, бо стаяла на рэчцы Самранцы мельніца, якая пасля згарэла ці спаліў хто…

Дык вось, перад самым Вялікаднем адна хрышчоная дзеўка даведалася ад брата, што паганцы таксама пойдуць у тую ноч прыносіць сваю крывавую ахвяру ідалу на капішчы, а пасля разам з ідалам спаляць божую каплічку. Яна і расказала гэта хрышчоным, а тыя рашылі пасля ўсяночнай не разыходзіцца і бараніць сваю святую цэркаўку, іконкі яе і веру хрысціянскую.

Прайшла ўсяночная на Вялікдзень, пасвяцілі людзі святочную ежу: яйкі, мяса, хлеб і пасху, і усё тое, што з сабою ўзялі, і сталі чакаць нехрысцяў, кругом абступіўшы каплічку.

І толькі узышло сонца, як убачылі яны araву паганцаў, якія з крыкам і лаянкай беглі на іх і неслі наперадзе свайго драўлянага ідала, вымазанага крывёю ахвяры.

Згрудзіліся хрысціяне перад уваходам у каплічку, стаяць, моляцца, просяць Божай абароны, бо было іх значна менш за няверучых. А дзень пачынаўся ясны-ясны, сонечны, і неба чыстае-чыстае, як шкло блакітнае: ніводнай хмурынкі нават не было, толькі сонейка іграла, радуючыся Хрыстоваму ўваскрашэнню. А паганыя ўжо акружылі іх і коллямі пужаюць, а то просяць аддаць ім цэркаўку на паруганне і знішчэнне, бо былі сярод хрышчоных і дзеці іх, і бацькі, і ўнукі.

І тут усе ўбачылі, як з'явілася на небе белае-белае воблачка і стала хутка набліжацца да каплічкі і гэтак жа хутка спусцілася на цэркаўку, нібы туманам яе засланіўшы. Аслупянелі людзі, усім мову адняло: і хрышчоным, і паганцам з ідалам. Стаяць, напужаныя, чакаюць… Рассеялася воблачка – і усе ўбачылі,

………………………….

**Не гледзячы на нашыя неаднаразовыя вусныя пратэсты, унікальны камень "Божае крэсла" на пачатку XXI стагодзьдзя быў самаўпраўна "вырваны" з лакальнай культурнай прасторы і вывезены ў г.Крупкі тагачасным дырэктарам Крупскага краязнаўчага музэя Белай Т.Я. Пры транспарціроўцы ў жалезным прыцэпе трактара "Беларусь" раскалоўся на некалькі кавалкаў. Быў злеплены цэментнай расчынай. Зараз устаноўлены на пляцоўцы перад музеем (рэд.).*

што на камяні, які ляжаў каля каплічкі, сядзіць чалавек у белым бліскучым і з'яючым адзенні і гаворыць: усе, хто верыць у нашага Збавіцеля і Святую Троіцу, станьце побач са мною і маліцеся!

Хрысціяне і зрабілі усё так, як гэта гаварыў іх Бог. А гэта ён сам і быў. А нехрысці ачомаліся, загаманілі, зарагаталі і ужо хацелі з коллем і ідалам сваім рушыць на хрысціян і іх Бога, як з яснага неба ўдарыў пярун. . . . І пераўтварыліся ўсе пагане, хто ў чурбаны і абрубкі, хто ў камяні, а іх ідал успыхнуў яркім полымем і згарэў на вачах хрысціян.

І зноў узнікла воблака на тым месцы, дзе сядзеў Бог, паднялося яно павольна на яснае неба і паступова паплыло і схавалася за борам. І калі глянулі людзі пасьля на камень, дзе сядзеў Збавіцель, то ўбачылі, што раней круглая булыга стала падобнай на крэсла. А на суседнім камяні застаўся слядок нагі, – казалі, што Бог па ім узышоў на воблака.

## ЗМЕЕЎ КАМЕНЬ НА ЗМЯІНАЙ ВЫСПЕ

На паўднёвы захад ад Сомраў каля Вадзяного Балота ўзвышаецца Змяіная Выспа, паросшая стромкім змрочным лесам, які называюць Пажыткоўем. Вадзяным балота названа таму, што на ім жылі вадзянікі і па начах весяліліся з русалкамі. Змяіная ж выспа ўяляе сабою невялікі курган. І ляжыць на тым кургане чорны Змееў Камень з выявай галавы змея, да якога навакольны люд заўсёды прыносіў у даўнія часы ахвяры, а пасля аброк: прыгожа вытканыя паясы і рознакаляровыя пацеркі-каралі. А прынасілі аброк не камню, а Змяінаму Цару, які жыў пад тым чорным камнем.

Кажуць, што Змяіны Цар кожную ноч выпаўзае са сваёй нары з-пад чорнага камня і скручваецца ў вялікае кальцо на яго цёмнай паверхні, высока падняўшы сваю галаву, увенчаную ярка з'яючай незвычайна прыгожай залатой каронай. Тады ўся выспа асвятляецца ад яе таямнічым блакітным святлом і гучыць фантастычная па прыгажосці, усё супакойваючая чароўная музыка. На гэтае незвычайнае з'зянне і прыгожую музыку са Змяінай Выспы, Вадзянога Балота і усяго Пажыткоўя спаўзаецца незлічоная колькасць змей, несучы свайму ўладару на галовах і спінах усялякую ежу: лягушак, мышэй, дробных птушак, насякомых і нават рыбу і малако. Пачынаецца пір. І галоўны госць на гэтым піру і гаспадар – Змяіны Цар. Уталіўшы голад, ён адпускае свой шматлікі народ. І калі гадзюкі, вужы і мядзянкі знікаюць сярод кустоўя і травы, – з боку Вадзянога Балота з'яўляецца доўгая працэсія вадзянікоў і русалак на чале з самім іх уладаром – Машэкам. На выцягнутых руках павольна нясуць яны душы тапельцаў: і людзкія, і жывёльныя. Нізка схіліўшыся перад Уладаром змей, кладуць іх адну за другой вадзянікі і русалкі на чорны камень і пачціва адыходзяць у бок. Адным толькі сваім поглядам ператварае Змяіны Цар душы

людзей у змей, а душы коней, кароў, коз, авечак, якія ненарокам утапіліся ў багне, у пацукоў, мышэй, жаб, лягушак. І за кожную прынесеную душу ўзнагароджвае Уладар змей кожнае укленчанае балотнае стварэнне падарункам. Вадзянікоў – прыгожа вытканым паяском, а русалак, – рознакаляровымі пацеркамі-каралямі, якія прыносяць яму людзі на чорны камень у якасці аброку. А перад самым світаннем, калі на Усходзе пачынае святлець неба, Змяіны Цар павольна і паважна паўзе ў свой падземны палац. Перастае тады гучаць чароўная музыка, знікае і дзіўнае з'зянне над Змяінай Выспай.

Кажуць, што два разы ў год, на Благавешчанне і Узвіжанне, выпаўзаўшы з падземнага царства, у адно імгненне ператвараецца Змяіны Цар у прыгожага юнака. Тады ён амаль цэлыя суткі, нават днём, ходзіць па лесу і так весела і цудоўна грае на сваёй чароўнай дудзе, што людзі, пачуўшы тую дзівосную мелодыю, цераз буралом, гушчар і балота ідуць на яе гукі, прывабленыя іх незвычайнай прыгажосцю. Ідуць бяздумна страціўшы ўсялякую свядомасць, забыўшыся пра свае хатнія справы і штадзённыя клопаты, пра родных і блізкіх. Падышоўшы да Змяінага Цара, яны водзяць з ім, русалкамі і вадзянымі карагоды, спяваюць і таньчаць, а перад захадам сонца знікаюць разам з ім і яго народам у бяздонных сховах пад чорным камнем з выявай змяінай галавы. У мінулыя часы вельмі шмат людзей звёў з гэтага свету Змяіны Цар, асабліва дзяўчат з былой вёскі Гарадзішча, што стаяла калісці ў трох кіламетрах ад Сомраў па дарозе на Дзевяніцу. Таму, менавіта на Благавешчанне і, асабліва на Узвіжанне, не раяць старыя людзі хадзіць ні ў грыбы, ні ў ягады, ні на паляванне.

Пасля Узвіжання ці Благавешчання ў мінулыя часы на Змяінай Выспе можна было ўбачыць журботныя постаці жанчын і мужчын, якія ў нізкім паклоне клалі на чорны камень аброк: паясы, калі пайшоў у лес і не вярнуўся дадому юнак, або каралі, калі знікла невядома куды дзяўчына. І калі аброк быў Змяінаму Цару даспадобы, то, кажуць, выпускаў ён сваіх палоннікаў на волю. Толькі выходзілі яны з падземнага царства вельмі самотныя, задумлівыя і бледныя, ды пасля вызвалення іх яшчэ доўгі час можна было бачыць моўчкі і бязмэтна блукаючымі па лесе быццам бы ў пошуках нечага назаўсёды страчанага. Некаторыя юнакі і дзяўчаты, пабываўшыя ў Змяіным Царстве, пасля зноў прападалі, і ужо назаўсёды, а другія, акрыяўшыя пасля палону сярод людзей, станавіліся вядомымі на ўсю акругу лекарамі і шаптухамі, або злымі чараўнікамі – ведзьмамі і вядзьмарамі.

Самракі расказваюць, што вядзьмар Кастын, які шмат нарабіў гора людзям, таксама быў родам з Гарадзішча, і таксама ў маладосці пабываў зачараваны музыкай чароўнай дуды, у змяіным царстве і у палоне Змяінага Цара.

**КНЯЗЬ-КАМЕНЬ**

На высокім беразе былога самрацкага возера на двух курганах, якія падступалі да самай вады, калісьці існавала паселішча Гарадзішча, абнесенае высокай драўлянай сцяной і глыбокім ровам. Уяўляла яно сабою невялікую, але трывалую крэпасць. Наводдаль ад Гарадзішча знаходзіліся два паганскіх капішчы, на якіх па святах Пяруна і на Купалле запальваліся вялікія вогнішчы і збіраліся ўсе жыхары паселішча. На адным з гэтых капішчаў і ляжыць сіняваты камень з незразумелым надпісам на ім. і назву ён мае незвычайную – Князь-камень.

А назвалі той камень пра адважнага і мужнага князя, які жыў у тыя даўнія часы ў Гарадзішчы. Невялікая ў яго была дружына, але бясстрашная. Удзельнічала яна са сваім уладаром у шматлікіх сечах, у тым ліку і з крыжакамі на рацэ Бярозе. Гаворыш, што не было такога бою? Дык адкуль тады б маглі узяцца баявыя нямецкія даспехі, якія людзі пры памяці майго бацькі выкапалі з зямлі. Расказваў ён нам, дзецям, што нейкі Аўхім шукаючы скарбы, выкапаў дубовы кухар, а ў ім і былі тыя самыя даспехі і цэлы гаршчок нямецкага золата.

Багата жыло Гарадзішча. Багата жыў і князь. Церам яго быў пакрыты чырвонай чарапіцай. Ды і гандляр ён быў вядомы. Вазіў ён на продаж мёд, воск, смалу і скуры куніц і баброў нават у Магілёў, Бялынічы і Беразіно. Адзін раз у год прыязджалі ў Гарадзішча і навакольныя купцы, дзе на беразе возера наладжвалі таржышча на свята Спаса. Прыходзіў на гэтае таржышча са свайго церама і сам князь. Накінуўшы на плечы чырвоны плашч з белымі крыжыкамі і зоркамі, садзіўся ён на свой камень, выбіраў для сябе і сям'і сякія-такія тавары і размаўляў з купцамі.

Але сам князь быў нехрысцям, бо маліўся толькі дубовым д'яблам і гэтаму камню, які таксама лічыў святым. Таму крый божа, каб хто іншы, апроч князя, асмеліўся сесці на яго! Бо і сапраўды кажуць, незвычайным быў той камень, бо ўначы ён ззяў таямнічым святлом, а зімою, нават у самую моцную сцюжу і мяцеліцу вакол яго, нібы вясною, зелянела трава і квітнелі прыгожыя краскі, бо камень на некалькі метраў вакол сябе і на такую ж глыбіню мог адаграваць зямлю і паветра. І сілу даваў той камень, і маладосць, таму і быў той князь незвычайнай прыгажосці і моцы. Кажуць, што дубовыя камлі ён падымаў, нібы трэскі.

І гарэў каля таго камня незгасальны агонь, і стаяла варта і баяры, такія ж прыгожыя і моцныя, як і князь. Строга сачылі яны за тым, каб ніхто з гараджан не дай бог асмеліўся сесці на князева месца.

Нават у самую моцную навальніцу, калі неба паласавалі маланкі і раскаціста грахатаў гром і калі князя заўсёды брала стомленасць і нядуга, ён ішоў да камня і садзіўся на яго, каб набрацца сілы. Ліў дождж, навокал цяклі ручаі, а князь

сядзеў на камні сухі, строгі і задуменны, бо яго падчас дажджу ахутваў нейкі серабрысты туман, які не даваў патрапіць на валадара Гарадзішча ніводнай кроплі. І пад шум дажджу і заціхаючыя навальнічныя грымоты князь паступова засыпаў. І калі непагадзь заканчвалася, серабрысты туман падымаўся над зямлёю, павольна плыў над возерам і знікаў недзе ў далечыні. Баялі людзі, што гэта душа князева вылятала з яго цела ў час сну, а потым вярталася назад. А загінуў князь недзе тут каля Гарадзішча ў час нейкай вялікай сечы, загінуў разам з усёй сваёй храбрай дружынай. Недзе ў нашых мясцінах ён і пахаваны. Але душа яго і да гэтага часу лётае над былымі яго ўладаннямі і нібы вартуе гэтыя землі. Бо шмат хто з паляўнічых, што прыпазніўся ў лесе ці начаваў на Гарадзішчы, бачыў у самую поўнач яе ў вобразе князя ў поўным узбраенні. Сядзіць князь у зіготкім святле месяца на сваім камні і быццам кагосьці чакае, пільна ўглядываючыся ў цемру. А днём гэты камень – звычайны валун з незразумелымі знакамі на ім, якія цяпер можа ўжо ніхто і не прачытае. Толькі кажуць людзі, што калі знойдзецца чалавек, які зразумее і прачытае тыя таямнічыя знакі, то яму Князь-камень будзе служыць, як служыў некалі свайму гаспадару.

## КАМЕНЬ ВАЎКАЛАКА

Завёўся ў далёкія часы каля Сомраў ваўкалака. Шмат шкоды ён рабіў людзям, бо шныраў нават па навакольных вёсках. І выкрадаў ён часцей за ўсё малых дзяцей, а потым заносіў іх у пушчу і выпіваў дзіцячую кроў. А саміх гаротных дзетак, ужо нежывых, закопваў пад выскіддзі ў балоце. Кажуць, што здані тых дзяцей людзі не раз бачылі каля Зазерскага шляху. Горка яны плакалі апоўначы, а недалёка ад іх крычаў пугач і вылі ваўкі.

Не вытрымала здзеку ваўкалакі сэрца Святога Пятра. Пракляў Пётра таго ваўкалаку і зрабіў яго камянём. І убачылі гэты камень людзі таксама на свята Святога Пятра: быў ён зусім чырвоны, руды, як шэрсць таго ваўкалакі. І падобны быў гэты камень спераду на галаву звера, а на спіне яшчэ і цяпер ёсць у яго сляды каровы. Старыя кажуць, што гэта чорт пасля па гэтым камню хадзіў, хацеў, бачыш ты, ажывіць таго ваўкалаку. Ды не знайшоў ён у патрэбны час святой вады, бы Святы Пётра разатапліваў дажджавой вадой усе навакольныя крыніцы.

Вось так і застаўся камень Ваўкалака, ляжыць каля Крывой грэблі на самым балоце, недалёка ад месца, дзе напіўся крыві сваёй апошняй ахвяры.

## ЖОРНЫ

Раней рака Доўтар была наўшыркі большая і значна глыбейшая. У чорных яе вірах жыў вадзянік з вусамі як у ментуза. І быў ён амаль увесь чорны, вось толькі валасы на галаве ды барада адлівалі зеленьню: быццам бы з ціны яны

складаліся. І любіў вадзянік гэты адно месца прыгожае, і апоўначы выплываў ён са сваіх глыбокіх віроў адпачыць: пагрэцца, ды крыху прасушыцца пад ствваламі смалістых сосен і бялюткіх бярозак, дый заадно і людзей хрышчоных напалохаць. Бывала, ляжыць на беразе, усміхаецца, навокал сябе паглядае; заўважыць людзей – дык падхопіцца, ды як пачне па берагу скакаць ды ў ладкі пляскаць ды рагатаць, што нават на рэчцы хвалі пачнуць хадуном хадзіць ды рыба сама на бераг з вады выскоквае. Людзі й баяліся хадзіць на ўпадабанае вадзянікам месца. А каб гэтая нячыстая сіла па ўсім лесе не бегала, паставілі непадалёк ад той мясціны, дзе вадзянік весяліўся, пасьвянцоныя крыжы.
Ды можа б, і усё добра было, ды толькі аднойчы пан, што непадалёку маёнтак меў, – тое месца цяпер Прудком завецца, – загадаў сваім работнікам і сялянам з навакольных вёсак на тым Чорным віры загарадзь праз раку зрабіць ды крупадзёрню паставіць. Спужаліся людзі хрышчоныя: “нядобрае гэта месца, паночак, тут без царкоўнага блаславеньня ды асьвячэньня нічога нельга рабіць”. Ды хіба ж пан паслухае цёмнага селяніна? А тут яшчэ зьявіўся сярод іх ці то жыд, ці то цыган, ды й падгаварыў сялян рабіць плаціну на Чорным віры. І праўда, спачатку ў іх пайшла работа нядрэнна, ужо і насып для загарадзі насыпалі – ён і цяпер ёсьць, – пачалі крупадзёрню будаваць; ды толькі першая свая пачала ў рачны грунт угрызацца пад ударамі баб, як у вадзе нешта грозна забулькала, застагнала, нібы рэчку па жывому пачалі рэзаць. Захваляваліся работнікі, ды толькі адзін – ці то жыд, ці то цыган – аніякай увагі на гэтае здарэньне не зьвярнуў; яшчэ больш напорыста пачаў падганяць сялян ды і сам не ляніўся – за траіх працаваў, як чорт які камяні з калёс выварочваў. А ў каго конь прыстане ці ў пяску загрузьне воз, дык ён таго каня выпража і сам калёсы выцягне – вельмі ж ён ужо стараўся. А ў поўдзень, як людзі пачнуць палуднаваць, – як сыйдзе некуды ў гушчар, дык яго ніхто й не бачыць, покуль сонца на другі бок неба не пераваліцца. А лета тое не надта каб і добрае было: Пасьля Купальля як зарадзілі дажджы, дык штодзень ільюць і ільюць; гразь навокал, макрэча. Многія падзёншчыкі пакідалі працу і паўцякалі дамоў, нават з панам не разлічыўшыся, а той жыд ці цыган усё працуе, і хвароба яго ніякая не бярэ.
Зрабілі мужчыны плаціну, крупадзёрку над вірам паставілі, стаў наладзілі, і засталося вось толькі камяні для жорнаў паставіць. І пан гэтага работніка заўважыў: хваліць яго кожны дзень, корміць яго ўдосталь ды адзеньне яму справіў. І вось папрасіў гэты работнік у пана тройку коней, каб каменьне на жорны прывезьлі. Згадзіўся пан – даў яму самых лепшых. Увечары глядзяць людзі: вязе той камень на жорны; а тут навальніца найшла, маланка бліскае, а Пярун дык так і трашчыць, так і трашчыць – аж зямля ўздрагвае і гудзе. Людзі хто куды пахаваліся, а той ні на што не зважае; пабіла панскіх коней маланкай, дык гэты нячысьцік жарноў узваліў на сябе ды й нясе проста на плаціну. Плаціна пад яго нагамі і раз’ехалася, а пасьля і ад вады абурылася. Жыд ці цы-

ган гэты кінуў камень на бераг, ды зарагоча, ды як запляскае ў ладоні, як заскача, запрыгае; а дождж мацней, мацней ліе, лес стогне ад навальніцы, гальлё і лісьце ахапкамі ў ваду ляціць, лівень расхадзіўся – вада сьцяной гудзіць зь неба як быццам бы яно прарвалася. У гэтым ліўні і вадзянік нібы растварыўся, прапаў, як скрозь ваду праваліўся.

А плаціну пасьля аднавілі, і крупадзёрня тут доўгі час была. Але гэта пасьля таго, як бацюшкі малебен перад пачаткам работы справілі і сьвянцонай вадой усё навокал акрапілі. А камень той, што вадзянік на плячах нёс, і цяпер на беразе ракі ляжыць. Ды і месца тое у нас вядома якназьвішча – "Жорны".

# МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2012 PatriaSuperOmniaMaloje

**ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ АЛЬМАНАХ ДРУЦКА-БЯРЭЗІНСКАГА КРАЮ**

**Пад рэдакцыяй А.Аляхновіча, В.Арцюховіча, М.Баравулі, Я.Дэмух, В.Лапаціна/ Крупкі. 2012. – 200 с.**

*У альманаху-штагодніку "Малое Палесьсе" прадстаўлены матэрыялы і дакументы па гісторыі і культуры аднаго з рэгіёнаў гістарычнай Усходняй Літвы (сучасная Усходняя Беларусь) – Друцка-Бярэзінскага краю. Працы, сабраныя пад вокладкай адлюстроўваюць розныя перыяды гісторыі гэтых земляў – ад часоў жалезнагавеку да нашых дзён. Большасьць з іх публікуюцца ўпершыню. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.*



**Фота на 1-й вокладцы/ *Скаўты Малога Палесься ля Мядзведзь-камня (гл. артыкул на с. 105).***
**Фота на 4-й вокладцы/ Камень Божае Крэсла *(гл. артыкул на с. 192).***




# СКАЎТЫ І КРАЯЗНАЎЦЫ МАЛОГА ПАЛЕСЬСЯ







*Dy jak nie skladać pra*
*was zdrawicy-pieśni,*
*bary sancakosyja,*
*chwojnyja huszczy,*
*Moj kraju lubimy...*
*Maloje Paleśsie, maja*
*niepaŭtornaja*
*Krupszczyna*



СЕНСАЦЫЯ – 2012

# КАМЕННЫ ІДАЛ



На Ухвальшчыне (Крупскі раён) знойдзены унікальны экспанат, які можа упрыгожыць сабой любы музэй Сьвету. Але ў першую чаргу ён важны для вывучэньня дахрысьціянскага перыяду Нашай гісторыі. Невялічкі па памерах, каменны ідал чакае свайго дэталёвага вывучэньня й навуковага апісаньня.



*Каля вёскі Сомры з правага боку ад дарогі, якая вядзе на Дзевяніцу, на ўзгорачку сярод поля, перад самай лагчынкай, ляжыць камень, які старыя людзі Божым Крэслам называлі. Яны ж, старыя людзі, і прыходзілі сюды лячыцца, калі ў каго з іх сярэдзіна балела: садзіліся на гэты камень спіной да высокага выступу і маліліся, а пасля аброк клалі (хто яблычка, хто піражок які ці цукерку). Кажуць, што ўсім той камень памагаў: і малым дзеткам, і мужчынам дарослым, і маладзіцам, і зусім ужо нямоглым бабам і дзядам, бо калісьці на ім сам Бог сядзеў. Адсюль і – Божае Крэсла.*

***/Паданьні пра сьвятыя камяні Крупшчыны чытайце ў артыкулах Міхала Баравулі на старонках 105 і 192/***